# ЗМЕСТ Крыніца

ТЫ

# Сакрат ЯНОВІЧ

### *АДЗІН Я Ў ВЕЧАР КАЛЯДНЫ*

*Зорка па-над бацькавай хатаю апусцелай урачысціцца. Стаю на падворышчы дзяцінства свайго, у цішы паднябеснай. Снежна-снежныя далі скугольна сінеюць у месячнай блякласці. Дрэвы трэскаюць у маразечу, бы стрэлы паспешлівыя беластоцкіх браканьераў у Перацёсах. Чарнацяць платы ўдовіны паваленыя. І сам-самюткі я перад сусветам тхланным, халодным халадэчаю прадчуванаю. Каб хоць брэх сліністы сюды аднекуль, з ваколіцы па-касмічнаму мёртвай, да якое пушча век-вечная скрадліва падступаецца, вяртаючы сваё.*

*Зорка калядная зіхаціць арэолам нада мною. Няма каму паклікаць мяне Хрыста людна вітаць, Русь тут вырадзілася. Не расчыняцца цёплыя дзверы з голасам матчыным. Буду, можа, здзіўляцца самім сабою, чаму не пабег за народам тлумным у маторнае святло праспектаў гаманлівых? Застаўся я з маўклівымі ценямі продкаў па-халопску забытых. І ўсё роўна, што не вельмі каб разумна літуючыся над імі. .*

*Айчыны шкада, хай хоць для мяне яна патрэбная.*









*З Табой.*

## З Сакратам ЯНОВІЧАМ гутарыць Ян ЧЫКВІН

**Ян Чыквін:** Сакрат Яновіч, беларускі празаік, эсэіст, публіцыст і перакладчык, народжаны ў 1936 годзе ў Крынках, правёўшы свае маладыя – ці не найлепшыя – гады ў Беластоку, ад нейкага часу зноў жыве ў Крынках. На некаторых штабных літаратурных картах месца твайго пражывання напэўна ўжо пазначана тваім імем. Аднак жа, Крынкі ўсё-такі не Беласток, нават і не Бельск, адкуль, як бы ні было, бліжэй – не да цэнтра – а да людзей-суродзічаў, людзей-суразмоўцаў і надзейных супержыўальнікаў. Твой пераезд назад у Крынкі – гэта сам па сабе цікавы біяграфічны момант з жыцця пісьменніка, бо шлях такіх людзей, як ты – творчых і прабойных – вядзе ў сталіцу. Нават, калі яны самі не вельмі гэтага хочуць – метраполія іх заманьвае, засмоктвае... бо Менск, як і Варшава, любіць піць свежую кроў... а ты?..

**Сакрат Яновіч:** І я хліснуў яе нямала з духоўных артэрыяў Беластока, ды не толькі. . Ёсць такі афарызм: таленты нараджаюцца на правінцыі і дэгенеруюцца ў сталіцы. Забівае іх сітуацыя рынку, вэрхал стадыёна, допінг быць найпершым. Матэрыяльныя выдаткі паганяюць многа-мноства пісаць дзеля заробку. Калі быў я маладым, не звяртаў на ўсё гэта ўвагі. А калі б яшчэ быў і польскім нацыянальным пісьменнікам, лічы, даўно засеў бы ў Варшаве ці ў Кракаве, як зрабілі тое ўсе мае равеснікі-палякі, якія дабіліся – спачатку ў Беластоку – нейкае значнасці. Я не мог пакінуць Беласток, ні псіхічна ні ментальна, бо мне, як беларусу, значыла б гэта эміграцыю. Я ўспрымаў Беласток як самы вялікі ў Польшчы беларускі горад, які цалкам задавальняў мяне як местачковага мігранта ў лепшае жыццё і як беларуса адначасна. Польская мова тадышняй – паўвеку назад – беластоцкай вуліцы ўяўляла сабою нешта кшталтам беларускай мовы польскімі словамі.

## *Пра Сакрата ЯНОВІЧА*

***Ян Чыквін:***

*Творчасць С. Яновіча для нашага часу недастаткова "празрыстая" з увагі на яе вялікую жанравую і стылёвую разнастайнасць, а таксама тэматычную і праблемную шырыню. Гэта можа ўзбуджаць пашану і здзіўленне ад высілку пісьменніка, але ў гэтай адрознасці літаратурных хадоў палягае, як мне здаецца, яго слабы бок. На маю думку, С. Яновіч таксама недастаткова "сённяшні", як, зрэшты, і кожны аўтэнтычны творца, адораны сапраўды лірычным маштабам таленту. Невыпадкова, што яго лірычная проза даследавана наймeнш. Можа таму, што ў сваіх найлепшых творах гэткага тыпу С Яновіч кансервуе адыходзячы вясковы свет і пэўны тып беларускай ментальнасці. Настальгічным апяваннем своеасаблівай патрыярхальнай маламестачковасці Яновіч уплятаецца ў традыцыю, якая была запачаткавана яшчэ Дуніным-Марцінкевічам і, тым не менш, працягваецца на Беларусі і па сённяшні дзень.*

*Пры ўсёй павазе да яго літаратурных дасягненняў, я ніяк не магу пазбавіцца ўражання, што хаўрусую з*

# ДЗЕЛЯ ЧАГО ЖЫВУЦЬ У КРЫНКАХ ЛЮДЗІ?

**Пісаць пра творчасць Сакрата Яновіча – справа нялёгкая нават для вопытнага даследчыка. Літаратурны партрэт гэтага пісьменніка, сваімі парадаксальнымі амбівалентнымі ацэнкамі і гратэскавымі нападкамі на "сваіх" і на "чужых" у нечым падобнага да свайго антычнага цёзкі, пакуль што часткова ўдаўся толькі ягонаму калегу з Беласточчыны паэту і прафесару-літаратуразнаўцу Яну Чыквіну. Маю на ўвазе нарыс "Сямейны партрэт крынкаўцаў з аўтарам на першым плане. Штрыхі да творчай біяграфіі Сакрата Яновіча", апублікаваны ў кніжцы "Далёкія і блізкія: Беларускія пісьменнікі замежжа" (Беласток, 1997).**

**Наш калега Чыквін дасягае пэўнай цэласнасці партрэта шматаблічнага Сакрата, дзякуючы засяроджанню на аповесці "Самасей" і канцэптуальна блізкай да яе кніжкі "Доўгая смерць Крынак". Праўда, даследчык фіксуе і ацэньвае ўсе аспекты літаратурнай і грамадска-палітычнай дзейнасці свайго героя, не замоўчвае супярэчнасцяў,**

*дагэтуль нерэалізаваным пісьменнікам, паколькі пры сваіх здольнасцях апавядаць Сакрат заўсёды значна больш цікавы і багаты для слухача, чымся яго асобныя творы для чытача.*

***Алег Латышонак:***

*З творчасцю Сакрата Яновіча я сутыкнуўся як ужо сфармаваны чалавек. Калі я вырастаў, а гэта былі 70-я гады, я асабіста яго не ведаў. Я пазнаёміўся з ім пазней, калі ён ужо быў бясспрэчным лідэрам маладога беларускага асяроддзя.*

*У яго творчасці мне падабаюцца апавяданні, пратэст спараджае эсэістыка. Там зашмат прэтэнзій да палякаў. Несправядлівая ацэнка стагоддзяў нашага супольнага лёсу.*

*"Białoruś, Białoruś" уразіла мяне спрашчэннямі, можа таму, што гэтая кніга была скіравана не да мяне, а да людзей, якія нічога не ведалі аб Беларусі.*

*Значэнне Сакрата для маладых беларусаў? Сакрат прыцягвае іх сваім магнетызмам, і яны засяроджваюцца каля яго. Да таго ж мая павага да Яновіча расце з маім узростам. Найлепшай ягонай кнігай я лічу "Dolinę pełną losu", напісаную – о дзіва – па-польску. Я некалі пратэставаў супраць бачання людзей у яго творах, дзе яны мулкія, бязлітасныя. Цяпер я мяркую, што ён меў рацыю, бо толькі "патрашэнне вантробаў" можа прынесці нам праўду аб чалавеку.*

Маё цяперашняе вяртанне ў Крынкі – тым часам ушчэнт спаланізаванымя – гэта як быццам пагоня за тамтым Беластокам, якога ўжо няма, бо ў шмат разоў разбрыняў у метраполію. А ў Крынках я, прынамсі, чужы сярод сваіх.

Кантакт з інтэлектуальным светам набыў тут грунтоўнасці, раней немагчымай у вялікагарадской паспешлівасці. І хто толькі не начуе ў маім родавым крынкаўскім доме! Ад Лондана да Менска і Венецыі...

**Я.Ч.:** Як – і ці – крынкаўская стабілізацыя адгукнулася ў творчасці? Што сур'ёзнага сталася з табою ў апошнім часе – ад злому папярэдняй эпохі: што засталося ў душы ад старога, а што – менавіта ў душы – з'явілася новага?

**С.Я.:** Яне, ты павінен мне пазайздрасціць! У мяне паявіліся час і кандыцыя на галоўнае, на працу са словам. Замест дзесяці званкоў у дзвярах і пятнаццаці тэлефонных у беластоцкай кватэры, я тут чую адзін на працягу некалькіх дзён, але затое сапраўды варты маёй увагі. І хоць Крынкі – па еўрапейскіх мерках – гэта, фактычна, далёкі прыгарад Беластока, на маё шчасце, аднак, бесперабойна дзейнічае фільтр псіхалагічных адлегласцяў. Дзякуючы якому не абіваюць маіх парогаў выпадковыя людзі, усякія неўдалоты ды фруcтраты.

Пра Крынкі ў гэтым сэнсе я здаўна падумваў, дзесяць гадоў цывілізуючы памалу – маючы тэхнічную адукацыю – бацькаву недаробленую местачковую хату, уклаўшы ў яе ўсянюткія свае грошы. Але, мабыць, пачакаў бы да пенсіі з пераездам сюды. Паганялі мяне, аднак, новыя часы, той жа злом папярэдняй эпохі – я аказаўся лішнім чалавекам, хваравекім і таму мала мабільным дзеля патрэб, якія ўсталёўвала маладое пакаленне (напрыклад, у рэд. "Нівы", якой аддаў паўжыцця). Так вось у адзін буйны чэрвеньскі дзень каторагасьці года падхапіўся ў вырай...

Што засталося ў душы ад мінулага? Ведаеш, Яне, жаль застаўся. Не экзістэнцыяльны, не. Жаль, што цяпер маладыя беларускія дзеячы ў нас маюць без высілкаў асаблівых або намаганняў, без аніякае рызыкі, усё тое, за што калісьці гадамі трэба было выходжваць і выплакваць у абарону нацыянальных інтарэсаў. Святам было тады выданне хоць аднае кніжачкі ў год – два нейкаму нашаму аўтару, удала абышоўшы цэнзарскія ды паліцэйскія хітрыкі афіцыйнага

**нават прызнае, што "творчасць Сакрата Яновіча не паддаецца простаму ўпарадкаванню і аналізу". Але пакуль што не замахваецца на "кантрапункты" сінтэз шматгалоснай дзейнасці пісьменніка.**

**Верагодна, нейкае падабенства на кантрапунктны партрэт нашага адраджэнца, які не перастае сведчыць у Польшчы, у Еўропе, зрэшты, у нас, што Беларусь усё ж такі жыве, атрымаецца калектыўнымі намаганнямі рэдактараў і аўтараў "Крыніцы". Тым больш, што наш часопіс дае магчымасць для шчырай споведзі самому герою бенефісу. Я дазволю сабе спыніцца, па-першае, на вызначэнні сутнасці феноменаў беларускага літаратурнага і, шырэй, культурна-нацыянальнага руху ў Польшчы, адным з пачынальнікаў якога быў спадар Сакрат, па-другое, на агульнай характарыстыцы асноўных этапаў яго літаратурнага шляху, урэшце, па-трэцяе, на парадаксальных Сакратавых ацэнках гістарычных дзеяў, нацый і асоб у ягонай апошняй, смелай для пісьменніка любой эпохі кніжкі "Дзённік".**

**Легалізацыя і структурызацыя беларускага культурна-нацыянальнага і літаратурнага руху ў Польшчы пачалася вясной 1956 года, вядомай у СССР як пачатак "хрушчоўскай адлігі" (паэтапная, ідэалагічна абмежаваная дэсталінізацыя і павярхоўная лібералізацыя савецкага грамадства). Якраз тады на Беласточчыне ўзніклі Беларускае грамадска-культурнае таварыства [БГКТ, 1956 г.], беларускі штотыднёвік "Ніва" (1956 г.) і крыху пазней беларускае літаратурна-мастацкае аб'яднанне "Белавежа" (1958 г.). Вызначыць сутнасць і функцыі гэтых феноменаў ня-**





мецэната, Міністэрства ўнутраных спраў. Сёння ж, бачыш, што ні квартал новая кніжка, і смургелі яшчэ наракаюць! Злосць бярэ, Яне! Найбольш, бадай, шкадаванне патрачанай некалі энергіі зусім на херню з цяперашняй перспектывы. Але, ці магло быць іначай?

А новае – новае тое, што называецца ўсведамленнем вечнага. Ці так вельмі новае? Яно паяўляецца з вопытам пражытага, заўсёды пад старасць. Азірнешся назад: суцэльная дрыгва напрацаванай за дзесяцігоддзі драбноты і дзе-нідзе высокае дрэва: гэта ўдачы, гэта тое, што застанецца. Маю надзею памерці без пачуцця непатрэбна прыйшоўшага на гэты белы свет

**Я.Ч.:** Я ўжо выказваў гэтую думку, гэтым разам паўтару, каб пачуць тваё меркаванне: як мне здаецца, твая творчасць зашмат жанравая (амаль вершы прозаю, лірычная проза, апавяданні, аповесці, эсэ, публіцыстыка, рэпартаж, успаміны, п'есы, дзённікі – і гэта, мабыць, не ўсё!) і зашмат раскіданая тэматычна-стылёва – каб спадзявацца ў кожным жанры, на кожным узроўні высокага і роўнага мастацкага палёту. Гэта свядомы захоп такога шырокага пракоса ці стаецца так само сабою, ад творчай патэнцыі?

**С.Я.:** Думаю, што – само сабою. Цяпер я не ў моцы проста напісаць, скажам, той жа верш прозаю. Бяруся за аповесць, і зноў нічога. Хвацка пішуцца затое эсэ. Успомніўшы свае памкненні, раптам заўважваю, што пісанне маё адбывалася выразнымі палосамі спачатку некалькігадовая паласа паэтычнай прозы (кожны пачынаецца як паэт), затым апавяданні, навелы потым, урэшце аповесці, і сённячы вось эсэ. П'есы і рэпартажы не вельмі залічваю ў свае здабыткі як пісаныя пад націскам заказу, не столькі грашовага, колькі грамадскага (дарэчы, і ты "грашыў" драматургіяй дзеля вясковай сцэны, аматарскай) Часам вяртаюся да жанру апавядання. Хочацца! Паласа эсэ заціхае. Вернуцца апавяданні? Мару, каб вярнуліся да мяне і вершы прозаю. І больш шчасця мне не трэба.

**Я.Ч.:** Пад канец васьмідзесятых гадоў кнігай "Białoruś, Białoruś" і публіцыстычнай заангажаванасцю ў ход вялікіх зменаў ты падняў у Польшчы такі беларускі вэрхал, што о-ё-ёй і о-го-го! Палякі раптам загаварылі пра Беларусь.

***Яўген Міраноўіч:***

*У творчасці Сакрата Яновіча я найбольш цаню тыя яго творы прозай, якія складаюцца з некалькіх сказаў і ў асяроддзі, засяроджаным вакол беларускай літаратурнай групы "Белавежа", называюцца "сакрацікамі". Яны змяшчаюць апісанні, што характарызавалі беларускую меншыню ў Польшчы. Вельмі дакладныя. У некалькіх словах выяўляецца псіхалогія чалавека беластоцкага польска-беларускага паўзмежжа. Мне здаецца, што Сакрат выглядае на назіральніка жыцця беларускага грамадства; што ягоныя творы ўяўляюць сабой цікавы матэрыял для сацыёлагаў, якія займаюцца беларускім асяроддзем.*

*Пра што ідзе гаворка ў прозе Сакрата? Пра апісанне чалавека, які перабраўся з вёскі ў горад. Ён апынуўся ў новым асяроддзі, змяніў сваю сістэму вартасцяў, утойвае сваё сельскае паходжанне, сваю рэлігію, выракаецца культуры, нават бацькоў. Гэта выкаранены чалавек, які змяняе сваю тоеснасць, нават насуперак сваёй волі.*

*Сакрат піша шмат. Ён пісаў таксама кнігі з гісторыі Беларусі. Але Сакрат піша сэрцам, а гісторыю трэба пісаць розумам, бо гісторыя строгая навука. Тое, чым ён займаецца ў галіне гісторыі, я магу – як гісторык – назваць эмацыйнай эсэістыкай.*

*Я асабіста вельмі шаную заангажаванне Сакрата Яновіча ў жыццё беларускай меншыні.*

**цяжка, бо гісторыя Беларусі "напрацавала" парадыгмы такіх нацыянальных утварэнняў. У гэтым кантэксце БГКТ, "Ніва" і "Белавежа" ёсць канкрэтна-гістарычныя і рэгіянальна своеасаблівыя феномены беларускага нацыянальнага Адраджэння.**

**Нацыянальнае адраджэнне наогул ёсць гістарычны лёс усіх народаў, якім не наканавана знікнуць з гістарычнага быцця. Для былых заваяваных альбо "дабравольна далучаных народаў-саюзнікаў" (тэрмін, які прыдуманы яшчэ ў Рымскай імперыі для вызначэння мірных, небунтоўных калоніяў) нацыянальнае Адраджэнне ёсць багадатная альтэрнатыва гістарычнай анігіляцыі. Але і для народаў-заваёўнікаў, для імперскіх нацый яно таксама ёсць пазітыўны варыянт вырашэння пытання "быць альбо не быць" у гісторыі.**

**Мая тэма не дазваляе аргументаваць гэтую, на мой погляд, відавочную ісціну. Напомню толькі, што стабільнасць нацыі забяспечваецца, па-першае, яе трывалым этнічным ядром і, па-другое, яе ж духоўна актыўнай і сацыяльна пасіянарнай элітай. У народаў, пазбаўленых нацыянальнай дзяржаўнасці, духоўная эліта і этнічнае ядро (яно больш устойлівае, асабліва ў эпохі слабай сацыяльнай мабільнасці і павярхоўнай уключанасці ў пануючую афіцыйную культуру) разбураюцца шляхам планамернага расцярушвання на абшарах імперыі, эміграцыі і асабліва метадамі дэнацыяналізацыі. А на адваротным полюсе аналагічная дэстабілізацыя адбываецца ў асяроддзі метраполіі: актыўная частка насельніцтва і нацыянальная эліта самарассейваюцца на**

*Асабліва таму, што доўгі час апрача фальклору аб беларускай культуры нельга было гаварыць. Ён быў носьбітам гэтай культуры, і змог стаць яе ўвасабленнем. Вялікі яму за гэта дзякуй.*

***Багдан Дудка:***

*Я з вялікай павагай стаўлюся да Сакрата Яновіча як пісьменніка і чалавека. Я мяркую, што ён надзвычай істотны як для беларускай культуры, так і для польскай. Усё цяжэй цяпер адшукаць чалавека, які б уласнай працай дасягнуў поспеху Бо Сакрат Яновіч, безумоўна, дасягнуў поспеху, можа, неабавязкова фінансавага, але поспеху ў вымеры чалавечым і мастацкім.*

***Юрка Хмялеўскі:***

*У кнігах Сакрата я знаходзіў адыходзячую сапраўднасць, з якой я, з аднаго боку, развітваўся з палёгкай, а з другога, мне было яе шкада.*

*Дарма што ў пэўны момант пісьменнік заняўся палітыкай і публіцыстыкай, для мяне ён застаўся перадусім майстрам пяра. Прызнаюся, што ад яго я ўсцяж вучыўся тэхніцы карыстання словам – вельмі ашчадным, але адначасна і філіграным.*

*Я ведаю, што былі такія, якія прысуджэнне Сакрату Яновічу Кавалерскага крыжа ордэна Адраджэння Польшчы ўспрынялі са змешанымі пачуццямі, я ж гэты факт перажыў з палёгкай. Цяпер бальшыня прысуджэнняў*

Выдатна, цудоўна! Але гэтым самым ты цалкам, здаецца, засланіў перад чытачамі сябе – аўтара рэфлексійнай, медытатыўнай прозы. І твой чытач, як бы табою зманераваны, хоча пачуць цяпер ад Яновіча ўжо толькі палітычныя філіпікі. Ён бачыць у табе палітычнага дзеяча... З гэтай перспектывы, што больш табе важнейшае, дарагое: метафорыка "самасеяў" і "хама на паркеце" ці "смерць валошкі" і "малітвы да беларускага слова"?

**С.Я.:** Метафорыка малітвы да беларускага слова, Яне! Але заўваж: з яе вынікае ўсё іншае, што я рабіў-чыніў. Поўная паслядоўнасць! Мне мала было самадастатковасці пустэльнага манаха. Я марыў пра Царкву Беларускага Духу. Вачыма ўявы бачыў маліто́ўныя натоўпы на каленях перад алтаром Роднага Слова. Безнацыянальныя язычнікі меліся пераўвасобіцца ў Беларусаў. Пачаць жыць не толькі страўнікам, але і сэрцам-душою. Цудоўная ўтопія, ад якой павейвае шляхетным смуткам. Дарэчы: люблю сумаваць. Гэта, відаць, ад маёй Маці, якая ад дзяцінства час-часом забівалася ў закутак, каб выплакацца (на сухі розум беручы, невядома чаму і чаго).

У пантэон паганскіх багоў я ўвёў, як памятаеш, багіню Ганьбы. Патронку сялян у Горадзе. Іх жа дзяцей дэфініяваў як самасеяў. Сярод гэтага дэмаграфічнага смецця здараліся парасткі чалавечнасці, і я перасаджваў іх пад біблейскую сцяну. Да хама на паркеце неадназначныя ў мяне адносіны. Гледзячы на яго, бяруць этычныя наваніты. Але, памятаючы вясковую некалі галоту і вошы, я хутчэй за ўсё спачуваю хаму і зычу яму дабра. Жаль, вядома, што беларусы не вытрымліваюць рэвалюцыі быту, таго перамяшчэння з курных сяліб на паркеты, але пані Гісторыя не надта падбала пра іх, выпусціўшы маіх землякоў у свет толькі з шырока разяўленым горлам.

"Białoruś, Białoruś" аказалася непазбежнай. Гэта была спроба даць пачатак працэсу стварэння нацыі ў папулісцкіх маштабах, пераламаць самазабойчую элітнасць беларускай свядомасці. Напісаўшы на адным дыху гэтую кніжыцу-эсэ я надоўга прыхварэў, а яшчэ даўжэй яна праваляласе тады ў выдавецтве. Пашэнціла ёй урэшце з непалахлівым рэдактарам і думаючым цэнзарам (бывалі такія). Палякі паднялі вэрхал па прычыне, гм, ідэнтычнай, як у расейцаў: нельга слова дрэннае закінуць, хвалі іх і хвалі! Закамплексаваныя народы, няздольныя на самаіронію. Нявыспелыя.

Мая палітычнасць – пабочная з'ява, быццам гукавыя эфекты ад едучай машыны. Маеш рацыю: палітыка засмактала. Ды будзь справядлівы: даволі хутка я вылез з яе. Праўда, не раней, пакуль не ўпэўніўся, што можа адбыцца тое маё выходжанне без нацыянальнай шкоды. Апынуўся я ў функцыі якогасьці канструкцыйнага слупа, на якім трымаўся дах з маладабеларускіх арганізацый ды груповак. Таленту палітыка ў мяне няма, і я быў нечым накшталт выконваючага абавязкі лідэра Пакуль не падспеюць індывідуальнасці з аўтэнтычнымі здольнасцямі дзеля гэткай дзейнасці...

Дэфінітыўны канец – і вяртанне ў Крынкі. Прыкляпаў тое выданнем тома "Дзённікі (1987—1995)". Палітычны перыяд у біяграфіі.

**Я.Ч.:** Сакрат, той славуты філосаф, што на вачах сваіх вучняў выпіў цыкуту, пакінуў нашчадкам, між іншым, крылатае выслоўе: "Я ведаю, што я нічога не ведаю". Ты, ягоны аднайменнік, сваёй часткова творчасцю, а напэўна дзейнасцю, бадай, хочаш даказаць нешта процілеглае – вы не ведаеце, што я пра вас ведаю; або і так: я не ведаю, пра што вы не ведаеце, але я хачу вас павучаць. Я, вядома, не папракаю цябе за гэта. Шукаю адно назву для пэўнага істотнага, на маю думку, нахілу тваёй творчасці – я маю на думцы павучанне, палітычна-грамадскі маралітэт, заклапочанасці, але з вышыні трыбуны лідэра, які ведае, куды весці тлум. Ці тлум (грамадства, народ, нацыя) патрабуе, аднак, такога настаўніка? А калі патрабуе, то менавіта каго і калі – і ці ў форме папраканняў, а то й абразы? Пісьменнікаў тлум не слухае. О, каб жа слухаў! . Ён падатны на прынаду ўладароў – як ведаем, як бачым.

**С.Я.:** Існая праўда, Яне, не слухае ён пісьменнікаў і наогул высокаінтэлектуальных асобаў. Народу трэба аднаго: лепей жыць. Ідзе ён за тымі, у кім бачыць рэальны шанц дзеля гэтага. Культура тут ні пры чым. Ад недахопу яе ніхто не памёр. Культура (літаратура) не можа **не** быць элітнай, таму ў палітыцы яна мінімальна значыць, парламенцкія выбары заўсёды прайграе І камунальныя, дарэчы будзе

*адбываецца па "партыйнай лініі" У выпадку Яновіча гэтага нельга сказаць, гэта не маніпуляцыя, ні, пагатоў, маніфестацыя. Я хацеў бы, каб Яновічу апрача ордэна было забяспечана пад старасць стабільнае жыццё. Мне робіцца прыкра, што прысуджэнне ордэна Яновічу некаторыя асобы ставяць пад сумнеў, асобы, якія не могуць пагадзіцца з яго бясспрэчным класам і значэннем.*

*Я найбольш перажываю з прычыны пазіцыі гаспадароў гміны Крынкі. Я таксама там нарадзіўся, а Яновіч вярнуўся туды на старыя гады, і дарма што ён прызнаны ў агульнапольскім маштабе, у Крынках ён трактуецца як чужая асоба. Асабліва гэта было відаць падчас уручэння Яновічу ордэна, войт Крынак, якога пісьменнік асабіста запрасіў на ўрачыстасць, быў на ёй адсутны.*

***Ян Леанчук:***

*Гэта незвычайны пісьменніцкі шлях. Ад местачковай, я б сказаў, саматужнай творчасці да вельмі вытанчаных формаў, глыбокіх сваім жыццёвым досведам і перадусім мудрасцю.*

*А Сакрат – гэта той, хто пагляднуюю сельскую настойлівасць спалучае з працай і талентам. І так пачынае араць сваю рунь. Найбольш удала – у малых формах (была прыдумана нават назва "сакрацікі" – кароткія, паэтызаваныя літаратурныя формы або паэтычная проза, і гэтая назва*

**абшарах далучаных іншанацыянальных тэрыторыяў, эканамічныя і духоўныя сілы трацяцца на ўтрыманне імперыі (войска, дзяржаўны апарат, культуртрэгерства і інш.), адзіная нацыянальная мова распадаецца на каланіяльныя жаргоны, эканоміка і культура развіваюцца не інтэнсіўна і не ў глыбіню, а экстэнсіўна і павярхоўна. Іспанцы, англічане, французы своечасова пайшлі насустрач лёсу, дэманціравалі свае імперыі. Германіі і Японіі "дапамаглі" іх паразы ў другой сусветнай вайне. Палякам наогул пашэнціла: іхняя імперыя не адбылася. Сёння – чарга за Расіяй.**

**Ёсць тыпалагічнае падабенства паміж колішнім агульнанацыянальным "нашаніўскім" адраджэннем у пачатку XX ст. і беластоцкім рэгіянальным адраджэннем сярэдзіны гэтага стагоддзя. Тады была ў Вільні "Наша ніва", цяпер у Беластоку – "Ніва". Абодвы тыднёвікі сталі каталізатарамі адраджэнскага руху, аб'яднаўшы вакол сябе маладое пакаленне беларускіх інтэлектуалаў.**

**Пэўная аналогія ёсць паміж БГКТ, "Белавежай" і Беларускай Сацыялістычнай Грамадой (БСГ, 1902—1917) у царскай Расіі, Таварыствам Беларускай Школы (ТБШ, 1921—1937) у Заходняй Беларусі, галоўным чынам, у іхняй культурна-асветніцкай дзейнасці. Нацыянальнае адраджэнне працягвалася ў эпоху Беларускай Народнай Рэспублікі (БНР, 1918—1921), тады ж выходзіў пад рэдакцыяй Янкі Купалы штомесячны ілюстраваны літаратурна-мастацкі часопіс "Рунь" (Менск, 2.05—4.07.1920). Беларуская творчая моладзь у Заходняй Беларусі стварыла аб'яднанне "Веснаход" (1927—1928, Н. Арсеньева, Я. Бартуль, М. Васілёк, М. Машара, Хв. Ільяшэвіч і інш., улады Польшчы не зацвердзілі статут), выдала зборнік твораў "Рунь Веснаходу" (Вільня, 1928). Адапаведна і БГКТ пачало сваю кнігавыдавецкую дзейнасць з паэтычнага зборніка "Рунь" (Беласток, 1959), "Наша ніва" выдавала "Беларускі каляндар" (штогод у 1910 — 1913 гг., з 1914 года календары выдавала Беларускае Выдавецкае Таварыства ў Вільні), у якім важнае месца займалі літаратурны і культурна-асветніцкі аддзелы. І вось з 1957 года БГКТ выдае ў Беластоку беларускія календары, дзе гэтыя аддзелы дамінуюць. Літаратурны альманах "Белавежа" ў нечым напамінае такія ж зборнікі "Маладая Беларусь" (1912—1913, №№ 1—3), якія выдавала беларуская выдавецкая суполка ў Пецярбургу "Загляне сонца і ў наша ваконца".**

**Ёсць агульныя прыкметы паміж беларускім літаратурным рухам у БССР 1920-х гадоў і літаратурным жыццём Беласточчыны 1950—1990-х гадоў. Там літаратурна-мастацкія аб'яднанні "Маладняк" (1923—1928), "Узвышша" (1926—1931), "Полымя" (1927—1932) выдавалі аднайменныя часопісы, серыі калектыўных і асабістых літаратурных зборнікаў. Па гэткім шляху пайшла таксама літаратурная "Белавежа". Ва ўсіх выпадках беларускія арганізацыйна-творчыя і выдавецкія структуры пасадзейнічалі селекцыі літаратурных талентаў. Лідэр беластоцкага літаратурнага руху Ян Чыквін у сваёй кніжцы "Далёкія і блізкія"**

*ўжо настала ўвайшла ў тэарэтычныя разважанні над творчасцю пісьменніка). Менш удалымі былі сцэнічныя творы, але, напісаныя ў свой час для малых сельскіх сцэн, я мяркую, яны споўнілі сваё заданне. І гэта быў доўг, сплачаны "сельскай справе". А потым усё больш шырокія гарызонты патрабавалі іншых літаратурных формаў Ад рамана і да эсэ. Падказваць Пісьменніку не выпадае, але я б марыў, каб быў створаны тэкст – роздум аб Польшчы, аб супольных каляінах лёсу, балючага досведу шукання бацькаўшчыны. Польшчы, якая б не была мачахай, без драматычных аковаў часоў сацыялізму. Яны закраналі і калечылі шмат уражлівых пісьменнікаў А неафіты-цэнзары, якія ведалі падтэкст і разнастайныя аўтарскія канатацыі ў яго мове, з вялікшай дбайнасцю церабілі ягоныя словы. Але пакінем у спакоі тыя часы, хоць я пазнаёміўся з Сакратам якраз тады, бадай што напачатку цяжкіх сямідзесятых гадоў. Я спрабаваў перакладаць, адаптоўваць яго па-польску І гэтае замілаванне да "сакрацікаў" засталося, хаця цяпер я спрабую ставіцца да іх крытычна Я ўважліва прыслухоўваюся да яго меркаванняў. Пры выданні маіх першых кніг мне дапамог не хто іншы, як Сакрат. Гэтага я не забуду. Як нельга забыцца ягонай гасціннасці і шчыра чалавечай дабрыні. Шмат хто яе зазнаў. Не ведаю, ці памятаюць яны гэта*

падкрэсліць. Я, маючы тэхнічную адукацыю, люблю параўнанні з гэтай галіною чалавечай творчасці. Культура распаўсюджваецца як быццам аналагічна інжынерскім вынаходніцтвам: машыніст лакаматыва не дурыць сабе галавы здогадамі, хто быў першы канструктар машыны. Мільёны пасажыраў у камунікацыйных самалётах ні на секунду не задумаюцца, каму належыцца ўдзячная памяць за гэты цуд тэхнікі. Франты абдурваюць дзяўчат, называючы іх кветкамі, нават не падазраючы, які паэт вынайшаў гэту метафару...

Высокі тон, павучальнасць, катэгарычнасць, усёведанне .. Так, прызнаюся, усё тое можна знайсці ў мяне. Гэта рысы паводзінаў у тых, хто займаецца палітыкай, грамадскай дзейнасцю. Словам: правадырствам. За іншым, за тым, хто сумняваецца і няўпэўнены, электарат не пойдзе А салдат не пойдзе за такім камандзірам у бой. Адсюль блізютка да дэмагогіі? Так, рукою падаць. Таму чалавецтва вынайшла дэмакратыю, грамадскі механізм, які прадухіляе адзінаўладдзе. Але, як кожны механізм, можна ім усяляк паслужыцца. Нядурна жартуюць, што тэхніка ў руках варвара страшней гранаты ў руках дзіцяці .. Навука без маралі нярэдка пераўтвараецца ў злачынства або і генацыд. Адзін Савецкі Саюз колькі надаў нам жудасных прыкладаў таго. І бездакорна дэмакратычна абралі Гітлера ў даваеннай Нямеччыне. (*A propos:* той нахіл у маёй творчасці прапаную вызначыць як комплекс прапаведніка. Злоснага!)

**Я.Ч.:** З антычных часоў філосафы, а зараз і публіцысты, і пісьменнікі жадаюць не толькі мець уплыў на палітыку дзяржавы, але і самі імкнуцца да ўлады. Ты ў 1989 годзе кандыдаваў у польскі парламент, з'яўляешся адным з заснавальнікаў у Польшчы партыі "Беларускае дэмакратычнае аб'яднанне" У аповесці "Самасей" галоўны герой выказвае сваю мару стварыць дзяржаву. Уяві, што ты стаў прэзідэнтам, кіраўніком краіны, тыранам (па антычнай тэрміналогіі) І што далей – як арганізавана была б твая дзяржава, Рэспубліка, а можа Манархія Сакратыя? У агульных зарысах... ляжыць яна паміж, скажам, Аўгустоўскай, Кнышынскай і Белавежскай пушчамі.

**С.Я.:** Як мінімум, гэта была б тыранія! Ніколі не здаралася іначай, калі да ўлады даходзілі творцы мастацтваў або

**(Беласток, 1997) элегічна зазначыў: "На працягу амаль саракагадовай дзейнасці Беларускага літаратурнага аб'яднання "Белавежа" на яго гарызонце з'явілася больш за сто самых розных па адоранасці, працавітасці, адукацыі аўтараў вершаў, лірычнай прозы, апавяданняў, аповесцяў, п'ес, нарысаў, рэпартажаў, фельетонаў. На жаль, большасць з пачынальнікаў задавальнялася адной-дзвюма публікацыямі".**

**Але гэта, зазначу я, – нармальны працэс станаўлення літаратурнай традыцыі. Так было ў "Нашай ніве" і ў літаратурных аб'яднаннях БССР. Адбываецца селекцыя не толькі талентаў. Культурная творчасць вымагае неэканомнай затраты жыццёвай сілы, вялікай любові да сваёй справы, інтэлектуальнай інтэнцыі. Не ў кожнага, нават здольнага чалавека хапае смеласці на літаратурную авантуру.**

**Як бы ні адхрышчваліся нашыя калегі, беларускія літаратары з Беласточчыны, ад паняцця адраджэння, следам за нашымі маладзейшымі авангардыстамі "еўрапейскага" кшталту, звязваючы з ім сялянскі традыцыяналізм, тыпалагічна і гістарычна яны – нацыянальныя адраджэнцы. Сакрат Яновіч – адзін з пачынальнікаў беластоцка-беларускага адраджэння. Як празаік-навеліст, ён дэбютаваў у 1956 годзе, якраз калі пачаў выдавацца тыднёвік "Ніва". Шмат папрацаваў для беларускай "Нівы", публікаваў там свае нарысы, аповесці, апавяданні, замалёўкі, гумарэскі, фрагменты аповесцяў, палемічныя артыкулы, – усё, што пазней**





філосафы: Ленін у Расіі, паэт Мао ў Кітаі, маляр Гітлер у Нямеччыне, музык Нерон у Рыме, празаік Напалеон у Францыі... Бог усё ж літасцівы і не дапусціў да нашага, майго, а потым і твайго, выйгрышу ў парламенцкія выбары. І ўчыніў Госпад усё, каб заснаванае Беларускае дэмакратычнае аб'яднанне – і з тваім жа ўдзелам – не вырасла пад маёй (і тваёй пакрысе) батутаю ў здаравезную патэнцыю... Жарт з зернем праўды.

Нельга мець двух талентаў аднолькавага фармату Калі ты добры паэт, дык не суньcя ў палітыку. Бо палітыка, як і паэзія, гэта справа не столькі інтэлектуальнасці і моцнай волі, але перш за ўсё таленту. А талент – гэта такая цацка, што ён – або ёсць або яго няма. Аніякі дактарат тут не паможа.

У мастацтве абавязвае адчайнасць, з якой вырастае дыктат і затым духоўны фашызм, нецярпімасць. Будзь геніяльны мастак недзе прэзідэнтам, то ў параўнанні з ім адзін, нялюбы нам, прэзідэнт здасца ўзорам лагоднасці і дэмакратызму...

**Я.Ч.:** Чым тлумачыцца твая нелюбоў – у творах – да людзей? Амаль паўсюдна ў тваёй прозе прабіваецца незадаволенасць імі: ад дэбютнага апавядання "Гнілое ў здаровым" да апошняга – "Дзённікі (1987—1995)". Ці не ад таго гэта, што на першым плане не ставіш праўду жыцця чалавечага як такога, а ідэю (ідэю Гісторыі, ідэю Нацыі), слепа ёй падпарадкоўваючыся і ад іншых таго самага патрабуючы? Як вядома, на эстэтычным узроўні нельга знайсці тую праўду, якая даступна ў плане этычным. Зноў як бы вяртаемся да твайго вобраза "хам на паркеце"...

**С.Я.:** Як сам ведаеш, праўда не існуе. Ёсць адно факты. Той самы валун кожны з нас убачыць па-іншаму. Бы яблык у далоні галоднага і яблык у далоні Н'ютана. Кшталтам прафесара Праабражэнскага ў "Сабачым сэрцы" Булгакава, я сапраўды гіджуся людам. Не люблю! Мая нелюбоў, аднак, настолькі розная, што датычыць таго ж "хама на паркеце", які не мусіць ім быць. Я не мазахіст і не буду кахаць Беларусь, якая марыць і сніць, каб перастаць быць Беларуссю. Не буду пазітыўна захапляцца роднымі Крынкамі, якія гатовы пасадзіць мяне на кол за беларускае слова, сказанае публічна на тратуары. Няма ў мяне пачуццяў кроўнага сваяцтва ў цэлым вялікім маім родзе, у якім ніхто

*пасля. Даставаць з куфраў памяці шматгадовыя гісторыйкі – значыць падрываць вобраз, рабіць яго непадобным і фальшывым. ...Яму спадарожнічала дабрыня Дому – Тані і Матулі, а пасля сыноў. Гэта дапамагае ў вандраванні да маленства, адкуль Сакрат чэрпаў здольнасць зачароўваць поўнымі прыгаршчамі. Сакрата не закапаў талент, а памножыў і адарыў іншых. Такім і павінен быць кон пісьменніка, які творыць сваім досведам і Святлом. Каб было святлей і больш людска. Ad multos annos!*

***Базыль Белаказовіч:***

*Яновіч пераважна – хаця не заўсёды – выкарыстоўвае ў сваіх нарысах жанр забытай гутаркі і спалучае яе, адпаведна, з эрудзіраванай імправізацыяй, якая дыскрэтна выяўляе яго агромністую начытанасць і веды, стараючыся навязаць непасрэдны кантакт з адрасатам, г.зн. чытачом. Гэтай таксама мэце падпарадкавана арыгінальная, непаўтаральная моўная стыхія, якая пазбаўленая ў прынцыпе груваcткай навуковай тэрміналогіі, але змяшчае ў сабе рэдка сустраканую лексіку, узятую з глыбокіх пакладаў беларушчыны...*

***Арнольд Макмілін:***

*Нягледзячы на тое, што Сакрат Яновіч (нар. 1936) не жыве ў Беларусі, ён з'яўляецца адным з вядучых сучасных беларускіх празаікаў. На пачатку сваёй кар'еры Яновіч шмат эксперыментаваў з*

**выбарачна друкавалася ў кніжках "Загоны" (1969), "Сярэбраны яздок" (1979), "Думкі пра аўтаномію" (1981) і інш.**

**Першы этап творчасці Яновіча – ад дэбюту ў "Ніве" (апавяданне-нарыс "Гнілое ў здаровым", 1956 г., 13 мая) да кніжкі "Сярэбраны яздок" уключна тыпалагічна ўпісваецца ў беларускі рамантызм "нашаніўскай" эпохі, у маладнякоўскую і ўзвышанскую лірычную ды іранічную прозу 1920-х гадоў. Невыпадкова Янка Брыль у пасляслоўі да "Сярэбранага ездака", спасылаючыся на ацэнку польскага літаратара Е. Літвінюка, называе пісьменніка "паэтам, які карыстаецца прозай". А ў аднайменнай гістарычнай аповесці, прысвечанай героіка-рамантычнаму паўстанню на чале з К. Каліноўскім, адчуваецца творчае выкарыстанне традыцыі рамантыка Уладзіміра Караткевіча, верагодна таксама вопыту іранічнага рэаліста Аляксея Карпюка, аўтара аповесці "Вершалінскі рай" (1974), вузлавая дзея якой адбываецца якраз на радзіме спадара Сакрата. Дарэчы, С. Яновіч пераклаў гэты твор на польскую мову.**

**Сучасная крытыка ў Беларусі і Польшчы спакваля забывае рамантычныя традыцыі. А разам з імі – рамантычны этап лірыка-эпічнай прозы С. Яновіча. Між тым творы "Загонаў" і "Сярэбранага ездака" і сёння падышлі б да школьных чытанак – ад лемантара да хрэстаматый 8 — 10 класаў, гадавалі б у юначых душах добрыя пачуцці і думкі. Сёння так не хапае нам гэтай традыцыйнай лірыка-эпічнай белетрыстыкі. Мне здаецца, Ян Чыквін як даследчык крыху**

*рознымі літаратурнымі формамі, і ўсё жыццё ён перапрацоўваў свае творы ў пошуках дасканаласці ў падборы слоў і гарманійнасці. Няма сумневу, што яго мініяцюрная проза прагучала як новая нота ў беларускай літаратуры 1960-х гадоў і жанр "верша ў прозе" так і застаўся найбольш удалым у творчасці гэтага арыгінальнага і таленавітага пісьменніка... Што да польскай літаратуры, то падобнымі з жанрамі Яновіча ў ёй з'яўляюцца мініяцюрная проза і вясковая літаратура (часам яе не вельмі ветла называюць "nurt chłorski"). Сакрат Яновіч, аднак, пачуваецца вальней у беларускай мове і пры ўсім багацці польскай літаратурнай мовы выражае свае інтымныя і тонкія думкі якраз на беларускай мове. Яновіч, безумоўна, выконвае сур'ёзную ролю і ў польскай літаратуры, але перадусім ён быў і застаецца беларускім пісьменнікам.*

*Якімі б важнымі ні былі расійскія і польскія падобныя жанравыя традыцыі, "мініяцюрную" творчасць Яновіча варта разглядаць у кантэксце беларускай літаратуры XIX і XX стагоддзяў: напрыклад, ананімныя жарты і "гутаркі", імпрэсіяналістычныя "Абразкі" Змітрака Бядулі, кароткія апавяданні Якуба Коласа (накшталт "Казак жыцця"). Традыцыя мініяцюрызму і ў сённяшняй постсавецкай Беларусі працягваецца ў вершах... Можа быць, пошук шырокіх кантэкстаў для яго творчасці дарэмны, таму што Яновіч – пісьменнік надзвычай своеасаблівага і ары-*

не выбачыў мне майго беларускага пісьменства, таго, што пішу на роднай і для іх мове.

Я стаў беларускім пісьменнікам супроць волі навакольнага беларускага люду! Большай трагедыяй ад гэтага можа быць смерць.

Іншы раз падумаецца і такое: ці часамі не таму я ўзяўся за пяро сорак гадоў назад, што мяне ў будні і ў святы абражалі наўкола гідлівымі роспытамі, чаму я гавару не так, як усе мае равеснікі (г. зн. па-польску). Чаму з мяне гэткі нелюдзь, вырадак, што нават дзяўчаты-рагатунні на танцах мала не параспорваюцца ад таго менавіта, што заляцаюся да іх на мове, на якой гавораць з быдлам у хляве і ў раскіданне гною ў полі?!...

**Я.Ч.:** На маю думку, сучасная – ад 1945 г. – беларуская культура, а ў прыватнасці мастацкая літаратура, мала кантрастная. Замала ў ёй сваіх полюсных з'яў, замала таксама таго, што ў іншых літаратурах безумоўна ёсць, і называецца яно цэнтрызмам, нацыяналізмам, шавінізмам. З гэтай агульнай пляскатасці беларускай сёння як бы вытыркаюцца трохі рукі і ногі паэтаў-мадэрністаў – бо яшчэ не галава, калі гаварыць толькі пра літаратуру. Як ты гэта бачыш?

**С.Я.:** Бачу і разумею, чаму. Гэткая правінцыйная запозненасць, стаянне на каленях перад лепшымі характэрна літаратурам падкаланіяльных народаў. Беларуская ж дадаткова абцяжарана будаўніцтвам нацыі, якую суседнія імперыялізмы пакаленнямі трымалі ў карлікавым узросце. Усе навокал нас сфармаваліся на працягу нацыястваральнага дзевятнаццатага стагоддзя, толькі не мы, беларусы. Нам і дваццатага мала. Нашы паэты ўсё пішуць свае малітвы Беларускаму Слову, што ў Еўропе ўспрымаецца са здзіўленнем ужо, нават з падазрэннем, што мы ў нечым усё ж ненармальныя... Псіхі! Самі запакутаваўшы ад фашызму, апошнім часам бяромся паважаць яго, як тая ахвяра свайго ката...

Можна, праўда, стварыць літаратуру ў чужамоўным ёй асяроддзі, без натуральнай лексічнай глебы. Доказам таго лацінская – у сярэднявеччы; эмігранцкая. У рэшце рэшт і беларуская ад 1945 г., у якой уцалела некалькі тысяч прыхільнікаў, распыленых у дзесяцімільённай дзяржаве (большай за Швецыю або Чэхію).

**дэманстратыўна захапляецца сучаснымі плынямі, якія часам эфектна глядзяцца ў паэзіі, але нярэдка занадта зазямляюць прозу, крытыку і публіцыстыку.**

**Верагодна, з гэтай прычыны Ян Чыквін у літаратурным партрэце С. Яновіча засяродзіўся на аналізе другога этапу творчасці свайго калегі – на кнігах "Самасей" і "Доўгая смерць Крынак", дзе па волі аўтара дамінанты перанесены з прыгожага і гераічнага на будзённае, нават агіднае і нізкае. Сарказм і гратэск тут моцна пацяснілі рамантычную гармонію ў творчасці таленавітага літаратара. Той-сёй з сучасных пісьменнікаў у Польшчы зацыкліўся на тыпе маргінала, на нейкім хімерным этнасе, што ўтварыўся ад распаду "крэсаў" – не толькі ў Польшчы, але і ў сучаснай Беларусі, якую каланізавалі і расцярушвалі некалькі стагоддзяў. Пісьменніку і публіцысту не варта губляць духоўнага цэнтра нацыі, яе інтэлектуальную эліту. Бо нацыя – гэта не толькі эмпірычнае быццё яе насельнікаў, але найперш культурная традыцыя.**

**Можна было б паспрачацца з Янам Чыквіным наконт аповесці "Самасей". Тут яскрава намаляваны фрагменты грамадскага і духоўнага распаду былой сацыялістычнай Польшчы, раскрыта псіхалагічная і сацыяльная драма галоўнага героя, вынесены на літаратурны ўзровень самабытныя пласты лексікі беларуска-польскага пагранічча. Якраз гэтым твор цікавы для элітарнага чытача. Але ў полі зроку класічнай традыцыі ён успрымаецца як кампазіцыйна недапрацаваны, у ім "золата" перамешана з**





Я думаю вось што: беларускай літаратуры трэба пазбыцца пачуцця нацыянальна-адраджэнскай місіі. Сумна мне робіцца на душы, калі чытаю ў літаратурных часопісах выказванні пра патрэбу пісаць даступна народу або і перакладаць крымінальныя аповесці дзеля іх высокіх тыражоў, дзякуючы якім ажыве сярод простага люду раднамоўе. Ілюзія, спадарове! Атракцыйнасць культуры і яе мовы якраз у непаспалітасці, аб чым пераканаўся я сам, на жаль, ажно пад старасць. Дзякуй Табе, Божа, і за тое!

Дэнацыяналізуе ласкавы хлеб... Чэхі, напрыклад, не анямечыліся таму перад усім, што на іх трымалася эканоміка аўстрыйскай імперыі. Яны кармілі Вену, у якой і сёння кожны трэці жыхар чэшскага паходжання. Адарвацца ім ад Аўстрыі абазначала багацей зажыць. Быццам прыбалтам цяпер ці Украіне.

Нацыянальная справа, якая не абяцае лепшага лёсу, грамадска мёртвая. Застаецца справай ідэалістаў ды фалькларыстаў. Прычым тут літаратура? Яна нават і не на другім месцы пасля хлеба...

**Я.Ч.:** Набліжаецца саракагоддзе (8 чэрвеня 1998 г.) беларускага літаратурнага аб'яднання "Белавежа". Знаходзячыся ў цэнтры гэтага нашага літаратурнага рухужыцця, часта бачыцца нешта не так, як яно ёсць папраўдзе, не ў тых прапорцыях, у якіх насамрэч тое выглядае. Тым не менш, калі б прыйшлося зараз расставіць нацыскі на фактах, з'явах, здарэннях, літаратарах "Белавежы", то як ты іх расставіў бы. Што ўжо зараз варта, што трэба і што неабходна падкрэсліць?..

**С.Я.:** Бракуе развітых сувязяў, інтэгруючых нас у еўрапейскі літаратурны кантэкст, Яне! "Белавежанцаў" спарадычна адкрываюць першапраходцы ад Захаду, быццам нечуванае племя якое... І нават тыя ад Усходу, калі што напішуць пра нас, дык жах тое чытаць потым! Памылка памылку даганяе, адна на адну лезе, бы тыя жабы ў прыход вясны на лузе... Трэба нам зваяваць аўру экзатычнага літаратурнага хутара недзе на сумежжы паміж візантыйскай і рымскай Еўропамі.

Трэба іншамоўнага альманаха "Белавежы", перакладнога і неабавязкова рэгулярнага, але ўражліва тоўстага. З трыма-чатырма галоўнымі мовамі кантынента. Першы лёгка будзе змайстраваць, бо пераклады ёсць.

*гінальнага дару. У кожным разе, ніводны з сучасных беларускіх пісьменнікаў не перадаў усёй прыгажосці свайго краю і не апісаў харашыні жыцця гэтак лапідарна, як Сакрат Яновіч.*

***Уладзіслаў Рубанаў:***

*Сакрат Яновіч – псіхолаг тонкі і назіральны. У ягоным вопыце, прасеяным праз пакутлівае, глыбінёй пазначанае думанне, адчуваецца* ***агульназначнае****. Гэтае агульназначнае можна смела называць філасофіяй быцця. Хочам мы таго ці не, філасофія ёсць у кожнага, хоць для большасці з даволі ўмоўным значэннем. У змяншэнні гэтай умоўнасці, набліжэнні яе да сапраўднай існасці, вышэйшага сэнсу мне бачацца намаганні Сакрата Яновіча як пісьменніка і мысляра.*

*Навочная сустрэча з пісьменнікам (калі пашчасціць!) звычайна паглыбляе чытацкае разуменне ягонай творчасці. Такую ласку я займеў, прыехаўшы на Беласточчыну, якая нам з Беларусі не ўяўляецца без імя Сакрата Яновіча. Любасць пісьменніка да роднага кута, зямлі з усім жывым – людзьмі і прыродаю – непазбежна пераносіцца ў ягоныя творы, падфарбоўвае шматгранны свет ягоных герояў. Пісьменнік гэтак перапоўнены пачуццямі, што, спяшаючыся выспавядаць, адкрыта пераходзіць на непасрэднае выказванне. Так паяўляецца адна з асноватворных асаблівасцяў празаічнай манеры*

**"рудой". Мабыць, я памыляюся, верагодна, сёння сюжэтна-фабульнае адзінства эпічных жанраў літаратуры адышло ў мінуўшчыну. Але, як на маю думку, – гэта ўсё часовае, пераходнае. Верагодна, мастацтва цяпер шукае магчымасці для новага сінтэзу і цэльнасці.**

**Яшчэ адна кніга з сімвалічна-элегічным загалоўкам "Доўгая смерць Крынак" паказалася мне прафесіянальна напісанымі эскізамі. З такім жа элегічным прароцтвам пра смерць малой радзімы пісьменніка. Аўтар прарочыць яе Апакаліпсіс – паглынанне прыродай. "...І не зразумела мне, – кажа аўтар, – дзеля чаго жывуць у Крынках людзі. Даўным-даўно павінна іх не быць".**

**А я скажу, для чаго жывуць у Крынках людзі. Для таго, каб у іх нарадзіўся Сакрат Яновіч. Каб і ў будучыні нараджаліся Сакраты. Мы з вамі, спадар Сакрат, добра ведаем, з чаго растуць хлеб і кветкі. А таксама хлеб культуры і кветкі мастацтва.**

**Самай выдатнай кніжкай трэцяга, сучаснага этапу творчасці С. Яновіча я назаву ягоныя "Дзённікі: 1987—1995" (Беласток, 1997 г.). Не скажу за ўсю еўрапейскую альбо хоць бы славянскую мемуарыстыку, але ў нашай літаратуры гэта ўнікальны твор. На жаль, беларусы рэдка пісалі мемуары і дзённікі, непараўнальна больш у XVI—XVIII стст., чым у эпоху станаўлення і развіцця беларускай літаратуры XIX—XX стст. Адкрыццё нашага калегі з Беласточчыны – у тым, што ён выдатна намаляваў характар беларуса ў асобе аўтара зусім**

*Сакрата Яновіча – лірычны пачатак. <. >*

*Грунт, на якім Сакрат Яновіч будуе адмысловыя замкі і хаткі сваёй творчасці, вельмі беларускі, вельмі канкрэтны і адчувальны, што не шкодзіць яму па майстэрству, па глыбіні даследавання чалавечай душы дыхтоўна ўпісвацца ў еўрапейскую, а можа, і сусветную літаратуру. Так і павінна быць. Калі ты не спасцігнуў характар нацыянальны, а па сутнасці, свой уласны, сябе, то і марна тужыцца падказваць, скажам, французу, які ён. А вось ведаць французу, хто такі беларус, думаю, цікава. Гэтым беларускім каларытам, яскравасцю нацыянальнага светаадчування вызначаючыся, кніга "Самасей" сама з сябе аб'ектыўна, незалежна ад прыватных думак, становіцца на паліцу дасканалых літаратурных твараэнняў.*

***Уладзімір Гніламёдаў***

*Дык хто ён – Сакрат Яновіч? У чым яго феномен? Чым глыбей яго ведаеш, тым больш ён здзіўляе маштабамі і незвычайнасцю сваёй індывідуальнасці: паэт, празаік, эсэіст, публіцыст, аналітык, гісторык, культуролаг, сацыёлаг, псіхолаг, філосаф, мараліст і яшчэ, і яшчэ. Пры ўсім гэтым гэта чалавек з вельмі нізкім болевым парогам мяккі і пяшчотны, тэмпераментны і ваяўнічы адначасова. Такім яго нарадзіла Беларусь XX стагоддзя..*

Але наступныя – трэба супрацоўніцтва з немцамі, ангельцамі, французамі, італьянцамі А гэта значыць. грошы і грошы!

Можа з Менскам што разам саздобілі б? Там жа адзін "Нёман" і нешта яшчэ ("Мировая литература"?), зарыентаванае выключна на Расію плюс на родных асімілянтаў.

Расстаноўка націскаў? Самае важнае, мабыць, не тое, што арганізавалася "Белавежа" (непазбежна!), але факт яе такога працяглага існавання. Будзь "Белавежа" нацыянальна-польскім утварэннем, даўно след па ёй прастыў бы. Цікава, што і цяпер яна не распалася, не выраіліся з яе асобныя групоўкі. Сакрэт яе стабільнасці – у беларускай безальтэрнатыўнасці, у слабасці самога этнасу і ягоных інтэлектуальных элітаў Парадаксальна, моц наша ў гэтым якраз. Нераз'яднанасць як вынік аўтарскай нешматлікасці.

Аніякая іншая няпольская літаратурная арганізацыя якасна не раўня "Белавежы". Нашы творчыя дасягненні паступова выводзяць "Белавежу" на міжнародную сцэну Адсюль гэта паявілася формула *Польшчы дзвюх літаратур.* Чаго больш хацець? Даволі, як кажуць генералы, пайсці за ўдарам..

Уся рэшта нашых бедаў банальная: слабасць крытыкі, недастатковасць матэрыяльнай базы ў сучасны момант, інтрыгі ў асяроддзі, марнацыя таленавітых ды з мізэрным характарам (хворая воля), урэшце і гультайства, непашана да самога сябе. Дзе ў свеце літаратуры інакш, ідэальней?

Закончу жартам-нежартам· базавая тэрыторыя "Белавежы" – гэта крыху за дваццаць гмінаў-валасцяў I столькі ж у ёй актуальна сяброў пяра, праверанных часам і творчай канфрантацыяй. Так сказаць, кожнай валасці па добраму пісьменніку. Дзе яшчэ ў Еўропе такая насычанасць? Некалі толькі ў маленечкай Фландрыі кожная карчма ўтрымлівала ўласнага маляра. Узнікла фландрыйскае мастацтва.

Літаратура "Белавежы" – так трэба казаць – унікальная ў беларускай, хоць і назіраюцца ў ёй падабенствы да "нашаніўскай" пары. Гэтым сцвярджэннем стаўлю новую тэму, нікім не прадчуваную раней. Калі ласка, даследнікі! На злом галавы! – як зычаць адзін аднаму студэнты перад экзаменамі.

**з іншага боку: не выдуманага "дабрадзеямі" рахманага і звышталерантнага добрыка, па сутнасці, бязвольнага дурняпаслугача, а рыцара Пагоні, ваяра і помсніка, які ўмее пастаяць за сябе і маці-Радзіму.**

**Маё захапленне "Дзённікамі" не ёсць поўная згода са шматлікімі, часам крыўдлівымі і нават злымі ацэнкамі канкрэтных падзей, учынкаў і людзей. Але пісьменнік, на мой погляд, быў і застаецца прарокам, і ягоная прарочая місія абавязвае выкрываць зло, чым бы яно ні прыкрывалася. Выкрываць нават заганы цэлай нацыі. Хоць тут я буду спрачацца. Вось, напрыклад, з такой інвектывай: "Рэальна гледзячы, беларуская нацыя – гэта інтэлігенцкія недабойкі. Сама па сабе яна не ў сілах ужо аднавіцца, адновіць яе – гістарычны прымус".**

**Я недзе ўжо казаў, што нацыя – гэта не эмпірычныя жыхары Беларусі, так сказаць, сваім агульным калгасам. Нацыю складае этнічнае ядро і нацыянальная эліта, якая стварае і захоўвае нацыянальныя традыцыі. Праблема нацыі – гэта культурна-гістарычная праблема.**

**Не буду развіваць гэтую добра вядомую на элітарным узроўні праўду. Добра ведае яе і наш калега Сакрат. Але жанр прароцтва, а тым больш гратэску, абавязвае выкрываць і, высмейваючы ды бічуючы, лекаваць.**

**Уладзімір КОНАН**

22.09.97 г





# БАЛЬ НУВАРЫШАЎ

Новы год сустрэлі перш ва ўправе гміны. Гэта там моцна бухнула. А дванаццатай уночы выпіўшы войт выхапіў ракетніцу ў камендантa паліцыі і стрэліў на віват, пад сукню свае каханкі. Спрытна, баба не паспела перапалохацца, а сама ракета жыхнула цераз аздобныя яе фалды проста ў буфет, запаліўшы скрыню алкаголяў. Бутэлькі трэскалі, пырскаючы сінім полымцам на мужчынаў, што не адступаліся. Пакуль гарэла жытнёўка і тлелі каньякі, сітуацыя не бачылася безнадзейнай. Памылку дапусціў потым менавіта войт, паліваючы вогнікі газаванай вадою з сіфона. Заняўся затым раял-спірт, гэтая дарэмшчына ад савецкіх кантрабандыстаў, якіх наарыштоўвалі на перадкалядным рынку

Жанчыны – фыркатлівым кагалам – апынуліся на вуліцы, па-гусінаму то гевалцячы, то аціхаючы ад далятаючых да іх камандаў у бальнай залі· "Анучамі гасі, булава!"

Дэтанацыя расейскіх бутлягаў аказалася не столькі шкоднаю, колькі гуллівай. Хваля паветра здзьмухнула павярхоўны пажарык. Накацілася празрыстага дыму з дурманам дэнатурных пахаў Пацверазелыя спадары, засупоненыя гальштукамі, пырхліва абмываліся ў санітарыяце. Квяцістыя спадарыні радасна наводзілі парадак на неўсмаленых сталах, пасля чаго ўсім таварыствам прычакалі войта з любкаю. Яна, прычэсаная пад Мэрлін Манро, пляснула пацалуначак у саланіністую шчаку дабрадзея, сказаўшы яму сіплым галаском: "Бядуля ты мая" Ён, вытрашчыўшыся сяржантам на дэфілядзе, гыркнуў, аж паліцай ляснуў абцасамі: "Гу-уля-ем!!!"

І ўзнялася катэгарычна энтузіястычная п'янка (на рахунак цяпер крамніка Махлярчыка).

Свая кампанія навагодзіла ў мясніка Казарэза, і свая ў млынара Пыталя. Сялянская нудота па задворках нікуды не паказвалася ў той вечар, дрэмлючы перад тэлевізарамі са святочнай хярнёю.

Казарэз праявіў фантазію, прычапіўшы коцікам да хвастоў штучныя агні. Беленькі з іх, выпушчаны пад усеагульны рогат

*Сакрат ЯНОВІЧ*

*пра сябе і пра іншае:*

**У 1953 годзе патрапіла мне на во́чы праца беларускага навукоўца Дабрыніна пра Скарыну – дакладнай назвы не памятаю. Кніжка тая была навуковая, пісалася яна, пэўна, больш для спецыялістаў, чым для шырокай грамадскасці, але на мяне зрабіла вялікі ўплыў: як, маўляў, мы дагэтуль не ведалі, што мы, беларусы, не нейкае лапатнае быдла, што мы маем непасрэднае дачыненне да еўрапейскае цывілізацыі – бач ты, кніжкі выдавалі, ды яшчэ калі, ды яшчэ якія... Карацей, гэта было сапраўдным адкрыццём, і я, натуральна, не мог трымаць яго ў сакрэце – адразу падзяліўся ім з сябрамі. Тыя напачатку не паверылі: "Ён жа Пранцішак, пэўна, католік, паляк, мо не наш..." Давялося даць ім тую працу прачытаць. Пайшла тая кніжка "па колу", і маіх аднадумцаў адразу пабольшала. Тое калектыўнае чытанне мела нечаканы працяг: мы сарганізавалі напаўпадпольны гурток моладзі нацыянальна-асветнага накірунку – гэткая абгрунтаваная ўзростам і нечаканым пачуццём беларускай свядомасці гульня ў рамантыку. Я нават нарабіў сябрам гуртка саматужныя пасведчанні з гербам БССР (пра "Пагоню" і бел-чырвона-белы сцяг на той час, натуральна, ніхто з нас не ведаў). Убачыў аднойчы тыя легітымацыі адзін мой знаёмы і**

# НА МАЛОЙ РАДЗІМЕ САКРАТА ЯНОВІЧА

**"Такога нападу на шаўцоў – у гісторыі Крынак – яшчэ не бывала! Таго дня паліцыя вывезла ў Саколку адзін грузавік, нагружаны скурамі, а таксама ботамі – гатовымі і негатовымі, а другі – шаўцамі. Каля сарака дзецюкоў. Гэта была ўдалая акцыя па ліквідацыі буржуазнай уласнасці".**

**Так пачыналася кароткае апавяданне пад назвай "Як Крынкі Саколку абулі", апублікаванае ў 73-м нумары "Gromady Rolnika Polskiego", які выйшаў 18 чэрвеня 1972 г. Аўтарам быў тады трыццацішасцігадовы Сакрат Яновіч, які жыў у Беластоку і пісаў па-беларуску, а яго перакладчыкам – Ежы Літвінюк.**

**Мяне захапіў тэкст яшчэ шырока не вядомага пісьменніка, створаны, безумоўна, не без уплыву бабелеўскай інспірацыі (аб уздзеянні гэтай добрай школы сучаснай прозы Яновіч, зрэшты, адкрыта прызнаваўся), насычаны рэаліямі ўласнай зямлі (уласнага кутка Еўропы, сваёй далейшай і бліжэйшай гісторыяй, сваімі**

**за галаву ўхапіўся: ты што, дурань, калі гэта ўбачыць хто-небудзь з агентаў ці "стукачоў" УБ (маецца на ўвазе "Urząd Bezpieczeństwa" – польскі аналаг КДБ), ведаеш, што яны вам "прышыюць"? А то былі пяцідзесятыя гады, эпоха Берута... Як ні было шкада, але тыя паперкі давялося занесці на гарышча і паціху спаліць – ледзьве пажару не нарабілі...**

**Прычыны таго, чаму ясны сон пра Беларусь так і застаўся адно сном, прычым небяспечным з часам, цалкам банальна тлумачацца самою натурай Савецкага Саюза. Дамінавала ў ім, як ва ўсякай імперыі, тэндэнцыя этнічнай уніфармізацыі, ад тысячагоддзяў вядомая утопія цывілізацыйна-прасторавай ніверляцыі і псіхакультуралагічнага маналіту. Тым часам нацыі нараджаюцца не з фанабэрыі паэтаў або ідэолагаў. Яны – няўхільны вынік асобнасці лёсу, які не паддаецца ніякаму тэрору. Фізічнае зніштажэнне нацыястваральнай праслойкі можа прынесці злачынным ініцыятарам не болей чымсьці духоўную метысізацыю, але ніколі глынанне тэрытарыяльнага грамадства. Чаму? Адказ увачавідкі: імперскі цэнтр мусіў бы тады падзяліцца сваім дабрабытам аднолькава ў карысць унутраных калоніяў, што непазбежна паставіла б крыж на цэментуючай ролі самой метраполіі. Не кажучы ўжо пра практычную нерэальнасць таго. У гэтым і адвечная тайніца-**

на падворак, скачучы іскрыстай спружынаю, пагнаўся ў падваротню стадолы Большы, рыжы і хітрэйшы, рынуўся ў балаганна расчынены гараж, у які награмадзілі былі правінцыяльны запас бензіну Стадальню затушылі б, калі б не пачало рваць тыя каністры і каціць адтуль палыхаючыя колы з псыканнем байкавых змеяў Па Казарэза прыехала з блізкага горада карэтка хуткай дапамогі

Пыталь жа дурэў спакайней У поўнач падбухторыў кагосьці з гасцюючых у яго, каб паездзіць з ім аўтамабілем па вулічках, а ён будзе трубіць ды шпурляць праз апушчанае ваконца шафёркі петарды ў заплоцце Было што паглядзець. адно за адным яснелі электрычным святлом вокны ў хатах, скуголілі дварнякі, з крыкам падымаліся ў адліжнае неба вароны, заначаваўшыя ў старадрэўі, драпала з разваленых прыгуменняў дзікае звяр'ё.

І хоць пабольшала выдумак у мясціне, усё роўна бядак бедаку не пастараўся, учыніў адвечна тую самую неспадзяванку: здымалі з завесаў брамкі, закідаючы ў чужы закутак, каб добра пашукаў.. А я нікому і таго не зрабіў, самахоць прыхаваўшы сваю ламарэндзіну з засаўкай, як толькі звечарэла. хай хто прыемна падумаў, што нехта ўжо начоўп мне дураты.

Пераждыўшы атракцыёны нашай новай буржуазіі я, аднак, з некаторым страхам чакацьму дзевяноста пятага года. Што здумае тады войт, а што Казарэз і Пыталь?!

# МРОІ ПРОШАПАНА

Агатка, пажылая жонка Прошапана, зацяжарала ў памятную сушу, калі людзі ледзь маячылі ўжо ад знямогі Прошапан – неяк няўдала – пахвальваўся гэтым і, каб узвысіцца над недарэчнымі халопамі, шторанку галіўся да самое сінечы скуры на барадзе. І хоць дзецярні Прошапанам хапала і без таго, і бяды ад яе, але ў той раз адбывалася ў іх нешта ўсё ж радаснае Яны пакуль і самі добра не ведалі, што менавіта. Агатка не адразу пасвятлела на твары, відаць, падумаўшы пра

**мітрэнгамі, расчараваннямі і цвёрдымі законамі), і, апрача таго, спецыфічнай іроніяй і адначасна лірызмам, што схіліла Літвінюка назваць Яновіча – можа парадаксальна, але не без падставаў – "вясковым паэтам".**

**Гэтае вызначэнне ўвайшло ў прадмову да першага польскага зборніка апавяданняў "паэта" (двукоссе азначае толькі тое, што гэта пазычанае слова, а не дыстанцыяванне ад яго) пад назвай "Wielkie miasto Białystok" (Iskry, 1973). Заўважым, што і ў гэтай назве, якая некалі была прызначана і для асобнай, даўжэйшай навелы (у зборніку "Trzecia pora, KAW 1983), закладзены і наіўны парыў дзецюка з правінцыі да вялікага свету, і кпіны, і своеасаблівы цывілізацыйны досвед месца і часу.**

**У гэты перыяд і я, услед за Літвінюком, з прыемнасцю шукаў у польскай літаратуры эквівалентаў для маляўнічага стылю Яновіча; я таксама займаўся перакладамі – разам з Гушчам, Рэдліньскім і іншымі – апавяданняў, што ўвайшлі ў зборнік "Wielkie miasto Białystok". Дарэчы, цэнзура здагадалася тым часам, што аўтар гэтага заслугуе і на пільнейшую ўвагу; у выніку да чытача памянёнай кнігі ўжо не дайшоў ні наэлектрызаваны пачатак абразка "Як Крынкі Саколку абулі", ні яго беспамылковы, бы цвік, адным ударам малатка ўбіты ў падэшву, лейтматыў: "Дзеелася гэта ўвесну сорак сёмага года. А ўвосень шаўцы пазнавалі свае боты на нагах тых, хто прыехаў з лесу і рабаваў крамы. Бесцырымонна. У чацвер, гандлёвы дзень".**

**Мінуліся гады, і сын шаўца з Крынак стаў сёння постаццю,**





свае пад пяцьдзесят, у якія жанчына не павінна нараджаць, як вядома, пераўтвараецца тады яна ў бабу (мужчына ж горбіцца ў шэсцьдзесят)

Бог, прытым, не скупіўся Прошапанам на ўдачу Дарослыя сыны, як угледзелі маці зноў з жыватом, шпарка і багата пажаніліся з забеластоцкімі мазурыцамі. Гэта далося ім досыць проста, бо мазавецкім гаплючкам імпанавалі – ліцьвінскае пароды – мужчынiскі, бамбізы пад бэлькі ў столі ў мухаройных халупах. Не адно ў якасці парабкуючых прымакоў на тых гектарных раўнінах, паказалі сябе ў пасцелі і ўстойлівымі дубаснікамі, непараўнанымі з тутэйшымі задыханымі заморанікамі.

Прошапанок, тым часам, ажно падспеўваў ад задаволенасці, пераважна, сяк-так чуваныя ў маладосць легіянерскія паходныя песні або і бальшавіцкую "Кацюшу", калі не было каго дома са сваіх палякаў (Агатка ўпалохана супыняла. у пекле з маскалямі згарыш!).

Прошапан не быў бы Прошапанам, калі б ад такога сваяцтва не пачуваўся ён у сёмым небе! А яшчэ і нічога яму не каштавалі тыя раптоўныя вяселле за вяселлем. Ці ж выдаткамі назавеш гэта тое, што надаў быў хлопцам хатняга дабра, вышныпаранага на пыльным гарышчы, у пасажных куфрах Прысадзістыя нявесткі з фанабэрлівых жа хутароў абдорылі яго "эквівалентамі"; навюсенькім касцюмам з амерыканскага барахла каторасьці паддабрылася. А піў-напіваўся на "актах вэсэльных", мала не выпрацюўшыся пад плотам у ванітаванне! Моцна весяліўся Прошапан! Крыху з потайнай згрызотаю: спасланыя лёсам сваты і сванькі чамусьці паказаліся малютамі, бы японцы, а ўжо ж клубастая Агатка рассядалася сярод іх шырокакрылай квактухаю.

Гадаваліся ў Прошапанаў, таксама, і дзяўчаткі, даволі лыткастыя падлеткі. Трэба ж упільнаваць курачкі, каб кавалерка не схапіла за чуб зіркасцейшую якую. Потым будзе не дапытацца, хто рагатусе насаладзіў З дочкамі вечны клопат Жанатыя браты, на шчасце, не забудуць пра сясцёр: куртатаму мазуру толькі давай русінскага гамата!

Камбінаваў Прошапан самым розумам: бацькі бацькамі і на тое яны бацькі, каб сысці калі-небудзь у магілу, пакінуўшы ўсенька нашчадкам сваім. Значыць: Прошапан і Прошапановічы з Прошапановічанкамі раней або пазней накладуць рукі на тамтую шляхцюкоўшчыну – з умураванымі хлявіскамі, стадоламі

**нятайніца нежыццяздольнасці тых трэціх-пятых Рымаў, іх немінучага распаду ў выспяванне "канфлікту хлеба" між цэнтрам, менавіта, і эмансіпацыйна зарыентаванымі перыферыямі. Не здараецца тое раней, усё ж, за чарговую рэвалюцыю ў вытворчасці, тэхналагічную, якая абавязкова парушае ўсталяваныя парадкі, дэцэнтралізуе і разладжвае структуры іх, эканамічна аўтанамізуючы шанцы правінцыі на незалежнае развіццё. Калі раб, зменены ў прыгоннага халопа, паказаў сябе прадуктыўнейшым, упаў антычны Рым як адзіны распараднік багацця; з'яўленне наёмнай працы прадвырашала далейшы прагрэс, ушыркі немагчымы без абароны яго новымі дзяржаўнымі ўтварэннямі на занядбаных іншародных ускраінах... Цывілізацыйная анахранічнасць Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік закладзена не столькі ў спробе ўжыццяўлення старога, як сам свет, міфа Раю на Зямлі, колькі якраз у зрыве ім кантакту з сусветнай эканомікай, што і адштурхнула СССР у маргінальнасць. У рэцыдыў проста неафеадальных суадносінаў, у персанальную і духоўную паднявольнасць. Мілітарызацыя гаспадаркі, без чаго Саюз пратрымаўся б усяго гістарычнае імгненне, заўсёды прарочыць у будучым ляскатлівую катастрофу і працяглы пасля яе хаос. Дарэчы будзе тут заўважыць між іншага, што ў пасляіндустрыяльную эпоху і паступовую ў ёй аўтаматызацыю**

**вядомай у непараўнальна больш значным маштабе, чым "вялікі горад", куды ён прыбыў у маладосці, – вядомым у агульнапольскім, і адначасна ў агульнабеларускім маштабе (яго выдаюць і з ім лічацца ў Менску), і ўрэшце – дзякуючы перакладам на іншыя мовы, перадусім на англійскую – вядомым сярод тых асяроддзяў на Захадзе, якія цікавяцца культурай памежных рэгіёнаў Усходняй Еўропы.**

**Але ён вядомы не толькі і не абавязкова як пісьменнік, бо хаця пазней з'яўляліся і новыя апавяданні Яновіча (гэта, мабыць, жанр, дзе ён чуецца найбольш пэўна), і раманы, і сцэнічныя творы, усё больш розгалас ішоў аб дзеячу, ініцыятару арганізацый і рухаў, нават аб палітыку, які ўдзельнічае ў выбарчай кампаніі, а гэтыя заангажаванні спрыялі не пяру мастака, але публіцыста. Не варта здзіўляцца: хіба ж мы не ведаем з польскай літаратуры мадэлі творцы – яго апякае сам вялікі зямляк з Наваградка, – які галоўным сваім абавязкам лічыць напісанне Кнігаў Нацыі, а таксама далучэнне да тайных і яўных таварыстваў, якія змагаюцца за шляхотныя мэты? З'яўленне гэтай мадэлі ў беларусаў, нацыі, стагоддзямі пазбытай самастойнага існавання, аточанай чатырма нацыямі, якія прыдушваюць сваёй магутнасцю, калі не дзяржаўнай і вайсковай, то культурнай: Расіяй, Польшчай, Украінай і Летувой (якая нават пазбавіла іх імя, таму што гэта яны чуюцца гістарычнай Літвой), з'яўленне ва ўцягнутай у такія клешчы нацыі падобнай мадэлі творцы падаецца натуральным, прычым, мусіць, якраз польскі ўзор адыграў тут галоўную ролю. Тут гэтая**

**працы ды мінімалізацыю патрэбы ў простым высілку чалавечых рук, а таксама рэдукцыю да мінімуму сыравіны, калоніі перастаюць быць крыніцай багацця і пачынаюць абцяжарваць цэнтральны бюджэт хуткім дэфіцытам, што і з'явілася галоўным стымулам імклівага дэмантажу, скажам, Брытанскай імперыі. Партугальская, як прымітыўнейшая, пратрымалася даўжэй, мала менш за расейскую.**

**Канцэпцыя — у перспектыве — савецкай нацыі на базе расейскай культурнасці амаль цалкам рэалізавана адно ў Беларусі. Адкуль узяўся тут гэткі, незразумелы ў Еўропе, энтузіязм ажно датэрмінова выканаць указы абяцальнікаў камуністычнай дарэмшчыны? Справа выглядае складана, але такою яна не ёсць. Правёўшы чыста тактычны па сутнасці эпізод т.зв. беларусізацыі, да голасу зноў было дапушчана небеларускае гарадское асяроддзе, якое ніколі не паводзіла сябе інакш як пятая калона расейскага імперыялізму. Акаляючае яго гарадызаванае сялянства (бяздольныя мігранты) пачувалася шчаслівым у індустрыяльным паратунку сябе, уцёкамі ад калгаснага ярма, і кіравалася яно, ясна справа, не сэрцам, але страўнікам. Гэтыя людзі-жываты, нагаладаўшыся, нічога не бачылі далей канца свайго носа. Гэта была не нацыя, а толькі яшчэ матэрыял для яе.**

на два такі, спружыназвоннымі машынамі палявымі ў шопах, трактарамі нямецкае маркі, уробленымі палеткамі пад пшаніцу і цукровыя буракі, сасновікамі на ўзгорках, з якіх не адзін дворык з пеўнікамі ў шчытах адгрукацьме. Прошапан аж дубянеў, калі занадта надумаў думанае: жарты, такія магчымасці!

Яксьці не прыходзіла яму ў галаву, што і сам ён некалі памрэ. Шчаслівыя або зайздрослівыя не дапускаюць да сябе смерці.

Прошапан заеўся быў і тыднямі не браўся за чарку, збіраючы грошы, вось, на атлас анатоміі жанчыны. Парфумная беластоцкая курва падманула яго набыць і атлас мужчыны, асабліва з дадаткам палавых органаў ды іхных папулярных хвароб. Ён, бач ты яго, пажадаў навукова даведацца пра ўмовы напаткаўшае цяпер шанцоўнасці. Наглядзеўшыся каляровых кішак ды страўніка, усяго таго мясніцкага балагану ў целе, узяло Прошапана бяссонне. Не адыходзілі ад вачэй і тыя органы, то ў выглядзе рэзанага кімсьці сальцісончыка, то накшталт трэснутага ад пераспеласці гарбуза... Ужо ж насохся ад уздзіву, што людзіна так быдлячая!

Прошапану далей рупіла чагосьці. Закінуўшы дакторскія малюнкі ў апухі, каб Агатка не пабачыла нутраныя жудасці або дзяўчыняты не ўведалі пра венерычныя фокусы, ён пацішэў у чаканні родаў у бабы. Гэта яму нясцерпна доўжылася, і Прошапан час-часам даставаў назад медычныя фаліянты, сцішна зашыўшыся з імі ў закутак пад кроквамі, пакуль мышы не паелі, сцерабілі перш вокладкі, а затым і непрынадную сярэдзіну з ілюстрацыйнымі бэбахамі. Яго энергія абярнулася на дачок. чаму яны памалу растуць?! Ён прыемна ўяўляў іх сабе ў вэлюмах, гаспадынямі ў гербавых радзінах, радзіцелькамі патомных паноў, далікатнымі і белатварымі, без мужыцкага загару на шчочках, плячах і грудзях.  Замілаванасць Агаткаю слабела, то мацавела ў ім.

Зразумеў Прошапан, што настарацца дзяцей – гэта залаты інтарэс! Палову гміны можна імі пасля абсадзіць і войту ў сакратаркі каторую свежарослую харашуню падбухторыць, каб падаткі меншыя прысылаў плаціць. Але, на жаль, Агатка не здолее больш. Няма іншае рады, як замену ёй шукаць? Прошапан спачатку жахаўся ад такога здогаду, бо ведаў. Бог не пахваліць і смехаты ў народзе начаўпецца, што хоць ты ў сабакі вочы пазычай! Тым не менш мазгаўня працавала і

**мадэль увасобілася ў постаць Сакрата Яновіча, найбольш таленавітага (і непакорнага) пісьменніка беларускай меншыні ў Польшчы, які фантазіяй і гнуткасцю роднай мовы не саступае творцам, што жывуць на ўсход ад Буга і Нёмана. Нічога не прымяншаючы ў выбітнасці гэтай мадэлі, трэба заўважыць, што ён, мабыць, меў меншыя клопаты, абраўшы за медыум жыхара Беластока, чым больш жорстка ўціснутых і кантраляваных пабрацімаў з савецкай Беларусі...**

**У гэтай сітуацыі часам маглі без лішніх засцярогаў гучаць раздражняльныя фармулёўкі ў асіміляцыі, бо ў публіцыстыцы Яновіча, якая апелюе да палякаў, напрыклад, у без малога двухсотстаронкавай кнізе "Białoruś, Białoruś" (Iskry, 1987), навідавоку прэтэнзіі якраз да Польшчы, да гістарычных здзяйсненняў, часам занадта аддаленых у мінуўшчыну, як да рэгіянальнай бюракратыі, так і да грамадства, настроі ў якім прывялі да таго, што перамяшчэнне сялянскіх сыноў і дачок у метраполіі, якая інтэнсіўна развівалася і засмоктвала вёску, адначасна азначала адрыў ад беларускіх каранёў, развітанне з нацыянальнай тоеснасцю, "спольшчанне" генерацыі равеснікаў аўтара. Нешта, аднак, адбывалася насамрэч – і зычліваму чытачу даводзілася аддзяляць прысутнае ў гэтых тэкстах палемічнае перабольшанне, няспраўджаныя домыслы, бяздрасныя абвінавачванні ад праніклівага назірання аўтэнтычных працэсаў і вартай асэнсавання праблемы сужыцця з этнічнай меншынёй (што ў некаторых раёнах Беласточчыны пераходзіць у бальшыню), якое б не толькі не ўкрыўджвала яе, але і не распешчвала з забойчым для**





выйсце як быццам знайшлося: немаўлятак падкідаць будуць Агатцы падкупленыя распусніцы, а ёй столькі тае работы, што прыкідвацца аднова пузатай  Падлічыў кошт, параіўся са знаёмым лайдаком, і план гатовы.

Калі Прошапан растлумачыў усё Агатцы, дакладна і дэталёва, з падрахункамі, яна ні то засмяялася, ні то заплакала. Пасядзеўшы ў задуменні за сталом у пакоі, куды не пускалі смургеляў, нічога не сказаўшы, угрэла свайму Прошапану ў гладкую ды пахкую ягоную морду, ажно зазіхацела вялізнай лямпачкаю і задраў ён доўгія ногі, мала-веля не чапіўшы ботам нізкую дзеля аздобы жырандоль.

– Яшчэ раз такое мне скажаш, яйца табе выражу, – пачуў ад жонкі ціхую праўду (каб дзятва не пачула)

Прошапан неўразуменна матлянуў булавою, стрыжанай пад свістуноў з рок-гуртоў, і аблёг на падлозе з квяцістым дыванам, крыху нагадваючы сабою дбайна дагледжанага нябожчыка, які павінен быў яшчэ жыць і жыць.

І так, радасць у Прошапана аказалася нядоўгай. Ён і не вельмі смуціўся, але кінуў хадзіць выгаленым штодзень і па-афіцэрску выпрастаным. Вярнуўся ў мужыцтва ды не настолькі, каб у нечым не вырозніваца з натоўпу. Сыноў засмактала спападнае ім багацце; дочкі падрасталі непрабачальна марудна, Агатка цяжарала ўсяго шосты месяц.

Прошапан, аднак жа, нешта апланоўваў, не здаваўся, але заўзята маўчаў, каратаючы дзень да вечара ў гаспадарцы.

# ДАЎГАНОГАЯ ЛАНЬ

Віця Крывая Шыя не вылазіў з тае Амерыкі, пакуль яго маці тут не пачала канаць. Яна так і аддала б сама адна Богу душу, без анікога каля сябе, калі б не паштальён, што прынёс ёй рэнту ды не змог дастукацца ў дзверы да яе, каб пусціла з марозу ў хацінку  Хлопец гэты падумаў, што – у ранні зазімкам адвячорак – бабулька баіцца таго бандыта, пра якога кажуць. прывалокся аднекуль з-пад Варшавы дзеля рабункаў пакінутых

**Каталіцкая рэлігія ў часы майго маленства ўспрымалася як элітарная рэлігія — рэлігія паноў, шляхты, месцічаў. Праваслаўе ж было рэлігіяй людзей простых — сялян і рамеснікаў. Каталіцызм дагэтуль для мяне з'яўляецца троху іншым светам. Мяне вельмі цікавіць каталіцкая філасофія, напрыклад, Тамаша з Аквіна. Бо каталіцызм надзвычай рацыянальны, прасякнуты мысленнем аб Богу. У праваслаўі з Богам не размаўляюць, а папросту хаўрусуюць. У каталіцызме дамінуе катэгорыя *ratio*, а ў праваслаўі катэгорыя *emotio*. Таму каталіцызм быў у стане стварыць вялікія філафоскія сістэмы, а праваслаўе не. З гэтай прычыны я маю падвойнае стаўленне да канфесіі. Каталіцызм цікавіць мяне інтэлектуальна, але ў Бога я веру як праваслаўны, як паэт. Бо праваслаўе — гэта рэлігія паэтаў, і я ўсіх паэтаў у Еўропе намаўляю, каб яны сталі праваслаўнымі.**

**Мая сітуацыя — беларускага пісьменніка — тыповая для лёсу аўтара скаланізаванага народу. Я дагэтуль не маю шанцаў на рэгулярны друк у Рэспубліцы Беларусь... Безумоўна, я маю пачуццё пэўнага камфорту: усе мае кнігі апублікаваныя ў Польшчы ў перакладзе, некаторыя на эміграцыі або ў ангельскамоўным свеце, але — паўтараю — амаль нічога, мала, было апублікавана ў Менску. Я не асабліва шкадую з гэтай**

**яе адметнасці вынікам. У гэтыя гады знайшліся і польскія аўтары – на чале з Багданам Скарадзіньскім (Казімежам Падляскім перыяду самвыдату) – якія заняліся гэтай праблематыкай належным і кампетэнтным чынам.**

**Катэгарычнае меркаванне, ці не шкодзіць таленту Яновіча такое падвоенае функцыяніраванне, ці не павінен ён засяродзіцца хутчэй на сваіх чыста літаратурных магчымасцях і не распыляцца на ўвогуле малаэфектыўную грамадскую дзейнасць, не мае вялікага сэнсу, не толькі таму, што ніколі не вядома, што станецца плённым у будучыні, але і таму, што мы таксама не можам знаць, ці змог бы гэты пісьменнік наогул творча існаваць інакш, як у гэтым раздваенні, ці ягоная душа мастака не дамагалася суіснавання і, можа быць, бесперапыннага сутыкнення, унутранай спрэчкі з гэтай другой душой – народнага трыбуна.**

**У кожным разе так выглядае гісторыя прысутнасці сярод нас гэтага арыгінальнага аўтара – і варта, мабыць, мецъ яе ў памяці, калі мы бяром у рукі яго свежавыдадзеныя кнігі.**

**На рубяжы мінулага і гэтага года (артыкул быў напісаны ў 1994 г. –** Заўв. перакл ) **у Беластоку былі апублікаваныя адначасна тры кнігі Сакрата Яновіча: адна беларуская – "Доўгая смерць Крынак" і дзве польскія – "Terra incognita: Białoruś" ды "Dolina pełna losu". Яны працягваюць кірункі ягонай творчасці. "Доўгая смерць Крынак" – гэта зборнік настальгічных апавяданняў, стрыжнем якіх ёсць і пранікліваe назіранне за звыклым, і лірычнае занурэнне ў сябе, і ўспаміны, і рэфлексія аб чалавечай долі, аб складаных перыпетыях**

у самоце глушы мужычак. Выявілася потым – ляжыць, нябога, у надырдыганеным логаве галодная, недагледжаная З пошты далі тэлеграму Віцю ў Чыкага, па вядомым з пісьмаў адрасе. І ён, даволі хутка, з'явіўся сюды

Як толькі ўехаў быў у Польную вулачку, да маткі, адразу зрабілася ў тым закутку святлей яксьці. Вузкі брук заняла даўжэрная ды яснаблішчастая яго аўтамашына, сонечныя прамені, што ў распагаднелую замаразь прастрэмваліся праз гушчавіну векапомных дрэваў, распырскваліся ад яе тулава казачнай кузакі дарагімі каменьчыкамі, рассыпаючыся ў паваленых платах, у купах высахлага лапушніку, у стаўбунах чартапалоху Сыпаліся, зіхотка, і сыпаліся! Ехаў ёю асабіста Віця Крывая Шыя, не з парожнімі рукамі і не адзін На прывязі ззаду гайдалася на калдобінах паўнюткая прычэпа, пакрытая брызентам, а за пярэдняй шыбай сядзела поруч яго маладая баба, але дзівоснае пароды (падобную можна было дагэтуль пабачыць у амерыканскіх кінафільмах пра індзейцаў) Пазайздравалі Віцю ўсе: дарослыя – доларнай яму Амерыкі, кабеты – дарагіх у яго пачак, кавалеры – шыкоўнага аўто, дзецярня – таемнае пры ім індзейкі (нагадвала здатную Даўганогую Лань у чэйснаў) Смольнага вобліку госціца з валасамі, бы мяцёлка ў камінара, паказала сябе, аднак, асобаю прыветнай, хоць бі-забі, незразумела гергетлівай.

Даўганогая Лань і ён, Крывая Шыя, усякага зажылі абое, застаўшыся потым са старою. Вішчала, каб Віця не пакідаў яе, родную маць, сам-насам з прывезеным нялюдскім дзівам! Як ні прасіў-маліў радзіцельку не дурэць, яна ўсё роўна лезла на сцену, калі Даўганогая Лань мякка падступалася ў макасінах да ейнае пасцелі, з дбайлівым доглядам. Заклінаў усімі святымі гэту сялянскую хрышчаную язычніцу, што ўсенькія людзі свету вартыя раю, будзь яны мардатымі манголамі, ці прыплюшчанымі кітайцамі, або лупатымі неграмі, недарослымі пігмеямі Сівому дурылу, але, убіўся ў памяць каторысьці фільм у тэлевізары, з заюшанымі скальпамі, злупленымі з вестэрнаўскіх беленькіх каланістак з высокімі чубамі, з сінімі бантамі

Віця Крывая Шыя не быў з тых, хто схільны на ўступкі недадумкам з курынымі мазгамі! Належаў таму чалавечаму падгатунку з прыроднай інтэлігентнасцю, які, чамусьці часцей, сустракаецца ў байстручкоў (з іх Віця, менавіта) Памаўчаў ён, памаўчаў, злосна зіркаючы на ўчарнелую ад векавой запушчанасці мацерку, і пальнуў:

– Бо ажанюся з разводнай Чаркесавай Лёляй-Лойкаю!

Маці вытрашчылася ад гэтых яго словаў і цалкам разумна адказала.

– Сынок, лепей ужо бяры гэту, што маеш, пляскатую, горш з ёю табе ані мне не будзе, – і яе вочы ўперліся некуды ўбок, дзе, відаць, стаяла за ім, Крывою Шыяй, Даўганогая Лань са сваімі нерухомымі зрэнкамі-вугалькамі на – месяцавай прыгажосці – бондзе аблічча з рыхтык уціснутым носам ды расцягнутым на два горлы ротам. Рашыўшыся, нарэшце, намаглася палюбіць наваз'яўленае стварэнне, з біблейскага занебакраю як бы. Не ўдалося, бо адвярнулася зараз, уздыхнула, але, аднак жа, адчуў Віця, што зноў паднатужыцца, калі не сёння нават, дык заўтра. Дзякуючы Лёлі Чаркесянцы, усё ж, каб яна так здаровая была і ніколі не даведалася пра тое. Яшчэ паненкаю хадзіла Лёлька з дзедавым кінжалам за паясніцаю, і ці раз парэзала каторага кавалера на музыках (за што, вядома). У яе каля печкі таракан за тараканам бегаў, і бегае, як і трэба ў нямытай лойкі Муж удаўся ёй палахлівым – адважны, пэўна, узяў бы іншую – і, вось, выгнала яго, вольнай аднова стала. Яе бацька тым часам не дае рады выплакаць у Бога лёгкую смерць сабе.

Крывашыіха, замест памерці, ажыла. Даўганогая Лань падсыпала, неўпрыкмет ёй, у ежу сушаных зёлкаў, назбіраных у Вялікім Каньёне, што налева ад даўнейшага шляху ў Сакрамента (з расою і ў поўню). Ад выпадку, калі Даўганогая Лань надумала сама агледзець мясціну, Віця Крывая Шыя нікуды не пускаў яе. Ейную ўвагу тады прыцягнуў славянскі мардабой п'яных, але недапоеных, у нацыяналізаванай рабоча-сялянскай уладаю "Карчме" Біліся, як заўсёды, дзеля тлумачэння адзін аднаму, хто каму вінаваты літроўку ставіў той, які столькі даставаў укаплех, што падымалі яго на ногі, дружна трымаючы пад пахі і дапамагаючы яму намацаць кашалёк, засупонены ў капшуку падшытым, зазвычай, пад левую палу кажуха. Гэтай, славутай у ваколіцы, гульні тутэйшых мужчынаў навучыў, яшчэ за першымі палякамі, казацкі прыблуда, што ўцёк быў ад бальшавікоў, недабоек з Белай Гвардыі. Як і пры картах, лічылася засранствам заходзіць у "Карчму" неганаровым дарэмнікам.

**прычыны, і нікога не вінавачу персанальна. Можа таму, што з цягам гадоў змяняецца пісьменніцкая рэакцыя, узнікае дыстанцыя да сваёй творчасці, да самога сябе. Некалі я быў нецярплівы, меркаваў, што калі нейкі твор не будзе апублікаваны, будзе забыты, то адбудзецца страта і для мяне, і для культуры. Цяпер я ведаю, і нават добра, што канчатковую верыфікацыю некаторых твораў здзейсніць час. Добры тэкст заўсёды праб'ецца.**

**Польскія беларусы лічацца нацыянальнай меншыней. Гэта, аднак, паступова перастае быць адназначным. Перш за ўсё ў моц тых агульнаграмадскіх працэсаў, якія набіраюць размах у Беларусі. Наша Беласточчына страчвае пачуццё ідэнтыфікацыі з усебеларускім арэалам, на якім існуе мацярынская нам дзяржава. Яна, на жаль, пераўтвараецца ў сваё запярэчанне, робячыся творам выключна сацыяльна-адміністрацыйным, расійскай правінцыйнай аўтаноміяй з правамі міжнароднага суб'екта. Дэгенеруецца ў яшчэ адну дзяржаву рускіх, у якой этнонім "беларус" рэдукуецца да рэгіянальнага (тыпу: сібірак, масквіч).**

**Небеларускі імідж Рэспублікі Беларусь накшталт тыповых у Трэцім свеце сацыяльных рэспублік, цалкам прасякнутых духоўнасцю нядаўніх каланізатараў, не дарэшты высушвае ў нас эмацыянальныя сувязі з першапляменнай Бацькаўшчынай. Разам з тым вельмі моцна ў негатыўным сэнсе ўплывае на тое эканамічны і цывілізацыйны заняпад, які наглядаецца наогул на славянскім Усходзе, а ў Беларусі ў асаблівасці. У той час, калі ў Польшчы і ў іншых былых краінах т.зв. народнай дэмакратыі адбываецца цяпер імклівае развіццё гаспадаркі і культуры, у Беларусі набывае рысы нейкай дзіўнай нестабільнасці ўпадак у бездань галечы і беспрасвецця...**

**Беларуская літаратура выйшла з кантынентальнага засценка і дасягнула еўрапейскага кантэксту на памежжы пяцідзесятых і шасцідзесятых гадоў. Гэта не было нейкім асабліва вялікім спазненнем, калі зважаць, што не нашмат раней на Захадзе атрымала прызнанне таксама і сучасная польская літаратура... Сёння над абшарамі беларускага прыгожага пісьменства гуляюць ужо іншыя вятры... Беларуская літаратура заўсёды існавала на грані зрынання сваёй нацыянальнасці ў гістарычнае прадонне, і таму яна ў пэўнай меры прызвычаілася пастаянна жыць у суседстве смяротнай пагрозы з боку каланіяльных асімілятараў. Можа гэта не найгорш для падвышэння творчага напружання ў ёй, аднак не найлепей уплывала на яе далейшы ўдзел ва універсальным літаратурным працэсе.**

**Падрыхтаваў**
**Валерка БУЛГАКАЎ.**

---

**узаемадачыненняў паміж людзьмі, якія часта залежаць не ад іх саміх, а ад іншых сілаў, што кіруюць імі і шкумацяць іх. Усё гэта аб'яднана пругкай структурай сціслай, набрынялай сокамі жыцця думкі, серы думак, што стварае выразлівы малюнак "малой прозы" – такой жа самай, як і напачатку шляху, – а чаму павінна быць іншая, калі ўжо тады ён адкрыў яе для сябе і выгодна асвойтаўся ў ёй? Адзінай заганай кароткіх апавяданняў можа быць адно тое, што іх не стае на кнігу; таму да дваццаці шасці, створаных, безумоўна, цягам шэрагу гадоў, аўтар далучыў адначасна, можа быць, з імі напісаную (пад ёй фігуруе дата: 1977–1993) даўжэйшую аповесць пад назвай "Сцяна". Гэта таксама добрасумленная проза, але перад яе прафесійнасцю я аддаю перавагу зыркаму зіхценню кароткіх апавяданняў, якое на імгненне асвятляе знаёмыя, і кожны раз як бы ўбачаныя нанава краявіды.**

**"Terra incognita: Białorus" – гэта чатыры гутаркі ці эсэ на польскай мове і пятае пабеларуску. Яны працягваюць і метады, і стыль вышэйпамянёнай кнігі "Białoruś, Białoruś" – разам з яе палемічнай завостранасцю, напружаннем і жарлівай прагай сказаць свету (і перадусім Польшчы) праўду аб гэтым народзе, што перажыў красаванне ў мінуўшчыне, потым быў укрыўджаны гісторыяй, палітыкай, цывілізацыяй і цяпер так цяжка выкараскваецца на незалежнасць, на культуру, на ўласную мову. Тут ёсць і наноў сфармуляваныя аргументы за "беларускую справу", і ў чарговы раз паўтораныя старыя, таксама трапляющца, як і раней, не вельмі пераканальныя патрабаванні вярнуць забранае. Новы – і дзякуючы не спробам расчуліць, а выпрацаваны ў выніку глыбокіх разважанняў – тон чуваць у чацвёртым з гэтых эсэ пад назвай "Мая малая бацькаўшчына". Гэтая малая бацькаўшчына аўтара, як вядома, Крынкі, і таму не дзівіць дэкларацыя: "Не палюбіўшы родных Крынак – не палюбіш і Польшчы". Але далейшую рэфлексію аб малой і вялікай радзіме ўскладняе трыяда нетыповых выкладак: "беларус – праваслаўны – плебей (або яшчэ горай – хлоп!)". Ад назірання на ўласным (але не толькі) прыкладзе драматызму гэтай сітуацыі аўтар даходзіць да ўстанаўлення грунту пад нагамі: "Мая малая радзіма – гэта адначасова сяліба той часткі майго народу і веравызнання, якая ўваходзіць у склад польскага грамадзянства і ўяўляе сабой галіну, што зраслася з ім. Нешта накшталт аднаго камля яблыні, якая родзіць розныя плады..." І яшчэ пару важных урыўкаў – нашмат, рэч ясная, бяднейшых за сукупнасць усіх разважанняў Сакрата Яновіча на тэму ягонай малой радзімы (у іх ёсць згадкі і пра покліч дэ Голя аб Еўропе радзім, і пра еўрарэгіёны, і пра перспектывы капіталістычнай нармалізацыі ў Польшчы), цяжка, немагчыма іх выкласці дэталёва – і таму прывядзём прынамсі гэткую цытату: "Мая малая радзіма не ёсць абавязковай умовай існавання Польшчы. Гэта Польшчы неабходная для яе, каб не дапусціць зарастання пушчай". І далей: "Мая малая радзіма мусіць хацець ёй быць, а вялікая – хацець яе мець". І ўрэшце, пад самы канец цвярозая перасцярога, што датычыць Крынак і звязаных з імі пытанняў, як канкрэтных, так і, важуся памеркаваць, абагульненых: "Мая малая**

Якраз у такі, блізкі зазёванай згоды, момант, задыхана ахвачаны клубаваннем натоўп знямеў, быццам балванамі на лёдзе застыўшы. бронзавым манументам узвысілася, пагразам у расхлябешчаным у прыцемак уваходзе, Даўганогая Лань! Усяляк пасля распавядалі пра тую хвіліну і падзею, але галоўнага, што счаўплося, Віця Крывая Шыя здагадаўся са словаў аслупянелай ад убачанага Даўганогай Лані ледзь трапіўшы дахаты.

– Я бачыць поўна чалавек і я не бачыць поўна чалавек!.. Цуд! Дух Маніту ўзяць усе чалавек!.. Акно трэсь – акно няма!.. Многа-многа акно няма, адно акно, а чалавек многа, другое адно акно, а чалавек больш!!. Я прыйшла бачыць, і я не бачыць, многа-многа зад бачыць, а зад усюды зад, у Амерыцы зад, у вас зад  Стандарт зад, зад ёсць таталь-зад, інтэрнэйшл .

Цэлаю знайшлі пасля жалезную крату, што мацавала аканіцы знадворку ў барык; прытарабанілі яе назаўтра дзеці – гулялі ў снежкі на выгане. Аказалася гэта не самым значным рэкордам адлегласці і цяжкавагавага высілку. Самавіты, пацямнелы, стол для півашнікаў, які ледзьве кранали з месца, счапіўшыся між сабою, буяны, валяўся цяпер чамусьці за хлеўчуком з публічнай прыбіральняй; дубовы і навек аклінаваны, ні трохі не пашкодзіўся. Прыкідвалі мясцовыя цвярознікі, якая сіла заперла яго туды, а ці нячыстая.. Чыгунны саган для гатавання каўбасаў з квашанай капустаю ў закусь гарэлчыным братам ушчэнт прапаў, вуха ад яго высачыў чыйсьці смургель, на суку сухое вярбы цяляпалася. . Чайнік са свісткам, венгерскі, пагудваў, бы пугач ноччу, на самюткай верхавіне тае сухастоіны, што зусім немагчыма тлумачыць звышлюдскімі здольнасцямі вярнуць у сабе першародную малпу  Скандал (суд за шкоду) вісеў над Віцем на валаску  Паратунак яму, кажуць, сышоў з нябёсаў: кожны, каго клікалі на міліцэйскі допыт, прысягаўся чырванеючы, што ў той перадвечар акурат не выходзіў з хаты. Жанкі заядла пасведчвалі. Вазьмі прызнайся, то спытаюць, хто і што знёс на сваім гарбе, бы сабака кошку; разбіў, зніштожыў, нарабіў стратаў... Падлічаць плаціць.

Даўганогую Лань зненавідзела не маці ўжо і не Чаркесянка, а Барадатая Нюта, якая, у польскую прыватызацыю, думала была набрацца акцыяў "Карчмы"  Гешэфт ляснуў, будыніне спатрэбіўся б грашавіты рамонт, мабыць, капітальны. Тэхнічны агляд выявіў, што зрушылася тыльная падруба і пакасіліся філянговыя дзверы. Самым клапотным падаўся пакрыўлены ад таго часу комін, у чым жартаўнікі прывінавацілі саму Барадатую Нюту· джгаючы ад Даўганогае Лані, вішчала на вецер ды перлася ў хлебную печ, што ў карчомнай кухні, і ў такой позе выкарысталі там крутлявую Нютку, бы ваякі ў фронт, старакавалеруючыя ананісты  Як-ніяк адчайныя хлапчугі! Але, прытрымліваючыся непляткарскіх фактаў, нагадаю дадатковую шкоду· асеў вугал фундамента, што аброс чарнаслівам. Якіясьці зладзюгі-валацугі раней падкопваліся пад падлогу там, дзе склад гарэлкі.

Віця Крывая Шыя шпарка вярнуўся ў Амерыку, дапільноўваць бізнес. Даўганогая Лань пакуль што засталася з яго старою. Здаравела маці на працяглае жыццё. Не марудзячы завельмі, выехалі і яны, абедзве, за Віцем. Да вясны ад хаткі Крывое Шыхі тырчэлі, ага, ужо адны камяні і гліняная печка, паразмываная адлігоццем, перадвясновымі дажджамі. Па Вялікадні, усё роўна што ў запозненае развітанне, зацвіў – недаламаны тубыльцамі – куст белага бэзу, у паненскім некалі агародчыку.

**радзіма – гэта ідэалогія ўласнай працы і грошай. Умовы для яе адраджэння не будуць доўжыцца вечна". Калі іх не выкарыстаць цяпер – "пра малую радзіму не застанецца нават і згадкі".**

**У трэцяй кнізе – "Dolinie pełnej losu" – абедзве галоўныя лініі творчасці Яновіча; акрэслім іх троху інакш, чым дагэтуль, а менавіта першую як асвятленне драбніцаў свету імклівым здогадам і паэтычным словам, а другую – як парадкаванне загубленага ў свеце пачуцця супольнасці шляхам даследавання яго гісторыі і перспектываў, якое не абмяжоўваецца толькі слоўнай інтэрвенцыяй у яго бытаванне, – дык вось, у "Dolinie pełnej losu" абедзве гэтыя лініі зыходзяцца і пераплятаюцца. Да якога менавіта жанру належыць гэтая кніга – вызначыць даволі цяжка, як зазвычай у выпадку літаратурных гібрыдаў, якія выходзяць з-пад паслушэнства літаратурных дырэктываў якога-небудзь аднаго жанру, кіруючыся вышэйшым правам аўтарскай вернасці сабе, сваім дазнанням, роздумам, прыхамацям, свабодзе іх выяўлення і спалучэння не толькі адвольным, але адважным і не патрабуючым у прынцыпе тлумачэння чынам. Развітая аўтабіяграфія? Эсэ? Сацыялагічны запіс з элементамі псіхааналітычнай інтраспекцыі? (Апошняе прагучала надзвычай па-навуковаму, хаця ў "Dolinie pełnej losu" можна ўгледзець і гэткі змест, што, аднак, не адбіваецца ні на стылі, ні на прыродзе літаратурнай нарацыі.) У гэтай невялікай кнізе (134 старонкі друку) сустракаюцца амаль усе фабулярныя рэаліі і звароты, вядомыя з дагэтулешняй творчасці Яновіча (ад шаўцоў з Крынак і заваёвы "вялікага гораду Беластоку" паўз**





# САШЭСЦЕ АХАПА

Панна Міляда – сваім: красуня Ляля – выпадкам счула, што едзе з плугам п'яны хам Ахап, араць мястовыя агароды з зімы.

Чутку падхапілі з радасным віскам паслясялянскія дамы ў амерыканскіх парыках, што пляткавалі на рагу Казінай і Воўчай  Запакутавала ад тае добрай весці ўсё патаемная Любка-Шпіёнка: ёй, шасціпудовай, нельга бегма бегчы. Сонца, прытым, нелітасціва прыпякала ў веснавенне (да агародніцкіх халадоў заставалася каля двух тыдняў). Пара ж садзіць бульбу ў садках ды рыхтаваць градкі пад салодзістую моркву, буракі на боршч, мацавітую фасолю, шыкоўныя памідоры, агуркі пад выпіўку ..

Любка-Шпіёнка ўспацела ад самое навіны пра Ахапа перш, пакуль паспела што-колечы далей падумаць. Затое, дапаўшы да ганка свае хаты, што ўнізе Рынкавай вуліцы, абудзіўся ў ёй камандзірскі дух, якога даўно ўжо не паспытаў яе шлюбны Аркашка, празваны па палітыкаватым бацьку Імперыялістам.

– Ахап! – закрычала Шпіёнка ў цёпла расчыненыя дзверы і Імперыяліставіч умомант скеміў, што трэба Шмыгануў у кухню, дзе ў шуфлядзе доўгага стала ляжаў ключ ад склепа.

– Нож!! – енкнула пасля і грымотна закашлялася, але Аркашку не было калі паратаваць яе кулаком у плечы; нядотыкам кінуўся быў зноў у тую ж кухню.

Бульбы для пасадкі нарэзалі потым удваіх, кош з вярхом і няцэлы другі. Заюшыліся пры гэтым, выхопліваючы адно аднаму той штыхаваты ножань з рук, каб шпарчэй было: Шпіёнка, асоба спадцішна энергічная, не трапляла вастрыём у мякіш, а Імперыялісту ад спеху дваіліся бульбіны ў вачах. Раны палівалі яны, як здавалася ім, ёдам, але па тым, як цямнела ў мазгах ад болю, здагадаліся, што схапіліся за бутэлечку з сінім каменем, з якім гэта калісьці наварылі сабе спорнага шэрага мыла з падла.

Упершыню Ахап з'явіўся быў на прадмесці, усё роўна што сышоўшы дабрадзеем з нябёсаў  Ніхто і не напытваў, адкуль ён сам будзе, з якое вёскі ці боку  Наездамі бываў па Вялікадні і, затым, у перадлістападаўскі зазімак. Казалі. жыве ў пакінутых лесунамі хутарах, разгадаваў табун дзікіх коней  Нехта ведаў лепш  не коней, а авечак, трымаючы іх у драцяной загарадзі з электрычным пастухом  Даходны гешэфт, аднак, браўся ў яго не з аўчынак ды мяса  Да таго статка падпаўзалі, дарагія цяперашнім часам, ваўкі з Крынскай пушчы  якіх забіваў на подступах электраток з трактарнага акумулятара. Нюхлівыя ваўчыгі кранալі мокраю пысаю бясколерны провад з вольтамі ў высокай траве і каналі ад электралізу крыві, нават не завыўшы, толькі вышчарыўшыся і з закочанымі пад лабаціну вачыскамі. Аднойчы выпрасцілася за ноч адразу двух, хоць, наогул, калі каторы ляснуў у канвульсіях, рэшта драпала назад  Даволі нечакана Ахапу яны звяліся; недзе ў дрымучых Перасцёсах павыла трохі выжыўшая ваўчыца ды, відаць, збегла некуды, можа і ў Белавежу, пашукаць ган'ё

Ахап замаркоціўся. З аднымі авечкамі яму не ўдаваўся рахунак. Трэба да іх гаспадыню, каб стрыгла воўну  Старому кавалеру мець бабу ў хаце – як ні думай – гэта благі інтарэс, выдаткі

**юначыя эратычныя прыгоды да заблытанай праблематыкі рэвалюцыйных ці нерэвалюцыйных метамарфозаў ягонай "малой радзімы", наменклатурных кар'ер, змагання за нацыянальную ідэнтычнасць, супраць выкаранення і духовай пусткі); узнікае спакуса трактаваць кнігу як выніковы твор гэтага аўтара, але адначасна адчуваецца пэўны супраціў – бо, мабыць, зарана, ужо не паўдарозе, але, тым не менш, яшчэ далёка да яе канца – і таму ў гэтым можна ўбачыць прымерванне да выніковага твора, глыбокае, паглядна напісанае, багатае, але ў якім няма адмаўлення таго, што пасля яго не ўзнікне нешта яшчэ глыбейшае, багацейшае, што і яго выкарыстае, як яно выкарыстоўвала столькі ранейшых запісаў (якія адначасна былі скончанымі, замкнёнымі, самадастатковымі тэкстамі).**

**"Dolina pełna losu" была напісана, як я мяркую, па-польску, бо я не бачыў адзнакаў таго, што яна была перакладзена, а ў ёй ёсць такія шакуючыя рашэнні, як дыялогі, дзе адзін удзельнік (вясковы разумнік і "прагматык") гаворыць па-беларуску, а другі (інструктар партыі, камандзір акоўскага партызанскага атрада) па-польску. Гэткі захад абгрунтаваны і прадстаўленай сітуацыяй, і стварэннем гумарыстычнага эфекту, які распружвае яе. Але хіба "малой радзімай" пісьменніка не ёсць зямля, дзе гэткі дыялог, не заўсёды смешны, адбываецца непазбежна? Ажыццяўляе яго Сакрат Яновіч сам з сабой – на абедзвюх мовах.**

**Віктар ВАРАШЫЛЬСКІ**

***З польскай мовы пераклаў Валерка БУЛГАКАЎ.***

за выдаткамі і сварлівы кантроль за глупствамі. Збыў узяў чараду падбеластоцкаму шанцоўніку і прывёў з торгу ў Саколцы каняку

У руінных пустэчах пачуваўся Ахап, бы асаднік які на абрабаваных саветамі нямецкіх землях, што ў пасляваенне адышлі пад Польшчу. Знаходзіў усялякае, патрэбнае яму, ламарэндзе, склаў зграбны возок, выштукаваў барану, нафтаю ачысціў з іржаўя цалюткі жалезны плуг, што гібеў у дзірване на чыімсьці загуменні (гледзячы здалёку, меў выгляд рыхтык кінутага адступаючай салдатнёю станковага кулямёта) Пашэнціла і з лейцамі, на якіх даўнавата хтосьці павесіўся на бэльцы ў стадоле; у астаронку валяліся парасцяганыя звяр'ём чалавечыя косці, шматкі фуфайкі, тырчэлі беленню з гумовых ботаў галёнкі, зеўраў чэрап у завязанай пад пашчэнкі шапцы-вушанцы (надумаў шалёны бяду ў завейную адзіноту?) У нябрыдкай хаце пад гаем, у якую Ахап залез цераз выламанае кімсьці акно, чарнацелі чатыры тэлевізары на падлозе· варушылася ў іх плойма мышэй, што ўпадабалі гнездавацца паміж лямпамі апаратуры. З аблезлае халадзільні гультаявата выкручвалася змяя.

Ахап прадчуў кан'юнктуру сабе. Зрабіў стаўку на каменданта пастарунка і на войта. Тыя без пярэпалаху сеялі наркатычны мак, таксама каноплі, і пашырылі ладныя загоны ходкіх трускалак, а яны любяць частую змену глебы і глыбокае ворыва (даглядалі плантацыі дробныя бандыткі з мясцовай галоты, абы ціха адпушчаныя ад пратакольнай адказнасці). Ахап, закрасаваўшыся з канём і плугам у начальніцкіх платах, спакойна не напрошваўся кліентам; самі прыходзілі да яго, падпільноўваючы здаля. Грошай ад нікога не прымаў, тлумачачы тое здуманымі на гэты конт нейкімі святымі запаветамі, што запэўніла яму навалу заказаў. Ці ў спёку, а ці ў холад, насіў, аднак жа, на сабе непамерны плашч, транту ў латах, але з прасторнымі кішэнямі, які скідаў у работу і чапляў абавязкова поблізу сяней у мяшчанскіх дамах Скончыўшы араць агарод і выслухаўшы падзяку ад панаватага гаспадара, асцярожна апранаў той лахман, заўсёды адчуваючы прыемны і лёгкі цяжар паўлітроўкі ў ім, далікатна засунутай яму папярэдне. Не любіў рабіць удовам: клалі кавалец сала, ну, дадаючы вянок купленае каўбасы.

***

..Ахапа вось чакалі і не прычакалі. Ён, магчыма, запіўся насмерць за доўгую зіму Хацелі шукаць яго, але не шукалі, не вельмі ведаючы, дзе, у якім падлессі зарастаючай маладнякамі гміны, асталяваўся ў рэшце рэшт Шкадавалі гэтага чалавека, тужліва выглядваючы, ці часам не валачэцца з бразгатам шырокаю, асфальтаванаю вуліцаю да камендантавай мураванкі або секс-шопы зяця войта. А калі ўжо нельга было адкладваць майскае сеянне, запаўцелі клясці Ахапа і набываць рыдлёўкі.

Паводле Любкі-Шпіёнкі, Ахап увайну быў дзесьці нямецкім солтысам.. Імперыяліставіч выказаў дапушчэнне, што яго знікненне трэба лучыць з пераходам на амерыканскую службу, бо ў перадвялікдзень чуў ён апоўначы, як гудзеў над лясамі самалёт .

Прапаў Ахап, усё роўна што ніколі і не было яго.

# КАНЕЦ ЗГАРАННЯ

**Мне цьмяна прыгадваецца адзін травеньскі надвячорак 1989 г., шурпаты асфальт дарогі з Гайнаўкі на Нараўку, а потым сухі заедлівы пыл. Мы з Сакратам Яновічам і Віктарам Стахвюком (тадышнім сакратаром Беларускага грамадска-культурнага таварыства (БГКТ)) ды Аляксандрам Баршчэўскім (старшынёй БГКТ) едзем на казённай машыне ў Беласток. З нейкага выбарчага спаткання: Беларускі выбарчы камітэт прадстаўляў сваіх кандыдатаў у польскі парламент – Сакрата Яновіча ў Сенат і Яўгена Міранoвіча ў Сейм на першых пасля вайны часткова дэмакратычных выбарах у Польшчы. Неверагодная часіна, *annus mirabilis*: праз некалькі месяцаў Польшча запачаткуе нестрыманы развал камуністычнай сістэмы ў Цэнтральнай і Усходняй Еўропе. Сакрат запомніўся мне ў той надвячорак у вельмі добрым гуморы. У нейкі момант, адказваючы на якуюсьці маю заўвагу, ён кідае баявіты лозунг: "Адступаць няма куды – за намі Беларусь!" А ехалі мы якраз пясчанай дарогай у родныя Аляксандру Баршчэўскаму Бандары (ён, як БГКТоўскі старшыня, гадоў 10 ездзіў у бацькоўскі дом задарма – БГКТ вяртала яму грошы за цягнікі са сталічнай Варшавы, а таксама нярэдка пасылала**





# РУСКІ БАЗАР

Хоць і грэх гэта, але хочацца пазайздросціць Госпаду Богу нашаму, які ціхамірна адпачываў быў у сёмы дзень пасля стварэння Ім свету Добрая ў Яго, спакойная і прадуманая, без неспадзевак арганізацыя працы. Зусім не тое, што ў мяне. Накупіў я на сваю галаву хатняе тэхнікі, каб лягчэй мецца ў штодзённы побыт Не лічыўся, булава, з новай мудрасцю, што машынерыя ў руках варвара – горш гранаты!

А ўсяму вінаваты, папраўдзе, той дзікарускі базар, што рассеўся бабамі ў мястэчку Каб не ён, жылося б, хай сабе надалей прымітыўна, аднак як у Бога за пячыма. Да маладаступнасці нам польскіх цэнаў мы прызвычаіліся ў спрадвечнай тут беларускай бяздарнасці і багацеем толькі ў марах Радуемся прытым, што ў параўнанні з расійскім абадранствам, то і без варшаўскага шчасця бяды нямаш.

Беларускія саветкі з-за кардону навалаклі на рынак сюды дарэмшчыны. Няйначай, сам Сатана падкусіў мяне набыць у іх мікрахфалевую духоўку, плацячы ім за яе менш, чымсьці нядаўні мой штраф, што ўляпіў мне паліцыянт за абразу ягонае службовай асобы (я спрабаваў вытлумачыць яму, што ён ёсць дурань ды ганьба Польскай Дзяржавы). Мікрахфалёўніца, быццам з ласкі адпрацаваўшы неяк палову гарантыйнага тэрміну, загарэлася. Спачатку валіў дым ад ейнага трансфарматара, чамусьці рыжы і з попахам гарачых бульбяных пляцкаў Заўважыўшы, што ад яго здыхаюць мухі ў кухні, я прафілактычна ўключаў час-часам гэту маскальскую канструкцыю, пакуль – аднаго разу – не жыхнула з яе полымем.

Вырашыў абмежаваць свае амбіцыі да куплі электрычнае брытвы (якраз "Бердск" перапрадаваў за сабачы грош сваякаваты мне капрал былое арміі Андэрса, што карпела некалі на італьянскім фронце). Машынка на выгляд выклікала давер, накшталт жуліка з тварыкам анёла. Калі застаўся я з ёю сам-насам перад люстэркам у пакоі, тая механічная зараза кусанула мяне за верхнюю губу, зрэзаўшы пры гэтым бародаўку (хто ведае, ці не ракатворную?). І буяла, усё роўна што самалёт у вайну, што бамбіў маянткоўвыя хлявы, у якія пахаваліся былі нямецкія ўкраінцы, захапацеўшы тутэйшыя курвы... Колькі яе потым не мазаў я аліваю, ні трохі не папраўлялася. Урэшце ўзяла і захліснулася. Аддаў неўдалоту ў цацкі дзецям, а яны, засранцы, напалохалі бліскучкаю цётку Мальвіну з Баб'яе Гары, ад якое не мелі мы дагэтуль адбою (памятала яна пра якіясьці процітанкавыя міны, на якіх падарваўся яе нябожчык мужык, што вёз возам сена з Чортавага Балота, калі саветы пагналі немцаў ужо пад Беласток, у сорак чацвёртым)

Падумаў. Бог з жалязякамі – спірту набяруся на тым базары А каб не, збылі мне яго танней самагону Прычакаў нядзелі, каб паспытаць, бо ў будзень усё ж забаяўся: работы шмат Адразу пацямнела ў мазгаўні ад яго; у вачах аж крыху пазней, калі ахапіў мяне прымус бегчы ў прыбіральню, у якой, здавалася, так і памру, загаліўшыся. Кідала ў дзіўны холад. Шчасліва здагадаўся піць кіслае малако.

Не адзін я аказаўся дурнем. У Баб'яй Гары ўсё вяселле гэтак выкаціла. Казалі маладуха

**машыну з шафёрам у Бандары, гэтым разам пашанцавала пад'ехаць і Яновічу). Мы ехалі тым лапікам вядомай нам беластоцкай Беларусі, якая мелася "стаяць за намі", свежаспечанымі беларускімі палітыкамі. Напаўструхлелыя і апусцелыя вёсачкі, зап'янелыя старыя кавалеры і старажытныя бабулькі, якіх разы два-тры ў год наведваюць гарадскія дзеці з унучанятамі... Вось такі электарат, які пра нас не чуў і чуць не хацеў. Гэта, аднак, было ў той момант малаістотнае: беларусы першы раз у камуністычнай Польшчы выступілі як самастойная палітычная сіла і загаварылі сваім голасам ("Беларусы! Пра свае справы будзем гаварыць самі!" – сцвярджаў наш плакатны выбарчы лозунг). Беларуская мова выйшла з фальклорна-этнаграфічнага і літаратурнага запаведніка ды загучала на палітычных мітынгах. І ўспрымалася як быццам нармальна, а дзе-нідзе нават з энтузіязмам. Эпахальны крок, што ні сказаць...**

**Год 1989, а таксама два наступныя, бачацца мне як вяршынныя ў кар'еры Сакрата Яновіча, беларускага пісьменніка ў Польшчы. Парадаксальна, у той перыяд Сакрат-пісьменнік значна саступіў Сакрату – грамадскаму і палітычнаму актывісту. Але ў беларускай культурнай прасторы – у сілу гістарычнага наканавання – *нацыянальны пісьменнік* заўсёды быў амаль тоесны панятку *нацыянальны настаўнік*, а таму й парадокс тут толькі вонкавы. Сакрат стаў такім палітычным настаўнікам маладому беларускаму пакаленню, якое нацыянальна саспела ў 80-я гады вакол беларускай студэнцкай**

першаю брыкнула ўверх нагамі, растапырыўшыся на падлозе.. Гэта паратавала маладога, які не паспеў па-хамуцку наліць сабе горла. Іншых пакалечыла лакомлівасць на глыбокую чарку Дзякаваць Богу, пайшоў на той свет адзін усяго сват Праўда, старшага дружбанта выпісалі са шпіталя вар'ятам. І чыюсьці дзеўку, якая цяпер рагоча без дай прычыны, голаю сядае пакатацца на ровары. Найбольшае дзіва, што постбальшавіцкі спекулянт, раскватараваўшыся ў іх, запісаўся потым жыць з бяздзетнай удавою свата і, прыдбаўшы на гэтай падставе польскія паперы, драпануў у Нямеччыну

Пакуль тая камедыя здарылася, я не падараваў нагодзе старгаваць запалак з горада Чудава, фабрыкі "Пралетарскае полымя" Зрабіў запас. Як ні шморгаў пасля іхнымі галоўкамі, агнём не займаліся, акрамя некаторых. З якіх, акурат добрая, зламалася і адляцела ў кут са смеццем ды старымі газетамі. Скончылася тым, чым павінна было: хату не спаліў, выратаваў, але мышэй ляснула!

Кінуў хадзіць на базар

Грошай як бы пабольшала ад гэтага часу, хаця я імі ніколі не раскідаўся Цяпер жа яксьці сонна на душы Няўжо адкрыў я гэта прыгажосць катастрофы і, разам з тым, сэнс самое Расіі?

# НЕЎДАЛОТА

Артуру ўсё не шанцавала. Можна сказаць. ад дзяцінства. Нават ад маленства. Бацькі, занятыя здабычаю, нанялі тады танную, прыдуркаватую, няньку яму Хадзіла з Артурыкам у возіку ў недалёкі парк, дзе ўпадабаў яе такі самы, як яна, кавалер Абое дадумаліся спойваць малога малаком з салодкім вермутам, ад чаго ён непрабудна спаў Праз некаторы час Артурчык зрабіўся ненармальна вісклівым. Маці з бацькам, абхадзіўшы з ім лекараў, урэшце даведаліся, што немаўля іх ужо алкаголік.

Клянучы амурную дэбілку, узялі прывезлі з вёскі на яе месца матчыну старую. Бабуся, удзічэлая ў вымерлай ваколіцы, несціхана плакала ад упаткаўшага яе гарадскога раю перад смерцю. Лечаны Артурык лямантаваў разам з ёю; нельга было пусціць на шпацыр, на людскія вочы. З раніцы, калі і суседзі выходзілі на работу, у кватэрах навокал заставаліся адны сабакі Яны браліся выць ад бабціных задаволеных прычытаў (пры гладкім зяцю дома, аднак, асцерагалася сярмяжная цешча даваць волю голасу сваёй душы) Унучак стамляўся ад гэткіх выбухаў шчасця ў няшчасці і неспакойна засынаў, смагліва аблізваючы язычком патрэсканыя губкі.

Лекаванне давала вынікі Тым часам бяда перакінулася на недаўмекаватых суседзяў· не маглі зразумець, чаму худзеюць ім дагледжаныя сабачкі. Заказаны ветэрынар нічога не дашукаўся ў таемна патрывожаных брахуноў У правінцыяльнай газеце з'явіўся затым артыкул пра невядомую хваробу ў хатніх жывёлаў Публікацыя выклікала сенсацыю. Стварыла канавалу канцэпцыйную падставу адчыніць дактарат у слыннага прафесара. Не выйшла, аднак: бабка, аб чым ён не ведаў, ад'еўшыся ды адагрэўшыся ў пакаёвай цеплыні, блаславёна аціхла.



Дактарант ні трохі не раскусіў, чаму цюцькам вярнуўся апетыт, хвасты зноў падняліся ім абаранкаю, мордачкі павесялелі.

Само дзяцінства Артура праходзіла, таксама, не менш злавесна. Да ўсяго кепскага даводзілі сябры. Аднойчы прынёс з крамы шапаткі пачак макаронаў маме, у якія нехта з іх засадзіў быў аглушаную мыш Зверанё, акрыяўшы ў лакомлівай яму пастцы, колькі ночаў спажывала спадцішка далікатэс. Гэта выклікала ўражанне, што за ўваходнымі дзвярыма тоіцца начны злодзей з дрэнна падробленымі ключамі . Бацька, успомніўшы сваю вайсковую службу ў паветрана-дэсантнай брыгадзе, ці раз скрадваўся басанож у перадпакой, але на той момант усталёўвалася чуйная ціш.

Пакуль не здарылася тое, што павінна было, хоць неабавязкова ў святую нядзельку, ды за абедам у кухні. мышка, узвычаеная дабрабытам, як і сямейным вэрхалам, выглянула была з распорыны ў кардонцы; аслепленая сонечным днём, вытрашчылася на ўтрупянелую мамцю! Тата паказаў сябе героем – шкодніцу даканаў эмалевым апалонікам, набіўшы пры гэтым пасуды (саксонскую вазу насілі склейваць да музейнага спецыяліста)

Пара, у якую выпусціліся ў Артурыка пухкія валосікі пад носам і выганяўся ён у кавалеры, пакінула ў ягонай псіхіцы незагойны шок, не набраўся рашучасці жаніцца. На заручынах у асабняку Юліты падалі яму ўрачыста раскаркаваць трохлітровую бутлягу французскага шампанскага маркі "Курваз'е" Стрэл з дымком і роспырскам накшталт наванітнага атрымаўся ніштаваты. Але зваліліся ад таго на прычоску Юліткі цяжорная талерка з крыштальнай жырандолі. Дзяўчына ўмлела, закаціўшы бельмы. Нядошлая цешча рынулася на паратунак дачцэ, напароўшыся грудзьмі на шпіль адмысловага графіна з марожаным джынам. Бацьку Артура цюкнула здагадка вярнуць прытомнасць будучай нявесты тапельніцкім метадам вусны-вусны, за што ляскатліва аплявушыў яго пачынаючы сват. На знявагу мужа зрэагавала падобным чынам фасоністая ў той вечар маці. Брат Юліты, ужо аптыміст пасля разводу і чэмпіён чагосьці ў спорце, вышпурнуў за парог перш Артурыка. Было гэтаму асілку крыху валтузні са старым, якому ўспомніліся спосабы барацьбы каратэ часоў дэсантнай школенасці (адзін і другі нацярпеліся было ў далікатных месцах цела)

Наеўшыся сораму, Артур тры дні не прыходзіў дамоў, засеўшы ў яшчэ нежанатага сябра.

Цяпер жа ён дырэктар гандлёвага павільёна "Нью-Йорк", што ў завулку Сарака Мучанікаў (пры камуністах – Чырвоная Дарога). Дубасіць замужнюю неўпапад прадаўшчыцу, якой, як і яму, не ўдалося жыццё.

# ШАНЦ ДАЧКІ ПОЎХА

Саветы атакавалі ад рэчкі Свіслач. Немцы адступалі ў Лапіцкія горы, паставіўшы гарматы за мястэчкам, на Навічанскім выгане. Паліцаі навыганялі з хатаў жанок і мужчын капаць процітанкавыя равы паабапал гарадзенскай шашы, паміж Грабшавым млынішчам і мокрымі

**арганізацыі і з велізарным зарадам ідэалізму пайшло "рабіць беларускую палітыку" ў пачатку 90-х. Давер быў выказаны Сакрату як беларускаму пісьменніку і як грамадзяніну, які не паддаўся татальнаму палітычнаму канфармізму папярэдняй эпохі і застаўся інтэлектуальна незалежным беларусам, нягледзячы на публічны астракізм як дзяржаўных, так і сваіх будаўнікоў светлага ўчора. (*Nota bene*, С. Яновіч і гісторык Ю. Туронак былі адзінымі беларускімі інтэлектуаламі старэйшага пакалення, якім давярала БАСаўская моладзь (БАС – Беларускае аб'яднанне студэнтаў, некамуністычная беларуская арганізацыя ў Польшчы, узнікла ў 1981). У гэтым сэнсе, згаданы перыяд стаўся Сакрату маральнай кампенсацыяй папярэдняга "выгнання" з беларускага публічнага жыцця (якое доўжылася бадай ці не дзве дэкады), а таксама апраўданнем ягонага падпольніцтва, калі ён у 80-я саматужна і сакрэтна публікаваў розныя беларускія брашуры на палітычна-грамадскія тэмы. Здавалася, усе гэтыя беларускія сны (пра аўтаномію, школу, царкву, *etc.*) вось-вось споўняцца. Вынік Сакрата Яновіча ў выбарах 1989 – звыш 22 тысяч галасоў – не даваў яму сенатарскага мандата, але пакідаў вялікую надзею на перспектывы беларускага палітычнага руху на Беласточчыне. Трэба было яшчэ двух гадоў самаахвярных намаганняў і горкіх расчараванняў, каб зразумець, што наша ўява пра беларушчыну на Беласточчыне не зусім адпавядала сапраўднасці, а жыццёва-палітычны досвед Сакрата быў скіраваны хутчэй за ўсё ў мінулую эпоху, альбо ў тую, якая на нашых вачах якраз прамінала і заканчвалася.**

**Але ў пачатку 90-х нам хацелася шмат зрабіць, і то адразу, з бальшавіцкім нахрапам. Робіцца і смешна, і страшна, калі прыгадаць сабе ўсе тыя ініцыятывы, якія малады беларускі рух выпусціў з гарачай галавы ў агаломшаны посткамуністычнымі палітычна-эканамічнымі трансфармацыямі беларускі электарат. Пасля пераломных выбараў 4 чэрвеня 1989 узнік Беларускі грамадскі камітэт "Грамада" як пераходнае звяно да ўтварэння беларускай партыі, у лютым 1990 узнікла сама партыя, Беларускае дэмакратычнае аб'яднанне (БДА), узначаленая С. Яновічам; потым узніклі тэрытарыяльныя структуры БДА ў Гарадку, Гайнаўцы і Бельску; БДА пачала выдаваць свой бюлетэнь, "Беларускія навіны"; БДА заснавала дзесятак мясцовых беларускіх выбарчых камітэтаў на самаўрадавых выбарах 1990; БДА распрацавала канцэпцыю Цэнтру беларускай культуры ў Беластоку; летам 1990 актывісты БДА ўзяліся арганізоўваць пабыўку чарнобыльскіх дзяцей на Беласточчыне; увосень 1990 БДА паспрабавала заснаваць Злучнасць гмінаў Усходняй Беласточчыны, тэрытарыяльную эканамічную структуру з беларускай культурнай дамінантай; пад канец 1990 з маладабеларускага руху зышла ініцыятыва ўтварыць**

лугамі ў Разбойніку Камандаваў буславаты нямчур, сівы ўжо і ў шапцы кшталтам сядла ды з кабураю на жываце. Ён смешна гаварыў па-руску "Давайт, бабі, давайт!.."

Смаліла сонца. Ад палеткаў несла хлебнымі пахамі пераспелых жытоў. Людзі абліваліся потам; у зарэччы пукалі з вінтовак, а ў хмызах стукацеў кулямёт У баку да Вялікай Бераставіцы грымотна біла артылерыя і кружыліся там у небе самалёты, адлятаючы ў дымна-белыя аблокі. Гарэлі хутары.

Антолін Болесь дастаў ад паліцая ў морду, калі закрычаў чагосьці і махануў рыдлёўкаю над галавою. Гэты дзівак і высалапень не мог жыць, не ўпароўшы якое дурноты. І, каб не свой нямецкі халуй, за нішто загавеў бы душою. Дапыталіся былі мужчыны потым. Болесь укапаўся ў чмялінае гняздо.

– Шпіёнішэ?! – гергетаў успуджаны тады Болесем немец. Паліцай замахаў рукамі. – Найн, біст ідыёт!

Але Той, путаючыся афіцэркамі ў пальнах, ішоў да ўтрупянелага Антолінкавага. Нечакана ласкава паляпаў яго па плячы, зазірнуў яму ў вытрашчаныя па-заячаму вачыскі, на брыняючую між імі ружовістую апухліну на пераноссі, і вырагатаўся. "Гут, аборыген! Глюбоко копат траншэй, совэтскі танк надо капут!. " – адышоўшыся на ўзгорачак, ён заўглядаўся некуды ў бінокль.

Кабеты скрыгатліва пакопвалі ўпоперак травяністага схілу, а мацавіцейшыя мужчынскі паглыблялі за імі ў рост чалавека, робячы тое з вышкаленасцю пабыўшых на вайне палякаў з Гітлерам. Не людская бяда, ці паспеюць, бо работы не на адзін дзень. Раптам засвісталі нізка кулі і ўсе без аглядкі пападалі, дзе хто стаяў (жартавалі пасля, у прыход саветаў, што Болесь не так вельмі недарэкі, калі дапоўз да бабаў).

Нямчур з нашым лайдаком кудысьці змыліся. Людкове сыпанулі межамі прэч, сукочучы нагамі ад жудаслівага енкату "ўррр-аа!!", штораз налятаючага з ветрыкам ад Свіслачы, і выбухаў, быццам якісьці шалёны малаціў цэпам па голым таку Але ніхто не кінуў сваю рыдлёўку. Яшчэ таму, можа, што баяліся бандытаватых украінцаў, гвалтуючых харашунь.

На рынку, пад учарнелым сцяноўем гандлёвых радоў, – спаленых, калі ўцякалі ў сорак першым тыя першыя саветы, – запыніўся вайсковы грузавік, з кузава якога два фасоністыя немчыкі раздавалі местачкоўцам цукар. Спехма адважвалі па кілаграму, за дапамогу арміі. Спрытнейшы прыгаворваў: "Іван цвай раз достаць нах дупа!" – і міргаў маладзіцам.

Неўзабаўку пад'ехаў да іх адзін на сакочучым матацыкле, нешта загадаў і пыльнуў гасцінцам у зноў жа Лапіцкія горы. Ваякі заляснулі борт, лапатліва апусцілі брызент пасядалі ў шафёрку і, запусціўшы матор, пагазавалі за вестуном.

Саветы прыйшлі назаўтра ў світанак. А пакуль было да гэтага, цэлую ноч ламарэндзілі немцы з тэхнікай, ад грукату якое абсыпаўся кіт на шыбах, закладала ў вушах Спачатку з'явілася ад агародаў порсткая разведніца з рэвальверам напагатове і з трыма ўпэцканымі салдацікамі. "Германцев нету?" – знянацку падступілася да таго ж Болеся, які, як гэта дурань, высунуўся якраз на падворышча. Замест сказаць ёй дарэчы, узяўся ён азірацца, бы злодзей у шкодзе. Шчасце, што выбегла са склепа за ім сама Антолька ды загаласіла. "Няма, таварышка, каб іх халера выкаціла! Каб Сталінко на рогі падняў! " – "Хватит, бабушка!" – пагрозліва ацішыла яе.

---

**Раду беларускіх арганізацый, каардынацыйны цэнтр усяго беларускага руху ў новай, плюралістычнай сітуацыі. Да ўсяго да гэтага даходзіла безліч спатканняў і кантактаў афіцыйнага, паўафіцыйнага і прыватнага ўзроўню, шматлікія інтэрв'ю і заявы, выезды ў Беларусь, сімпозіумы, фестывалі, паніхіды, праграмы на радыё і тэлебачанні ды іншыя тралі-валі. Амаль ва ўсіх гэтых падзеях Сакрат прымаў удзел як галоўны актор, дарадчык, "член прэзідыума" альбо закулісны махінатар. Чалавеку, які быў у палове дарогі да шасцідзесяткі, гэта было не ў змогу проста фізічна. Але Сакрат самаахвярна выконваў ролю лідэра, спадзеючыся, відаць, што недалёкая будучыня прынясе яму пажаданую замену і ганаровае ветэранства. Аднак недалёкая будучыня прынесла адно прымітыўныя нападкі таварышаў па зброі з "камсамольскага юнацтва" (якія знайшліся за бортам грамадска-палітычных працэсаў у нашым запаведніку пасля развалу камуністычнай сістэмы) і непрыхаваны супраціў царкоўных колаў, палітычных апанентаў беларускага руху, якія пусцілі ў народ чутку, нібыта Яновіч з маладымі беларусамі імкнецца рэанімаваць уніяцтва на Беласточчыне. Атмасфера стварылася настолькі непрыхільная, што ў парламенцкіх выбарах 1991 БДА не рызыкнула паставіць Сакрата сваім кандыдатам на Беласточчыне. Вынік Беларускага выбарчага камітэта ў кастрычніку 1991 – няпоўныя 5 тысяч галасоў – паказаў наяўна, на якую грамадскую**





Загінуўшых звозілі мужыкі вазамі ў пусты канец праваслаўных могілак. Шукалі і забітых немцаў ды не знаходзілі. Нехта бачыў, што наклала галавою ўсяго двух, і свае забралі іх з сабою. Тым часам стала вядома: адбываецца бітва за Беласток. Прывозілі адтуль параненых Яны казалі, таксама, што ў Расеі больш не будзе калхозаў. Гаспадыні давалі ім есці, гаспадары ўчастоўвалі чаркаю. У мястэчку ўчыніўся настрой, як увосень на Багача. граді гармоні, моладзь навучылася "Кацюшу" і "Цёмную ноч", аднавіліся – прызабытыя ў акупацыю – мардабоі за дзяўчат на танцах У каго гаспадарка – вастрылі сярпы, вязалі на прыгуменях перавяслы, валакліся ў поле.

Скончылася свята, калі камендант горада – паголены і з роўна зашпіленымі гузікамі на шынялі капітан Саша – аб'явіў мабілізацыю хлопцаў на Варшаву і Берлін. Мацяркам выпырснулі слёзы. Той-сёй бацька разумеў, што плачам тут нічога не даб'ешся, трэба спосабу Выйсце само паказалася – франтаваты масквіч Саша заходзіў да дачкі бясхлебнага Поўха на Шведскіх Акопах. Яна не мела адвагі – або і не хацела? – хавацца ад яго. Ёй, панадпай смяшлівіцы, і ўтлумачылі ўсім кагалам за каторымсьці разам, што няблага збагацее, надумаўшы менавіта фанабэрыі, абяцанкі-цацанкі таму Сашку

– Не будзь дурнюшкаю, прасі, хай ён табе наносіць саладосцяў, гэты прышываны кавалер, – падказвалі. – У каго мяшок цукру цяперашнім часам, у таго, слухай, усе людзі кліентамі. Паняй табе быць! А хлопцаў аднаго-другога выратуеш, дарункамі цябе яны абсыплюць у тваё вяселле.

Казалі дзеля ўедлівай у галышкі ахвоты:

– Калі ўжо аддамо яму патроху цукар, што ў фронт прызарабілі, цягні муркі-жмуркі з ім далей, каб жывата ён табе не прыстроіў Гні на шляхцянку, русакі балванеюць перад такімі. дамагайся вось ад яго модаў, трантаў усякіх зграбных, што салдатня лупіць з нямкіняў у Прусіі. Пакуль у яго тое наладзіцца, то і палякі сюды вернуцца, і турнуць Сашку ў ягоную Маскву Забачыш, не пашкадуеш!

Местачкоўцы, ведаючы жыццё, няшмат памыліліся, апланаваўшы грэшны спас сынам: не ўсіх пабралі. Камендант пабыў, праўда, задоўга, але стары ўдавец Поўх не жаліўся: дачку, няшкодна прыкалечаную абортам, узяў па вайне сапраўды шляхтаваты надлесны з Пачапка. На шлюб ехала Поўшанка белакрылым анёлам, у дыванiстай брычцы запрэжанай тройкаю буланых коней Някідка на выгляд аблезлы ў свае гады малады меў твар, як падалося Болесю, шкодніка ў малінах ..

# КОЛІНА ЧАРКА

Добры хлопец Коля хліснуў гарэлкі, калі, набыўшыся ў Амерыцы, прыпёрся назад. От, са страху бадай, чым ад радасці. Вельмі магчыма, зрэшты, што ад усяго пакрысе... Бо жонка жонкаю, але трэба ж было яму аднавіць штат у фірме. Кампанійцы, ушчаперыўшыся за

---

**падтрымку можа разлічваць беларуская нацыянальная ідэя на Беласточчыне "ў чыстым выглядзе" (без "праваслаўнай" альбо "камуністычнай" дамешкі). Здаецца, ад гэтых выбараў Сакрат як бы пачаў страчваць тую ўнутраную цягу, што сілкавала ягоны трохгадовы бесперапынны ўздым. У вайсковай аэрамеханіцы ёсць такі тэхнічны тэрмін –** *Brennschluss (канец згарання)* **– які абазначае канчатковы выхад паліва з рэактыўнага апарата ці снарада: пасля гэтага аб'ект ляціць далей, але свабоды манеўру ўжо не мае, ён прымушаны рэалізаваць сваё асноўнае наканаванне – спуск і прызямленне. Нешта такое прыйшло і на Сакрата. У дадатак, у 1991 у яго аб'явілася вострая цукровая хвароба, і ён "сеў на інсулінавую іголку".**

**Пройгрыш у выбарах 1991 асабліва не засмуціў маладога пакалення беларускіх дзеячаў, абсалютная бальшыня з якіх была не палітыкамі, а гісторыкамі, журналістамі, настаўнікамі, юрыстамі і пад. Для іх, па сутнасці, жыццё толькі што пачыналася – яны былі маладыя і без цяжкасці адаптаваліся да новай рэчаіснасці. Гэтая рэчаіснасць спакваля выяўляла сваю кардынальную адрознасць ад папярэдняй таксама і ў дачыненнях з нашай нацыянальнай меншасцю. Яна паставіла пад пытальнікам сэнс (і магчымасць) захавання нацменшаснага гета ў форме нейкай культурна-асветнай аўтаноміі ці проста тэрыторыі, якая ў выбарах будзе галасаваць "на сваіх". Беларускасць была "выпіхнутая" ходам падзей з**

посткамуністычны капіталізм, схаладнелі тым часам, бы нейкія еўнухі. Коля зразумеў, што гэта такое чаўпецца: вітальныя абдымкі цяпер нічога не значаць, не больш за фальклор на сцэне. Сялянскі ў ім інстынкт самазахавання ды практыка багатыраватых бацькоў падказвалі. трэба тут самагонкі! Дастаў бы яе ў лесуноў або ў падбеластоцкіх дэгенератаў, не зважаючы нават на рызыку сесці ў турму. На шчасце, ажно гэткая адчайнасць аказалася лішняй.

Коля пасучыў быў кароткімі нагамі плебея ў прымітыўны гандаль-дом з камічнай шыльдаю ДАЛІКАТЭСЫ. Грудзістая прадаўшчыца там, беспамылкова пазнаўшы пана па халявах, наставіла на прылавак перад Колем батарэю снарадападобных бутляў з дэнатурна-сінімі галоўкамі: танна і многа. Адгадала ж яна, каго ён участуе. Фундацыя каньякоў такім – гэта смешнае непаразуменне: шклянкамі павыпіваюць і яшчэ абгавораць, што блашчыцамі смярдзіць.

П'янку інаўгураваў былы Колін бос, кульнуўшы першыя сто грамаў градуснае атруты. Па тым, як вырачыўся ён пасля і спападна гомзаў закусь, Коля ўцяміў, што справы пойдуць на лад. Але гэта чамусьці пугнула дамоў службовых бабаў.. Таксама і слабакоў неўзабаўку Засталася эліта і ён, Коля. Ні спачатку ані потым не даходзіла да ягоных мазгоў сцішная тая драматычнасць узніклай яму сітуацыі аднаго на траіх. Даверліва засеў насупраць здаравезных варацілаў. Бяда, бы павук са столі, павісла над ім.

Не піў мала, каб не абразіць уфундаваных Ратаваць сваё хілае здароўе вырашыў, аднак жа, безнадзейна позна. Самы бязвінны спосаб дзеля гэтага – выйсці ў туалет, што не выклікае падазрэнняў у надуманасці змыцца. Так і ўчыніў Паспеў у апошні момант, пачаліся аслабляльныя адрыжкі. Памятаў яшчэ, што хапіла яму мацаты растапырыцца над умывальнікам.

Закруцілася ўсенька ў галаве каляровай кінастужкай падарожнага фільма пра звяроў Афрыкі. рыкалі львы, трубіў слон, гагаталі гіены, бубнілі тамтамы, нешта свістала і гікам гікала. . У рэшце рэшт угледзеў над сабою таўстазадую негрыцянку ў раскалыханай спадніцы, якая спакваля прыпадобнілася да начное старажоўкі Фені з яе смешна-польскім крыкам "А цо пан запаскудзіўся, бы дзеўка ў першую цёнжу?!"

Гэта страшэнна паўплывала на Коліка! Нагадаўся яму нью-йоркскі Гарлем, адкуль гопаў сярэдзінаю стрыт-асфальту, шчасліва ашаламіўшы пляскатых чарнюхоў расейскімі мацюгамі. Асцерагаўся з гэтым нумарам на задворках польскага Грын-поінта, дзе анёл розуму злітаваўся над Колем, шапнуўшы яму паабяцаць тутэйшым панажоўшчыкам уз'яднаць Беларусь з Польшчай. . Дурні паверылі, і Колька застаўся ў жывых.

Элітная тройца знепакоілася невяртаннем Колічка. Кіруючыся на гармідар у дамскім, чамусьці, туалеце, не памыліліся: убачылі Колю на падлозе, над ім жа сакатлівую бабу і смяшлівую, аднекуль, паненку Сам ён рабіў уражанне ліцэіста-пераростка, якога толькі што экстэрнам школілі на мужчыну. Колька знямогла засынаў, і яму яны ляскалі па шчоках, каб падымаўся, аднак, ды пайшоў сабе ўжо да мамы, да таты Прыгледзеўшыся пацвеpазелымі вачыма да букета ружаў на Колінай кашулі, эліта апазнала накрушняванае ім нястрымна французскае "салятэ", якім частаваліся пад чарку .. Тыя агледзіны не маглі закончыцца іначай, як тым, што геолагі называюць вулканічным эфектам або ажываннем кратэраў.

Усе чацвёра затым апынуліся ў шпіталі, у заразнай палаце. Іх усяляк абследавалі і яшчэ

**нацыянальнага запаведніка ў агульнапольскі палітычна-грамадскі кантэкст. Каб вытрываць і пазбегчы лёсу грамадскага рэлікта, ёй трэба прыняць выклік "спаборніцтва з пальшчызнай" у такіх формах, якія характэрныя еўрапейскім грамадствам канца XX, а не XIX ст. Ідэалогія пад назовам "людзьмі звацца" са сваім наказам "хадзіць у народ і навучаць яго, цёмнага і сляпога" аказалася ў абставінах "адкрытага грамадства" зусім непрыдатнай (не толькі, дарэчы, на Беласточчыне, але і ў нашмат шчыльней "замкнутай" Беларусі). Шанц на выжыванне для беларушчыны застаецца, пavідавочнаму, не ў калектыўнай культывацыі сваіх нацыянальных комплексаў, а ў індывідуальных беларускіх "прарывах" у сферах культуры ці навукі. Прыкметны адкат палітычна-грамадскай беларускай актыўнасці пасля 1992 на Беласточчыне быў выкліканы, на маю думку, якраз гэтым новым асэнсаваннем нацыянальнага становішча беларуса ў посттаталітарнай прасторы. Попыт на "нацыянальных настаўнікаў" значна паменшаў.**

**Найбольш выразнай праявай гэтага новага падыходу да сітуацыі быў канфлікт вакол "Нівы" ў 1992 паміж маладым "БАСаўскім" пакаленнем і старымі "БГКТоўцамі". Маладыя ўзялі кіраванне тыднёвікам у свае рукі, адхіліўшы прэтэнзіі на кіраванне ім не толькі з боку "камунякаў", але і адмовіўшы "антыкамуняцкаму" Сакрату Яновічу ў праве на дараджванне, не кажучы ўжо пра ўганараванне яго**





звазілі верталётам у цэнтр рэдкіх хваробаў, дапусціўшы дыягназ інфекцыі сюды неразгаданае эпідэміі, што ўзялася ад інтымнага кантакту чалавека з асаблівым гатункам афрыканскай малпы ў кангалезскіх джунглях. У гэтым вінаваты быў зноў Колька: ён непатрэбна прамовіўся перад тымі канаваламі, што выязджаў быў з Еўропы ды братаўся, хоць і няўдала, з патомнымі чорнага кантынента. .

Пасля ўсяго гэтага эліта сцяміла, што з Коленькам кашы не наварыш і бяспечней будзе адвязацца ад яго.

# ЦЫВІЛІЗАВАННЕ САКОЛЬСКАЙ

Маё з'яўленне на свет выклікала цывілізацыйны пераварот у нашым канцы Сакольскай вуліцы?

Жылі Яновічы-Антошкі дружынаю ў мінулавечнай хаце з хлявом, ля азярышчанскага выгана з глыбокім ровам ад палёў Спакойна, калі памёр дзярлівы дзядуля Антошка (яго ў карчме прыбілі гарэлчыныя сябры). Брат майго бацькі ўдаўся зусім ціхіняю, і жанілі яго два разы. Другою жонкаю ўперлася яму знароўленая паўінтэлігентка з мужчынскай ухваткаю, што за палякамі засядзелася без занятку з паперамі расейскае сястры міласэрнасці, падзарабляла абортамі Прышываныя мяшчане тут далі бабе празыўку – Вонсы Шляхецкую для смеху з камандзерскае старое дзеўкі з валосікамі пад носам.

Учынілася цесна не толькі таму, што я ўсё хварэў і надакучліва плакаў Пасыпаліся дзеці ў Вонсы. Яна, не будучы зацюканай мужычкаю, падбала пра будучыню ім: потайна апланавала спаліць саламяную калноту Яновічаў Каб пажар выпаў верагодна і выплацілі страхоўку, трымала язык за зубамі і падпільнавала, калі мая маці рашчыніла хлеб пячы. Заранёў павязаўшы сваё дабро ў вузлы.

Каб не суседзі, нашы не зглeдзелі б за работаю, што гараць. Пагодным днём страха ўжо добра палыхала над імі, ажно гудзела! Вонсы тым часам адна з усенькім паспела на аселіцу, выправіўшы свайго чалавека ранкам баразніць бульбу пад Александроўкаю. Першым прыбег на бяду буславаты Манах, але, нешта знюхаўшы, кінуўся назад і неўзаметку дым ахутаў і яго кучу Ад рынку заеліся трубіць ды ламарэндзіць па бруку пажарнікі з помпаю і з бочкаю вады на калёсах, пекна камандваў імі Жоржык-Лялечка ў серабрыстай касцы. Да Манаха дагопаў жыватасты Булава з драбінаю і вядром, што жыў у парабкоўскай развалюсе каля сервітутаў, але яго пугнуў ён, як сабаку! Булава, пакуль здзівіўся, усё зразумеў, сакольшчанскія славіліся кемнасцю і сюды пайшла замуж нават жыдоўка, рабацяшчая Лейзаранка.

Пакруціла ў неба чарнотнаю хмараю, бухнула полымем, затраскацелі кроквы і ў Набіноса,

**пасадай галоўнага рэдактара...**

**Здаецца, недзе пад канец 1993 Сакрат пакінуў Беласток і з'ехаў у родныя Крынкі. Знік Сакрат-палітык, застаўся Сакрат-пісьменнік...**

**З пісьменніцкай кар'ерай Сакрату пашанцавала якраз найбольш за іншых беластоцкіх літаратараў. А нельга не заўважыць у падсумаванне гэтай "сацыялагічнай" рэфлексіі, што і тут застаецца нейкі асадак горычы ад "непаўнаты выяўлення". Сакрат ведамы як пісьменнік на Беласточчыне перш за ўсё дзякуючы палякам і польскай мове, у якой ён напісаў шмат публіцыстыкі і на якую пераклалі амаль усё ягонае беларускае. На доўгія гады разгорнутага савецкага маразму афіцыйны Мінск паставіў запруду творам Сакрата ў Беларусі, гэтым самым пазбаўляючы беларускага пісьменніка самага істотнага – кантакту з беларускім чытачом. Цяпер можна толькі гадаць, колькі значыла б у агульным вобразе беларускай літаратуры такая Сакратава рэч як "Сцяна", калі б яна выйшла ў Мінску тады, калі была напісана, гэта значыць, у канцы 70-х. Альбо ягоныя мініяцюры з сакавітай мовай, калі б яны публікаваліся там, пачынаючы з 60-х... Я ўпэўнены, што Сакрат усё-ткі знойдзе дарогу да беларускага чытача, хоць у цяперашнім "інфармацыйным шуме" гэты кантакт не будзе такі інтэнсіўны, як ён гэтага заслугоўвае.**

**Ян МАКСІМЮК**

і ў Карабельніка. Трапятаўся ад нерашучасці акулярысты Рухаймозг Булава над сваімі галавешкамі здумаў крычаць нямым голасам, у якім і сам Госпад не дачуўся б фальшу; жонка з іконаю перад сабою бегала вакол агню. Жоржык-Лялечка запыніў сваю каманду ды разявіўся. Умомант абступіла яго местачковая галота, што назбягалася адусюль, і нагадвала гэта крыху евангельскіх рымлянаў, упалоханых нападам варвараў на правінцыйны urbi са жменькай легіянераў.

Паліцыянты прыпазніліся. Адышоўшыся да кузні Мондрай Гловы, яны па-генеральску вытрэшчваліся ў біноклі Ад вірлівае гарачыні ўзняўся вецер, зашугалі вогненныя жмуты. Начаўплі гевалту крамнікі, гаманлівым кагалам абселі свае ханайкі, ратуючы ад запалу Пажар не дакаціўся да Палесцінскай, пайшоў на спад.

Страхоўку давалі ў магістраце як каму· Яновічам цалкам, нам і Вонсы Настала пара будавацца. У падлеснай Грыбоўшчыне прарок Гальяш распродваў свой горад Вершалін Разагнаўшы шпаркім ядлаўцовым дубцом апосталаў, святы збываў завідлівыя хаты з шырознымі вокнамі, з падлогаю і пад чарапіцаю. Сакольцы абдурвалі яго з польскімі грашыма, на якіх не знаўся. Днямі і начамі перавозілі абозам перасыпаныя сцены, бэлькі. Кафлёвыя печкі. Трохі баючыся, каб ён часам не раздумаў Шанц удаўся найперш Манаху, які ўмеў загаворваць зубы Святым Пісаннем.

Вонсы панатурылася ўставіць у сябе венецыянскія вокнішчы, рыхтык царскія, бы ў яе кнізе з малюнкамі князёў і княгінянак. Можа быць, так і зацясалі б, калі б майстры не скурылі тыя паперкі Здарылася з імі яшчэ непрыемнасць. мандакавалі, каб не ставіць асобна хлявы, бо ў маразы цяплей начуецца з авечкамі, суха і мякка. Затое абсмяялі яны Булаву, які натапырыўся наваліць гліны на ўкладзеную яму падлогу (хацеў мець падаўнейшаму) Сакольшчанскіх багатыроў закасаваў цяпер, аднак, Карабельнік, заказаўшы ўмясціць на гарышчы пакойчык з ваконцам. Летам жыцьму ў ім, тлумачыў Карабельніку, як Карабельніку, не верылі і пляткавалі, што будзе мэнчыць там удовы, здаля ад вачэй хваравекае старое.

Падняў лямант недапечаны Франак-Анёл. Шалёнаму заманулася справядлівасці Гальяшу і кляў ашуканцаў Абзвягаў Манаха, напляваў на бараду Булаве, парнуў кійком у пуп Набіносу, а Карабельніку намазаў глеем на дзвярах чорта з рагамі і голую Еву Яновічаў ён не чапіў, нашых і Вонсы Шанцоўнікі – урэшце – падкупілі лахмана залатоўкамі на імшу, і той даў ім слова замаліць перад Богам іх лайдацтвы.

Слаўна ўбудаваліся! Мой дзядзька ставіў фасонны плот, але яго Вонсы крывілася на штыхеты з вярхамі кшталтам бубны (не пераносіла карцёжнікаў) Настойвала на форме сэрцайка. Перарабляць аздобіны не хацелася яму, за што дастаў ад яе абрэзам па гарбе. Ён пасыкнуўся быў аддаць ёй аполкам, аднак жа паказала яна сябе школенай у паядынку Раскірачыўшыся, бы крыжак пад Грунвальдам, выбівала з дзядзькавых рук усё, чым замахваўся. Ляскатлівая бравура не цягнулася доўга і, безабароннаму ўжо, уляпіла па шчацэ смачную аплявуху, усё роўна што нейкую прэмію. Маўклівы і задыханы заенчыў ён, што няхай той бык здохне, якога пабарола карова, і сапраўды прапаў у нямецкую неўзабаве вайну

Балячкаю на азадку кожнаму муляла праблема нужнікаў. Бурмістр прымушаў збіваць з дошак тыя шпакоўні, лупіў штрафамі. Людзей брала злосць або рогат. Да тых, хто паслухаўся яго і змайстраваў гэту непатрэбшчыну, паўнаджваліся свінні, што пагражала ганебным калецтвам (асабліва мужчынам)

Заставалася тое, чаго не надта прагна ўяўлялі сабе на Сакольскай: мыцца па-пански. І хоць маянтковыя курвы займальна распавядалі на гэты конт, ды, усё ж, чым дакладней, тым менш было ў тубыльцаў ахвоты слухаць таго. Адзін Карабельнік захапіўся быў Ванну ён, праўда, бачыў у бурмістра, але больш яна яму спадабалася як вадапойны жолаб каню і для быдла; сам не палез бы ў яе, быццам той угрэты кныр у лужу Рухаймозг падказаў яму пачапіць на жэрдку поўнае вядро і – шнурком нахіляючы сабе яго над галавою – паласкацца ў жніўную спёку Простая інжынерыя чыпела, пакуль не грымнула звысоку па чэрапе... Пра іншых гігіеністаў не чувалася.

Не адно ў натруджанасці жылі На Багача абавязкова пылілі на прыбыганні музыкі. Рэзаў на гармоні валачашчы Мазоль, у бубен грукацеў ягоны байстручок. А калі пры немцах народ распіўся самагонкаю, сенсацыйна буянілі на Валосію, ад якое пачынаўся вялікі пост Мазалю было тады жніво: у каго зарабіў, у каго прыкраў, і такое бяды. Хадзіў ён з тым хлопчыкам трохі як калядоўшчыкі, яго пасцельныя анекдоты прыдавалі сексу манатоннай алкагольнасці, і ўдзячныя за гэта гаспадыні не шкадавалі яму эратычна закругленых кілбас ці па-ратайску важкага акрайца сала.

Малалеткі не былі такімі еўнухаватымі, як цяперашнія. Гэта нічога, што не разумеў я клятых назваў геніталіяў, але нарачоную сабе назначыў. І як заўсёды ў сваю яшчэ няхуткую маладосць, бяздумна. Нашмат старэйшую і недаступна дзікую – аказалася пасля – згвалтаваную артылерыстамі-мазурамі, што акапаліся былі за будынкамі і падбівалі савецкія танкі ў жытах, якія ў тадышняе адступленне праставалі на Гродна

Але занадта далёка я ўжо забег дапераду

# ЗМАГАННЕ З ПОЎХАМ

Поўх пачаў рыць на Яна Паміж прышчэпнымі малінамі варшаўскімі і французскімі ружамі, паскуднік. Я не шкадаваў бы яму пажыць у маім садзе, калі б не крушняваў у ім вульгарныя купы зямлі, паласаваў ангельскую траўку выпуклымі норамі, у якія пагразала італьянская касілка.

Разлічваючы на інстынкт страху ў валакітнага звярка, я злосна таптаўся па тым месцы гаматнымі беларускімі боцікамі, адганяючы яго ў блізкі агарод Зоські Бабы-з-Яйцамі. І нават скакаў; заўважыў тое нейкі местачковы высалапень – распавёўшы людзям, што я прышалеў (гультаі падгледжвалі мяне за платамі Каўказскага завулка)

У энцыклапедыі прыроды дачытаўся: поўх жырує ў раніцу і ўвечары. Давай тады

# СТРАЧАНАЯ АРКАДЫЯ

**“Малая проза” Сакрата Яновіча (пра яго аповесці – асобная размова) злучае ў сабе неспалучальнае: яна і традыцыйная, і наватарская, архаічная і суперсучасная, правінцыйна-рэгіянальная і касмапалітычная, побытава-апісальная і метафарычная, рэалістычна-псіхалагічная і міфалагічна-філасофская. Паводле часу ўзнікнення, а гэта 60-я гады, яна з’яўляецца своеасаблівым мясцовым, беластоцкім адпаведнікам міні-прозы, што з лёгкай рукі Янкі Брыля ўзнікла якраз тады ў метраполіі. Паводле іншых, менш фармальных і больш сутнасных характарыстык, “малая проза” С. Яновіча лёгка асацыіруецца з прозай “фальклорнага”, “нашаніўскага” перыяду, дзе панаваў этнаграфічны погляд на жыццё-быццё малавядомых навакольнаму свету жыхароў палескіх багнаў і белавежскіх пушчаў. У той жа час у гэтай прозе ёсць выразныя прыкметы постмадэрнісцкай свядомасці, “новай прозы”, якая, хутчэй за ўсё, завалодае прасторай XXI стагоддзя.**

**Ва ўмовах адарванасці ад мацерыка беларускага маўлення многае з таго, што не выклікае нават думкі ў пісьменніка з беларускім грамадзянствам, у жыхара Падляшша выклікае спецыфічныя адносіны. У выхадца з моцна спаланізаваных мясцін, дзе “беларускае слова туляецца жабраком”, гутарковая, народная мова абуджае асаблівую экспрэсію, і ён прыкметна педаліруе сваё захапленне тым, якія магчымасці адкрывае перад ім беларуская прасодыя. Вось пачатак абразка “Настуся-пані”: “Настуся Карабельнікаў выходзіла замуж, калі добра настала Польшч. Шаснастоўкаю выперла яе мачыха. Каб сваім дзецям хлеба болей мець. Пасватаўся да Настусі ўдавец, які пахаваў чатыры жонкі. Пра пасаг ён і не гаварыў: набраўся”. Несумненная тут пераклічка з брылёўскай інтанацыяй: “У багатага дзядзькі Жука, без пары нарадзіўшы малое, памерла нявестка Марыля. Звялі маладзіцу са свету сямейнікі. Свёкар быў звер і скупеча, “зямля ненаежная”. А сынок яшчэ горшы...” Той жа, “пад народ”, лад мыслення, тая ж інверсія, калі мастацкае апавяданне амаль што не спяваецца, тыя ж рэзкія, без агаворак і прабачэнняў, характарыстыкі і ацэнкі. Адно што Брыль з гэтага пачынаў, і калі – яшчэ ў 30-я гады, каб пазней ніколі больш не выкарыстоўваць гэту змястоўную, але не зусім брылёўскую, інтанацыю, больш гнуткую і вытанчаную, паэтычную і гуманную. У С. Яновіча гэта інтанацыя пераважае амаль ва ўсіх яго абразках. Можа, таму што малы фармат твора вымагае лапідарнасці.**

**А што да грубаватасці мыслення, праставатасці лексікі, знарочыстай прыземленасці і часта вульгарнасці выразаў, то гэта хутчэй за ўсё**

падпільноўваць яго з рыдлёўкаю напагатове. Але баязлівец таіўся, бы вуж, здалёку ўчуваючы скрадлівыя крокі Каторагасьці адвячорку – маю варту зразумела па-свойму Зоська, рассеўшыся тым часам у прыбіральні, што ледзь чыпела ў слівах у заплоцці (апошні твор яе недарэкаватага нябожчыка мужа) Туды яна цяпер наведвалася ўсё подбегам, чамусьці задраўшы спадніцу; з усходам сонца і ў захад, а такое рэгулярнасці не было ў яе раней. І вось разрагаталася ў той гародняй архітэктуры з учарнелых аполаў, непрыстойна соладка і дзіўна страшна...

Я змяніў тактыку змагання з поўхам. Настругаў ветрачкоў, уведаўшы ад кагосьці, што шкоднік баіцца вібрацыі. Не маючы практыкі ў тым, бы хлапчаня ў майстраванне сабе самалёцікаў, пакалечыў пальцы. Заюшаны, паджгаў у аптэку за бінтамі і ёдам; у мястэчку адразу паверылі, што дабіраўся я да куслівае Бабы-з-Яйцамі. No comment! – успеніўся я невядома чаму на мове імперыялістаў Маё абурэнне надта спадабалася мужыцкім апалячэнцам: Nie kontent – пракаментавалі і зноў загаварылі між сабою на ганебна роднай.

Ветрачкі не памаглі. рыў, як рыў! У тэлевізарскай перадачы для агароднікаў сказалі аднойчы пра жахі поўха ад укопаных у грунт пустых бутэлек без коркаў посвісты ветрыку ў іх шыйках даводзяць паўсляпога рыйніка да панікі! Я, не будучы п'яніцаю, тайна падаўся прыцемкам у пошукі тае пасуды па сметніках за гасподаю, знаходзячы ўсё замежнага вырабу бутлягі, бо гэткіх не прымалі на замен ад сінямордых кліентаў У сонечны полудзень усенька тое чужаземнае хараство непатрэбна праменілася ды блісцацела на травяністай гладзі, што выклікала пярэпалах у маёй бойкай суседкі, і яна прывяла паліцыянта. Сяржант пахадзіў між шклянымі вярхамі, усё роўна што па мінным полі; пакасіўся і на ветрачкі, абгледзеў рыдлёўку, памацаўшы трэснуты чаранок, пасля чаго запытаў у мяне, ці ведаю, што поўх знаходзіцца пад аховаю закона аб рэдкіх гатунках фауны. Я, вядома, ахнуў ад здзіўлення! Адначасна і ўпалохаўся не ў жарт, каб не налез ён пад паветкаю на банку з карбідам ды каністру з бензінам, надоечы прыдбаныя мною ў зладзеяватых механікаў Яны хваліліся вынікамі барацьбы ў сябе з поўхам. Гарантавалі – Як засунеш, пане, тое ў тую дзіру ды высокаактаванай жаўтухою зальеш яе, а потым запалку туды кінеш, дык ракетаю жыгане адтуль, ах паночку, і поўха аж на нябесны месяц шпурне лычом навыварат, га-га-га! Або скрозь зямлю-планету прасадзіць яго, проста ў Амерыку пекнай Клінтанісе пад фартушок, гэ-гэ-гэ!

Згадка таго боўта пра янкі навеяла мне думку пакарыстацца папулярным у заморскіх дэмакратаў пакараннем смерцю на электрычным крэсле. Мой поўх усё ж не павінен пакутна канаць у полымі, не пры сярэдневяковай інквізіцыі жывем жа. запушчу яму ў падзямелле фазу ў дзвесце дваццаць вольтаў, і ціха-ша! Аддаўшы затым мільён на даўжэрны кабель, правёў я на поўхава згіненне моц туды ад разеткі ў летняй кухні, для бяспечнасці закінуўшы провады на нізкарослае галіноўе фруктовых дрэў Гэта зацікавіла малпаватых разяваў і, на маю бяду, Зоську Бабу-з-Яйцамі Пакуль што і да чаго, аднак, поўніўся я радасцю тэхнічнага рацыяналізатара, калі прыемна чуць-чуваў раптоўны віск у вечарэючым агародзе або ў святлеючы дзень, як толькі націскаў уключальнік ля дзвярэй з ганка на падворышча

**свядомая ўстаноўка аўтара. “Прыродны чалавек”, які жыве простымі клопатамі, элементарнымі патрэбамі цела і ў меншай ступені душы, не звык траціць лішне час на ўсякія сантыменты. Назіраючы за жыццём жывёльнага свету і неадушаўлёнай прыроды, ён усё ўспрымае такім, якое яно ёсць на самай справе, і праводзіць аналогіі паміж нараджэннем, існаваннем і смерцю чалавека і жывёлы, чалавека і дрэва. У гэтым кругавароце прыроды ўсё займае сваё належнае месца, нішто не знікае, дзейнічае закон захавання рэчываў. Тое, што адбываецца са знаёмымі людзьмі, а часта гэта і вельмі блізкія асобы, увогуле не выбіваецца з рэчышча звычайнага, зразумелага. А таму чалавек “народнай большасці” спакойна фіксуе падзеі: Настуся выйшла замуж; замуж яе выперла мачыха; пасватаўся да дзяўчыны ўдавец, які пахаваў чатыры жонкі; пасаг ён не патрабаваў, бо ўжо нахапаўся... Цывілізаваны свет вярнуўся да такога светаўспрымання, але ў гэтым вінаватае не яго набліжэнне да натуральнай прыроды, а перанасычанасць інфармацыяй, калі смерць дзесяткаў, соцень, тысяч, а то і мільёнаў людзей – усяго толькі статыстыка, якая ніяк не ўплывае на настрой, на штодзённы лад жыцця. Адарваўшыся ад газеты ці тэлеэкрана, наш сучаснік спакойна ідзе вячэраць, займаецца каханнем, спіць і бачыць ружовыя сны. Гэта – паніжэнне ўспрымальнасці, агрубленне нораваў – мусіць жа, кепска, вымушае да**





Пускануўшы тых вольтаў з амперамі, выбягаў з батарэйкаю ў руцэ пабачыць, ці ўжо вылез поўх у канвульсіях імгненнай агоніі. Але, замест таго, далятаў да маіх вушэй імклівы трэскат штыхетаў ды – быццам чортавы – тупат у нябачнай цемры Пра гэты загадкавы вэрхал дадумаўся я назаўтра: у малінніку калыхалася чыясьці зашмальцаваная шапка

А Зоську лёс спакусіў напрыканцы тыдня. Модзячыся суботнім прысвяткам (а я якраз падключыў быў “устройства”), надумала разрумяненая ўдовіца занадзіць мяне да сябе, прыкінуўшыся сімпатычна заінтрыгаванай тымі канструкцыямі ў ружова-малінавым закуцці драцянымі спіралямі, шпянямі тырчма, таемнымі электродамі. Не паспеў заенчыць на яе, каб не ішла, як тут жа брыкнула яна, бы ў валянтове закаціўшы вочы пад лоб! Мігам адключыўшы апаратуру – з дранцвеючым пачуццём некалі адкінутай ад сябе нямецкай гранаты, – я падхапіў бабу ў гінекалагічнай позе ды прыпёрся з ёю ў спальню: адратаваў, лыжачкай поячы салёнай для электралітычнай нейтралізацыі вадою.

Пайшла гуляць плётка, што зрабіў ёй аборт

Поўх перабраўся пад яблыню-манастырку і ўзяўся рыць яшчэ больш заўзята Уз'еўся на тыя бутэлькі, перакідаючы адну за адною, і цяжорную з-пад рускага шампанскага.

Камбінуючы, што мне з ім далей чыніць, запыніўся я, урэшце, на тым банальным факце, што маю дачыненне з мясаедным стварэннем Даўно трэба было так падумаць, а не слухаць інтэлігентных выдумак! Нарыхтаваў атруты, нарэзаўшы – кшталтам чарвякоў – сырога мясіска, якое вымачыў у зверабойным растворы на пацукоў Заклаў у норы Поўх, пэўна, насмакаваўся б майго браканьерскага частунку, калі б не выпіхваў ён зямлю са смакоццем наверх Знюхалі прэпарат валачашчыя каты і неўзабаве выкацiла іх да астатняе нагі Адбегшыся, здыхалі ў задворках вуліцы, стаючыся безабароннай спажываю ўдзічэлым сабакам Цюцькам не паздаровілася такая кашэчына, хоць выжылі, валяючыся і выючы, бы дварнякі па нябожчыку ў гаспадарцы

Гмінны ветэрынар прывёз эпідэміялагічную камісію. У таварыстве каменданта паліцыі хадзілі акулярнікі з двара ў двор, шукаючы прычыну заразы Справа аказалася няпростай дзеля выяўлення, бо сканаўшых кісаў паелі псы, якія пасля разбегліся здаравець у завыганскіх гушчавінах

Нарабіўся і я сам, стрымгалоў дэмантуючы немалую за гэты час сістэму зніштажэння поўха – бутэлькі пабіў і закапаў, ветрачкі паліў у печцы цэнтральнага ацяплення, электратэхніку шпурнуў у апухі на гарышчы Утрамбаваў нарыны Засталося дагадзіць гаварлівай Бабе-з-Яйцамі, каб не ляпнула чаго камісантам Як апараны паспеў наведацца да яе з малдаўскім каньяком за пазухай, з шакаладкамі, прымусіўшы сябе ўсміхацца здагадлівым дурнем.

Усё адбылося ў тэмпе і наўдзіў гладка. Можна сказаць. так добра, што аж нядобра!

– Рые? – запытала Зоська гарачымі губамі, мы абое ўжо былі пасля трэцяй чаркі

– Ага, – выдыхнуў я, вызваляючыся з яе ўчэпістых абдымкаў.

– Гэта на наша шчасце, – сказала з далёкім намёкам.

– Няхай рые, хай яго халера возьме! – пракляў я злыдня і абсунуўся ў сон

**невысокай самаацэнкі, але гэтак ёсць усё на самай справе і з гэтым трэба, хочаш ці не хочаш, мірыцца.**

**Многія абразкі, замалёўкі, партрэты, дыялогі і маналогі, зафіксаваныя С. Яновічам на паперы, сведчаць, што ў цывілізаваным свеце сапраўды нешта пахіснулася, каштоўнасці – маральныя, эстэтычныя, быційныя – абрынуліся ў пыл і што постмадэрнісцкая свядомасць не выдумка філосафаў і літаратараў, якім увесь час падавай штосьці новае, няхай сабе і не вельмі чалавечае. “Занадта чалавечае” (паводле вызначэння Ф. Ніцшэ) таксама ні да чога добрага не прывяло, а раўнавагу дабра і зла захаваць у хаатычным свеце вельмі складана, немагчыма адрозніць праўду і хлусню, злачынства і прыстойнасць, высакародства і подласць. Рэлятывізм запанаваў у нашым жыцці, а сур'ёзныя адносіны да фундаментальных каштоўнасцяў можна адшукаць хіба толькі ў класікаў ды іх слабасільных эпігонаў.**

**Часам здаецца, што і С. Яновіча цікавіць найперш у навакольным свеце антыкварыят, людскі паноптыкум: многія яго героі самохаць просяцца ў дурдом, а іх учынкі апісваюцца хіба толькі ў аддзеле крымінальнай хронікі. Прычым аўтар выступае ў ролі непрадузятага назіральніка, судовага хранікёра, псіхіятра і фізіёлага, не грэбуючы і прафесіяй паталагаанатама, які спакойна фіксуе ўсе фізіялагічныя адпраўленні персанажаў і без асаблівай гідлівасці капошыцца ў адкідах. У гэтых адносінах**

# НАЕЗД НА ХАМУТОЎ

Святы Франак, што баяўся дзяўчат і ўсё пекненька казаў "дзянкуе" і "дзянкуе", чамусьці дастаў па зубах ад высранскіх кавалераў на музыках у лесуноў, у нашым Жыдоўскім завулку закіпела. Падшпаркі слепацелі на напухлую, бы сліва, губу Святога. Ён мацюгаўся, але, згледзеўшы спеючых дзяўчынак у плойме смургеляў, хаваўся ў хату.

Заходзілі да Святога Франка сябры, і стала вядома, што хамутам дастанецца за яго. У слёсара Роварчыка тым часам даводзілі яны да ладу свае матацыклы. Валтузіліся з вайсковым маторам, што са зручнаю лодкаю кулямётніку  Моцнае ламарэндзе гэтае магло перці на сабе трох хлапчугоў з камянямі за пазухаю. Нехта з іх прывалок заезджанага савецкага "Іжа" з прычэпкаю пад брызентам, так што тэхнікі не бракавала.

Камандзерыў Чорны Грышка з Броварнай. Ваўчыца, смольнай пароды яго сястра, нарыхтавала бойкіх яблыкаў, нашпігаваных якойсьці ўедлівай поскуддзю. А кожны сам сабе прыдбаў шворань, абгорнуты дзеля няпознатку газетаю.

Засталося чакаць танцаў на Спаса ў тым Казловым Лузе.

Як толькі надышло тое свята, Чорны закамандаваў збірацца ўсім пад вечар за спаленай у вайну гарбарняй Сруля. У гэтым – някідкім у вочы – месцы каторы раз прымеркавалі, што і як будзе, затым пагазавалі да казлоўцаў. Кіраваліся не на голую шашу; няспешна пэрхалі ўтравелымі дарожкамі ў палях, раз'ядпаўшыся адны ад адных, усё роўна што чужыя (канцэнтрацыя напрыканцы)

Чорны Грышка, набыўшыся польскім капралам, ведаў тактыку ды спосабы. Узяў з сабою Святога Франка, каб апазнаваў мардабойнікаў.

Уязджаць завідна ў Казлоў Луг не планавалася. Заляглі ў зарасніках, на канцавым загуменні. Музыкі пачаліся былі – чулася – але слаба бубнілі, начэкваючы кавалеркі, якая яшчэ сцябала па хатах сівуху (паненкі канчалі модзіцца). У падворышчах людзі віскліва кармілі свіней, бабы курэй клікалі. Ад лесу пастух гнаў кароў з пашы, што здаля магло падацца пяхотнаю ротаю з вазамі рыштунку ды правіянту

Узышоў месяц і кусалі камары, калі Чорны Грышка махнуў у траву недакурак, гучна сказаўшы:

– Цяпер, хлопцы!

З трэскатам павыводзілі з гушчавіны маторы і з рыкам ірванулі туды, да пагулянскай ламатні з п'янымі спевамі. Гамавалі каля парога святліцы так, што мала не пападалі, а густы пыл наляцеў за імі, укрыўшы ўсю гэту каманду  Чорны Грышка саскочыў з вуркочучай машыны першым і нема заенчыў на парозе:

– Ręce do góry! – і пагрозліва размахнуўся над галавою доўгім шворнем, з якога адпадала паперына, нагадваючы белы штандар капітуляцыі.

Вашаі зарагаталі, убачыўшы местачковых шванцаў  Калі, аднак, поруч з Чорным з'явіўся Святы, нехта пагасіў ліхтар пад столлю і зрабілася ціха, бы ў прыход начной навальніцы.

– Ręce do gory, сказаў вам! – паўтарыў без сэнсу ў цемнаце Чорны Грышка, дапусціўшы тым самым памылку небандыта.

Аднекуль адказаў яму сіплы голас выпівайлы і курца.

– Пацалуй у сраку!

Узняўся вэрхал, і Чорны аддаў загад сябрам:

– Яблыкі! – і зашпурлялі яны імі неўпапад  Ад гэтага тхнула адтуль нейкім аптэчным смуродам і зараз першабытнымі крыкамі дзяўчат. – Назад! – была наступная каманда, і сябры гурнулі да абачліва непагашаных матацыклаў  Святы Франак спатыкнуўся, але Чорны Грышка падхапіў яго за каўнер, ніхто не застаўся пад мужыцкімі ботамі.

Дагналі і перагналі наезнікаў казлоўскія сабакі  Падралі нагавіцы Святому, які сядзеў ззаду за Чорным; уцякалі яны апошнімі, па-камандзерску прапусціўшы сяброў дапераду  Франак страшэнна перапужаўся і ад таго схапіў ушчаперанае яму за нагу малое сабарно за карак ды падняў над зямлёю – адурэлы такім лётам дварняк завыў дзіка, і ад гэтага цэлае ган'ё некуды прапала.

Ды адна бяда не бывае. У святло пражэктара пярэдняга матацыкла ўбег малады, то і дурны, заяц, як аказалася пасля  Чорны Грышка ледзьве запыніўся перад карамболем. Святы Франак, які верыў у злыя духі, не адразу сцяміў, што не вогненныя гэта чэрці блiскацяць перад ім ды бахаюць жалеззем, скачучы ценямі ўсё нібы з нябёсаў ды ўніз на дарогу рагатымі ілбамі  .

Тым часам Бог адняў розум якраз казлоўцам і яны выбеглі за вёску, каб паквапіцца нагодаю накаплешыць удосталь. Гопалі, бы збунтаваныя ў паншчыну халопы, паддаючы жару самі сабе ебукамі (на шчасце не дадумаліся ўзяць вілы ды сякеры)  Чорны Грышка – а ў такі пограз ён сухі, аж іскры з яго сыплюцца – гукнуў, як пых полымя:

– Гасіць фанары! Маўчаць!!

У невідушчую цемнач балаган пагоні аціх і можна было ўявіць сабе, як тыя пасталі ў купе, чуйна ўслухаўшыся. Сябры гэтак жа не варушыліся, ад стрымнага страху разумеючы, што вось у дажджавое хмар'е ратунак, бо паніка закончылася б капліцаю ім. Абедзве зграі цішыліся з паўгадзіны, хоць недысцыплінаваныя мужыкі выяўлялі час-часом сваю прысутнасць баязлівай лаянкай: "Ану, шванцы абструганыя!"

Чорны загадна шаптаў:

– Хлопцы, ні з месца! Хамуты ўсраліся!!

І сапраўды, тыя неўзабаве загарлапанілі, як і павінны забабонныя варвары, упалоханыя чарамі свету  Іх гамана аддалялася. Сябры асцярожна, без дзвэнгання, пападымалі ўсяляк паваленыя маторы і, не маючы пэўнасці ў іх непапсаванасці, павялі ў руках  Дзіўнае гэта было вяртанне, доўгае і ўтомнае. Рыхтык зладзеі, што набраліся здабычы ў падлесных засценках багатых хутарцаў..

Местачковая галота заядла ганарылася сябрамі з Жыдоўскага завулка, у паслейшых аповядах якіх пра тое здарэнне нават гранаты рваліся ды біла артылерыя, пакінутая адступаючымі немцамі каля – узарванага партызанамі – мастка на Балатнянцы.

---

**проза С. Яновіча – такая ж "новая", як і проза, скажам, В. Шаламава, С. Даўлатава, Г. Мілера, Ю. Аляшкоўскага, В. Сарокіна і інш. Адсутнасць у ёй "памяці культуры" не нейкі кур'ёз, а свядомая аўтарская ўстаноўка. Аўтар з сарказмам назірае за "пошукамі ісціны", на яго твары блукае сарданічная ўсмешка "высакалобага інтэлектуала", які сам усё выдатна ведае, ведае і тое, што "нішто не новае пад поўняю". Ён свядома пазбягае ў сваіх творах "высокіх слоў", бо востра адчувае іх ненатуральнасць у сучасных умовах, калі адбываецца духоўная дэградацыя чалавека і нацыі.**

**Хто герой яновічаўскай прозы? Няўдачнік, маргінал, дзівак, блазан, бунтар. Ён "выломліваецца" з навакольнага асяроддзя, дзе пануюць і задаюць тон "нармальныя людзі", якія кіруюцца так званым здаровым сэнсам. Але атрымліваецца так, што менавіта гэтыя персанажы з іх абмежаваным кругаглядам успрымаюцца як творцы абсурду, сам жа герой, якога спачатку ўспрымаюць як монстра, з'яўляецца адзіным, хто спрабуе аднавіць нармальныя прапорцыі ў "ненармальным" свеце. Ягоная "няправільнасць" якраз і ёсць прыкмета яго сапраўднасці.**

**Вось пачатак міні-апавядання "Як я стаў беларусам": "Усяму пачаткам было тое, што ў Беластоку рушыліся "Ніву" выдаваць". Чаму менавіта гэта падзея стала "пачаткам" трагіфарсавай калізіі? Ды таму што менавіта з беларускасцю ў наш час адбываюцца дзіўныя метамарфозы, абсалютна недасяжныя розуму заходняга інтэлігента! Далей сапраўды ўсё ад пачатку да канца здаецца парадаксальным, пастаўленым з ног на галаву, вывернутым на левы бок. Малады чытач "Нівы", пачынаючы селькор, апублікаваў у рубрыцы "Здарэнні" паведамленне пра "згвалтаванне Бубнішынай Манькі ў ягадах" і яе "непажаданую цяжарнасць". У вясковай грамады, звыклай давяраць друкаванаму слову, узнікла версія, што гвалтаўніком быў менавіта аўтар злашчаснай нататкі: інакш адкуль ён пра ўсё ведае! Апавяданне завяршаецца тым, што герой, свядомы беларус, змушаны ўзяць у жонкі пацярпелую, каб пазбегнуць суда і ганьбы. "Адумаўшыся, прыкінуў быў сам сабе: няважна, чые бычкі, абы цяляткі мае, а Манька, якніяк, працавітая і не модніца, і не будзе лішняй, вось яшчэ пара рук на маёй гаспадарцы, таксама і Бубніха спраўная ды і ў пасаг апіша мне сёе-тое..." Вынікі ж гэтай дзіўнай гісторыі зусім нечаканыя, і гэта таксама характэрна нашай нацыянальнай сітуацыі, калі народ не мае Радзімы ні ў сябе дома, ні, тым больш, у чужой дзяржаве: "Маня, слухайце вы, прыхілілася чытаць "Ніву"! У Кашэчай Лапцы празвалі яе Беларусіхаю, а блізнятаў – "Ніўняткі".**

**Ад манструозных персанажаў С. Яновіча з іх негуманоіднай прыродай цяжка чакаць нейкіх прарываў у сапраўднае быццё, на іншыя "паверхі" чалавечай свядомасці: добра, калі яны справяцца з уласнымі гаспадарча-сямейнымі клопатамі! У сацыялістычнай грамадзе, дзе**

# МОЙ МАЛЫ ГЕНЕЗІС

У дваццатым стагоддзі аднойчы жыць давялося. У самых пачатках славянскага ўсходу, у Крынках У азіяцкія аднак тут зімы, хоць лета час-часом залятае сюды ад Элады Мікраполісны гімназіён у нас тады – памятаецца – размяшчаўся ў драўляным асабняку колішняга медыка іудзейскага (забілі яго былі рыжыя германе). У юнецтва маё ўрокі ў ім давалі варвары, падвучаныя з мясцовых багатыроў Яны, праўда, чулі нават пра Сакрата ды ягонага вучня Платона, але ўсё ж шчыра не спадзяваліся, што як хрысціяне пакланяюцца жыду Ісусу ..

У той – пасля вялікае вайны акурат – росквіт прымітыўнае цывілізацыі ў тутэйшым старонні надарылася нямалая ўдача халопам і плебеям. Ім, зрэшты, заўсёды даволі шчасця з хлеба, віна, пропаведзі; у такім клімаце яшчэ і з жытла. Горадзен іх – Беласток, у нечым кшталтам Афінаў з графаманскім падабенствам Акропалю, у выглядзе чырвонасцяжнае будыніны на валасную меру Прышываныя дочкі бульбаносыя Карынфа аблюбавалі венерную Кракаўскую вуліцу (па-кашэчаму ўтульную).

Жывецца, вось, бы запацеламу Сізіфу пад гарою.

Вельмі практычна прытым не бярэм у галаву выпадковасць свайго ў кожнага з'яўлення на свет І таго, таксама, што нараджаемся, каб памерці. Намагаемся затое на сэнс уласнага існавання – хто паўжыцця на куплю аўтамашыны аддае, іншы на бабы растрачваецца; бывае, на гарэлку ўсянютка прасадзіць або ў саладосць скандалаў кінецца, камусьці горб вырасце ад службы вернае .. Тлумачыцца тое і тое, і дзесятае, папулярным махлярствам, дбайнасцю менавіта пра ясную долю дзецям родным. А яны ж, наследкі тыя, толькі ў плямёнаў першабытных паўтараюць бацькаў лёс, аб чым ужо ведалі ў белакаменную старажытнасць.

Можна сказаць. і славяне прыдумалі душу... Няпраўда, аднак жа, што і пекла з раем. Няма пэўнасці, дарэчы, ці гэта вынаходніцтва якраз эмацыянальных элінаў у супражжы з рацыянальнымі рымлянамі Разам з тым досыць камічна гаварыць пра бяссмерце выпадковага. Нашто чалавеку вечнасць? Каб швэндацца неўміручым турыстам пасля зямное натруджанасці?

Бунтарны Ізраіль, пляжаны кесарамі, паспеў ашчаслівіць нас Богам Адзіным. Сын Яго – будзе дзве тысячы гадоў ад банальнага ў тую пару распяцця – надарэмна вучыць дурняў розуму, варагоў прыяцельства, багатых спагаднасці Але, прынамсі, Богаайца баімся па паганскай традыцыі, замест хрысціянскае любові ўсімі ўсіх Таму перспектыва раю звузілася ва утопію, а вароты ў пекла нядбайна расчыненыя.

З дзіцячай упартасцю вяртаецца пытанне: а нашто ўсё гэта? Жыццё на зямлі дзеля неба? Зямное ў імя незямнога? Такіх сумненняў не наглядаецца ў галодных і халодных. У гэтым, відаць, і адказ. Адназначны, бы арганізм. І кпіна лірыкі смерці, усё роўна што папрок паэтам ды фанатыкам.

Аднаму Богу вядомая сутнасць свету, з чым я гатоў пагадзіцца. Бо ставіць пад пытанне Сусвет гэтак жа бяссэнсава, як і свае нарадзіны.

**пануе калектывісцкая філасофія, цяжка ўявіць жанчыну, няўзброеную рыдлёўкай ці ломікам, а мужчыну без вульгарнай лаянкі. А ў былой Польшчы адбываліся працэсы, аналагічныя савецкім, і з людзьмі адбывалася тое ж самае: распад асобы, умацаванне "саўковасці", жлобства, бясполасці і інш.**

**Пераход у іншыя сэнсавыя глыбіні ў творчасці С. Яновіча адбываўся ў яго эпічных творах, аповесцях "Самасей" і "Сцяна", а таксама ў яго вострай і палымянай публіцыстыцы. Вось адзін з паказальных пасажаў лірычнага героя, блізкага па свайму розуманастрою да самога аўтара: "У бацькоўскім старонні дагніваюць пакінутыя вёскі... Куды прападае людская праца? Палі зарастаюць хмызам, украпівелыя сядзібы нагадваюць з сябе колішнія могілкі з руінаю капліцы, а ўнукам нашым манерным і не ў здогад нават тое, што ёсць жа ў іх дзяды ды прадзеды... Народ мой хворы бяспамяццю таксама..." Як бачым, малюнак нагадвае апакаліпсічныя вобразы ўсеагульнай пусткі і гуляй-поля з Кнігі Ісайі. У сутыкненні гэтых двух светаў – хаосу і гармоніі – і прыадкрываецца нешта сапраўднае, сутнаснае ў чалавечай прыродзе, у грамадскіх узаемаадносінах, тая страчаная казачная краіна Аркадыя, пра якую адно толькі і вядома, што яна знаходзілася на паўвостраве Пелапанес.**

**Міхась ТЫЧЫНА**





# СПРОБА ДЭФІНІЦЫІ БЕЛАРУСА

Прыглядаючыся, што адбываецца ў беларускім жыцці, насоўваецца толькі адно на думку· робім усё магчымае і, нават, немагчымае, каб прапасці як нацыя! Мову сваю мы ўжо, практычна, пахавалі, калі ўзважыць яе бесперспектыўе ў неабавязковым навучанні. Тыя ж дзеці, што цяпер тлумна гавораць па-польску ў нас – і па-руску там – на ўроках беларускага прадмета, праз дзесяць – дваццаць гадоў будуць дарослымі і наплодзяць сваіх дзяцей, у якіх і след у духоўную спадчыну ім не застанецца ад беларушчыны. Эх, прыемна ўспомніць гады зеніту ў нашых БГКТ і "Нівы" тадышнія партыйцы ў гэтых установах рэгулярна і з агнём у вачах давалі адпор *беларускім нацыяналістам!* А ўцалелых тых нацыяналістаў даканалі потым *праўдзівыя палякі.* A szczególnie prawosławni Polacy

Шматгадовая, а фактычна адвечная, барацьба з *беларускім нацыяналізмам* закончылася вось тым, што сёння даводзіцца пераможцам над ім адратоўваць апошніх яго адэптаў і недабойкаў. Не столькі дзеля літасці або захавання ў прыродзе такога чалавечага падгатунку, колькі ў імя акурат актуальных палітычных інтарэсаў нядаўніх каланізатараў. Гэты парадокс тлумачыцца зусім проста: патрэбна *беларуская карта* ў міжнародным покеры Не надта вялікая, каб, крый Божа, не выслізнулася з рук ды не пачала сама гульню. Найлепей безамбітная і з па-фальклорнаму дэбільнымі мазгамі. Пажадана ў пайп'яным *відзе*

У суверэннай і незалежнай Рэспубліцы Беларусь пакуль што не дадумаліся да таго, заядла ліквідуючы беларускае школьніцтва, як і некалі ў нас, рукамі саміх, па-мужыцку прагматычных, беларускіх бацькоў. Напрыклад – у сталічным Менску ў параўнанні з мінулым навучальным годам лік беларускамоўных першакласнікаў рэдукавана амаль у **пяць** разоў! З кожных дзесяці – усяго адзін неяк ходзіць на беларускія ўрокі. Пра сярэднія і вышэйшыя – няма чаго і заікацца. татальна расейскія яны. Вядома, чаго варта нацыя без нацыянальнай школы I o to właśnie chodzi! – аналагічна прагаварыўся ў запале мой антаганіст.

Тым часам у менскіх дэпартаментах не навальна *лыкам шытыя*. Усё больш паяўляецца тых, хто глыбей думае. А таксама еўрапейская сітуацыя прымушае штораз адказваць на роспыты пра ліквідацыю беларускасці Беларусі, пераўтварэнне яе ў прывінцыйную паддзяржаву рускіх На шчасце рэжыму – гэта той рэдкі выпадак, калі і махляваць не трэба: даволі даць стандартную свабоду тым жа *белорусским националистам.* Іх так мала, што рызыкі ад таго даслоўна аніякае. Карысці затое шмат Дзякуючы іх жа прастадушнаму ідэалізму ды ахвярнасці, улады маюць палёгку· з чыстым сумленнем могуць абурацца закідамі ў антыбеларускасці *Разве запрещается у нас говорить на белорусском языке, читать белорусские книги, учить на национальном детишек?! Конечно, нет! Но в нашем демократическом государстве одновременно не может быть и принуждения к так называемой* ***мове...*** Амерыканцу – скажам – падасца такое цалкам

# ІРОНІЯ ЗМАГАЕЦЦА СА СТРАХАМ

**Іронія ў творчасці Сакрата Яновіча – не троп і не ацэначна-эмацыйны момант, а светагляд. Такую якасць іронія выяўляла яшчэ за часамі Эразма Ратэрдамскага, але найболей – у XX стагоддзі, падчас пераацэнкі і зруйнавання былых каштоўнасцей, татальнага скепсісу, расчараванняў і "хліпкай надзеі" (Васіль Быкаў).**

**Адна з галоўных магчымасцей іроніі – пераадольванне. Пераадольванне ілюзорных аўтарытэтаў, удаванай велічы. Яно, аднак, хавае небяспеку разбурэння (самапераадольвання), што мае адпаведныя прыклады ў сусветнай і беларускай літаратуры.**

**У той час, калі пісьменства ведала толькі аб'ектыўную іронію, т.зв. "іронію жыцця", само існаванне выглядала жахліва іранічным. Першы з літаратурных герояў гэты жах перажыў герой трагедыі "Эдып-цар" Сафокла. Пазней, калі пісьменнікі навучыліся самі іранізаваць з жыцця і смерці, настала эпоха пераадольвання жахаў існавання праз іронію.**

**Страх смерці (Танатас) пераадольваецца "чорным" (смяротным) гумарам, упершыню – у пятым акце "Гамлета" Шэкспіра, дзе герой разважае пра падарожжа караля па вантробах жабрака, трымаючы ў руцэ чэрап беднага Ёрыка. Чорная іронія прагладае ў сімвалісцкіх драмах Андрэева,**

лагічным Ён не прадчуе ў гэтым вырак смерці беларушчыне. А яно якраз так, як і ў нас, дзе ў Беластоку на **сто** беларускіх сем'яў раптам у **двух** gadają po rusku, a ў мястэчковых ліцэях вучні лічаныя на пальцах аднае рукі coś tam kapują w tym języku Чаму не, танцаваць і спяваць ахвотныя яны, і касету купіць, але ўжо не (беларускую) кніжку, падставу падстаў нацыянальнай культуры (кожнага народа). Гэта відаць, зрэшты, па мізэрным тыражы "Нівы" і нават – пераважна польскамоўнага "Czasopisa" (po co to Polakowi?) Відаць і па літаратурнай "Белавежы", у якой усё трымаецца на аўтарах сярэдняга і старэйшага ўзросту; маладыя час ад часу мігаюць метэорамі пару неблагіх вершаў і некуды знікаюць, як бы назаўсёды (спеласці літаратуры прыдае аднак проза, а яе тут са свечкаю шукаць)

Гэта, так сказаць, сімптомы смяротнай хваробы Кандыдат у Нобелеўскія прэміянты Васіль Быкаў нядаўна канстатаваў· **нечуваны ў цывілізаваным свеце парадокс нашай трагедыі ў тым, што мы, беларуская творчая інтэлігенцыя, ствараем культуру для народа, які быў, але якога ўжо няма, нам яго ўкралі, ды мы пра тое яшчэ не ведаем...**

А мне ў шэрую гадзіну смутку не раз падумаецца, што беларуская нацыянальная актыўнасць цяпер павісла паміж зямлёю і небам. Духоўна абрабаваная нацыя беларусаў збеглася ў ананімны натоўп разяваў ды, задраўшы галовы, рагоча з тых, хто крыкам сваім намагаецца абудзіць у іх сумленне і душу Чыстае вар'яцтва! Mowa dziada do obrazu.

Падумаецца яшчэ і такое, што беларуская дзейнасць страціла сваю натуральную патрэбнасць і служыць ад некаторага часу перш за ўсё тым *карцёжнікам з беларускай картай у калодзе* (яны гатовы і плаціць за яе фабрыкацыю) Бо, калі ж гэта было так, каб прывілеявана беларускую дзейнасць? За яе і цяпер як быццам не гладзяць па галоўцы, але і не пляжаць, як даўней, хоць даволі ўжо без апраўданняў перапыніць фінансаванне і назаўтра пра ўсё і ўсе дакладна забудуць, акрамя жменькі pieprzonych nacjonalistów Wybierz polskość, gnoju jeden! (з народных афарызмаў у Крынках)

Беларуская дзейнасць – гэта той від чалавечае актыўнасці, які мае эксклюзіўны характар і не выкліканы агульнаграмадскімі патрэбамі У моц таго, што сам беларускі народ – гэта этнаграфічная разнавіднасць славянаў, якая паслужыла ўзмацняльным кампанентам суседнім нацыям, а таксама эксперыментальным базісам у няўдалай спробе стварэння савецкага народа.

Дэфініцый ёсць больш, але скончу на гэтых

# КАНЕЦ КУПАЛАЎСКАЙ УЯВЕ НАЦЫІ

Янка Купала не быў ідэолагам беларускай нацыі Не пакінуў ён нашчадкам у спадчыну распрацаванай тэорыі на гэты конт Каб так здарылася, трэба было б у ім яшчэ і таленту

**Пшыбышэўскага і ў заключнай сцэне купалаўскай "Адвечнай песні", калі Цень Мужыка ў парадаксальна-іранічнай форме параўноўвае страхі быцця і небыцця:**

*Раскрыйся нанова, магіла:*
*Страшней цябе людзі і свет.*

**Крытык' Стывен Д. некалі слушна выказаўся пра тое, што канфліктная вось навелаў Сакрата Яновіча ляжыць паміж паняццямі смерці і жыцця ("Наша ніва", 1994, № 5). Гэта, аднак, не робіць творы празаіка панурымі. Настрой ягонага першага абразка – "Фэст" – светлы, іранічны смутак. Насуперак жахлівасці адбітых у ім рэалій (смерці маткі і дзіцяці).**

**"Гандзі пашанцавала са смерцю: памірала ціха, як і жыла", "добра паміраць у гэтай сядзібе" – гэтак у навеле пазнейшага часу апісваецца паміранне кабеты. Ізноў – у фарбах светлага, іранічнага смутку.**

**Недарэчна да смешнага (іранічна) гінуць героі навелаў "Кароткая біяграфія Ані", "Далейшае жыццё Манькі і яе смерць", "Вяселле на другі дзень калядаў" (жаніх вешаецца на ручніку ў дзень свайго вяселля дзеля таго, што цесць пашкадаваў пасагу; усё аказваецца сном), "Страшны канец Антона".**

**Цяжэй у творах Сакрата Яновіча пераадольваюцца страхі жыцця. Каб адказаць, чаму так, трэба ўважлівей учытацца ў назву зборніка прозы "Доўгая смерць Крынак". Бо жыццё выглядае як доўгае, абсурдна расцягнутае ў часе паміранне, і ў тым ягоная жахлівасць.**

**Час чалавечага жыцця несувымерна малы ў параўнанні з вечнасцю смерці. Кароткі ўсплёск жыцця можа выглядаць як украдзеная ў вечнасці секунда. Або як недарэчна адцяты, адарваны фрагмент**





палітыка. Разам з тым і грунтоўнае адукаванасці, якое, аднак, не меў Варта зазначыць, што на тэарэтыкаў беларускасці нам, наогул, не шанцавала. Інтэлектуальную падбудову беларускаму руху стваралі саматугам самі яго дзеячы, прычым сярэдняе рукі, па-аматарску слаба дасведчаныя ў палітыцы. Падатлівыя маніпуляцыям з боку лепей падрыхтаваных суседзяў Нярэдка ў ролі марыянетак іх нават, не заўсёды ўсведамляючых пры гэтым сваю падпарадкаванасць ім.

Як пісьменнік, а перш за ўсё паэт, Купала ўяўляў сабою ад пачатку выдатную з'яву, што характэрнае ўнікальным самародкам. Чым жа тады вырозніваўся ён у плеядзе спадарожнічаючых яму зорак першай велічыні на фірмаменце беларускай літаратуры? Нельга яго непасрэдна раўняць з рафінаваным Максімам Багдановічам, асобай з поўнай класічнай асветаю Ані з Якубам Коласам, у якім дамінаваў менталітэт эпіка. Янка Купала стаў, менавіта, вешчым песняром, прарокам. Гэта было яму наканавана, звычайна, фактам абуджэння да грамадскага жыцця беларусаў, якія знаходзіліся на данацыянальным, племянным, узроўні самасвядомасці У іншым гістарычным кантэксце ягоны дар паэтычнага трыбуна не разгарнуўся б на ўсю моц. Ён пісаў, якраз, каб абуджаць. Варушыць сумленні! Эстэтыку фразы і вобраза падпарадкоўваў тэзе. Без аўтаноміі самакаштоўнасці слова. Па сваёй сутнасці ён нацыянальна-палітычны пісьменнік. З адэкватным тэмпераментам, па прычыне якога браўся не раз за справы не пад сілу натхнёнаму вершаскладальніку Палітыцы, як вядома, патрэбны процілеглыя якасці індывідуума і характару Самазабойчыя ўсё ж уражлівай душы.

Ад дэбютнага "Мужыка", канструяванага ў паслянародніцкім духу, да манументальных радкоў "А хто там ідзе. " канцэнтруецца ўся паслейшая творчая існасць Янкі Купалы Надаў ёй кангеніяльнае развіццё, маштабнасць адчуванняў і думак Як Міцкевіч апяяў шляхецкі двор, фундамент ідэі Польшчы, так Купала апаэтызаваў мужыка, без якога немагчымая Беларусь. Згодна трэцяраднай катэгорыі сялянскіх народаў Еўропы, паласа якіх прасціраецца ад паўночнае Балтыкі да Чорнага мора і славянскіх рэгіёнаў на Балканах. Абуджэнне іх, следам за ранейшым па плебейскіх этнічных арэалах – прыкладам у Чэхіі – адбывалася прыблізна аднолькавым шляхам. Пачынальнай умоваю тут аказалася ліквідацыя прыгону Найпазней, на жаль, у Расейскай Імперыі, якая трагічна дарэшты ахоплівала Беларусь, не даючы шанцаў кшталтам аўстрыйскага ўкраінства ці прускай Літвы, фінскай паўсамастойнасці або пецярбургскага апякунства эстамі і латышамі дзеля рэдукцыі там старадаўняй нямецкай уплывовасці Калі дэталёвей прыгледзецца гісторыі маладых нацыяналізмаў, дык, як правіла, выяўляецца іх функцыянальнасць у машынерыі інтарэсаў спаборнічаючых дзяржаў на кантыненце. Адны аб'ектыўныя перадумовы фармавання нацый, пазбаўленых жывых традыцыяў уласнае дзяржаўнасці, у аніводным выпадку не паказалі сябе самачынна дастатковымі; без імпульсаў і матэрыяльнай падмогі звонку яны гібелі або заставаліся ў своеасаблівай летаргіі Гэта таму здзіўляе, не зарыентаваных у тым, павярхоўных даследнікаў маруднасць узнікнення беларускай нацыянальнасці, па сённяшні не закончаны працэс ейнае спеласці ды кансалідацыі І комплекс сірочасці ў яе актывістаў Як быццам адсутнасць неабходнасці ў ёй свету

**вечнасці, які на гэтую самую секунду раптам заторгаўся, заварушыўся, удаючы жыццё. Або наадварот: смерць як праходны эпізод у бясконцасці жыцця і руху...**

**Канцэпцыя фрагментарнасці існавання з грубаватай прадметнасцю раскрываецца ў навеле "Нянавісць малога нявольніка". Там распавядаецца пра тое, як у чалавека адарвала руку выбухам снарада. Рука з заціснутай у ёй сякерай адляцела на дзесяць вёрстаў і ўпала проста ў торбу да пастуха. Напалоханы пастух потым доўга не наважваўся выкінуць руку з торбы.**

**Недастатковае, няпоўнае пераадольванне страхаў жыцця сталася скразным матывам памянёнай вышэй кнігі Сакрата Яновіча – "Доўгая смерць Крынак". Рэштка непераадоленага страху як бы перадалася насельнікам паміраючых Крынак – Банавентуру, Бядоціку, Петрыку, Мардаціку. У выніку персанажы выглядаюць гэтакімі монстрамі на дзвюх нагах, што дало нагоду крытыку, ужо цытаванаму вышэй Стывену Д., выказацца пра іх наступным чынам: "Сярод герояў Яновіча не знаходзіцца ніводнага больш-менш прыемнага тыпа, з якім нястрашна было б сутыкнуцца ў цёмным завулку".**

**Творчасць Сакрата Яновіча адметная нечаканымі пераходамі, неспадзяванкамі. Магчыма, новы нечаканы паварот якраз станецца пераадольваннем самой іроніі, якая заменіцца якой-небудзь іншай якасцю. Бо варта знікнуць таму зазору паміж быццём і небыццём, уявіць іх як цэлае, – знікне тая жыццёвая прастора, дзе такая іронія можа існаваць. Але гэта азначала б перамену светапогляду і адначасна прыход у літаратуру новага, яшчэ не знаёмага нам Сакрата Яновіча...**

**Пятро ВАСЮЧЭНКА**

Не шыкоўныя бульвары гудзелі тады беларушчынай, а вясковыя вуліцы ды ўскраіны жыдоўскіх мястэчак. Малюючы бацькаўшчыну, старонку родную, Купала зрэдку кліча ў сваю памяць гарады і замкі велічэзныя, чужародныя беларусу. Упершыню урбаністычны пейзаж спрабаваў увесці ў нашу літаратуру ўжо Багдановіч, "Старою Вільняй". Тым не менш яе творчы аб'ём бачыцца, аднак, сялянскім. Гэта не зласлівасць лёсу, а непрысутнасць у ёй аўтараў мяшчанскага паходжання, бо не ў камяніцах мроілі пра бел-чырвона-белую свабоду. Гаварыць пра беларускую буржуазію не даводзіцца ў сур'ёзным тоне. Купалаўская ўява беларускай нацыі жывілася вёскаю. Несціханай мараю пазбавіцца галоты, у якой вінаваты былі, вядома, чужакі  Далей саламянай страхі і убогага поля не відаць Беларусі, толькі Расею або ўедлівыя цені Польшчы  З тых хатаў павінна была разбуяць свая айчына, не панская і не баярская. Так рэалізавалася там, дзе здолелі ўтварыць незалежную дзяржаву – у Літве, Латвіі, Эстоніі, Фінляндыі  Галоўная мэта кожнага нацыянальнага руху – фіналізавацца ва ўласных дзяржаўных структурах, не абавязкова ў якасці суб'екта міжнароднага права. Канчаткова не дабіўшыся хоць чаго-колечы, апускаецца такі рух у дэгенерацыю, заміраe, паступова знікае і базавы яму этнас паводле механікі самаасіміляцыі нацыянальных меншасцяў, таксама малых народаў  Прыклады таму – на неславянскай поўначы Расеі, або: брэтонцы ў Францыі, серба-лучыжане ў Нямеччыне, фрызійцы ў Нідэрландах, галісійцы ў Іспаніі, валійцы ў Англіі

Беларускі рух, не выпрацаваўшы загадзя праграмы на самастойнасць, самарэалізаваўся мінімальна, на ўзроўні перыферыйнай аўтаномнасці, канчаткова здзейсненай у рамках СССР  Падобны фінал украінскіх, аднак жа максімалістычных, амбіцыяў, ці на старажытным Каўказе пасведчваюць, што не ступень спеласці свядомасці вырашае ў дасягненні суверэнітэту, а патрэбнасць, менавіта, у існаванні яго элементу будаўніцтва нейкага новага гістарычнага ладу ў кантынентальным рэгіёне. Здушыць голай сілаю Прыбалтыку ў дваццатым годзе мог абы-які камандзір чырвонаармейскага злучэння, але міжнародныя інтарэсы Масквы не дазвалялі на тое. Блакада бальшавіцкай агрэсіі сюды ішла ад Берліна насамперад.

Можна не сумнявацца ў тым, што Янка Купала прадчуваў і затым глыбей разумеў тадышнюю ўтапічнасць у нас незалежніцкіх ідэй  У Беларусі не праглядалася за імі грамадска істотная традыцыя. З'явіліся яны ў выглядзе – справакаванага ў некаторым сэнсе – Акта 25 Сакавіка. Народныя масы, ні трохі не падрыхтаваныя да гэтага, успрынялі Беларускую Народную Рэспубліку з пакорлівасцю ўзвычаеных слухацца ўсякае ўлады. Беларусаў яшчэ чакала праца з закладваннем падмурка сваёй нацыі. А пакуль што духоўна балявалі тут "усходні вучоны" з "заходнім вучоным", маючы ў слугах тутэйшых Зноскаў

Міф Беларускага Дома ілюзорна ўзвысіўся ў Савецкай Беларусі  Нельга яго інтэрпрэтаваць як наіўнасць аніматараў беларускай справы  Гэта праўда, што хапала ім, тыповай ідэалістам, даверлівасці падкідаючым беларускай картай палітыкам, аднак недапушчальна вінаваціць іх у плыткадум'і, недальнабачнасці. Зыходзілі ж з першапытання: ці магчыма праводзіць выніковую нацыянальную барацьбу без пашыранай, менавіта нацыянальнай, свядомасці? Значыць, найперш трэба таго, што Дантон сігнальна называў у Французскую Рэвалюцыю школаю. А яна трывала арганізавалася не ў Польшчы. Пад саветамі якраз. І туды, да іх, натуральна і рушылі  Стварыць ініцыяцыйны арэал беларускай нацыі, пасля чаго і саму дзяржаву

Купалаўская ўява на прадмет гэтага характарызавалася поўнай нарматыўнасцю на тыя часы і ўмовы. Бальшавіцкая тактыка "карэнізацыі кадраў", хаця і аказалася потым мышалоўкаю, на працягу другое паловы дваццатых гадоў пазітыўна раскамплексоўвала адраджэнскі актыў, адчыняючы перад ім выхад у сферу дзяржаўнага дзеяння, накіраванага на беларусізацыю рэспублікі. Без нагаданага эпізоду, памятайма, мы сёння не мелі б чым, гістарычна блізкім, паслужыцца, бо паралелі з Вялікага княства Літоўскага не давалі б нам цяпер пажаданай экспрэсіі як даўно зніклыя з жывое памяці і адаптацыйнага ўспрыняцця. <...>.

Ні Купала, ні карыфеі тэорыі тае эпохі не ў стане былі прадбачыць непраўдападобна раптоўнае знікненне сялянства, у тэмпах запланаванага генацыду  У бандыцкім дзеянні няма логікі. Само землеробства, вядома, падлягае тым жа законам рынку, што і ўсякая іншая таварная вытворчасць, і таму вёска як постфеадальная структура гаспадаркі непазбежна растварaецца ў агульнанацыянальнай сістэме, якой дастаткова некалькіх працэнтаў фермераў у супастаўленні з цэлай папуляцыяй насельніцтва ў дзяржаве. На Захадзе гэты працэс элімінацыі вёскі і пераход у цывілізацыю горада і поля адбываўся стагоддзямі  У нацыянальна-духоўным станаўленні Беларусі той жа фактар працяглай гарадызацыі, не гвалтоўнай, меў бы не толькі капітальнае, але проста выратавальнае значэнне! Шматлюдная вёска ў ёй уяўляла сабою адзіна істотнае апірышча дзеля выспявання нацыі, без фіналізацыі якое пераважаючы ў пашырэнні гарадоў сялянскі кампанент не змог адыграць прыналежнай яму ролі беларускага гегемона. Мешчанін-асімілянт і мужык-абарыген, гэта нават і не партнёры ў культурнай канфрантацыі. За першым з іх высілася тая-другая вялікая культура каланізатараў, а за другім – безамбітная, вульгарная мімікрыя дзеля біялагічнага ўсяго толькі выратавання. Што можа прэзентаваць сабою прасцяк? Жаданне зарабіць на міску стравы, і дамагчыся сабе кут на логава. Нацыянальнасць яму лішняя, на хлеб яе не намажаш!

Мала сказаць, што канец купалаўскай уяве нацыі паклала калектывізацыя. Кааператыўную апрацоўку зямлі не Масква здумала, а пераняла тое ад Захаду, як і камунізм, зрэшты, ды на свой лад тупа дэфармавала, не дарослы да займелых ідэй. Савецкі калектывізм тым і жахлівы, што пазбавіў селяніна пачуцця гаспадара і партнёра іншым, вярнуў яго назад у паншчыну, і то паводле сумна вядомай мікалаеўскай пары. Гэта і размыла грунт пад беларускім нацыянальным рухам, а саму беларушчыну пераўтварыла ў дэкаратыўны вазон на чырвонасуконным стале нежартоўнага прэзідыума, абранага не іначай як пад бурлівыя і доўгія, вельмі доўга і спалохана не ціхнучыя, пераходзячыя ў аглушальную авацыю апладысменты; у апагеі якіх усе схопліваліся, бы апараныя, са сваіх табурэтак і крэслаў, а затым нема енчылі "ўррр-ааа"!!! Оруэлаўскі фальварак звяроў  <...>.

# З-ПАД СНЕГУ

**Некалькі гадоў таму я бачыў Сакрата Яновіча ў Менску, у Доме пісьменніка на ўрачыстасці, яму, здаецца, і прысвечанай. Ён сядзеў у прэзідыуме, але падыходзіў і да мікрафона, гаварыў, вымаўляючы словы з ледзь чутным акцэнтам, крыху цяжкавата жартаваў. Ён быў звычайны.**

**Але няма, на мой погляд, у беларускай літаратуры пісьменніка, які б так моцна індуцыраваў холад. Нават поры года, якія апісвае ён у сваіх творах, – гэта, як правіла, халодная, з дажджамі, восень, часцей зіма, ці такая ж марозная, зацяжная вясна. Чаму так? Выдатны псіхолаг, Сакрат Яновіч невыпадкова выступае як пясняр безвыходнасці. Яго выспавяданне холаду, на мой погляд, – гэта адлюстраванне на ўзроўні падсвядомасці не чаго іншага, як сімптаматыкі распаду. Там, на дыяспары, ён занатоўвае клініку хваробы народу, які, па словах Масея Сяднёва, невядома чаму "прарос паміж Захадам і Усходам". Спрэчна, як бы занатоўваў гэта пісьменнік, калі б жыў і працаваў у метраполіі, але, мяркую, холаду было б не менш.**

**Не варта чытаць Сакрата Яновіча ўвосень ці зімой: амаль фізічна наслойваецца сум, ахоплівае прадчуванне адміранне і завядання, ахоплівае туга. У гэтым і ёсць яго талент.**

**Пісьменнік надзвычай добра ведае жыццё вёскі і селяніна, "цывілізацыю поля і хлява". Пад яго пільным позіркам не можа схавацца ні добрае, ні благое. Звольнены ў 1970 г. з работы ў "Ніве" па палітычных матывах (за беларускі нацыяналізм), ён тым не менш далёкі ад таго, каб ідэалізаваць свой народ. "Ніхто нікога не разумее, хоць і гавораць і думаюць", "майстраватая бесталач" – такія філіпікі далёка не выпадковыя. Крызіс жа, здарыўся, лічу зусім нядаўна. 2 траўня 1997 года "ЛіМ" надрукаваў артыкул пісьменніка, напісаны па просьбе варшаўскага часопіса "Новэ Кантрасты" пад больш чым красамоўным загалоўкам: "Апошняя прамая да катастрофы". Заканчваецца ён характэрным прысудам. "Дык што ўрэшце чакае Беларусь? Адказ вельмі просты: чакае яе грамадска-гаспадарчая катастрофа, развал і хаос. Каб гэтага не сталася, трэба, каб ці ажыццявілася мара Лукашэнкі, ці каб выйшаў ён на прэзідэнцкую пенсію. Тое ці другое павінна было б адбыцца неўзабаве. Ды яно не адбудзецца, і адносна гэтага не трэба самападманвацца. Савецкая стыхія будзе жыць дзесяцігоддзі. Давядзецца нам доўга суседнічаць з анахранічнай дэспатыяй, што мяне тым больш засмучае, бо вынішчаецца дух нацыі, яе культура".**

**Але яшчэ больш песімістычна, амаль шокава ён выказаўся ў прыпісцы ад рэдакцыі, у словах да сябра Дзіянізы Сідорскага. "Дызю, Ты ўвогуле не уяўляеш, што значыць быць беларусам. А значыць гэта быць зненавіджаным** таксама **сярод сваіх,**

Калі сённячы я чую, што, бадай, усяго тры працэнты ад цэлае папуляцыі пашпартных беларусаў кваліфікуецца ў панянцы нацыі, дык гэта стан татальнае катастрофы! Беларусы, значыць, зрабіліся невялічкай, чвэрцьмільённай, меншыняю ў сваім айчынным доме. На такі эфект задзейнічалі два, смертаносныя нам, фактары: расейскі шавінізм – паводле прызнання нават Леніна, самы лайдацкі ў свеце, – і бальшавізм, з яго люмпенскай грамадскай базаю, зарыентаваны на знішташэнне працы і чалавечнасці ў чалавеку, што канкрэтна спраўдзілася ў генацыдзе заможных слаёў, у іх ліку і сялянства, падставы нашай этнічнасці. У гэтых абцугах, жахліва варварскіх, і жыў Янка Купала, няўмела спрабаваўшы адысці на той свет (яму дапамаглі як быццам учыніць тое ў Маскве сорак другога года мяснікі з тайных службаў) Купала заўсёды ўяўляў сабою прыкрую савецкім уладам праблему, як і сама беларуская літаратура, прыйшоўшая з нашаніўскае пары. Трэба сказаць, што ажно да цяперашніх часоў прынцыповы з ёю клопат: мара афіцыйнага Менску – пераўтварыць яе, перарадзіць у заходнерасейскі варыянт, у плане “западноруссизма”, што перфектыўна ўдалося з дурным народам.

Мяне як польскага беларуса, які пражывае сярод больш-менш нармальнай еўрапейскай нацыі, даводзіць да ціхае роспачы настойлівае імкненне кіраўніцтва Рэспублікі Беларусь яшчэ мацней працягваць палітыку растварэння дзяржавы, цынічна пакарыстаўшыся паруселым электаратам. Ну добра, думаю сабе, няхай удасца вам, беларускім саветам, выкрасліць Беларусь з палітычнай карты свету, прынізіць яе да “западнорусской” правінцыі, забіўшы ў ёй і тыя рэшткі пачуцця нацыянальнай арыгінальнасці, непаўторнасці і адчування ўласнага кавалка хлеба, паравёўшы ўсіх на федэральны паёк... А што будзе далей? – ад гэтага пытання ніхто не выкруціўся. Шчасце ўсенароднае настане?

Спачуваю я самагубцам, і тым, хто на чужы стол разяўляецца. Але, вось, як быць тады ўладам з беларускай літаратурай або, хаця б, з той бунтоўнай спадчынай Янкі Купалы?! – амаль гамлетаўскае пытанне: быць Беларусі ці не быць, а калі не быць, то як не быць?! У чорны трыццаць сёмы ўсенька вырашалася з дзікай прастатою: у лоб і ў пясок! Даведзена да такога ўжо стану, што беларускамоўная кніжка цікавіць чытача інцыдэнтальна, пакалекцыянерску, і, натуральна, не можа яе выдавец разлічваць на прыбытковасць. Масавы “Трасяннік” не пэцкае ёю сабе пальцаў... Ды аўтараў чамусь не меншае ў гэтай дзіўнай з дзіўных у Еўропе літаратур?

Такія, вось, здабыткі ў культуры нашай пакінула па сабе дзівосная сваім анахранізмам цывілізацыя сярпа і молата, якая ўсё яшчэ б'е хвасціскам, бы той канаючы на мелі кіт.

**якім мой нацыянальны патрыятызм патрэбны гэтак жа, як скула на задніцы. Гэты сялянска-прыгонны народ марыць толькі аб тым, каб урэшце перастаць быць самім сабою. Павер, змучыўся я за чатыры дзесяцігоддзі беларусавання, каб яму здохнуць. Пачынае ўжо абрыджваць гэтая беларуская тэматыка.**

**Спецыфіка грамадскай беларускай культуры, галоўным чынам яе сучаснай літаратуры – яе шляхецкі радавод, каталіцкае асяроддзе. А тым часам 80 працэнтаў зброду беларускага – праваслаўныя. Таму беларуская культура існуе як бы наўзбоч гэтага народа, як нешта вонкавае, пра што слушна заўважыў нядаўна Паўлючук у “Політыцы”.**

**Быкаў сфармуляваў гэта больш дакладна: мы, беларускія пісьменнікі, творым ад імя народа, які быў, але якога ўжо няма, толькі мы таго не заўважылі. Знакаміты філосаф культуры Конан паведаў аб суцэльнай музеяфікацыі беларускай культуры, перанясенні яе ў музеі. Наша нацыянальна-культурная дзейнасць нагадвае мне гадоўлю рыбак у акварыуме: “А как же, у нас есть белорусская культура, пожалуйста...” і паказваем сваіх рыбак.**

**Няма таго дня, каб хтонебудзь не “пачаставаў” мяне ў Крынках кацапам!**

**Дызю, пачуваюся змардаваным гэтай Беларуссю, як і нашымі польскімі беларусамі, якія, адпаведна, робяць усё, каб стаць тут палякамі, як там – рускімі. Раблюся публічным ворагам № 1 для многіх. Ды**





# БЕЛАРУСКІ ПІСЬМЕННІК У ПАСЛЯВАЕННАЙ ПОЛЬШЧЫ

Існуе правіла, што быць нацыянальнай меншыняй азначае выбар горшай долі Гэтае цверджанне датычыць перадусім мабільных індывідаў, якія нечым вылучаюцца А ў рэгіянальным, грамадскім вымеры гэтая заўвага нярэдка бывае беспрадметнай, паколькі яна не выходзіць за межы звычайнай – таксама нярадаснай – канстатацыі, якая тычыцца арэалу, заселенага меншыняй, зазвычай перыферыйнага ў дзяржаве і выяўна адсталага эканамічна і культурна Згэтуль узнікае выразлівы клопат з фармаваннем эліт, якія натуральна імкнуцца ў цэнтр краіны. Радыюс дзеяння падобнай з'явыназіраецца і ў глабальным маштабе, ён вядомы пад скарочанай назвай дрэнажу мазгоў, напр , пэўная правінцыйнасць Канады, не кажучы ўжо аб Мексіцы, у дачыненні да Злучаных Штатаў

Нацыянальная меншыня, калі яе агортваюць эманцыпацыйныя тэндэнцыі – агульнавядомыя пад назвай адраджэння – немінуча выпрацоўвае ў сабе псіхалагічны абарончы імунітэт (да яго пасуе сацыялагічнае паняцце, вобразна сфармуляванае як псіхалогія абложанай цвярдыні) Памкненні да ўласнага развіцця заўсёды прыводзяць у рух законы дзеяння й супрацьдзеяння Аднак, каб гэтае абуджэнне ўзнікла, павінна паўстаць пэўная прынцыповая перадумова збольшага значны матэрыяльны патэнцыял, які валодае нейкай, не заблакаванай у сваёй дынаміцы інфраструктурай. У адваротным выпадку, заміж імкнёнасці да паглыбленай укарэненасці й росквіту, адбываецца зыход насельніцтва на тэрыторыю, што лёгка ўбірае ў сябе рабочую сілу, а таксама ў індустрыяльныя рэгіёны Гэта дае вядомы эфект стыхійнай эміграцыі, якая поўніцай вычэрпвае людскія рэсурсы на дадзеным прасцягу, пераўтвараючы яго ў мёртвыя эканамічныя пустыні На прыкладзе Польшчы мы бачым гэта ў зоне яе ўсходняга ўзмежжа, што сягае ад Карпатаў да паўночнага ўскрайку Аўгустоўскай Пушчы, і якое атрымала здзеклівую назву Усходняй Сцяны Калі шукаць ранейшыя заходнееўрапейскія аналогіі, то можна правесці паралель з французскай Брэтоніяй, Ірландыяй, гішпанскай Галіцыяй

Я валодаю разуменнем таго, што ёсць нацыянальныя меншыні, якія існуюць выключна ў дыяспары, зазвычай гарадской або урбаністычнай. Калі яны не выкрышталізоўваюць свах “удзельных” гетаў, што выконваюць функцыю этнічнай тэрыторыі, адбываецца іх досыць хуткае знікненне, калі, зразумела, яны не

**няхай яны прападуць пропадам – станаўлюся рыбаком і пачынаю жыць толькі для сябе. І на гэтым – бывай!”**

**Увогуле, чытаючы С. Яновіча, міжволі ўспамінаецца старажытнакласічнае з Феагніда Мегарскага: “На свет не радзіцца – для смертнага лепшая доля”. Вось, быццам, “светлая” тэма – каханне. Сакрат Яновіч напісаў, лічу, адну з лепшых у літаратуры (і не толькі ў беларускай) аповесцяў пра каханне – “Таню”.**

**Але вернемся да тэмы кахання. Зірнём на тую ж безвыходнасць, на бясконцыя апісанні ці то зімы, ці то халоднай сцюдзёнай вясны, абледзянелай вясковай студні, заснежаных палёў і г.д. “Што там – пад гэтым снегам?”... Сапраўды – што? Гераіня – таксама нешта жывёльна-аморфнае, неакрэсленае, амаль бесцялеснае, не маючае аблічча, але ад той загадкавасці яшчэ больш пагрозлівае і небяспечнае. Напал пачуццяў у аповесці настолькі моцны, што прыводзіць героя – Юрку да эпілептычнага прыпадку – так бы мовіць, квінтэсенцыі распаду пачуцця. Бо самога кахання няма, а ёсць, хіба, “гульня ў гульні”, “каханне ў каханні”. Яно проста не адбылося, не спраўдзілася, адышло і забылася.**

**Так і з беларускасцю. Сімвалічна, як апісвае пісьменнік дом, які імкнуўся некалі пабудаваць яго бацька, пабываўшы “за светам”, у заходняй Еўропе. (Аповед “Бацькін дом” са зборніка “Самасей”.) Але гэты дом, які, па праекту бацькі, рэзка**

падтрымваюцца прытокам свежай іміграцыйнай крыві (vide· польскае Яцкова ў Чыкага або нью-ёрцкія іспанамоўныя кварталы). Таму я прашу разглядаць мае разважанні не ў кантэксце меншыняў наогул, а тых, якія валодаюць сваёй спаконвечнай "малой радзімай", вылучаючыся ў больш ці менш відавочны рэгіён з комплексам спецыфічных праблем ва ўсіх сферах жыцця. Такой асаблівасцю, у гэтым выпадку беларускай, з'яўляецца Беласточчына – за выняткам яе заходніх гмінаў як ускрайка ўсходняй Мазовіі – і ў пэўнай ступені сам Беласток, горад з пераважна польскай дамінантай, хворы на "комплекс Парыжа", г.зн. які несупынна паглынае ваколіцы (ужо цяпер у ім жыве больш як палавіна жыхароў ваяводства)

Стабільная нацыянальная меншыня, а гэткай лічыцца і беларуская, паралельна з засваеннем польскіх і сусветных вартасцяў, выпрацоўвае свае формы культуры У выніку гэтага яны паступова ўлучаюцца ў сукупнасць атрыбутаў, што характарызуюць кожную сфармаваную нацыянальнасць. З бяздоння фальклору і цывілізацыйнага адасаблення найперш з'яўляецца літаратурная творчасць, у другой або трэцяй генерацыі аўтараў фіксуючыся ўжо на ўзроўні прафесійнасці, паступова дасягаючы агульнаеўрапейскага кантэксту Амаль адначасова вылучаюцца іншыя прыгожыя мастацтвы, напачатку жывапіс і графіка (напр., Лёнік Тарасэвіч з-пад Беластока, у дадзены момант імя з міжнародным рэнаме). Найцяжэй бывае з тэатрам, паколькі яго немагчыма развіваць у адрыве ад уласнай публікі; яго адначасна надзвычай абумоўлівае ступень распаўсюджання высокай культуры ў самой нацыі. Напрыканцы голас атрымліваюць навуковыя, тэхнічныя таленты, якія ствараюць арганізацыйныя нацыянальныя структуры, хутчэй не ў акадэмічным значэнні, а ў спалучэнні з бізнесам У фінале гэнага даспявання да суб'ектыўнасці вылучаецца кіраўнічая праслойка і прафесійныя палітыкі. Канец пабудовы піраміды.

Беларуская нацыянальная меншыня ў сённяшняй Польшчы дарасла да гэтага. Аднак яе пісьменнікі яшчэ доўга не змогуць дазволіць сабе своеасаблівы шык быць святарамі слова Хочучы таго ці не, яны проста падштурхоўваюцца адрасатамі сваёй творчасці здзяйсняць ролю лідэраў нацыянальнасці, быць сумленнем нацыі Гэны маральны тэрор прымушае да этычнага цэлібату, прынамсі, вонкавага Фанатызм дабрачыннасці, нейкай іконнай акуратнасці, зразумела, дэфармуе талент, абмяжоўвае яго або дэгенеруе. Цвярдыня беларусаў у абкружэнні палякаў накідвае індывідуальнасці самадысцыпліну ў імя адкрыта неартыкуляванага закліку: "Не дамо сябе спаланізаваць!" Гэта вельмі зразумелая пазіцыя і для іншых нацыянальных меншыняў Еўропы, мяркуючы з уражанняў, якія я атрымаў падчас адной з сустрэч ПЭН-клубу, якая ладзілася на гэтую тэму некалькі гадоў таму ў славенскім Бледзе

Праблему маргінальнасці чытацкага рынку для пісьменніка з меншыні на перыферыі краіны, натуральна, вырашаюць выдавецтвы адпаведнай дзяржавы за суседняй мяжой. У сітуацыі беларускага творцы і гэта не прыносіць належнага задавальнення з прычыны блізу поўнага выдалення з штодзённага жыцця нашай роднай мовы падчас імперскага камунізму Нават геніяльна добрая беларуская



кніга не разыходзіцца імгненна ў Беларусі; дакладна тое ж будзе і з сенсацыйным дэтэктывам. Бо гэтая мова ў грамадскім успрыманні перажыла адчужэнне Патрэбны гады і пакаленні, а таксама агромністыя намаганні ў дзяржаўным маштабе, каб вярнуць ёй паўсюдную прысутнасць. У адрозненне ад драмы кельцкага слова ў Ірландыі ці Уэльсе, беларушчыну можна рэсацыялізаваць, паколькі яна была выцеснена роднаснай і блізказначнай мовай, і ў пераважнай частцы зразумелая нават для прыроджаных расійцаў.

Беларускі пісьменнік у пасляваеннай Польшчы, як правіла, асоба з вышэйшай адукацыяй, не заўсёды гуманітарнай У літаратурных традыцыях гэтай нацыі, асабліва ў першыя дзесяцігоддзі нашага стагоддзя, мы назіраем, амаль без выключэнняў, вялікіх самавукаў, якія ўласным высілкам набывалі неабходныя веды ў гэтай галіне. Сярод плеяды Маладой Беларусі і пазней цяжка згадаць кагосьці з універсітэцкім дыпломам. Нізкі адукацыйны ўзровень і недастатковая інтэлектуальная самасвядомасць негатыўна ўплывалі на якасць твораў, нягледзячы на высокую інтэнсіўнасць таленту. Вядучыя паэты беластоцкай "Белавежы" не былі вымушаны самі змагацца з падобнымі заганамі і ахвотна дапамагалі сваім слабасільным калегам па пяры, якія ледзь атрымалі сярэднюю адукацыю (такіх дагэтуль налічваецца каля ста). Праблема палягала ў нечым іншым: ці асуджаны аўтар на родную мову? Некаторыя пайшлі ў польшчыну, мяркуючы, што тым самым пазбягаюць прыкрага цяжару нейкай місіі, якая расцярушвае сілы на пазалітаратурныя справы, і таму не абавязковыя для дасягнення майстэрства Шчэзлі, як сівая ноч; ніхто з іх не вызначыўся ў літаратуры, хаця напачатку вялікія надзеі падавалі палякам Аляксей Казьбярук, Эдвард Ярашэвіч, Мікалай Самойлік.

Цікавячыся еўрапейскай літаратурай, я звярнуў увагу на знамянальную для мяне дэталь: адсутнасць у ёй заклікаў да любосці да роднага слова; фразаў, як маё: "Табе толькі, слова беларускае, кланяюся і веру. Божа мой! Ты мая Рэлігія!" Паэту, які піша па-французску або па-ангельску, гэта падасца троху двухзначным, не з гэтых часоў. Напэўна, доўга яму давядзецца тлумачыць, чаму кожны ў нас пачынае свой шлях у паэзію абавязкова з дэкларацыі ў вершаванай форме аб сваёй бязмежнай любосці да роднай мовы, заклінанняў аб якіх заўгодна ахвярах, каб бараніць яе да апошняга ўздыху, канчаючы часам і вось такой пагрозай, узятай з твора Юркі Трачука: "І прыйдзе велікан Белай Русі, І як здраднікаў задушыць!"

Развязаўшы моўнае пытанне на карысць меншыні, новаспечаны адэпт прыгожай пісьменнасці адразу сутыкнецца з неадчувальнымі раней дылемамі, з якімі ён па-рознаму дае сабе рады. Драбніцай будуць словаўтваральныя і стылістычныя паланізмы, якія прашмыгнулі ў напісаны тэкст і якіх можна пазбыцца пры дапамозе пільнага перачытання. Пагрозай стаецца індывідуальнасць, сфармаваная дзякуючы – прыкладам кажучы – варшаўскай вучэльні, на што пазней актыўна накладаецца псіха-пабытовая абалонка дзяржаўнасці, вядома ж, небеларускай Наступае канфлікт двухнацыянальнасці ў індывідзе, як я гэта вызначаю. Вельмі праўдападобна, дарма

---

кантраставаў з іншымі, так і застаўся недабудаваны. "Такой будовы людзі нам не даравалі", – вырываецца ў пісьменніка. Хіба не так і з нашым бясконцым, аморфным і залатушным Адраджэннем, якое з часам хіба што занепадае, каб аднойчы сканаць назаўсёды ў абдымках крывадушных, баязлівых і ад таго яшчэ больш жорсткіх "сёстраў". Прама кажа пра гэта ён у эсэ "Одум". "Пытаем самі ў сябе з сумненнем, ад якога бярэцца мудрасць: а як гэта нас успамінацьмуць і ці прыстойным словам?"

І яшчэ: я стаў беларусам не таму, што мне сказалі, хто я; гэта мела не галоўнае значэнне. Я ёсць ім як абраджаны існаваннем самагвалту, самаадрачэння, самапаніжэння..."

У метраполіі выйшлі дзве кнігі Сакрата Яновіча: "Сярэбраны яздок" (1978 г.) і "Самасей" (1992 г.).

У гэтым кантэксце вартая ўвагі псіхалагічная, пэўна, ва многім і аўтабіяграфічная аповесць "Самасей". І зноў усё тое ж адчуванне холаду і распаду. Нягледзячы на знешнюю прыхаванасць, са старонак паўстае бязрадасны малюнак існавання беларусаў дыяспары: зімовыя пейзажы, цяжкая праца, непаразуменне з наваколлем, адзінота. Холад адзіноты ўражвае – часам аповесць нялёгка і балюча чытаць. Па сутнасці, гэта зноў жа той самы матыў – матыў распаду.

Дык як нас успамінацьмуць? Сапраўды – як?

Юры СТАНКЕВІЧ

---

# ДОКТАР САКРАТ

Як усё парадаксальна супадае! Уяві сабе, дружа, сёння, калі мне надзвычай дрэнна, нават балюча, і гэты боль, гэтую стрэмку-хлуд заганяе ў душу некалі так любімы мною чалавек, – у гэты час я звяртаюся да кніжкі з мініяцюрамі Сакрата Яновіча. Так было заўсёды: я выбіваў клін клінам, выбіваў свой боль болем Сакратавых радкоў.

Даруй, Сакраце, але ведацьмеш, як гады раўнаюць людзей. Ды і я ведаю твае пісьмёны з дзяцінства, і тады мне часта бывала балюча й роспачна. Лёс, даючы выпрабаванні, даваў і мажлівасць уратавання – кнігі Гарэцкага і зацемкі Яновіча. Як за саломіну ў акіяне, чапляўся я за беларускае слова гэтых аўтараў. Невядомага мне Сакрата з Крынак я чытаў у старых нумарах беластоцкай "Нівы" ды ў "Беларускіх календарах", выдаваных там жа, на беларускіх землях за мяжой. Чытаў – як піў вадкі гематаген ад малакроўя.

А сёння, дружа, не ведаю, хто ты, але пэвен, што ты ёсць, – сёння, калі пад рукою няма ні алкаголю, ні цыгарэтаў, ні кавы, ні нават банальнага чыфіру, я толькі й магу, што зноў перачытваць пісьмёны

што я не чуюся кампетэнтным у даследаванні гэтага, што тут мной закранаюцца глыбінныя прычыны творчай паразы тых паэтаў, якія, застаючыся ўсім іством беларусамі, намовілі сабе, што імі яны не ёсць. Можна сцісла адказаць: палякам трэба нарадзіцца...

Як змест, так і форма з'яўляюцца ў вялікай меры традыцыямі нацыянальнай літаратуры, культурным кодам, і ўсімі знакамі, якія абумоўліваюць гэта якраз, з чаго і складаецца першасная адметнасць, якой як бы зарастае ўся паверхня беларускай індывідуальнасці. Пагружэнне творцы ў яе прадонні стварае яму безумоўныя шанцы на неадкладны кантакт з уласным чытачом, але ў сітуацыі недастатковай падрыхтаванасці таго чытача і адсутнасці развітых інтэлектуальных эліт гэта пагражае яму, аўтару, своеасаблівай разумовай лянотай, недалёкім адыходам за рамкі графаманіі. І таму зубожаннем таленту, здрабненнем яго ў плебейскіх нізінах, замірэннем з мастацкім мінімалізмам. Не ўсюды гэта вылучаецца як самадастатковая з'ява: напр., статус народнага пісьменніка ў Польшчы і Расіі, апрача блізу ідэнтычнага прыняцця станавай дзяржаўнасці, успрымаецца дыяметральна па-рознаму: у Маскве як найвышэйшая пашана, і гэта пачынаючы з эпохі Уварава, а ў Варшаве ледзь не як сенцы ў храме мастацтва.

Невыпадкова польская крытыка залічвае літаратурныя дасягненні беларускай нацыянальнай меншыні ў вясковую плынь (ідэолагам гэтага стаў Генрык Берэза, найбольш поўна вызначаючы яе ў сваёй кнізе "Związki naturalne"). Пісьменнікаў "Белавежы" такая класіфікацыя раздражняе з цалкам іншых прычын, чым, скажам, Веслава Мыслівускага або Станіслава Срокаўскага, якіх цікавіць знаходжанне ў пантэоне нацыянальнай літаратуры, а не на п'едэсталах занядбанай вёскі. Палякі безупынна ўзмацняюць у нас падазрэнне, што мы трактуемся імі як сімпатычныя няўдачнікі, якія толькі акружным шляхам імкнуцца да польшчыны, бы даўныя вуніяты ў Літве, што летуцелі аб зліцці з рымскімі каталікамі... Гэтыя амаль-палякі неўмінуча атрымаюць належную ацэнку Але мы загнаныя ў комплексы, вытвараем у свой ужытак масу меншых, якія надта даспадобы нам. Уздрыгваем перад спробамі называць нас літаратурнымі селакамі, мы ненавідзім пазаванне а la mujic (мужык): надрыўна тлумачым, каму трэба і не трэба, што мы народ, а не нейкая групка па суседстве. Урэшце мы пазбягаем варшаўскіх салонаў, гэтай абструкцыі; ладзім свае "абеды па чацвяргох".

Літаратура беларускай меншыні ў Польшчы не ў стане наўпрост пазбягаць прынамсі падтэкстаў антыпольскіх. Гэта не вынікае з нейкага невылечнага нацыяналізму, бо гэтая паталогія сярод культурных людзей выклікае пачуццё сораму, параўнальнае з "набыццём" сіфілісу. Аднак апавяданне – гэта не артыкул у газеце, і калі ў ім закладзена імкненне пераважыць свайго стваральніка, яно павінна змяшчаць нейкую праўду аб жыцці. А беларуская праўда не заўсёды супадае з польскай. Вось і чарговая дылема творчасці, даць ёй спакой і пашукаць субстытут? Але ў такім выпадку, ці будзе гэта літаратурай? Або хутчэй спевамі Арфея,

**нашага Сакрата. Зараз, калі я гартаю зборнік "Сярэбраны яздок", набыты некалі ў Гарадзенскай правінцыі, дзесьці праз два пакоі ад майго нехта вельмі чужы мне перабірае пялёсткі цела жанчыны, якая выплавіла з мяне столькі радкоў. А я тым часам шукаю ратунку вось у гэтых, напрыклад, словах: "Веру ў каханне крынічна-чыстае, ды розум нябесна-бяздонны, і ў годнасць таполе-блакітную. І ў смутак, поле асенняе, веру, і ў радасць, квітненне ўрачыстае, даступныя слязам роспачы альбо захаплення (...).**

**І ў чалавека.**

**І ў свет – веру" (С. Яновіч. "Веру", у зборніку "Сярэбраны яздок", 1978).**

**Веру. Калі людзі вераць, дык што ж я, што ж мне, хіба адцурацца ад таго, да чаго імкнуўся адмалку? Нельга, ды і не змагу. Ад веры я не адцураўся нават тады, калі мяне, наіўнага і шчырага, пацягнулі на дыбу здрады, калі ўчынілі маральны правёж мне, ціхаму правінцыялу, рабкораўцу заводскай шматтыражкі "Кіравец". Выйшла так, што шукаць парады й падтрымкі я мусіў у "Литературной газете", а потым – у замежнага Сакрата з прозвішчам на "-іч". 8 кастрычніка 1991 года ён пісаў мне:**

**"Паважаны Славамір,**

**Твой ліст я атрымаў даволі даўно, але толькі сёньня неяк падумалася мне, што, відаць, выпадае адпісаць. Справа, якую кранаеш у ім, здалася для мяне настолькі нявартай увагі, што аж зьдзівіла гэта і самога мяне.**

**Глупствы, Славамір! Ты не**





прысвечанымі сабе і музам? Якая доля нацыі, такое і яе пісьменства. Беларус замінаў паляку, раптоўны жыхар у тым жа самым доме, што прэтэндуе на асобную кватэру

Завяршаючы змешчаныя вышэй меркаванні, звернемся да тэзы маладога даследніка з ЗША, Адама Замойскага· сучасная Беларусь з'явілася на свет Божы як нацыя з нацыі Яшчэ для дзекабрыстаў і на пакаленне пазней Польшча пачыналася расейцам недзе за Смаленскам, і ўжо напэўна ў Віцебску і Магілёве. Беларуская нацыянальная меншыня ў сённяшняй Беласточчыне часткова перабывае ў такім застыглым анахранічным часе, з цяжкім комплексам сірочасці, які нават мацуецца Рэспублікай Беларусь, якая ёсць дзяржавай чыста сацыяльнай, не нацыянальнай (такога няма ў суседняй з ёй летувіскай мяншыняй, якая адчувае апякункі подых матухны-Летувы).

Таму ў нашай літаратурнай творчасці нячаста сустракаюцца ўсебеларускія паралелі, нібыта ніколі і не было пупавіны... Эміграцыйныя літаратары на Захадзе – гэта хутчэй менска-гарадзенскія, чым мы з тае самае некалі губерні, паколькі яны вынеслі з сабой важкі багаж сфармаванай, і сягаючай наўперад усярэдзіну беларушчыны. У нас жа беларускі рух быў перапынены пасля вайны, жменька інтэлігенцыі загінула ў савецкія дэпартацыі або ад куляў пасляакоўскага падполля, якое кіравалася стэрэатыпам. беларус – камуніст Дастаткова сказаць, што засноўваючы напрыканцы пяцідзесятых гадоў гурток маладых літаратараў пры рэдакцыі беларускамоўнага тыднёвіка "Ніва" ў Беластоку, мы мелі досыць агульныя і цьмяныя ўяўленні аб існаванні беларускай літаратуры, і толькі некалькі чалавек нешта ведалі аб ёй з падручнікаў для ліцэяў Нас чакалі штудыі і вельмі запозненая прафесійная спеласць; Беласток тады быў наогул культурнай пустыняй, і таму нас у пэўным сэнсе напаткала доля згаданых самавукаў нашаніўскае пары, дарма што мы менш марудна, аднак, дабіліся адукаванасці і хутчэй авалодвалі тайніцамі мастацтва слова (асяроддзе, якое вызначала літаратурны працэс, вырасла ў нас толькі з гадамі) Некаторыя ўбачылі ў гэтым няшчасці ўнікальны шанец на ўзнікненне дужа арыгінальнай творчасці, вольнай ад абцяжарванняў польскай традыцыяй, з аднаго боку, і, зразумела, беларускай з другога. Інакш кажучы, павінна было выйсці нешта накшталт новай літаратуры або і новай нацыі, уціснутай паміж молатам і кавадлам Відавочны інфантылізм гэтых разлікаў, ці, хутчэй, фантазіяў, ужо тады ўзбуджаў смех.

Урбаністычны матыў, горад, адно з'яўляецца ў беларускай літаратуры, а ў яе беластоцкім фрагменце пракідаецца яшчэ менш, ледзь буяючы. Безумоўна, ён будзе дамінуючым, але не ў такой ступені, як на буржуазным Захадзе. Назіраныя тэндэнцыі зменаў у грамадскай структуры нашай нацыянальнай меншыні выразна сведчаць аб запавольванні працэсу агламерацыі ў буйныя гарады на карысць хуткага развіцця гарадоў-спадарожнікаў і мястэчак. Праўда, Беласток лічыцца беларускім цэнтрам, аднак народжаныя ў ім, як правіла, вырастаюць палякамі, а іх

**ведаеш гісторыі літаратуры, у якой ажно кішма кішыць ад падобных эпізодаў, прыгодаў з усялякімі Бэнкэндорфамі (пачытай Тынянава: "Пушкін"). Лічыцца вечнае, творчасць. Час ад часу знаходжу Твае вершы ў друку – і радуюся! Вось у чым Адамовіч, той сапраўдны і век-вечны.**

**Разумею, што гэта табе ўрок. Міне дзесятак гадоў, і будзеш анэкдоты расказваць пра свае размоўкі з нейкімі там лейтэнантамі ў цывільным...**

**Чым ты сабе галаву дурыш, хлопча?!"**

**У гэтым жа лісце С. Яновіч запрашаў мяне на свой літаратурны вечар у менскім Доме літаратара 29 кастрычніка 91-га. Мой настаўнік з Крынак падпісаў мне кнігу "Сярэбраны яздок". А вось размова так і не адбылася. Сакрат быў заняты аўтографамі, яго даставалі нашы тутэйшыя літаратары. Я не стаў настойваць на перамовах, я ціха знік. І, здаецца, гэта было правільна. Са мною доктар Сакрат быў і застаецца ў сваіх творах. Як і Максім Гарэцкі, як і Бядуля і яго "Пяць лыжак заціркі", як і шляхетны Купала.**

**Сакрат меў-ткі рацыю: прайшлі гады, дзесяткі суб'ектаў у цывільным спрабавалі залезці мне ў душу, але з гэтых спробаў нічога, акрамя калючай ружы вопыту, не атрымалася. Цяпер я паліваю гэтую кветку мужчынскімі слязамі любові. Калі я і слабы, дык хіба ў тым, што люблю, кахаю і цярплю здрады. Учора, калі я пачаў пісаць гэты матэрыял, маё "каханьне пад акупацыяй" легла з іншым. А сёння раніцай**

сустраканая досыць часта беларускасць дэкларатыўная, а не этнічная. Прынамсі, дагэтуль у “Белавежу” ўваходзіць усяго адзін аўтар, які нарадзіўся ў Беластоку, – ён, аднак, падтрымвае цесныя кантакты з бацькамі (Яраслаў Яновіч). Пісьменніцкі талент шліфуецца ў моўнай стыхіі, калі не ў вымеры народу, то, прынамсі, у вымеры асяроддзя, аб чым і сведчыць досыць вялікая плеяда нашых паэтаў, што паходзяць з цэнтраў паветаў (напр., Надзея Артымовіч з Бельска Падляскага). У разгляданай сітуацыі культуратворчую змярцвеласць можна параўнаць з эміграцыяй як перамяшчэннем у чужое абкружэнне. У гэтай роўніцы тут не відаць адрозненняў.

Вясковасць у нашай літаратурнай творчасці адчуваецца нават у тэкстах, адволі насычаных філасафічнасцю. Можна падумаць, што яна застанецца ў пісьменстве беларускай меншыні таксама і тады, калі са свечкай давядзецца шукаць аўтара з вясковым паходжаннем; бо мястэчкі ўзвышаюцца цывілізацыйным стандартам, а не адметным ад хутаранскага задзіры бачаннем справаў гэтага свету. Але я не песіміст у гэтай матэрыі і адчуваю ўзрастаючае значэнне псіхічнага скурчвання зямной кулі, або, калі інакш, узнікненне т.зв. глабальнай вёскі. Гэта як бы на будучыню Цяпершчына ж патроху спіхвае нас у тэматычны анахранізм; параксізмы плачу па страчанай ідылічна-анёльскай Аркадыі або туга па часах, калі хадзілі басанож, аручы коньмі, стаецца нечым незразумелым і для нашых гарадскіх дзяцей, не кажучы аб бліжэйшай або далейшай Еўропе. Такая паэзія патрабуе ўжо тлумачальных заўвагаў.

Будзем літаратурай глыбокай правінцыі? Так, але ў гэтым яе вялікі шанец на непаўторнасць! Прашу звярнуць увагу на ўбоства слоўніка і яго метафарычную бясколернасць у людзей з вялікіх гарадоў. Дык жа гэта паказальна ў шмат якіх аспектах, найперш успрымання чалавека чалавекам. Слова як інструмент, яго шматстайнасць і багацце, заўсёды красавала недзе ў экалагічна чыстай Барбарыі, і, узятае там і прыцягнутае на рынак культуры, падлягала апрацоўцы й пераацэнцы.

Гаворачы аб пагрозах, трэба памятаць і аб тых, наследкам якіх можа быць страта аблічча нацыянальнага творцы, ператварэнне ў польскага пісьменніка беларускай мовы. Гэта можна прадэманстраваць пры дамамозе эфекту корка, пагружанага ў ваду... Адносна лёгка ці нават падсвядома наступае заклапочанасць праблемамі, якія з усёй непазбежнасцю прадвызначаюць лёс гэтага закутка, як у фізічным, так і ў духовым маштабе, адначасна будучы прадуктам нацыі, што валодае дзяржавай. Нельга праяўляць глухату да Польшчы, але трэба зважаць, каб яе мелодыі не заглушылі ўласнага аркестравання.

Я вяртаюся да не даказанага да канца параўнання: плавок з коркавага дрэва можна выкарыстаць як добрую мысленную фігуру. Гэта знак на паверхні бачанага, які сігналізуе аб належнай глыбіні. Без вудара, тым не менш, гэта толькі вычварнае смецце. Так бывае з беларускім словам, не ўкарэненым у роднай глебе; бы ссохлае пустазелле, якое матляецца вятрамі і віхурамі. Яго існаванне апраўдана толькі тады, калі яно расце і квітнее, і дае плады. Калі яго заступіць іншае, зусім чужое – зменіцца візуальны краявід, з'ява на выгляд амаль неістотная, але – і тут адбываецца драма ў прыродзе – перажывае дэградацыю сфармаваная эпохамі ўласна падглеба. Тэрыторыя, пацярпелая ад асіміляцыі, вельмі доўга не ажывае, што проста-такі хрэстаматыйна ілюструе працяг гістарычнага Падляшша на карце літаратурнай Польшчы; колішняя седлецкая губерня ў паланізацыйным параксізме здолела выдаць на свет выбітную постаць Мікалая Янчука з Корніцы, аднаго з першых прафесараў Беларускага універсітэта, знаўцы ўсходнеславянскіх літаратур. І больш не нараджае для культуры аж па сённяшні дзень, перш як не будзе даведзена да канца рэкультывацыя, скіраваная на зліццё гэтага рэгіёна з арэалам этнічна польскім, як моўнага, так і псіхалагічнага. Досвед чалавецтва ў перыяд асіміляцыі культур, пажырання адной другою, выразліва апелюе да шэкспіраўскага "быць або не быць". Меншыня, засмактаная бальшынёй, гэта яшчэ малая драма. Нашмат большая разгортваецца ў выглядзе культураствяральнага апустыньвання асіміляванага працягу, зніштажэння ўзніклых у ім гуманістычных вартасцяў. Культуру можна лёгка панішчыць, але пасля гэтага яна ўжо не паддаецца аднаўленню (што здзіўляе невукаў на пасадах).

Беларускі пісьменнік у Польшчы як мастацкая індывідуальнасць насамрэч мала рызыкуе знаходжаннем у ізаляцыі, апрача аб'ектыўна функцыянуючага бар'ера мовы. Але яму на каліўца цяжэй з гэтай прычыны, чым тыповаму для краіны правінцыялу пяра. Гэтае меркаванне нічым не пярэчыць маім ранейшым высновам, калі мець на ўвазе ўнікальна адораных індывідаў. Але ўся літаратурная драбяза не мае шанцаў выплыць на шырэйшыя воды, дарма што, назіраючы з супрацьлежнага – польскага – боку, атрымвае для сябе непараўнальна большае задавальненне ў плане чытацкага ўспрымання, дзякуючы зацытаванай псіхалогіі абложанай цвярдыні. Гэта дабратворна не ўплывае на ўзровень тэкстаў і прафесійны рост, схіляе да эпігонства або нават шматслоўнасці, да грамадска-палітычнага прыслужніцтва. Пазалітаратурныя кіраўнічыя амбіцыі баналізуюць талент, надзьмуваюць яго павятовай геніяльнасцю, якая лопаецца як мыльная бурбалка пры сутыкненні з сапраўды рэальнай літаратурай. На жаль, гэта надзвычай частая драма аўтараў "Белавежы", якая, на шчасце, досыць хутка ўсведамляецца імі. Але яна заўсёды прысутнічае, мільгочучы ў эмоцыях і знарочыста невыразнай лініі гарызонту, што адмяжоўвае неба ідэі і зямлю жыцця; паміж існаваннем як творцы і як беларуса.

У нейкім з сваіх інтэрв'ю я канстатаваў, што стаў беларускім пісьменнікам ад палякаў і, больш таго, дзякуючы якраз ім. Гэта застала знянацку і мяне самога. Я пачаў разважаць над механізмамі майго выпадку. Журналіст, прапануючы мне такое пытанне, меў на ўвазе маштаб выдавецка-чытацкага розгаласу, але я адразу зарыентаваўся, што гаворка тут ідзе аб звычным кругавароце рэчаў: твор надае большую цану аўтару, калі ён перакладзены на іншыя мовы, найлепей у далёкім замежжы, прынамсі, за ваколіцай; ён прыспешвае яго належную ацэнку.

Завяршаецца мой пералік спецыфічных клопатаў пісьменніка беларускай меншыні, бо ўсе астатнія такія ж самыя, незалежна ад нацыянальнасці й мовы. Безумоўна, зварот да дылем творчасці, маёй і калегаў, а таксама роздум над тым, што польскае слова ў Польшчы само просіцца на вусны і паперу, а беларускае трэба спецыяльна "выклікаць", мог быць недастаткова ўсёабсяжным. Як бы штучна гэта ні гучала, але не адзін я ўбачыў у гэтай дадатковай мазольнай натузе будавання фразы менавіта плюс, своеасаблівы элемент мастацкага фільтру. Нахабнасць польшчыны, нібы неспадзеўкі, дала карысны павеў, які выдзьмуў прэч з прыгаршчы беларускіх зярнятаў апошняе пустазелле (лёгкасць кампанавання фразаў – абстрагуючыся ад геніяльнай рукі – немінуча прыводзіць да засмячэння празмернай шматслоўнасцю, лексічнай перагружанасцю). Вось такая дробная зацемка пад самы фінал гэтых развагаў.

*З польскай мовы пераклаў*
***Валерка БУЛГАКАЎ***
пры ўдзеле
***Сакрата ЯНОВІЧА.***

---

**яно прыйшло прасіць у мяне прабачэння. І, дружа Сакраце, што я мог, што я павінен быў сказаць. Мы глядзелі адно на аднаго з нянавісцю і неразуменнем. А побач на ложку ляжаў “Сярэбраны яздок”. “Каханне” пайшло без даравання, я схадзіў у душ, каб змыць ягоныя дотыкі, а потым раскрыў кнігу на старонцы нумар 125 і прачытаў:**

**“Ён пераконвае сябе, што да яго прыйдуць і папросяць з паклонамі. І будзе яму надта прыемна сказаць ім: не! Чамусьці не падумаў аб тым, што на свеце ёсць здольных больш, чым трэба... (...).**

**З набліжэннем саракавога года жыцця ён сапраўды зробіць нешта досыць таленавітае. Аднак жа будзе гэта ўжо запозна!**

**Убачыць, што прачакаў жыццё, а шчырэй кажучы – змарнаваў яго. (...).**

**Канец!**

**І яшчэ добра, яшчэ не безнадзейна, калі возьме яго злосць і крыўда бязмежная. Злосць з крыўдай – гэта ўсё-такі шанц!**

**Можна нават падумаць: яму ёсць што сказаць. Мо нават нешта такое, дзеля чаго не сорамна жыць...”.**

**Шкада, але колькі ні чытай, ды некалі радкі канчаюцца. Застаюцца слёзы ў вачах.**

**Дзякуй, доктар Сакрат! Вы дапамагаеце мне. А слёзы, слёзы – гэта таму, што дзякуй Богу, мы яшчэ любім. І няхай толькі жанчына можа прымусіць нас заплакаць.**

**“Лейтэнанты” – ніколі!**

**Славамір АДАМОВІЧ**

9 лістапада 1997 г

Я маю твор...

# Віктар ЖЫГОТА



*У змроку лебедзь самотна*
*лунаў між берагамі Вяллі.*

Раніцою
я
быў
залатою
ззяючай
глінай.
Уздоўж шляхоў,
бы ўзварушаны плугам нябесным, праменіўся.
Серабрыста-зялёныя парасткі прабіваліся ў
вільготных ды цёплых грудзях маіх. Жыццё
ўзнаўляла сваё аблічча.

Апоўдні, калі спёка зачаравала ўсё існае,
нерухомай зрабіла найболей імкліваю думку,
мільгануў маланкай, абурыўся громам, віхурай
пранёсся, каменным градам, бы ўчэпісты каршун,
паў на кволыя дрымоты. Сагнаў жуду задавальнення.
Абудзіў ваяроў.

Увечар срэбным пылам імгліўся, сціраючы
мары былога. Адкаласавалася жыццё. Конь
буланы звёз насенне ў таяўную скарбніцу.
Шлях ягоны вартаваў. Нябачным
зрабіў.

Ноччу Птахам Белым у творчым натхненні лунаў
паміж тым, што спынілася, і тым, Што несупынна.
Нячуйна кранаўся празрыстага вобраза будучыні.
Маўчаннем адгукаўся на датыкненні Вялікай
Моўчы. Захлынаўся ўрачыстым захапленнем
нябачнасці. Стагнаў ад самоты, ад жадання
падзяліць хлеб невымоўнай асалоды, – але ж
самота заставалася маім адзіным бяседнікам,
супрацоўнікам, сутворцам, маім найлепшым
сябрам, што распаляў жар майго жадання:

– Пакуль на досвітку ізноў
не ператварыўся ў пяшчоту творчай матэрыі;
– Пакуль не паклікаў, з сябе
самога, буланага каня, што вывез з таяўнай
скарбніцы адборныя зерні былога;
– Пакуль не засеяў неабсяжнасць
палёў сваёй думкі;
– Пакуль не абудзіў свядомасць
найлепшых парасткаў;
– Пакуль не падзяліўся асалодай
вечнага тварэння з лепшымі з найлепшых;
– Пакуль не спыніў сваю Мару...

Я,
твой
– менавіта твой –
творчы дух,

ТВОРЧЫ ДУХ БЯЗМЕЖЖА.



# Анатоль ДЭБІШ

У НАС



*Дзень сённяшні тварыць –*
*вось прызначэнне.*
*Пра заўтра іншы скажа*
*хай паэт.*
*Вось – гэты час,*
*Вось – гэтае імгненне...*

# УВАСКРЭСЕННЕ ІУДЫ

***Прапаную чытачам "Крыніцы" адну з дзей містэрыі "Уваскрэсенне Іуды". Вясковы паштальён Іван Сцяпанавіч Кучма трапляе ў вар`ятню з-за таго, што, судзячы сябе па найвышэйшых маральных законах, бярэ для сябе мянушку Іуда. У вар`ятні таксама іншыя ахвяры: Кашчэй, Люцыпар (ён жа Дыпламат), цар Саламон, Хама, Паэт. У кожнага свой лёс, але ўсіх іх, апроч Люцыпара, яднае адно – жывая Душа, якая яшчэ не закажанела сярод гвалту і тлуму жыцця.***

*Зала высокіх пасяджэнняў. З аднаго боку стала – Міністр, Маршал, Дыпламат (ён жа Люцыпар), з другога – Святар, Літаратар, Актор, Міс Прыгажосць.*

**Міністр**
Як жыць далей?..
Эліта скрозь бунтуе.
То мова ёй не тая, то сцягі.
Што заўтра раскажу валадару я?
Што хутка – крах,
паўсюль адны даўгі,
Што нам не выбрацца ніколі з бруду,
Што ўжо не любіць нас і просты люд?
Яшчэ з'явіўся нейкі там Іуда,
Які свой край пазбавіць ад пакут
Клянецца і вярнуць народу веру

**Дыпламат**
Пусціць Іуду трэба пад сякеру.

**Міністр**
Народ што скажа?

**Маршал**
Што казаць яму?
Ён – прамаўчыць.

**Дыпламат**
На плаху ці ў турму
Хто па сваёй існі жадае волі?

**Міністр**
А раптам бунт?

**Маршал**
Не быць таму ніколі!

**Святар**
Яму цяпер, магчыма, дапаможа
Закон грамадскі...
Не!
Дык словам Божым
Яго накіраваць на верны шлях.

**Дыпламат**
А што ваш Бог? Ці Буда? Ці Алах?
Суддзя адзін патрэбен.
Іх жа – многа.

**Святар**
Бог – шматаблічны.
І адзіны – Бог.
Ён годнасць наша.

**Дыпламат**
Колькі з імем Бога
На вогнішча паслалі і ў астрог?
Не дапамог ні Бог ім, ні маленні...

**Святар**
Такі быў час. І Бог тут ні пры чым.
Ён вырataваў душ людскіх не меней.
За гэта мы і ганарымся ім

**Дыпламат**
Ды гэта казкі вашы, а не былі,
З пачатку хрысціянства, столькі год,
Не Бога вы, адно сябе любілі
І імем карысталіся яго.
І любіце.

**Святар**
Ад гэтых слоў я ў скрусе.

**Дыпламат**
Ці соладка не хочаце пажыць?

**Міністр**
*(Перабівае іх.)*
Не для забавы ён прыйшоў, баюся.

**Святар**
Ну, калі так, – тады не грэх забіць.
Не грэх.
Дзеля дабра – царква даруе.

**Літаратар**
Ён проста кепскіх начытаўся кніг
Я іншых дам
Ці сам і напішу я.

**Дыпламат**
Няма карысці з кніжыцаў тваіх.
Ніхто іх..
Нават я іх не чытаю.
*(Звяртаецца да Міністра.)*
Аддайце мне яго на дзень-другі –
Яму я хутка выпраўлю мазгі

**Міс Прыгажосць**
Скажыце, а паненак ён кахае?
На дзень ці ночку да мяне, у ложак,
Забудзецца пра ўсё на свеце ён:
Ні гаварыць, ні есці нат не зможа –
Салодкі будзе гэтакі палон.

**Дыпламат**
Калі ж ён імпатэнт ад нараджэння?

**Міністр**
Купіць яго – грашыма ці жытлом
Каго не ўсцешыць свой уласны дом.

**Маршал**
Ці катаваць.
Паставіць на калені.

**Актор**
Хто зразумець чужое зможа гора?
*(Глядзіць у паперу, пафасна цытуе.)*
"Жыццё – гульня,
А мы – яго акторы,
І кожны з нас сваю іграе ролю .."

**Міс Прыгажосць**
Яму б – наркотыкаў ці алкаголю.
Няхай – жыве.
Няхай блукае ценем

**Міністр**
Дзе ж сам Іуда?

**Маршал**
Будзе праз імгненне.

*Усе пазіраюць на дзверы. Два вайскоўцы ў масках прыводзяць Іуду.*

**Міністр**
*(Звяртаецца да Іуды.)*
Чаго маўчыш?
Дык ты і ёсць Іуда?

**Дыпламат**
Казалі, што аслом ты ці вярблюдам
Народжаны

**Маршал**
Што маеш два гарбы

**Міс Прыгажосць**
А ты – нічога.
Крышачку рабы.
Але й такім цябе я пакахаю.

**Іуда**
Не рабацінне –
Гэта сонца ззяе.
І я, і вы – ад сонца, ад вады.
Зірніце,
Хто шчэ бачыць,
Вось туды
*(Паказвае ў акно. Усе напружана ўзіраюцца.)*

**Святар**
Блюзнерыць хопіць!
Там няма нічога.

**Іуда**
Не бачыце слядоў вы нават Бога!
Чаму вы навучаеце другіх –
Ці не блюзнерству?
Хмары,
Дрэвы,
Зоры –
Душа яго,
Яго жывыя творы
Ды прачытаць не зможаце вы іх.

**Міністр**
Навошта?

Ёсць у нас свае законы,
У іх – усё: і што, і дзе, і як.

**Святар**
Пра ўсё святыя кажуць нам іконы.

**Міс Прыгажосць**
Ды варажбіткі з вуліц – за пятак.

**Літаратар**
Чытаць.
Ці варта?
Дрэвы,
Зоры,
Хмары, –
Якімі бачыш – гэткімі пішы.
Рэаль жыцця найперш,
а потым – мары

**Маршал**
Душа!
Я пражыву і без душы –
Была б улада.

**Міс Прыгажосць**
Грошы.

**Празаік**
Кніжкі.

**Актор**
Слава.

**Дыпламат**
А хтось казаў, што ісціна ў віне...
Ёсць вечны я.
І вечная дзяржава.
*(Звяртаецца да Іуды.)*
А ты смяротны
Ці пазнаў мяне?
З нас кожны мае свой жыццёвы выбар
Камусьці – пекла,
А камусьці – рай.
Тут, на зямлі
Ну, дык пазнаў?

**Іуда**
Люцыпар. .

**Дыпламат**
Так, гэта я
Дык хоць руку падай.
*(Працягвае для прывітання руку, Іуда сваёй рукі не падае.)*

**Іуда**
Што ты атручаны,
Чуў неаднойчы плёткі
І атруціў цябе цар Саламон.

**Дыпламат**
Я кубак падмяніў – ахвяра ён.
А мог бы жыць.
Ды шлях яго кароткі
Перахітрыць мяне хацеў, нябога.
Ды разумнейшы і спрытнейшы я.
Цяпер ён – там.
Туды яму дарога...
А ці збылася ісціна твая?

**Іуда**
Маёй – няма.
Ёсць ісціна Сусвету.
Ёсць ісціна святла і нематы ..

**Дыпламат**
Яшчэ скажу, не стала больш паэта, –
Таксама залыгаўся, як і ты
Чаму ён так зрабіў – не разумею.
Здаецца, ён зусім не дурань быў.

**Іуда**
Не мог ён жыць без веры і надзеі
Таму й памёр, што час свой перажыў

**Літаратар**
Ён шмат хацеў.
А жыць нам трэба проста.
Што нам Сусвет?
Калі ў нас ёсць зямля...
Вось я жадаю жыць да дзевяноста.
Сягоння.
Так,
Як ёсць
А не пасля.
Дзень сённяшні тварыць –
вось прызначэнне.
Пра заўтра іншы скажа хай паэт.
Вось – гэты час,
Вось – гэтае імгненне. .

**Іуда**
Ці існуе ён – сённяшні наш свет?





За далямі якімі ён, снягамі?
Ён Дух ці рэч?
Тады ідзі – вазьмі.

**Міністр**
А што стаіш цяпер ты перад намі,
Што гэта?

**Іуда**
Я стаю перад людзьмі –
Часцінкамі матэрыі, безмежжа,
Пачаткам свету і яго канцом.
Ні я,
Ні вы, –
Сабе мы не належым...

**Святар**
Дзеля чаго?
Для Бога мы жывём

**Іуда**
Гармоніі жыцця
Жыцця і ладу
Гармоніі Сусвету і Душы

**Дыпламат**
З'явіліся на свет мы дзеля ўлады.

**Святар**
Пакаяцца.

**Іуда**
Каб зноў і зноў грашыць?
Сябе спазнаць – у тым да Бога выйсце.

**Дыпламат**
Мінаюць дні,
Ў нябыт плывуць гады.
Ды кожны з нас дзеля сваёй карысці
Жыве і жыў
І будзе жыць заўжды

**Міністр**
*(Звяртаецца да Іуды.)*
Шукаеш грошай, славы?
Ну, прызнайся...

**Святар**
Ты ведаеш, Хрыстос казаў. пакайся.

**Міністр**
Падумай!
Мы жыццё табе даруем

**Іуда**
Жыццё даўно падаравана мне.
Забраць яго не здолееце, не!

**Маршал**
Прыслухайся!
З табой мы не жартуем

**Іуда**
Мая душа – у вырай адляцела.
Яна з'яднана з небам і зямлёй

**Маршал**
Ды ёсць катоўня
І слабое цела,
Якія прымірыцца розум твой
Прымусяць

**Іуда**
Ды не вырвуць з сэрца веры

**Літаратар**
А наша вера ў аркушах паперы
Аповесць пішаш – верыш у яе
Пражыў жыццём і марамі герояў
І раптам заўважаеш – гэта мроя
Так – мроя і жыццё, і сны твае.
*(Звяртаецца да актора.)*
Вось ты, актор,
На сцэне колькі год
Рамэо закаханага іграеш.
Штораз, калі ў пакутах паміраеш,
У ладкі табе пляскае народ

**Актор**
*(Цытуе.)*
"Жыццё!
Жыццё!
Адвечная забава. "

**Міс Прыгажосць**
Уявіць нехта, што не мае права
На здраду
І пакутуе ўвесь век.

**Іуда**
Бо ёсць – яго ДУША.
Ён – ЧАЛАВЕК.

**Дыпламат**
Так, чалавек!
Вось ісціна,
Якую,
Не здолееш аспрэчыць нават ты.

**Літаратар**
Ён есць і спіць.

**Міс Прыгажосць**
Яго б‘юць і цалуюць

**Маршал**
Жаўнер ён

**Святар**
Ён і грэшнік, і святы.

**Дыпламат**
Не чужыцца яго душа нічога.
Ні зайздрасці,
Ні злосці,
Ні маны.
Заўжды бяздонне паміж ім і Богам.
Няма зусім у тым яго віны,
Што ён на свет народжаны аднойчы
Для смутку, для надзеі, для пакут
Што хлусіць ён нахабна так, у вочы,
Табе і мне
І не пазбыцца пут.

**Іуда**
Жыць трэба – у сабе.
І трэба – звонку.
З Сусветам, нібы з сябрам размаўляць,
А наша цела – толькі абалонка,
Якую мы не прагнем разарваць

**Міністр**
Усім тут месца хопіць – і табе.
Будзь толькі з намі ты заўсёды
ў згодзе.

**Іуда**
Адно на чыстай глебе жыта родзіць.
На камянях – не веснаваць сяўбе.
Як не пунсовець кветцы на марозе,
Так не спазнаць і радасці без слёз.
Быць з вамі мне зусім не па дарозе,
Інакшы мне наканаваны лёс.

**Міністр**
Які твой лёс – і нам усім вядома.

**Дыпламат**
Жадаеш,
Я пра лёс твой раскажу
Ў цябе ані сям‘і няма, ні дому,
Ты сам накрэсліў для сябе мяжу
Адрокся ад жыццёвых асалодаў,
Уцех кахання,
Не маніў,
Не краў
Ты на пакуты вечныя даў згоду –
І сам прысуд сабе ты падпісаў

**Іуда**
Распусна жыць ці гвалтам – не жадаю,
А для душы вышэйшы ёсць закон.
Вас не кляну

**Маршал**
Згадзіцца з намі раю

**Святар**
Ды, звар‘яцеў зусім,
Глядзіце,
Ён.
Што з блазна ўзяць?
Мо адпусціць дахаты?

**Міністр**
Яго – за краты!

**Дыпламат**
Так, яго за краты!

*Вайскоўцы выводзяць Іуду.*



# Віктар СЛІНКО

## Я маю твор...



***

У чорных студнях двароў
Толькі паветра, якім
Можаш ты дыхаць адзін,
У гэта імгненне, тут.

Аркі пусты праём.
Невідушча вокны глядзяць.
Хто мне адкажа, чаму
Сляды абярнуліся ў дождж?

Дзе, на якіх скрыжалях
Напісаць імёны кахання,
Каб блізарукае неба
Іх прачытала?

І на асмужаных веях
Халодныя пальцы дажджу
Адчуць.. І пачуць, як у студню
Падае, падае звон

З далёкай царквы.

# У НАС | Аксана ДАНІЛЬЧЫК



*Паўзе задуменна блакітная вадкасць,*
*То ўперад памкнецца, то рух запаволіць.*
*Жаданне пісаць, як жаданне паплакаць,*
*Каб вызваліць цела і памяць ад болю.*

# ІМПРАВІЗАЦЫЯ





***

**Жоўтая ноч. Поўню-сланечнік**
**Неслі аблокі ў вырай пялёсткавы,**
**І падымаліся заклікам вечным**
**Рукі людскія за ласкамі боскімі.**
**Гэтую ноч мілавалі адчайныя,**
**Песцілі ў думках сваіх асцярожныя,**
**Волі таемнай былі падначалены**
**Дрэваў гайданне і шэпты трывожныя.**
**Хто цябе сэнсам напоўніў загадкавым,**
**Казка жаданняў, песня вандроўная,**
**Доўгі палёт між дакладным і згадкамі,**
**Лёс пераменлівы, сілы няроўныя.**
**Можа адплацяцца спевы журботныя,**
**Можа пачуюцца слёзы гаючыя.**
**Кружыцца свет, быццам знічка самотная,**
**Да цішыні і чакання прывучаны.**
**Толькі ліхтар патаемнаю звадаю**
**Пераплятаецца з цемрай сіняю**
**І асвятляе пяшчотнай спагадаю**
**Цела твайго гарманічныя лініі.**

***

**Мой нерэальны свет, мой сон, маё імкненне ўвышыню,**
**Мая нястрыманая мара,**
**Як продкі пакланяліся агню,**
**Як неслі да яго свае ахвяры,**
**Так я імкнуся да твайго цяпла,**
**Схіляюся перад тваёю сілай,**
**Каб у маіх далонях ажыла**
**Палёту прага над штодзённым шэрым пылам.**
**Ты спі, шукальнік шчасця і прыгод,**
**Нязмораны шляхамі падарожнік.**
**Спыняе час сваіх імгненняў ход**
**І стрэлкі пераводзіць асцярожна.**
**І адыходзяць сум і мітусня**
**За край зямлі, дзе захад сонца тушыць.**
**І застаецца толькі цішыня**
**У дзвюх асветленых каханнем душах.**

***

**Яны ідуць упэўненай хадою,**
**Я разам з імі. З імі — і ўбаку.**
**Пад веснавой бліскучаю вадою**
**Я людзям падаю сваю руку.**
**Напоўненыя маем ручаіны**
**Збягаюць серпанцінам залатым.**
**Быць мудрай — гэта значыць быць жанчынай,**
**Каб даравацць і велькім, і малым.**
**Жаданне, што прываблівала ўчора,**
**Апошняй прыгажосцю прамільгне,**
**І вось перада мной празрысты горад,**
**Які цяпер належыць толькі мне.**
**Тут дзверы расчыняюцца гасцінна,**
**А я чамусьці стоена шапчу,**
**Што я кахаю гэтага мужчыну,**

Што іншага мужчыну не хачу,
Што не прашу дапамагчы нікога,
Бо вырастае крыллем за спіной
Усведамленне ўласнай перамогі
Над лёсам, над людзьмі і над сабой.
Ляцець у свет – каханай і адзінай,
Знаходзіць шчасце ў клопатах зямных.
Быць моцнай – гэта значыць быць жанчынай,
Каб бараніць і велькіх, і малых.

## *СВЯТЛАФОРЫ*

Мяне амаль не засталося.
Стаіць закінутым жытло
І па асфальце расцяклося
Тугі чырвонае святло.
Як папярэджанне з нябёсаў
Забараняе гэты шлях –
Не варта йсці па снезе босай,
Агонь трымаючы ў руках.

Задумлівыя далягляды
Свой адкрываюць карагод,
І жоўтае святло спагады
Надасць сюжэту новы ход.
Шкада, што перамена станаў
Нямалы патрабуе час,
І страчаныя спадзяванні
Успомняцца яшчэ не раз.

Народзінамі новай волі
Даніна сплачана даўно.
Зялёнае святло дазволу
Нарэшце ўспыхне за акном.
Былой пазбавіцца пакоры
І выйсці ў мільгатню машын,
І расплывуцца святлафоры
У зіхатлівасці вітрын.

***

Жыццё без фіранак. З бурштынавай плыні
Цябе забірае ультрамарын.
І цягне ў бясконцасць, і гукі застынуць
У формах нябачаных там на спачын.
Адкрытасць – без грыму і без дэкарацый,
Праходзяць праз шкло ў забаронены свет
Ласкавыя, гнуткія, чуйныя пальцы,
Каб дотыкам зведаць класічны сюжэт.
Блукае ўяўленне ля вобразаў крохкіх,
Фантазій, убачаных некалі ў снах.
Нядоўгім яднаннем прасторы і кропкі
Ствараецца мара аб двух берагах.
Падказаны думкам лагічны напрамак,
Мінорны акорд. І ўвасобяцца ў ім
Усе прывілеі жыцця без фіранак,
Імкненне вялікага зліцца з малым.





## *ІМПРАВІЗАЦЫЯ НА ЗАДАДЗЕНУЮ ТЭМУ*

*Дальше ехать некуда. Дальше не*
*отличить златоустца от златоротца.*
*И будильник так тикает в тишине,*
*точно дом через десять минут взорвётся.*

**І. Бродскі**

Рухаецца паветра
І разрывае ветразь.
Зялёнае робіцца жоўтым, каб потым стаць проста вецццем.
А за пахіленым плотам
Скурчыцца адзінота –
Блёсткі шукаць у смецці.

Холад пустой кватэры,
Вока скажае памеры,
Ад перакуленай століі адштурхнулася лодка.
Верасень як пачатак,
Пошук – няўдзячны занятак,
Калі яго не ацэніць знаходка.

Секс для адных паратунак,
А для другіх пачастунак.
Ні першыя, ні другія не зведалі сэнсу.
Секс не можа быць мэтай.
Толькі спасцігнуўшы гэта,
Можна знайсці кансенсус.

Радасць усіх натхненняў –
Шчырасць неразумення
Еднасці колеру неба з фарбай зямной палітры.
На скрыжаваннях дарогі
Людзі калечаць ногі,
Рукі, галовы, ад гэтага не ўратуецца нават хітры,

Той, што звініць грашыма.
І я скручу некалі шыю
У адной з авантур звычайных. Але не ад суму.
Вуснаў тваіх дакрануцца
І болей не азірнуцца.
Абагаўленне іроніі. Восень. Думай.

***

Сонца гарачай далоняй
правяло па бледным твары зямлі,
і зазелянелі яе вочы,
зацвілі яе вусны,
і людзі адчулі яе цёплае дыханне.

А я хачу ў той парк вясновы,
Дзе выпраменьвала вада
У пералівах адмысловых
Такое простае "аддай".
А там, у глыбіні бяздоннай,
Хаваўся першы знак спякоты,
І колер матылёў лімонны
Як пацалункаў першых дотык.
Там, у спакоі непарушным,
Кранаў стамлёны вецер космы,
Там юная студэнтка Ксюша
Паліла нетаропка "Космас"...

### *CORTONA*

**Ля ног раптоўна апынуўся цэлы свет –**
**Пластычных вулачак лагоднае маўчанне,**
**Раслін пакорлівых гарачае дыханне,**
**Званіц далёкіх дасканалы сілуэт.**

**У неабсяжнасці прасторавых шляхоў**
**Не існуе ніякіх вымярэнняў,**
**І птушкі цень затрыманым імгненнем**
**Апусціцца на вечнасць камянёў.**

**І вольны вецер пераменлівых забаў,**
**Насычаны кавярні горкім пахам,**
**Як па прыступках, па чырвоных дахах,**
**Збягае ўніз і туліцца да траў.**

**Душы сугучнасць і яе працяг –**
**У цэгле, бруку, дрэве і граніце,**
**І сонца распластанае ў зеніце**
**Не сочыць за наяўнасцю быцця.**

**Неверагоднай радасці крыло**
**Абараняе ад вачэй староннiх.**
**Мае далоні на тваіх далонях.**
**Да вуснаў вусны. Да святла святло.**

### *ПРАДКАЗАННЕ*

**На зледзянелую дарогу**
**Снягір выплёўваў арабіну,**
**Ліхтар глядзеў з перасцярогай,**
**Як белы двор у смецці гінуў,**
**А за фіранкаю чырвонай,**
**Гульнёй павелічальных шкельцаў,**
**Сустрэўся позірк падазроны**
**З ласкавым вокам у бутэльцы.**
**У цьмяным дыме тытунёвым**
**Знікаў адбітак прабачэння,**
**І абяцаў кароль бубновы**
**Магчымасць новага натхнення.**
**У дзень Святога Валянціна,**
**Паслаўшы ўсіх сваіх каханкаў,**
**Нерамантычная жанчына**
**Павольна напаўняла шклянку.**

***

**Паўзе задуменна блакітная вадкасць,**
**То ўперад памкнецца, то рух запаволіць.**
**Жаданне пісаць, як жаданне паплакаць,**
**Каб вызваліць цела і памяць ад болю.**
**Жаданне пісаць – неабходнасць знішчэння,**
**Таго, што мацней за звычайныя з'явы,**
**Душу раздрабніць на адзінкі збаўлення**
**І ў кожнай – шматлікіх пачуццяў праявы.**
**Інстынктаў гульня – ў харастве інтанацый,**
**Гармоніі фарбаў, багацці мелодый.**
**Паплакаць, стварыць, а пасля развітацца,**
**Каб зноў уяўляць, спасцігаць і знаходзіць.**



# Мікола КАНАНОВІЧ

## Я маю твор...



***

Стылая сінь снягоў,
Сум туманоў сівы
Заледзянілі кроў,
Запаланілі сны

Не грэе вясна цяплом –
Холадам доўжыць дзень.
За згніўшым старым гумном
Згубіўся аблудлы цень..

На ростанях, на мяжы,
Стаіўся жыцця адчай, –
Крычыць у тваёй душы
Абрабаваны Край.

# Мікола ЦЭЛЕШ



*Колькі нашага няшчаснага беларускага народу пагінула ў вязьніцах, на Кальме, за Уралам. .*

## *Пра Міколу ЦЭЛЕША*

**“Нарадзіўся 25 ліпеня 1900 году ў вёсцы Зазер’е Есьмінскай валасьці, Барысаўскага павету, Менскай губерні. Бацька – Яўхім, маці – Барбара, абодвы – сяляне. У 1911 годзе скончыў вясковую школу. Настаўніца (пазьней жонка Янкі Купалы) дамаглася, каб мяне аддалі ў “Вышеначальное училище” за сямнаццаць вёрст”. Так пачынае Мікола Цэлеш свой жыццяпіс, зьмешчаны ў ягонай кнізе “Хмары над Бацькаўшчынай” (Нью-Ёрк, 1995), якая пабачыла свет тады, калі аўтар ужо не мог падпісаць яе сябрам.**

**Пасля грамадзянскай вайны Цэлеш стала жыў у Мінску, працаваў у часопісе “Паляўнічы Беларусі”, да 1941 года паспеў выдаць чатыры кніжкі прозы, першую з якіх рэдагаваў Міхась Чарот.**

**Далейшы жыццёвы шлях Міколы Цэлеша густа ахутаны таямніцаю. Паводле адных звестак, ён разам з сям’ёю быў арыштаваны на пачатку вайны гестапа і вывезены ў Нямеччыну. Паводле іншых – выехаў на Захад у 1944-м. Праз пяць гадоў пісьменнік пасяліўся ў Нью-Ёрку, але трывалых сувязяў з беларускай эміграцыяй не падтрымліваў. Як сведчыць дырэктар Беларускага Інстытута навукі і мастацтва ў ЗША Вітаўт Кіпель, прычын было дзве: замкнёны характар і кантакты з Максімам Танкам, якому Цэлеш нібыта дасылаў свае творы для публікацыі ў савецкім друку.**

**У 1965 годзе ў ЗША выйшла кніга М. Цэлеша “Дзесяць апавяданьняў”, пасля чаго фактычна спыніліся нават эпізадычныя яго кантакты з суайчыннікамі. Са слоў жонкі вядома, што ў 1976-м пісьменнік аднойчы не вярнуўся дадому, пасля чаго ніхто не бачыў яго ні жывым, ні мёртвым.**

**Апрача дынамічных, з добра распрацаваным сюжэтам апавяданняў і нарысаў, пяру Міколы Цэлеша належаць таксама пераклады з венгерскай і ідыш.**

**“Яшчэ адзін згублены для Бацькаўшчыны працаўнік, добразычлівец, патрыёт і пісьменнік”, – напісаў пра яго ў сваіх успамінах Вітаўт Кіпель.**

**Уладзімір АРЛОЎ**





# “ЯНКА СЕЯЎ – ЛЮДЗІ ЖАЛІ”

I

Кузьма Вальтэр атрымаў пяць год Калымы за дурноты. У палітыцы ён мала кеміў і наагул быў чалавекам пасыўным, але сярод студэнтаў вылучаўся здольнасьцямі. Гэтым апошнім крыху злоўжываў, што ўласьціва амаль усім або шмат каму зь юнакоў І калі на сцэну ў дзень кастрычніцкіх урачыстасьцяў зьяўляўся той ці іншы прамоўца із сваім неадменным “падвядзеньнем вынікаў”, ён знаходзіў для яго вельмі трапную характарыстыку. Гэта сьмяшыла сяброў, што сядзелі побач, і на іх нехта нябачны зьвярнуў увагу. Затым, ужо на банкеце, якім заўсёды канчаюцца падобныя ўрачыстасьці, была зроблена й другая неасьцярожнасьць. А тут якраз і трэба найбольш высьцерагацца, бо НКУС, бясспрэчна, ведае прыказку: “Што ў цьвярозага ў галаве, тое ў п’янага на языку”...

Сядзелі хэўрай за сталом, налівалі ў шклянкі “нарзан” (ад слова “нарэзаўся”, значыць, напіўся), расказвалі адзін аднаму розныя гісторыі, жартавалі, сьмяяліся... Кузьма быў у цэнтры ўвагі. Часам да іх падыходзіў хто-колечы зь кіруючых, напрыклад, парторг, заўвуч або й зусім хто-небудзь зь незнаёмых, але важных асобаў, і таксама падымаў напоўненую шклянку.

– Ну, сябры, вып’ем! Чаго-ж, на тое й сьвята, каб усім было весела!

Стукаліся шклянкамі, праліваючы вадкасьць на па-сьвяточнаму прыбраны стол, і выпівалі. Кузьма раптам заўважыў:

– Ну, вып’ем! Хроніка зазначае: расеец выпіць ня дурань! От на што-небудзь іншае дык глузду часам не хапае...

– Ну, Кузьма, гэта ты ўжо беспадстаўна... Былі-б у мяне такія здольнасці!

– А хто сказаў, што я расеец?

– Ну, калі не расеец, дык “малодшы брат”.

– Зусім не! Чуеш, як гучыць маё прозьвішча? Можа быць, крыху немец, крыху ангелец, прасьцей кажучы, – цэлы інтэрнацыянал ува мне адным...

– Што-ж, гэта нядрэнна, ува ўсякім разе “на даным этапе”...

Кузьма працягваў:

– Апрача таго, калі-б і расеец, дык гэта зусім не пярэчыць таму, што я сказаў, бо весь ужо год, як пішу дысэртацыю па дыямату й ніяк не магу скончыць!

Усе весела засьмяяліся.

– Так, маючы такую нагрузку, як ты? Ты-ж прыходзіш на лекцыі толькі паспаць!

– А якога чорта там рабіць? Выйдзе вось гэтакі кагуцік і пачынае кукарэкаць аб

“адпаведнасьці вытворчых адносін вытворчым сілам...” Трэба разумець. “дыялектыка што дышла, куды павернеш, туды й выйшла...”

Зноў усе гучна засьмяяліся. Але знайшоўся й такі, што папераджальна сказаў·

– Цішэй, хлопцы! Няпрыстойна-ж усё-ткі гэтак...

Гэта быў аднакурснік Кузьмы і ягоны першы сябра Нупрэй Орлік.

– Што няпрыстойна? Сьмяяцца? Ты, як будучы лекар, мусіш хутка рэцэпты выдаваць на сьмех, бо, зразумей, памірае...

– А гэта востра ўсё-ж: дыялектыка што дышла... – заўважыў студэнт Алесь, калі зноў аднавілася цішыня.

– Ты, Ляксей, чалавек божы, відавочна, п’яны? Дыялектыка – гэта аснова марксысцкага пазнаньня існуючага, – раптоўна атакаваў яго Орлік. – І што тут ёсьць недакладнага?

– Нічога! Сёньня пабалаголіць можна! – умяшаўся Кузьма.

– І ты таксама, Кузьма, сёньня нешта збэсьціўся...

– Дыялектыка – гэта ёсьць спосаб давесьці... – сур’ёзна загаварыў Алесь.

– Давесьці, што ты грыб, а не студэнт! – пасыпалася на яго з усіх бакоў.

– Хай сабе грыб, але першы, Баравік (такім было ягонае прозьвішча).

– Ну й баравік! Проста атрутны мухамор, смаршчок!

– Я нават скажу, што й не смаршчок, а звычайны грыб, неазначанага роду, сьмярдзючы шаплык, як кажуць у нас...

Зноў усе весела засьмяяліся, і гэтым інцыдэнт быў-бы скончаны, каб не ўмяшаўся нехта пабочны.

– Пра што спрэчкі? – спытаў

– Ды ні пра што! – быў адказ. – І наагул, ніякіх спрэчак няма.

– Дыялектыка што дышла. . – усё-ж захіхікаў Алесь Баравік. – Не, як сабе хочаце, а гэта прамоўлена...

Адразу-ж усе прыціхлі.

– А вы ведаеце, грыбы-ж самі сеюцца, – заўважыў Орлік, шматзначна пераглядаючыся зь сябрамі. – Таксама, як і дурні...

– Намёк быў вельмі выразны, і гутарка адразу-ж спынілася. Але моўчкі сядзець было няёмка, і нехта запрапанаваў:

– Давайце засьпяваем!

– Не! Гэта наробе шмат шуму, якога ў залі й так, хоць адбаўляй!

Сапраўды, за сталамі амаль нікога ўжо ня было. Хадзілі, курылі, гучна размаўлялі: нейдзе стукалі більярднымі кіямі; нейкая падвыпіўшая дзяўчына гістэрычна рагатала .. І ўсё гэта пакрывалася шалёным звонам фартап’яну, на якім нехта прабаваў зайграць. “У Кацюшы выраслі ігрушы, бо ночку ў садзе правяла...”, але з-пад п’яных пальцаў выслізала клявіятура. Урэшце яму ўдалося схапіць матыў, і яго адразу-ж падхапілі п’яныя галасы.

– Вось бачыце? Папросім лепей Кузьму прачытаць што-небудзь, – запрапанаваў Орлік.

– Які-небудзь верш!

– Які там верш! Ён можа нам цэлага Джамбула напамяць выкласьці.

– Маналёг Раскольнікава – ён прыхільнік Дастаеўскага.

– Ён – прыхільнік Дастаеўскага? – пачуўся голас таго-ж незнаёмага, які пытаўся толькі што аб спрэчцы, але некуды быў адышоўшы і цяпер зноў стаяў за сьпіной Кузьмы.

– Шпіцаль! – адразу-ж прыйшла ў галаву шмат каму адна й тая-ж думка.

– Мы – студэнты! Мы мусім ведаць ня толькі тое, што выклікае спачуваньне, але й тое, што ўпакараньне...

Кузьма больш адчуў, чым зразумеў, што акалічнасьці склаліся неяк нядобра. Але яго нешта штурхала, як гэта нярэдка бывае зь ня зусім цьвярозымі людзьмі, зьдзівіць чым-небудзь прысутных. Ён падняўся, каб голас ягоны больш даходзіў да слухачоў, і прадэклямаваў верш Янкі Купалы – верш, які быў быццам-бы забаронены, але тым ня менш ня сходзіў з вуснаў людзей. У вершы гэтым шмат разоў паўтараліся радкі:

*Янка сеяў – людзі жалі,*
*А зязюлька кукавала:*
*Ку-ку! Ку-ку!*

Чытаў Кузьма сапраўды добра й заслугоўваў на пахвалу, але, калі скончыў, наўкола стаяла амаль мёртвая цішыня.





II

Здавалася-б, усё гэта – дзяцінныя гульні, на якія ня сьлед зьвяртаць увагі. Толькі пару гадзін таму на ўрачыстай частцы вечара столькі было слоў пра волю, а ўсё-ж і гэтым нехта зацікавіўся. Першым пра гэта даведаўся Орлік. Кузьма яшчэ ляжаў у ложку з кніжкай у руках (студэнты жылі ў інтэрнаце), калі Орлік падышоў да яго. Быў усхваляваны або, праўдзівей, прыгнебены. Аблакаціўся на ложак супроць Кузьмы, і вочы іхныя спаткаліся. Кузьма адразу-ж зразумеў: нешта здарылася. Запытаў сьцішаным голасам:

– Хворы ці што – з перапою?

– Так, хворы! І вельмі дужа хворы... – скрывіўся. – Але як мне сказаць табе пра гэта?

– Што за выбрыкі?! Язык у цябе прысох?

– Здаецца, на цябе зрабілі данос. Але ведай: я пра гэта з табой ніякай гутаркі ня меў, – памаўчаў. – У мяне й без таго клопатаў хапае...

– А што здарылася?

– З бацькамі нядобра.

– А што зь імі ёсьць: раскулачаныя, сасланыя?

– Пакуль – не! Але вось прычапіліся, што некалі мелі малатарню, пазычалі суседзям, значыць, – эксплуататары, жылі з чужой працы...

– Тутака няма лёгікі. Кожны што-небудзь пазычае ў суседа.

– Ты шукаеш лёгікі? А якая лёгіка ў тым, што цяпер вынішчаюць пад корань усю нашу інтэлігенцыю? Рэвалюцыя-ж была за вызваленьне ўсіх народаў з-пад ярма расейскага шавінізму й за вольнае станаўленьне гэтых народаў у сваіх межах. Макіявэлеўшчына! – Орлік прыкра ўхмыльнуўся – Але я ня з гэтай прычыны пачаў з табой гаворку: хочу папярэдзіць – сьцеражыся!

– Пра які данос ты пляцеш?

– Я-ж сказаў: на цябе ёсьць данос!..

– На мяне?

– Так, на цябе! За ўчарашняе, я так думаю.

– А што ўчора здарылася? – задумаўся. – Ах, гэта? Які можа быць данос, калі я зусім сумленны! Ды пры тым яшчэ – нашчадак пралятараў!

– Ну, як хочаш!

– Але адкуль у цябе гэтакія весткі?

– Бачыў, як Баравік празьмерна пасьпешна выскачыў із спэцаддзелу.

– На падставе гэтага ты мяркуеш, што на мяне данос? Але-ж ён ходзе туды штодня, бо яму даручана рэгістрацыя вайскоўцаў. Якая дурнота! І пра што на мяне могуць даносіць, калі я чысты, як крышталь?!

– Ну, не скажы, і на крышталю могуць знайсьці лішаі, калі гэта патрэбна.

– Але-ж у цябе няма ніякіх ня толькі доказаў, але й пасьлядоўнасьці?

– Бачыш, Баравік тут раззваніў пра ўчарашняе па ўсяму ўнівэрсітэту, і стварылася ўражаньне...

– Учора я ня быў п’яны й дасканала памятаю ня толькі кожнае маё слова, але й гэст, зь якім яно было выказана. Тое, што пакпіў з прафэсара па дыямату? Але-ж ён – мішэнь для кпінаў ва ўнівэрсітэце!

Гэтая гутарка адбылася, як было ўжо зазначана, раніцой наступнага дня пасьля ўрачыстасьцяў; а гадзіне чацьвертай нечакана зьявіўся загадчык спэцаддзелу таварыш Падкаблук. Прайшоў разы два па залі, кінуў позіркам на ложак Кузьмы. Хаця той, здавалася, і ня прыняў блізка да сэрца паведамленьне сябра Орліка, усё-ж гэта яго крыху занепакоіла. На працягу цэлага дня нікуды ня выходзіў, за вылучэньнем у сталоўку праглынуць сьняданьне. Як толькі вярнуўся, зноў разабраўся і лёг на ложак. Узяў у рукі кніжку, але чытаньне ў галаву ня йшло. “Дзіўна – данос!? Які можа быць данос на мяне? Хіба ня ведама, хто я? І што мог раззваніць гэты ішак, Алесь Баравік? Дыялектыка што... Але-ж гэта жарт! Хіба ён гэтак страшны? Верш Янкі Купалы! Добры верш, прачулы, лірычны Людзі пяюць яго. Пабольш-бы гэтакіх вершаў! Дурнота нейкая з гэтым даносам. . Не, Орлік проста здэнэрваваны сваімі асабістымі справамі – няпрыемнай сытуацыяй з бацькамі – і свой настрой хоча перадаць іншым...” Адклаў убок кніжку й задумаўся. Хай сабе даносяць! Ягонае сумленьне чыстае, і ён спакойны. Зноў пачаў чытаць, але радкі, быццам жывыя, рухаліся й рассыпаліся перад вачыма. “Гэта пройдзе, трэба толькі прагуляцца, дыхнуць сьвежым паветрам” Апрануўся й выйшаў на калідор. Насустрач яму ішоў таварыш Падкаблук, быццам спэцыяльна нейдзе тут яго чакаў.

– Вось і добра! – падумаў, адчуваючы ўсё-ж трывогу ў сэрцы. – Можна будзе зь ім адразу-ж гэную справу й высьветліць...

Аде Падкаблук, не дайшоўшы да дзьвярэй інтэрната, сам паклікаў да сябе студэнта пальцам.

– Зайдзіце, калі ласка, да мяне на хвілінку, – прашаптаў, як-бы баючыся, каб хто не пачуў. – Ведаеце куды? У спэцаддзел, пакой нумар дзевяць...

Кузьма зазірнуў яму ў вочы і ўбачыў у іх нешта хітрае, лісьлівае і, разам з тым, пагрозьліва-падступнае "Якія брыдкія вочы, – падумаў, – жоўтыя, як у д'ябла!" Але запытаў·

– Калі – цяперака?

Падкаблук ледзьве не падскочыў.

– Чаго-ж вы крычыцё? Чаго крычыцё? – і потым зь незадавальненьнем. – Зразумела, цяпер! А то калі-ж? – азірнуўся і зноў зашаптаў, ужо ветліва: – Перад тым, як увайсьці, пастукайце ў вакенца, вось гэтак во! – і пальцам пастукаў у сьцяну, паказваючы, як трэба. – Пашпарт маеце із сабой? Добра! Не забудзьце пашпарт!

Павярнуўся й пайшоў у той бок, адкуль зьявіўся

Кузьма адчуваў, як пачынае разьбіраць яго хваляваньне. "Дзіўна!" – парушыў плячамі. Вярнуўся ў залю, выняў з сундучка пашпарт, паклаў яго ў кішэню і ўзьняўся нагару Але пакою нумар дзевяць нідзе ня было – усё ішлі соткі. Ён успомніў: нумары для большай зручнасьці ідуць ад сотак. Падышоў да нумару 209 Праўда, у дзьверы было ўробленае невялічкае вакенца, такое невялічкае, каб толькі можна было празь яго зазірнуць на калідор з пакою. Пастукаў, як вучыў Падкаблук. Вакенца адчынілася, нібы аўтаматычна, і паказаўся твар заўспэцаддзелу. Быў як-бы заклапочаны, павекі падміргвалі.

– Ага! Вы? Заходзьце!

Француская замок на дзьвярах мякка пстрыкнуў, і дзьверы бяз шуму адчыніліся. Як толькі Кузьма пераступіў парог, зараз-жа зачыніліся.

– Ну, вось і новы кліент Сядайце!

Кузьма азірнуўся. Ён і ў думках ня меў, што пры ўнівэрсытэце можа быць установа, нагэтулькі засакрэчаная. Дзьверы, сьцены, столь, навет рамы вакон, усюды, дзе мог пранікаць гук, былі абкладзеныя нечым мяккім – коркам або ватай, або тым і другім. Зьверху абабітыя цыратай. Падлога засланая мяккім і грубым дыванам. Але мэблі было параўнаўча мала: тры-чатыры крэслы, апрача двух фатэляў, канапа і ў кутку пакою агнятрывалая шафа. На сьценах віселі колькі партрэтаў· Ленін, Сталін, Дзяржынскі і Яжоў

Падкаблук узяўся за адзін з трох, стаячых на стале, тэлефонаў. Потым перадумаў, паклаў слухаўку на мейсца й зьвярнуўся да Кузьмы·

– Ну, што, пакукуем?

Студэнт зачырванеўся.

– Пашпарт пры вас?

Кузьма перадаў пашпарт.

– Уперад мушу вас папярэдзіць: сам факт, што вас сюды паклікалі, а таксама тое, аб чым з вамі тут размаўлялі, мусіць застацца таямніцай. Зразумела?

– Зразумела.

– Калі-ж бы выявілася, што вы свайго слова ня стрымалі, будзеце адказваць, як за разгалошваньне дзяржаўнай таямніцы...

Потым Падкаблук пачаў дапытваць Кузьму пра ягонае асабістае жыцьцё: дзе праводзіць час, зь кім спатыкаецца, якія вядзе гутаркі. Кузьма адказваў, што, апрача навукі, ён мае васьмігадзінную нагрузку ў школе, для гульні часу ня мае, і таму знаёмствы ягоныя абмяжоўваюцца студэнцкім і настаўніцкім асяроддзем.

– А вы не знаёмы з палкоўнікам Міхалам Дуброўскім?

Кузьма зразумеў, што прозьвішча выдуманае, і спакойна адказаў:

– Ведаю аднаго Дуброўскага, сакратара райкому, а ці палкоўнік ён, ці не, ня ведаю...

Падкаблук на момант як-бы зьмяшаўся.

– Ага, так?! А вось вытлумачце, як вы ўчора правялі вечар кастрычніцкіх сьвятаў· ці ня здарылася з вамі чаго-небудзь асаблівага, ці не спаткаліся вы зь кім-небудзь такім... ну?

Кузьма перадаў усё пра вечар, як і было, бо дагадаўся, што Падкаблук дастаткова паінфармаваны.

– Гэтак нядобра! Вось-жа вы там кідаеце розныя туманныя тырады... І гэты верш, як ён там: "зязюлька кукавала" ці што?





– Янка Купала – народны паэта, узнагароджаны ордэнам. .

– Так, усё гэта праўдзівая. Але бывае ўсялякае й зь вельмі вялікімі людзьмі, штож казаць пра народных паэтаў?

– У вершы гэтым няма нічога, што магло здавацца супярэчлівым...

– Вы так перакананы? Гэта даволі дзіўна, прымаючы пад увагу ваш век. Я, напрыклад, знаходжу ў ім і вельмі шмат, як вы кажаце, супярэчлівага... – Ён узяў нейкі лісьцік паперы й пачаў: – Па-першае, высьмейваньне калгаснага будаўніцтва – адчыненае, нахабнае... Вось нейкі Янка сеяў, а прыйшлі людзі й зжалі! Хіба гэта не намёк на беднату й не абарона кулака? Па-другое, у той час, як Янка сеяў, зазюлька кукавала. Якая яна, гэтая птушка?! А птушка яна такая, што не клапоціцца аб сваім дабрабыце – ня робіць сабе гнязда, а забіраецца ў чужыя... Хіба тут, у гэтай бяздомнай птушцы, не відавочны намёк на пралятарскую клясу, вясковую беднату й ліквідацыю прыватнай уласнасьці на аднэй шостай зямной кулі? Не працуюць, ня дбаюць, а як Янка пасее, сажнуць! Так, Янка Купала народны паэта, адзначаны ордэнам, пакінем яго ўбаку, хай жыве сабе на здароўе, пакуль што. Але чытаць такія вершы публічна!? Адно толькі аблягчаючае віну ёсьць ува ўсім гэтым – гэта тое, што вы нічога не схавалі, паведамілі пра ўсё, як яно было... Калі вы захочаце пакапацца ў сваёй памяці і ўспомніць тое, што зь вечарам ня зьвязана, але мае для нас вялікае значэньне, дык вам гэта дапаможа знайсьці правідловы шлях у будучыні.

Як гэта ня дзіўна, Кузьма зарагатаў – зарагатаў ад усіх гэтых бязглуздых інтэнцыяў і выдумак. Падкаблук зірнуў на яго ўніклівым позіркам. Але тут быў усё-ж унівэрсітэт, і ён нічога лепшага не знайшоў, як толькі змаўчаць. Узяў слухаўку тэлефону, прыклаў да вуха. Ціха й доўга размаўляў зь некім. Потым, таксама ціха, зьвярнуўся да Кузьмы.

– Вельмі шкадую, але абавязаны параіць вам безадкладна зьявіцца ў вадну паважаную ўстанову на Савецкай. Вы, зразумела, дагадваецеся, у якую? Не палохайцеся, яна страшная толькі для контррэвалюцыянэраў, шпіёнаў і дывэрсантаў. Людзей-жа сумленных яна бярэць пад сваю апеку і ахову...

І ён пачаў тлумачыць, як патрапіць у гэтую ўстанову, куды для гэтага патэлефанаваць і да каго зьявіцца.

### III

Кузьма, не заходзячы ў інтэрнат, выйшаў з будынку ўнівэрсітэту. Ідучы, ён ня стаў разьбірацца ў тых супярэчнасьцях, якія хаваліся ў вапошняй заўвазе Падкаблука адносна "паважанай установы". Ён спадзяваўся: там разьбяруцца. Страшная для контррэвалюцыянэраў, дывэрсантаў і шпіёнаў. Ён-жа не дывэрсант, ня шпіён і ня контррэвалюцыянэр! Яму ня можа пагражаць нічога благога. Тое, што тутака нагаварыў гэны крэтын, проста плюгаўства, на якое ня след зварачаць увагі.

Увайшоў у пад'езд паважанай установы, знайшоў тэлефонную будку, набраў паданы Падкаблуком нумар. Яму нехта адказаў: – Трэба чакаць, паклічуць. – Добра! Калі не сьпяшаюцца, значыць, няма ніякай і небясьпекі! Проста разьдзьмуханы пажар! Не сьпяшаюцца!? Ён прайшоў па прыймовай залі. Агледзеў сьцены з партрэтамі й лёзунгамі. Прачытаў на адным: "ЧК – ДПУ – НКУС – вартаўнік рэвалюцыйнай законнасьці". Што тут страшнога? Наадварот, вельмі добра! Якое жыцьцё без законнасьці? Выглянуў праз акно, застаўленае кратамі. На дварэ ціха, як у магіле, нідзе ніякіх жахаў. І чыста, культурна. Як відаць, і праўда, больш выдумак пра гэту ўстанову. Злыя языкі, таму што сьцірае з твару зямлі дывэрсантаў, шпіёнаў, контррэвалюцыянэраў. Для іх можа быць страшная! Засьвістаў нейкі матыў, як свой чалавек у гэтай ўстанове, і сеў на адну з лавак, што стаялі каля сьцяны й на якіх ужо сядзелі, галоўным чынам, чамусьці жанчыны. Якраз у гэты час вакенца адчынілася, і яго паклікалі па імю й прозьвішчу.

Як толькі ён зайшоў за дзьверы, зь ім цацкацца ня сталі: скамандавалі падняць рукі ўгару й абшукалі кішэні. Потым прымусілі распранацца, як маці радзіла. Заглянулі ў рот, у вушы, ва ўсе дзюркі й шчэлкі. Круцілі налева, направа, нешта сьпісвалі; глядзелі ў твар і ў вочы; зьмералі й зважылі; ашчупвалі кожны рубец і кожны гузік у вопратцы. Урэшце загадалі апранацца. Ну, цяпер, мабыць, адпусьцяць!" Але яго павялі ў нейкі калідор і загадалі чакаць, пакуль зноў не паклічуць. Стаяла адна-адзіная лаўка, і ён сеў. Гумар ягоны адразу-ж зьнік. Абразьліва было ўспамінаць, як яго абшуквалі. Што-ж, выходзіць – арыштант? Хацелася то плакаць, то крычаць, то ірваць на сабе валасы, то стукацца галавой аб сьценку. Чакаў выкліку, і тады будзе пратэставаць. Але ніхто ня прыходзіў і ня клікаў: на калідоры было ціха, пуста, толькі час ад часу, нейдзе далёка, мабыць,

у "амэрыканцы", аб існаваньні якой ён чуў, нейдзе там ляскалі нейкія зялезныя запоры. Цяпер інтарэсы навукі, працы, адпачынку, сну й усяго іншага, чым жыве нармальны чалавек, адсунуліся на задні плян. Ламаў пальцы. Раптам яму стала зімна. Здавалася, на дварэ студзёны дождж із сьнегам, у той час як стаяла цудоўнае надвор'е

Ён сядзеў ужо гадзіну, потым другую, трэцюю... Забалела сьпіна, і думкі лезьлі ў галаву самыя змрочныя. Ён навет падумаў, ці не ўцячы яму адгэтуль? І хай тады вырашае сам лёс, што зь ім будзе. Ён паспрабаваў адчыніць дзьверы, якія, на ягоную думку, маглі выходзіць на вуліцу або куды-небудзь на задворак. Але за дзьвярыма быў нейкі катух, у якім стаялі насілкі, а на іх ляжалі вымачаныя крывёй анучы, два раменныя бізуны, цьвікі, малаток, а збоку стаяла вядро з вадой... Не пасьпеў ён зачыніць з агідай дзьвярэй, як з пакою насупраць нехта выйшаў і спыніўся ў яго за сьпіной. Кузьма так спалохаўся, што баяўся варухнуцца і азірнуцца. Але той, хто стаяў за сьпіной, сказаў·

– Прыбіральня ня тут

– Я ня маю патрэбы, – мэханічна адказаў Кузьма.

– Ну, то пойдзем!

Пакой, у які яго ўвялі, быў невялікі, але ён злучаўся з двума іншымі – налева й направа. Дзьверы ў іх былі адчыненыя. Каля адных зь іх, паставіўшы крэсла проста на праходзе, сядзеў зь вінтоўкай баец. Кузьма зразумеў, што цяпер яму адсюль ужо ня выйсьці, і ён мэханічна спыніўся на парозе. У другім пакоі, за вялікім сталом, заваленым паперамі, стаяў чалавек у вайсковай хворме з малінавымі пятліцамі на мундуры Твару ягонага ня было відаць, бо ён глядзеў у паперы.

Сонца ўжо вісела на кончыку дугі, па якой ходзіць ад усходу да заходу. Крывавыя промні, ахварбаваўшы неба, нацэліліся ў вокны. І ўсё ў гэтым пакоі: і людзі, і рэчы – здаваліся чырвонымі, быццам залітымі крывёй. Кузьма стаяў і чамусьці доўга глядзеў на кончык багнету, добра адточаны й таксама заліты сонцам. І яму здавалася, што й з багнету таксама сочыцца кроў...

Раптам той, у вайсковай хворме, узьняў галаву, кароткім позіркам зірнуў на Кузьму і як-бы ўсьміхнуўся.

– Філёзаф! – прамовіў.

І зноў панік у чытаньне папераў.

Прайшло хвілін пяць або дзесяць. Кузьма чакаў. Ногі ягоныя зьдзервянелі. У вушах зьвінела. Ён адчуваў, што тоне, і яму хацелася крычаць аб дапамозе, як некалі ў дзяцінстве, калі ён сапраўды тануў.

– Ку-ку! – зноў адгукнуўся вайсковец.

І зноў апусьціў вочы ў паперу. Потым ужо сувора да байца:

– Ну, што-ж ён будзе стаяць!? Адвядзі яго ў адзіночку "амэрыканкі", хай там пакукуе...

## IV

Кукаваў Кузьма ў "амэрыканцы" досыць доўга, каля дзевяці месяцаў. Потым яго асудзілі завочна на пяць год Калымы. Калі адпрацаваў чатыры з паловай гады, справу ягоную раптам патрабавалі на перагляд. Што было прычынай гэтага і ці на карысьць яму гэта ці на шкоду, Кузьма ня ведаў; ён толькі дагадваўся, што перагляд справы зьвязан з беларускай нацдэмаўшчынай, якая штораз прымала ўсё вастрэйшыя і вастрэйшыя хвормы. Але, калі яго пасадзілі ў вагон і павезьлі на захад, яму стала лягчэй. Не таму, што ён спадзяваўся на нешта: ён ужо пагадзіўся зь лёсам; было дастаткова часу, каб зразумець, што маладое жыцьцё ягонае пакалечанае, зламанае, і цяперака, каб навет выпусьцілі, яму ўжо ня ўзьняцца, не папасьці зноў ва ўнівэрсітэт, не заняць адпаведнага ягонаму таленту мейсца ў жыцьці; заўсёды і ўсюды над ім будзе цяжэць гэтае "рэпрэсаваны". Але, так ці йначай, ён едзе ў родныя мясьціны, дзе прайшло дзяцінства, дзе цьвітуць яблыні й цудоўна сьпяваюць птушкі, дзе жыцьцё выкавала яму душу. З вакна вагону ён спадзяваўся ўбачыць родныя хаткі, крытыя саломай, але такія мілыя, прыхільныя; палі, па якіх бегаў босым наўздагон мятлікам; рэчкі й ручаі, у якіх ныраў у пошуках рыбы; лясы, у якіх лазіў па дрэвах і зьбіраў ягады і арэхі; спадзяваўся пачуць родную гаворку; пабачыць мілыя твары беларускіх дзяўчат .. Пасьля дзікай і няпрыхільнай Калымы гэта было так шмат!

Выгляд Кузьмы быў страшэнны: высах, пачарнеў, згорбіўся, нягледзячы на свае дваццаць шэсьць год! У вачох залягло цяжкое ўпакараньне, і калі-б яго цяперака ўбачыла маці, не пазнала-б! Навет чэрап і той баццам-бы набыў іншую хворму: занадта выпукаў ззаду, над шыяй, і хаваўся пад валасы сьпераду. Галіцца ў вязьніцы, а потым





у лягеры ня было ніякай магчымасьці з-за адсутнасьці брытваў, і ён некалькі разоў на год бараду падпальваў, каб стала карацей. Ад гэтага яна хоць і губляла колер, але расла гусьцейшай і лепей абараняла ад сьцюжы...

Падарожжа цягнулася больш месяца; было зьнясільваючым, галодным і халодным, нягледзячы на вясну Калі-ж яго прывезьлі ў турму – у родную, як ён яе называў, – ён крыху павесялеў. Страшэнных допытаў яму тут не прадбачылася, ён усё гэта перажыў! На цяжкія працы не ганялі, ежа і абыходжаньне былі лепшыя, чымся ў лягерах.. І калі-б у камары было хоць крыху вальней, ён палічыў-бы гэта за лепшае да канца сваёй адседкі...

Была ціхая раніца. За вакном чылікалі вераб'і. Падагнуўшы каленкі пад жывот, бо выпрастаць іх ня было куды, Кузьма ляжаў у найдальшым куце. Яшчэ ўсе спалі, бо было зусім рана, сьвятло толькі стала прабівацца ў камару. Стаяў такі смурод, што дыхаць ня было чым. Час ад часу нехта блюзьніў цераз сон: капашыўся, стараючыся выпрастаць ногі, паскрэбваўся пад лахманамі, стагнаў, а часам і лаяўся на суседа. І Кузьме, як жарт, успаміналася.

*Жить стало лучше,*
*Жить стало веселей...*

Або:

*Я другой такой страны не знаю,*
*Где так вольно дышит человек...*

Падумаў з усьмешкай: "Пэўна, гэтаксама аб гэтай "стране" думалі й Малюта Скурат, і Аракчэеў, і Мураўёў-вешацель.. "

– Д'яблы зь імі, з усімі, – раптам прашаптаў

І тады, як і заўсёды і ўсюды, калі заставаўся сам-насам, пачынаў успамінаць родны край і родны кут: бэз пад акном, вазёрную гладзь, шумы бароў, ключ дзікіх гусей над галавой, калі яны вяртаюцца ўвесну на Бацькаўшчыну... Так даўно гэта было, а здаецца, толькі ўчора! І нейкі радасны смутак абхопліваў усю ягоную істоту, што Бацькаўшчына такая каханая, такая любая й прывабная, што яе нельга забыць. Пачаў успамінаць далей, як, бывала, маці прыходзіла ўвечары ў ягоны пакойчык запытацца, ці мякка яму спаць? Старэнькая! Як яна цяпер там? Мабыць, і цяпер яшчэ кладзе падушку з надзеяй, а вось прыйдзе ўночы... Раптам – за вакном стрэл! Куля, ударыўшыся аб мур, прасьвісьцела ў паветры. Вераб'і ўсёй сваёй сям'ёй адляцелі. І ўслед за тым пачуўся енк у жаночым блоку. З чаго-б гэта? Хіба жанчына можа зрушыць голымі рукамі гэтакія цяжкія краты? Здаецца, гэтага ніколі ня было. Але тут-жа ўспомніў: заўсёды гэтак было, калі хто падымаўся да вакна...

Прайшлі хвіліны. Вераб'і, адзін па адным, занялі свае мейсца. Шчасьлівыя яны! Ім вось можна адлятаць і зноў прылятаць. Сярод іх няма "ворагаў народу" і шпіцаляў. Усе роўныя і ўсе вольныя! У гэты час за сьцяной пракацілася аўта. Кінуўшы думаць пра вераб'ёў, Кузьма стаў прыслухоўвацца: спыніцца яно тут ці ня спыніцца? Калі спыніцца, значыць, прывезьлі, як штодня ў гэтую пару, новых нешчасьліўцаў... Але шум аўта быў заглушаны грукатам далёкага цягніка. Цік-так-так! Цік-так-так! Гу-гу! Давай дарогу! Кузьма забыўся пра аўта й пачаў думаць пра цягнікі: вось, можа быць, ідзе цэлы транспарт туды, у тайгу, у немарач, на пагібель... А можа едуць людзі, хто куды хоча. Але ўсё роўна:

*Усе чатыры стораны*
*Для цябе адкрыты...*
*Прыляцелі вороны,*
*І кол у магілу ўбіты...*

..ягоныя вершы, складзеныя ў ссылцы.. Так, калоў над магіламі панаўбівана ня сотні і ня тысячы; калі высекчы пару дзесяткаў гэктараў тайгі на гэтыя калы, дык і таго не хапіла-б адзначыць сьляды сьмерці на аднэй толькі Калыме. Калы й калы! І найбольш – "малодшых братоў": беларусаў, украінцаў, калмыкаў, татар зь цёплага Крыму...

Вераб'і чылікалі. .

Вясна! Вясна! І добра ўсё-ж, што тут, а ня там, на Калыме, калі навет і кол! Успомніў яблыні каля хаты ў маёвай красе, жоўтыя плямкі дзьмухаўцоў на лонцы, зялёныя талерачкі вадзяных лілій з жоўтымі й бела-ружовымі гарлачыкамі на возеры... І ў ягоную змарнелую душу прыйшло зноў тое бадзёрае й надзейнае асьвятленьне, якое яго ня раз наведвала ў хвіліны найглыбшага духовага ўзрушэньня .. "Будзе! Будзе!" – пачуў голас аднекуль з вышынь. І яму захацелася плакаць ад радасьці..

Шум цягніка зьмяніўся гудзеньнем самалёту, які ляцеў нейдзе дужа высака. Кажуць: "Высака лётаюць шчасьліўчыкі ." Яму хоць-бы глянуць адтуль, з вышыняў, а так памрэш за гэтымі тоўстымі сьценамі, нічога ня бачыўшы... І раптам страшэнны выбух! Такі страшэнны, што заскрыгаталі замкі ў дзьвярох муру. Каб гэта адбывалася ня тут, можна было-б падумаць. выбухла вялікая міна! Усьлед за выбухам першым пачулі яшчэ і яшчэ... Вераб'і над вакном зацiхлі, вязьні заварушыліся...

– Што здарылася?

– А трасца яго ведае – выбух нейкі...

– Які тамака выбух – з гарматаў смаляць...

Праўда, цяпер ужо зусім выразна смалілі з гарматаў...

Трывожным выцьцём глушылі ўсё наўкола сірэны...

– Практыкаваньні!.. На ворагаў усё шыкуюцца!..

Прайшло з паўгадзіны. Увесь гэты час гарматы стралялі бязупынку, і было чуваць кружэньне самалётаў над местам. Заціснутыя сярод сьценаў, вязьні не маглі нічога зразумець: стаялі, слухалі, адзначаючы кожны гук сваім камэнтарам·

– Практыкуюцца ў забіваньні людзей ..

– Ня нам судзіць! Мне-б вось цэтлік атрымаць на выйсьце адсюль – зусім заніішто ўскочыў у прысак. .

Нехта ў адказ зацягнуў расейскую песьню.

*Понапрасну, Ванька, ходишь,*
*Понапрасну ножки бьёшь,*
*Ничего ты не заслужишь,*
*Дураком домой придёшь...*

– Хай-бы сабе й "дураком", абы прыйсьці...

– Аняго-ж, так табе й адчыняць барджэй дзьверы. калі ласка, гаспадар, мейце ахвоту выйсьці...

– Я й кажу: згінеш тутака ў гэтых сьценах!

– Ня мудрона! Вязьніца – ня курорт! Сала тутака не загадуеш.

– А вось-жа вытрымліваюць і па некалькі год, бачыш, тамака сядзіць адзін, – паказалі на Кузьму, – на Калыме пяцігодку адбарабаніў ..

– Але якім выглядае!

У гэты час – тупат ног на калідоры, бразганьне зялезных запораў, крык:

– Выходи! С вещами выходи!

– Рэвалюцыя? – прамовіў нехта асьцярожна.

– Пастраляюць нас каты!

Ляснуў замок. .

– Выходи! С вещами выходи! Не задерживаться!..

Усе пасьпешна сыпануліся ўніз. Каля сходаў стаяў вартавы й кожнага ўзнагароджваў ударам стрэльбай па тыльных частках. Кузьма быў ужо добра дасьведчаны ў гэтых справах і праскочыў у яго за сьпіной. Пры выйсьці на падворак яго нехта схапіў у абдымкі.

– Кузьма, браток, якое шчасьце бачыць цябе!

Кузьма азірнуўся – перад ім стаяў Орлік.

– Жыў? Божанька!?

– Жыў! Ня верыцца! А як тамака ў месьце?

– Дрэнь... Тое самае .

– Даўно цябе сюды? І завошта?

– Завошта – ня кажуць. Дагадваюся, з пытаньняў сьледчага, усё па тваёй справе

Кузьма зморшчыўся: няпрыемна слухаць – "па тваёй справе..." Але, разам з тым, высьвятлілася, чаму справу патрабавалі на перагляд.

– Пачакай, тут нейдзе Алесь.

– Алесь Баравік?

– Яму сьледчы рэбры паламаў...

– Значыць, Баравік – наш?

– То была мая памылка – мушу прызнаць! – І Орлік пачаў клікаць: – Алесь! Алеська!

З натоўпу выйшаў Баравік. Зьбялелы й змучаны, ён быў не падобны да сябе Глядзеў на Кузьму й таксама не пазнаваў. Кузьма сьціснуў яго ў сваіх абдымках, адчуваючы, як нейкая цяжкасьць спадала ў яго з сэрца: ён усё журбаваў, што прададзены сябрам... Цяпер Кузьма адчуваў сябе як-бы вінаватым перад Алесем

Людзей усё яшчэ праганялі цераз "прыклады".





– Куды нас, куды? – енчыў спалохана Алесь.

– Трымайцеся мяне, – адказваў Кузьма. – Я ў гэтых справах ужо спэц!

Ад варот пачуўся крык:

– Станавіцеся па чатыры! Чаго стаіцё як бараны?

– Аняго, хто-ж? – працадзіў амаль дзяціным галаском высокі чалавек у вялікіх валёнках, якія ў гэтую сьпякоту выклікалі й сьмех і гора.

Пачалі станавіцца. Усе ўтрох сталі разам. Чацьвертым быў нейкі малады хлапец. Хутка зьявіўся начальнік канвою – адзін з камандантаў НКУС. Зьяўленьне яго выклікала страх ува ўсіх палітычных. Гэта быў "Нэрон" – прыземісты, моцны, бескампрамісова-напорысты... Як ні адгароджваецца НКУС усемажлівымі перасьцярогамі, і ў мейсцы і ў вязьніцы ведалі пра Нэрона шмат. .

Як толькі ён зьявіўся на падворку вязьніцы, гудзеньне галасоў замянілася шэптам.

– Нэрон... Нэрон .

Глядзелі на ягоны крыху васпаваты твар з даўгім носам, прыгнутым уніз, як у савы, і зь вялікімі чорнымі, на выкаце, вачмі. Страх у некаторых быў настолькі вялікі, што яны сталі зьбялелымі.

– Што гэта будзе? Што гэта будзе?

Халодным, бясчулым зрокам Нэрон абводзіў натоўп.

– Адысьці ад сьцяны! – крыкнуў. – Стаць па чатыры! Контра – асобна, шпана – асобна!

Да яго падскочыў баец і пачаў нешта гаварыць. Нэрон адхіліў яго рукой. Кузьма добра ведаў, што ў няволі крыміналу лепей, ніж палітычным.

– Куды я, туды й вы, – шапнуў сябрам, становячыся да крыміналу.

Калі мужчыны былі ўжо пастаўленыя, і пачалі выводзіць жанчын. Нэрон меў кароткую прамову:

– Вы, контра, такую вашу й растакую. Я з вамі цацкацца ня буду! Адзін крок убок – і куля ў патыліцу! Пастраляю, як сабак! Зразумелі? Слухайце далей: хто ліча сябе нявінным (гэта тычыцць тых, хто пад сьледствам), – пяць крокаў наперад! Хто хоча на волю, таксама пяць крокаў наперад!

Орлік і Баравік глядзелі ў вочы Кузьмы. Той пакруціў галавой. Але некалькі людзей аказаліся наіўнымі й выступілі наперад. Гэта былі, галоўным чынам, навічкі із Заходняй Беларусі.

– Адвядзіце іх у тыл двара! – загадаў Нэрон байцам.

Павялі. І потым пачуліся некалькі стрэлаў.

Натоўп замёр. Кузьма ціха прамовіў:

– Вызвалілі .

Калі былі выведзеныя й жанчыны, іх таксама пачалі ставіць па тым-жа прынцыпу: контра – асобна, шпана – асобна. Розьніца была толькі ў тым, што ставілі асобна й цяжарных жанчын. Іх было ўсяго некалькі, з новых, узятых згодна загаду "Об изъятии подозрительных лиц" з прычыны вайны.

– Яшчэ гэтых у тыл двара! – загадаў Нэрон і дадаў з усьмешкай: – Усё-ж роўна прыйдзецца ў дарозе "ликвидировать..."

Напасьледак вароты адчыніліся.

**V**

Вялікае места гарэла страшэнна, цэлым морам агню, як могуць гарэць у сухую пагоду напалавіну драўляныя гарады. Будынкі, тэлеграфныя слупы, электрычныя праводкі, асфальт, гума, хварба на машынах, дрэвы ў парках – усё шугала полымем, плавілася й ператваралася ў вугаль і залу. Агонь перакідаўся з будынку на будынак, з вуліцы на вуліцу, мацаючы жоўтымі языкамі тое, што яшчэ не гарэла Ляцелі ўніз галавешкі Валіліся цэлыя сьцены Неба счарнела і, здавалася, абвісла, спаўзло ўніз, закрываючы сонца. Вось па гэтых палаючых, напоўненых жарам і дымам вуліцах іх пагналі на ўсход – шпарка, без затрымкі.

Урэшце выйшлі з пажарышча. Бег зьмянілі на крок. Але сілы шмат у каго забракла. Адзін вязень паваліўся. Да яго падскочыў Нэрон.

– Зь якой калёны?

– Палітычны! Прыстрэльце мяне ..

І зьняволены, сьцяўшы зубы, уткнуўся ў пясок тварам. Нэрон павольна выняў наган, нацэліўся ў галаву й стрэліў Спакойна паклаў наган на мейсца й паскакаў наперад калёны. Праходзячы міма забітага, зьняволеныя здымалі шапкі.

Алесь усё стагнаў:
– Куды-ж нас? Куды?.
– Маўчы! Бачыш?..
Апынуліся за горадам. Крымінальных сьцераглі ня так пільна, як палітычных, і калёна іхная значна парадзела. Гэта яшчэ горш злосьціла канвой супроць палітычных. Нэрон скакаў з канца ў канец калёны, расьцягнутай на кілёмэтр, а мо і болей, і час ад часу чулася траскатня аўтаматаў...
Па паўдні сонца прыпякло Даймала й прага, а да студняў, якія сустракаліся па дарозе, не дапускалі. З учарашняга дня нічога таксама ня елі. Аслабелых зьявілася больш, і аўтаматы страчылі часьцей. Алесь так мучыўся, што жыцьцё для яго згубіла каштоўнасьць. Ён прасіў сяброў:
– Пакіньце мяне тут, на дарозе! Дайце мне памерці!
Становішча ўскладнялася яшчэ тым, што Кузьма йшоў босы. Абутак ягоны, старыя чаравікі вайсковага тыпу, атрыманыя яшчэ на Калыме, канчаткова разваліліся, і ён іх выкінуў Гарачы жвір паліў яму ногі й раніў да крыві. Кузьма намагаўся ступаць ня ўсёй ступнёй, а толькі пятой, дзе скура больш грубейшая, а таму менш чульлівая. Гэта пазбаўляла яго цьвёрдай апоры, а трэба было яшчэ цягнуць і Алеся. Яны досыць ладна ўжо адсталі ад "сваіх". На шчасьце, Нэрон увесь час трымаўся каля палітычных; тутака, каля іх, цягнуліся толькі некалькі байцоў, падганяючы або расстрэльваючы тых, хто адставаў Раптам Алесь канчаткова згубіў сілу ісьці. Якраз у гэты мамэнт скакаў да іх на сваім белым кані Нэрон. Спалохана пачалі падымаць Алеся Але й самі былі моцна зьнясіленыя.
– Вперёд! – крыкнуў Нэрон.
Кузьма з благаньнем зірнуў на начальніка й прамовіў·
– Дазвольце глыток вады – з чалавекам нядобра.
– З чалавекам?! Контрык?!
– Урка! – зь нейкім нутраным узрушаньнем ухапіўся за гэта Кузьма – У дошку свой! Памылкова залез не ў сваю кішэню...
Веданьне Кузьмой блатнога жаргону, як відаць, пераканала Нэрона, і ён паскакаў далей.
– Паехаў? – спытаў Алесь. – Але нашто вы мяне мучаеце? Вы жадаеце, каб я йшоў у імя дружбы?
– Калі ты ня можаш ісьці, мы цябе панясем.
– Добра! Я буду ісьці!
Ён падняўся, але хутка пачаў зноў ападаць. Сябры трымалі яго – адзін з правага, другі зь левага боку.
– Трымайся, Алеська! Ужо нядоўга. Абхапі мяне за шыю левай рукой, а Орліка правай!
Калі Нэрон пад'ехаў да іх зноў, яны ўжо амаль дагналі астатніх. Зьняўшы шапку, Кузьма ў нейкім непераможным экстазе ўзьняў свой худы твар да неба. Уздыхнуў І ў гэты мамэнт адчуў, што наўкола іх адбываецца нешта надзвычайнае Падбадзёрыў Алеся, ведаючы добра, што гэта найлепей захоўвае сілы.
– Вось ужо хутка! Ужо хутка!.. Ты чуеш, Алесь, як нейдзе грукочуць панцыры? Гэта йдзе наша вызваленьне...
– Наша вызваленьне? Чаму?
– Гэта-ж рухаецца фронт.. Адступаюць!.. Адступаюць!.. Алесь, можа, праз паўгадзіны мы будзем вольныя... І вось калі-небудзь зьбярэмся й будзем сьмяяцца з усяго гэтага...
Насустрач ляцела аўта, падымаючы хмары пылу, з-за якога нічога ня было відаць. Калі напасьледак небасхіл адкрыўся, паказаўся ўсхваляваны Нэрон. Ён размахваў наганам і крычаў:
– Назад!.. Вярні з шасэ! Пастраляю!.. Тррр!.
Кулі ляцелі над іх галавамі. Ляглі! Калёна аддалялася ўсё больш і больш. Крык Нэрона адчуваўся слабей. Але рухацца ня было сілы. Урэшце папаўзьлі ўсё далей і далей ад дарогі, час ад часу адпачываючы ў жыце Да іх даносіўся трэск кулямётаў, бухалі гарматы. Над імі кружыў самалёт І выбухла бомба. Зямля, здаецца, заварушылася пад нагамі. Потым самалёт павярнуў да шашы, відавочна, заўважыўшы войска. Калі ён пралятаў над галавой, былі відаць чорныя кругі на ягоных крылах, а ў іх адзнакі чужой дзяржавы Адпаўзьлі далей ад дарогі. Урэшце перад імі адчынілася лонка – жыта скончылася. Вады на ёй не знайшлі, але мох быў вільготны. Яны камамі заціскалі яго ў далонях і смакталі. Алесю адразу-ж стала лягчэй. Ляглі ў траву і аддаліся прыемнаму адпачынку...
Кузьме ўсё яшчэ ня верылася, што гэта вызваленьне. Хутка пяць год, як яго заарыштавалі. Успомніў Падкаблука, вобраз якога да гэтага часу быў заслонены больш агіднымі тварамі.
Орлік заўважыў:
– Як-бы хацелася цяпер спаткацца із сваім сьледчым!
Глядзелі ў неба. Пасьля вязьніцы яно здавалася ім цудоўна-празрыстым...
– Якое шчасьце быць вольным! – прамовіў Кузьма. І потым на Орліка: – Ты кажаш, хацеў-бы спаткацца із сваім сьледчым?! Не, дружа, яны для мяне ня існуюць! Я ведаю, такія тыпы заўсёды былі й будуць! На гэтых пачварах трымаецца ўсякая ўлада...
– Ці будзе чалавецтва калі-небудзь вольным?
– Я магу сказаць толькі адно: чым вышэй цывілізацыя, тым мацней няволя... Ты кажаш – парадокс? Але з гэтага няма выйсьця! Цывілізацыя забівае чалавека!..
– Наўжо ў людзей ня хопіць розуму, каб жыць па-братэрску? – запярэчыў Орлік.
– Ты бачыш, што здарылася на адней шостай зямной кулі ад гэтай спробы?!
– Ну, гэта іншая справа: тут проста дыктат аднае асобы...
– Гэтых асоб высоўвае час. Расея ня хоча быць больш адсталай: мы, маўляў, ня горшыя за вас!
– Значыць, праліцьцё крыві застанецца й надалей?
– Усё роўна: праліцьцём крыві ці брудам, дымам, занячышчэньнем паветра, атручэньнем водных рэсурсаў, жорсткай эксплуатацыяй натуральных багацьцяў – цывілізацыя зробіць сваю справу! А што датычыць мяне, я цяпер нічога не жадаю. І ня хочу ні аб чым думаць. Досыць мне гэтага! Хачу толькі аднаго: вольна дыхаць...
Ён заплюшчыў вочы й доўга ляжаў так моўчкі.
Бойка цягнулася нядоўга, усяго хвілін дзесяць, пятнаццаць. Ужо даўно заціх і рух калёны. Цяпер можна было паглядзець, што робіцца наўкола. Падняліся з травы: нідзе ніякага жыльля ня было. А есьці й піць хацелася страшэнна. Кожны трымаў у руках пучок моху й высмактваў зь яго вільгаць. Калі-б жыта было сьпелым, можна было-б падмацавацца калосьсем. Але яно толькі пачало налівацца. Ірвалі і елі шчаўе. Ізноў ляжалі ў траве, бо ногі млелі й слабелі. Алесь увесь час спаў. Твар ягоны быў нядобрага колеру, пад вачыма лягла пухліна. Дыхаў цяжка й няроўна. Ён цяпер быў для Кузьмы й Орліка праблемай: як яго даставіць у такое мейсца, дзе знойдзецца такі-сякі мэдыцынскі пэрсанаяль? Дзе ёсьць тут паблізу такое мейсца? Некалі разам зь іншымі студэнтамі Орлік быў мабілізаваны на час летніх вакацыяў на торфараспрацоўкі. Успомніў, ехалі па гэтым-жа шляху. Калі-б торпазавод знайшоўся блізка, было-б добра. Там ёсьць мэдыцынскі пункт і жыве знаёмы лекар. Але памяць не магла падказаць, як дабрацца да торпазаводу.
Кузьма спачуваў Алесю, але нічым ня мог дапамагчы, ён ніяк ня мог нацешыцца воляй. Ляжаў і глядзеў на ўсё наўкола, як на нейкі цуд. Трава, лес, воблакі і ўсё астатняе здаваліся яму цяпер бясконца мілымі. Да арышту ён ніколі не адчуваў гэтага.
Ляжаў і думаў. Раптам прамовіў да Орліка:
– Воля можа быць здабыта толькі няволяй... Вось чаму людзі з-за мяжы ніяк ня могуць зразумець нас. Пяць год, як я травінкі ня бачыў!
Раптам з таго боку, дзе праходзіла шаша, з жыта выйшаў чалавек. Было відаць – вайсковец. Кубікі на пятліцах кашулі адсьвечваліся чырвоным бляскам. На рамяні вісеў футарал ад нагана. Кузьма і Орлік пасьпешна схаваліся ў траву, але чалавек усё-ж заўважыў іх. Скіраваўся туды, трымаючы руку на футарале
– У выпадку чаго трэба яго абяззброіць, – заўважыў Орлік.
– Голымі рукамі?
– Навет і голымі. Лепш памерці ў змаганьні, чым трапіць у іхныя рукі зноў!
Але чалавек, падышоўшы бліжэй, гучна й па-сяброўску засьмяяўся.
– Арыштанты? – запытаў, водзячы па іх зрокам.
Сябры маўчалі.
– Не палохайцеся! Такімі тут перапоўнена жыта... і жывымі й мёртвымі...
Чалавек перасунуў футарал з наганам за сьпіну і апусьціўся каля іх на траву. Яму было год каля трыццаці. Бялявы, лейтэнант, з ордэнам на грудзях. Сінія вочы глядзелі спакойна й ласкава. Шырака расставіў ногі. Упёрся лакцямі ў каленкі і апусьціў на далоні галаву. Прамовіў:
– Разьбегліся ўсе: арыштанты й не арыштанты, гэнералы й байцы, сябры партыі

й беспартыйныя... А ЦК КП(б)Б на чале з сакратаром Панамарэнкам ганебна ўцёк першым. Дваццаць тры гады балбаталі пра абарону, умацоўваліся, ачышчаліся, зьнішчалі ворагаў, замыкалі граніцу на замок, будавалі аэрадромы, танкі, самалёты, а разьляцелася ўсё гэта ў пух і прах за няцэлыя дваццаць тры гадзіны! Ад першага-ж удару! Арміі няма, пайшла ў палон. Прабіваюцца ў тыл толькі паасобныя часткі. Гарматы й танкі ляжаць пагарэлыя на дарогах, самалёты – на аэрадромах!

Павольным позіркам зірнуў на ўпрыгожаныя ордэнам грудзі. Раптам пальцы рук ягоных скурчыліся, як кіпцюры ў драпежнай птушкі, і ён шпарка, можа, навет нечакана для самога сябе, учапіўся за ордэн.

– Да д'ябла гэтыя цацкі! – выкрыкнуў.

Адарваў ордэн, сагнуў яго, зламаў і шпырнуў надалей ад сябе.

– Колькі пакутаў прынесла мне гэта цацка!

Змоўк. Цяпер яго ўжо не баяліся. Орлік пацікавіўся:

– За Фінляндыю, мабыць, узнагародзілі?

Лейтэнант узьняў вочы й доўга глядзеў на яго, быццам не разумеючы, аб чым пытаюць.

– Так, за Фінляндыю, – адказаў напасьледак.

Задзёр на жываце кашулю. Паказаўся вялізны сінюваты шрам.

– Шрапнэль! – прамовіў.

Закасаў рукаво на правай руцэ.

– Куля!

Зьняў абодвы боты, паказваючы пакрамсаныя ікры галеняў.

– Таксама шрапнэль! Досыць зь мяне! Наваяваўся! – на мамэнт змоўк. – Прабіваюся да сям'і, дамоў...

– А вы адкуль? – запытаў Орлік.

– З-пад Менску, – зноў памаўчаў. – Ня ведаю, дзе цяпер сям'я. Жыла тут недалёка, на лётнішчы.. Хто мог прадбачыць, што так хутка будзе вайна?! – зірнуў на Алеся. – А гэта што – хворы?

– На допытах паламалі рэбры...

– Так, ламалі й ламаюць! Колькі нашага няшчаснага беларускага народу пагінула ў вязьніцах, на Калыме, за Уралам .. Раней, за царамі, самі мусілі ехаць туды ў пошуках вольнай зямлі й кавалка хлеба, ехалі й паміралі, як мухі, у дарозе... А цяпер як кулакоў, нацдэмаў, непажаданы элемэнт з пагранічча эшалёнамі звозілі... Палітычныя? – запытаў праз некаторы час. – Пэўна, із студэнтаў? Сярод гэтай катэгорыі ўсё раскрывалі ўсялякія змовы...

– Студэнты, – адказаў Орлік. – Ён вось, – паказаў на Кузьму, – адпакутваў на гэтай самай Калыме пяць год, увесну патрабавалі справу на перагляд, і нас прышылі да яе – мяне й гэтага хворага...

– Ага, разумею! Доказаў ня было, успомнілі старое...

Прачнуўся Алесь.

– Нядобры выгляд у яго, – заўважыў лейтэнант і, адшпіліўшы ад пояса торбу, зазірнуў у яе

– Што-ж вы зь ім мяркуеце рабіць?

– Як-небудзь дабірацца да сваіх.

– Далёка?

– Мае бацькі кілёмэтраў за сто адсюль, – сказаў Орлік. – Яго, – паказаў на Кузьму, – трохі бліжэй. Сам-жа хворы зь Віцебску.

– У Віцебск не дабярэцеся – гэта пэўна. Да каго-колечы з вашых сваякоў? Але ці давядзеце? Яму-ж перш-наперш патрэбна апэрацыя, калі рэбры сапраўды паламаныя

– Тут нейдзе недалёка ёсць торпазавод, – адказаў Орлік. – Там у мяне знаёмы лекар.

– Так, торпзавод імя Варашылава, кілёмэтраў дваццаць адсюль. Але як вы да яго дабярэцеся?

– Небясьпечна?

– Небясьпека, бадай, мінула, хіба толькі немцы могуць патрывожыць, напрыклад, да закапваньня трупаў, якімі ўсеяны дарогі.

Орлік пачаў апавядаць, як цяжка ім было ў дарозе і як хацелі Алеся прыстрэліць канваіры..

– Так, бьюць нас, бьюць, – уздыхнуў – Гэтая вайна адчыніла мне вочы. Гараць нашы гарады й сёлы ад Бугу да Дзьвіны. Прыпяці й Дняпра! Каму патрэбна вайна? Нам? Ваююць Масква й Бэрлін, але на нашай зямлі, за наш кошт, ня пытаючыся нас... Два акупанты! Які зь іх лепшы для нас? Цяжка сказаць? Прынамсі, Бэрлін хоць ня прыкідваецца нашым прыяцелем. І так будзе датуль, пакуль ня возьмем свой лёс у свае рукі, ня створым сваёй вайсковай сілы, не паставім слупы на сваіх межах... Аддаю рацыю нашым нацдэмам, якіх, прызнаюся, раней не разумеў, – парваць сяброўства з ваўком у авечай скуры!

Дастаў з торбы хлеб, пакроены на тонкія скібы, каўбасу, якраз беларускую, вясковую. Пах ейны раздражняў апэтыт усіх.

– Пакуль што, падмацуемся, – сказаў.

Дастаў з торбы таксама й масла, намазаў ім чатыры кавалкі хлеба. Адрэзаў столькі-ж кавалачкаў каўбасы й таксама паклаў на хлеб.

– Ну, пачнем, сябры па няшчасьцю!

– Не, дзякуем, – адказалі Кузьма і Орлік. – Вось толькі, калі маеце чым, падмацуйце нашага хворага сябра – яму гэта вельмі неабходна, асабліва кава.

– Падумана й пра яго – усё прадугледжана!

Адкруціўшы ад флягі, што вісела на поясе, вечка, наліў у яго нечага, але толькі ня кавы, і разам з хлебам падаў хвораму.

– Віно, – сказаў. – Гэта падтрымае сілы лепей, ніж кава, якой якраз і няма...

Наліў і Кузьме, у якога выгляд быў таксама вельмі дрэнны. Потым – Орліку й сабе...

Сонца вісела над самым лесам. Ад травы на лонцы падымалася пара. Нейдзе ў жыце запілікала перапёлка. Жаўрукі, як гэта заўсёды бывае перад заходам сонца ў ціхі й цёплы дзень, узьняліся зь сьпевамі ў неба.

– Вось бачыце, навет птушкі дзякуюць прыродзе, што яна дала ім магчымасьць пражыць дзень! А мы, людзі, усё забылі сёньня... – схамянуўся: – А цяпер – час у дарогу!

І, дастаўшы зь кішэні нож, лейтэнант скіраваўся да альховых кустоў, што расьлі па краёх лонкі. Выразаў дзьве даволі даўгія й моцныя палкі. Потым некалькі іншых, крыху карацейшых. Зьвязаў іх пасамі так, каб атрымаліся насілкі. Потым нарэзаў гальля і ўслаў імі тое, што атрымалася.

– Вось так мы яго й панясём! Я з аднаго канца, як больш моцны, а вы двое – з другога. І так дабярэмся да бацькоў, маёй жонкі, а адтуль на фурманцы да вашага лекара на торпазаводзе – я добра ведаю гэтую мясцовасьць.

На захадзе яшчэ гарэла вячэрняя зара, але тут, паміж жыта, ужо клаўся змрок. Лонка пакрылася павуціньнем туману. У траве, здавалася, пад самымі нагамі, надрываўся драч. Тры чалавекі ўзьнялі насілкі й рушыліся ў дарогу. І ў гэты час, як-бы па ўмове, закукавала зязюля – працяжна й пранікліва:

Ку-ку! Ку-ку!

Зь містычным пачуцьцём Кузьма здрыгануўся. І ціхім, прачуленым голасам прадэклямаваў:

*Янка сеяў – людзі жалі,*
*А зязюлька кукавала:*
*Ку-ку! Ку-ку!*

– Вось і адкукаваў я, – уздыхнуў.

– Будзе жыць! – у гэты час прамовіў Орлік. – Я лічыў: сорак і адзін раз!..

– Гэта ты пра Алеся?

– Пра яго.

– Зязюлька – роспачлівая птушка, гэта пэўна! – заўважыў лейтэнант.

– Вось з-за гэтае роспачлівае птушкі я і адпарыўся пяць год на Калыме, – адгукнуўся Кузьма.

І пачаў апавядаць лейтэнанту ўсю сваю гісторыю ад пачатку. Калі скончыў, зрабіў высноў:

– У вершы народнага паэты Янкі Купалы сьпяваецца аб іншым, аб селяніну Янку, які сеяў, а людзі жалі... Зязюля тут толькі наш родны каларыт! Але, бачыце, птушка гэтая ня робіць сабе гнязда, лічыцца "бяздомнай", на думку НКУС, і прадэклямаваны мною верш на вечары кастрычніцкай рэвалюцыі палічылі за зьдзек з калгаснага будаўніцтва й прышылі мне нацдэмаўшчыну, каб было больш пераканаўча... Па Вальфсону, адным словам, гэта называецца дружба народаў!

*Нью-Ёрк, 1951—1972*

З кнігі:
**Мікола Цэлеш.**
Хмары над Бацькаўшчынай.
Нью-Ёрк, 1995.

Я маю твор...

# Валянцін ЧАПЕГА



***

У цёплы вечар выйду з хаты,
На Захад гляну, уздыхну
Не хочацца ісці за краты,
Але спатрэбіцца – пайду

*Менск – Штрэліц (Нямеччына)*



СУЧАСНАЕ АНГЛІЙСКАЕ АПАВЯДАННЕ

ЯНЫ

**Джуліян БАРНС**

# АДЗІН З ІХ

***Джуліян Барнс** нарадзіўся 19 студзеня 1946 года ў Лейчыстыры. Ягоныя бацькі былі выкладчыкамі французскай мовы. Джуліян вырас у мясцовасці Метралэнд, апісанай пазней у аднайменным рамане. Пасля заканчэння каледжа св. Магдаліны ў Кембрыджы (ступень бакалаўра мастацтваў па сучасных мовах) ён працаваў лексікаграферам у Оксфардскім выдавецтве слоўнікаў, якое пазней называў "дэпартаментам спартыўных і брудных тэрмінаў".*

*У 1972 годзе Барнс робіцца вольным пісьменнікам і ў наступныя гады выдае багата артыкулаў, аглядаў і нататак, падпісаных сваім імем, а таксама разнастайнымі псеўданімамі (ад камічных PC49 ды Тоўсты Джэф да Эдварда Піг і Бэзіл Сіл). Ён друкаваўся ў часопісах "Абсэрвер", "Тэтлер", літаратурным дадатку да газеты "Таймс" – пісаў пра літаратуру, мастацтва, быў тэлевізійным крытыкам.*

*Першы раман Джуліяна Барнса быў апублікаваны ў 1980 годзе пад псеўданімам Дэн Каванах (Dan Kavanagh) "Дафі" (Dafi) быў першым раманам з дэтэктыўнай серыі, кнігі якой выходзілі на працягу васьмідзесятых ("Горад падману" (Fiddle City) –*

У мяне даўно была свая тэорыя наконт Румыніі. Не тое, каб сапраўдная тэорыя, хутчэй, назіранне Вы не заўважылі, што ў розных галінах мастацтва Румынія здолела даць свету аднаго – толькі аднаго – сапраўднага мастака? Як быццам у нацыі хапіла моцы нарадзіць толькі адну сапраўдную асобу – як у той расліне, што накіроўвае ўсю жыццёвую энергію сваёй адзінай кветцы Такім чынам: адзіны вялікі скульптар – Бранкузі, адзіны драматург – Іанэску, адзіны кампазітар – Енуску, адзіны карыкатурыст – Штэйнберг. Нават папулярны міф, і той адзіны – Дракула.

Аднойчы на літаратурнай вечарыне я расказаў гэту тэорыю аднаму румынскаму пісьменніку-эмігранту Марыян Цырыяк быў поўным, ваяўнічага выгляду чалавекам з жоўтым тварам, і я недарэчна пачаў нашае знаёмства, назваўшы яго *дысідэнтам.* Як я зразумеў, гэта заўсёды недарэчнае слова ў адносінах да выгнаннікаў з краінаў Усходняй Еўропы Некаторыя тады адказваюць як палітыкі: "Гэта ўрад – дысідэнты", іншыя выказваюць сваю сутнасць больш стрымана. "Я не дысідэнт, я пісьменнік"

Я толькі спытаў Цырыяка, ці ёсць дысідэнты ў самой Румыніі. Ён пакруціў сваёй шклянкай з рэшткамі белага віна (за кошт выдавецтва), вельмі агрэсіўна, але не настолькі, каб праліць хаця б каплю, і адказаў:

"У Румыніі няма дысідэнтаў, там ёсць людзі, да якіх яшчэ не дабралася замежная прэса У любым выпадку, яны не жывуць у Бухарэсце А дарогі да венгерскай мяжы не вельмі добрыя, і вашыя журналісты не вельмі цікаўныя".

Ён сказаў гэта з іроніяй, аднак яшчэ і з нейкім дзіўным гонарам, як быццам я не меў права мець сваё меркаванне, нават пытацца пра ягоную радзіму Не маючы намеру здавацца, але і не жадаючы раздражняць яго, я паведаў сваю Румынскую Тэорыю, зрабіўшы гэта з пэўным англійскім тактам, нерашучасцю і прабачэннямі ў невуцтве. Цырыяк добразычліва ўсміхнуўся і ўзяў яшчэ адну фаршыраваную масліну.

"Вы забылі паэзію, – сказаў ён, – Эмінэску". Я вельмі цьмяна памятаў гэта імя, але ганебна для сябе кіўнуў. "І тэніс – Настазе". Яшчэківок; ці не дурыўся ён са мной? "А таксама партыйнае кіраванне – Чаушэску" Зараз сапраўды дурыўся.

"А што наконт раманістаў, – упарта пытаўся я, – ёсць хоць адзін, пра якога варта ведаць?"

"Не, – адказаў ён, сумна ківаючы галавой, – такіх няма. У нас няма раманістаў".

Я ўжо забыўся на гэтую размову, калі праз год мяне запрасілі ў Бухарэст на канферэнцыю маладых пісьменнікаў. Мерапрыемства гэта было наколькі прыемнае, настолькі і марнае – я праслухаў з дзесятак незразумелых, аднак з імпэтам прачытаных прамоў аб абавязках пісьменніка перад чалавецтвам, аб значнасці друкаванага слова пры фармаванні асобы, – але затое я

*Лондан, 1981 год; “На заходзе ў порт” (Putting the Boat In) – Лондан, 1985 год; “Шлях да пагібелі” (Going to the Dogs) – Лондан, 1987 год). У тым самым годзе ўбачыў свет ягоны першы раман, падпісаны сапраўдным імем, “Метралэнд” (Metroland). Твор атрымаў прэмію Маэма.*

*У 1982 годзе ўбачыў свет ягоны другі раман – “Да таго, як яна сустрэла мяне” (Before She Met Me). Трэці раман – авангардысцкі “Папугай Флабера” (Flaubert’s Parrot), 1984 год – атрымаў прыхільнасць крытыкаў і літаратурнай грамадскасці. За гэты раман аўтар быў намінаваны на прэмію Букера і атрымаў прэмію памяці Джэфры Фабера. Барнс працягваў выдаваць раманы: “Гледзячы на сонца” (Staring At the Sun) – 1986 год, “Гісторыя свету ў 10 ¹/₂ частках” (History of the World in 10 ¹/₂ Chapters) – 1989 год, “За размовай” (Talking It Over) – 1991 год, “Дзікабраз” (The Porcupine) – 1992 год. Ва ўсіх гэтых раманах Барнс распрацоўваў разнастайныя стылі і сюжэты. Акрамя пералічаных узнагародаў, аўтар атрымаў шэраг прэстыжных прызоў у ЗША, Францыі, Італіі і Нямеччыне.*

*Нягледзячы на пісьменніцкую працу, Джуліян Барнс працягвае займацца журналістыкай: у 90-я гады працуе лонданскім карэспандэнтам часопіса “Нью Йоркер”. Некаторыя з ягоных рэпартажаў былі апублікаваны ў 1995 годзе пад назвай “Лісты з Лондана” (Letters from London). Акрамя таго, ён выкладаў курс пісьменніцкага майстэрства ва універсітэце Джона Хопкінса ў Балтыморы. Ягоная апошняя праца, аповесць “Праліў пакутаў” (Cross Channel) была выдадзена ў 1996 годзе і прысвечана французска-ангельскім стасункам на працягу апошніх стагоддзяў.*

убачыў краіну, трапіць у якую іншым чынам не здолеў бы. Там былі банкеты са слівовым брэндзі, вандроўкі па дэльце Дуная, дзе мы здалёк бачылі пеліканаў, вечарыны, на якіх мясцовыя кіраўнікі задаюць пытанні пра пісьменніцкае майстэрства пытанні, што прымушаюць цябе адчуваць нейкі сорам, як быццам ты павінен рэалізоўваць свой талент лепей, чым ты гэта робіш.

Апошняя раніца была ў нас вольная, і мы гулялі па горадзе разам з італьянскім аўтарам эксперыментальных вершаў. Мы заходзілі ў маленькія, цёмныя цэрквы, дзе стаяла цішыня, якую парушала толькі патрэскванне свечак ды шэпт пажылых людзей. Мы наведалі Музей Мастацтваў Сацыялістычнай Рэспублікі Румыніі, дзе бачылі палатно Ван Дэйка – партрэт бюргера з аліўкавага колеру скурай і ў блакітным галаўным уборы. Шыльдачка з імем аўтара была амаль сцёртай пальцамі, як быццам гэты самы каштоўны твор галерэі стаў іконай, дакрананне да якой такое ж цудадзейнае, як да ступні Дзевы Марыі. Нарэшце, мы прайшліся па Плошчы Перамогі ды зазірнулі ў крамы. На вуглу Палаца Рэспублікі – насупраць Рэзідэнцыі Цэнтральнага Камітэта – мы зайшлі ў кнігарню. Цэлая вітрына была прысвечана там адной працы, раману нейкага Нікалаэ Петрэску. Нейкі час мы са здзіўленнем пазіралі на кніжную піраміду, спрабуючы ўспомніць, ці бачыліся з гэтым аўтарам за прамінулыя сем дзён. Аднак невялікая фотакартка паўнаватага чалавека з белай барадой і ў акулярах без аправы, якая была ў кутку вітрыны, упэўніла нас, што не. Паколькі гэтая кнігарня была, відаць, галоўнай у краіне, а Петрэску, відавочна – адным з самых знакамітых пісьменнікаў, нас здзівіў той незвычайны факт, што ён не ўдзельнічаў у распіцці дармавога слівовага брэндзі разам з астатнімі.

Мы з прыяцелем прагледзелі секцыю замежнай літаратуры і, прыйшоўшы да высновы, што замежны пісьменнік, які жадае, каб ягоныя кнігі выдаваліся ў Румыніі, павінен спачатку памерці, – пайшлі далей. Затым нас адвезлі ў аэрапорт Атапені, і ў той жа дзень мы вылецелі дадому.

Пасля той паездкі я некалькі месяцаў не бачыў Цырыяка, а калі сустрэў, паведаміў яму аб сваіх уражаннях пра краіну, якую ён не бачыў на працягу трыццаці гадоў свайго выгнання. Высветлілася, што ён быў абсалютна да гэтага абыякавым і праінфармаваў мяне, што паколькі ён ніколі не вернецца, дык вырашыў і не цікавіцца, што там адбываецца. Першыя гады ён пакутаваў ад настальгіі, перапісваўся з сябрамі, але сум па радзіме ад гэтага толькі мацнеў, таму цяпер ён абарваў усе сувязі.

“У любым выпадку, – сказаў я, – вы не расказалі мне праўду. У Румыніі *ёсць* раманісты”.

“Можа быць. Вы маеце на ўвазе Рэбрыяну. Ці, верагодна, Садавіяну. Але я баюся, што яны не Бранкузі ці Настазе, якіх вы шукаеце, проста пра іхнія кнігі гавораць часцей, чым пра іншыя”.

“Не, я кажу не пра іх, – я не чуў ні аднаго з гэтых імёнаў. – Я маю на ўвазе тых, з якімі сустракаўся”. Я назваў трох ці чатырох. Ён паківаў галавой.





“Вы павінны памятаць, што цяпер я не цікаўлюся, як там справы”

“Там быў яшчэ адзін – мы бачылі на вітрыне шмат экземпляраў ягоных кніг. Петрэску, Нікалаэ Петрэску”.

“А, – сказаў ён рэзка. – Ах, Нікалаэ. Вы бачылі Нікалаэ. Яны ўсё яшчэ прадаюць ягоныя кнігі? Як ён там?”

Я расказаў, што яго самога мы не бачылі. Я апісаў кнігарню на Плошчы Перамогі, вітрыну з маленькай фотакарткай у кутку. Я сказаў, што, калі меркаваць па ёй, гэты пісьменнік, здаецца, жыве няблага.

“А ці было што-небудзь у яго пятліцы? Якое-небудзь маленькае ўпрыгожванне?”

“Вы маеце на ўвазе кветку?”

“Не Значок”.

Я сказаў, што не памятаю. Цырыяк сеў на канапу глыбей і паставіў сваю шклянку на падлакотнік.

“Я раскажу вам пра Нікалаэ Петрэску, калі вы жадаеце”. Я вельмі жадаў. “Аднак вам неабавязкова верыць усяму, што я раскажу, бо я ведаю яго занадта добра. Тут можна – як гэта кажуць, калі страляюць – можна прамазаць. Прамазаць міма праўды, як мне здаецца.

Мы з Нікалаэ прыблізна аднаго ўзросту – трохі за пяцьдзесят. Мы былі занадта маладымі, каб трапіць на вайну, і гэтаму вельмі рады. Ваяваць за Нямеччыну супраць Расіі, потым, наадварот, за Расію супраць Нямеччыны – не вельмі прыемна, як ні глядзі. Куля магла прыляцець і з аднаго, і з другога боку, нават з абодвух адразу. Але нам пашчасціла, і мы гэтага пазбеглі.

Нам было па васемнаццаць ці каля гэтага, калі здарылася тое, што цяперашняя адміністрацыя любіць называць “антыфашысцкае і антыімперыялістычнае паўстанне”. Двое мужчын з сабакам ды самаробным флагам плюс братэрская Чырвоная Армія – вось тое, што адбылося на самай справе. Рускія прыйшлі, прагналі немцаў і пачалі шукаць мясцовых камуністаў. У іх была толькі адзіная цяжкасць – ні аднаго не маглі знайсці. Вы ведаеце, якая вялікая была ў 1944 годзе Камуністычная партыя Румыніі? Дзве футбольныя каманды. Вось рускім і давялося трохі затрымацца, каб дапамагчы нам будаваць сацыялізм, ці, дакладней, – партыйныя структуры. Да той пары, як ім здалося, што прыйшоў час, калі пакінуць краіну будзе больш-менш бяспечна. У 1947 годзе яны пайшлі. Так тады, прынамсі, здавалася.

Мы з Нікалаэ вучыліся ў той час у політэхнічным. Мы – як гэта кажуць? – былі добрымі хлопчыкамі з сярэдняга класа. Мы не былі фашыстамі ці яшчэ кімсьці падобнага кшталту, мы проста не былі выхадцамі з працоўнага класа. Больш за тое, мы абодва марылі стаць пісьменнікамі. Вы разумееце нашу праблему?”

Я кіўнуў. Я падумаў, што ён захаваўся нашмат лепей, чым Петрэску Цырыяк выглядаў на сорак з хвастком, Петрэску – калі па фотакартцы – можна было даць шэсцьдзесят.

“Мне здаецца, што гэта пытанне хутчэй тэмпераменту, чым таленту – куды, у які бок пойдзе пісьменнік. Прынамсі, у такой краіне, як наша. Мы шмат гаварылі аб гэтым. Не тады, зразумела, калі прыходзілі ў Саюз пісьменнікаў, а калі заставаліся ўдвух. Я быў, можна сказаць, ідэалістам, і менавіта гэта прыводзіла мой тэмперамент у адчай. Я думаў толькі пра цяжкасці – пра тое, *чаго* яны ніколі не дазволяць напісаць, а не пра тое, што дазваляюць. У тыя часы я быў катэгарычным ва ўсім: я верыў – я і зараз веру – калі ты не можаш пісаць пра тое, што лічыш патрэбным, ты не павінен пісаць наогул. Ці маўчаць, ці з’ехаць. Я выбраў другое. Я згубіў сваю мову і напалавіну – талент. Вось і зараз шмат якія рэчы прыводзяць мяне ў адчай

А ў Нікалаэ быў іншы тэмперамент. Не, зусім не згодніцкі. Ён быў выдатным хлопцам, ён быў маім сябрам. Ён быў вельмі разумным, хаця такім жа разгубленым, як і я, але больш цынічным. Нават не тое, што цынічным – мабыць, у яго проста было добрае пачуццё гумару. Я выбіраў між маўчаннем і выгнаннем, ён выбраў хітрасць.

Вы ведаеце, якія архітэктурны стыль называюць “шлюбны торт”? Я кіўнуў. Я наглядзеўся на яго ў час сваіх паездак ва Усходнюю Еўропу. “Самыя жудасныя яго прыклады (не ў Расіі), самыя вялікія, самыя пачварныя, якія займаюць у гарадах самыя пачэсныя месцы – гэта тыя, што навязаныя Сталінам. Як іх называлі – дары савецкага народа. Жыхарам Варшавы, ці яшчэ каму-небудзь. Пачвары. Людзі, што праходзілі па

другім баку вуліцы, непрыкметна пляваліся, зраўняўшыся з імі. Насупраць гэтых монстраў прыбіральшчыкі мелі нашмат больш працы, чым у другіх месцах.

Аднойчы Нікалаэ паведаў пра свой намер напісаць тое, што ён называў *раман у стылі "шлюбны торт"*. У той дзень мы былі на асабліва брыдкім пасяджэнні ў Саюзе пісьменнікаў і потым гулялі па парку. Я памятаю, як Нікалаэ, калі мы дайшлі да возера, абярнуўся да мяне і сказаў: "Калі гэта тое, чаго яны жадаюць, то гэта яны ад мяне і атрымаюць". Я спіхнуў бы яго ў ваду, калі б не заўважыў, што ён усміхаецца, і нават вельмі шчыра ўсміхаецца. Вось тады ён і патлумачыў мне сваю ідэю.

Гэта павінен быў быць літаратурны траянскі конь, які трэба паставіць пад гарадской сцяной цэнзуры, і дазволіць ім самім закаціць яго ўнутр. Яны будуць нават рады гэта зрабіць. Вось так Нікалаэ пачаў працу над сваёй кнігай. Гэта была, зразумела, эпапея: эпічна гістарычная, эпічна сентыментальная, эпічна рэалістычная, эпічна дасканалая. Менавіта тады ён пачаў гаварыць у Саюзе пісьменнікаў: "Таварышы, я сутыкнуўся з праблемай..." – так ён звычайна пачынаў, а потым пераходзіў да свайго рамана і тлумачыў якую-неўбудзь цяжкасць, з якой ён "сутыкнуўся": праблему рэалістычнага адлюстравання пункту гледжання фашыстаў-антыпатрыётаў, напрыклад, ці складанасць апісання сексуальных зносін, якое б не абражала прыроджанага добрага густу сталявараў, што будуць чытаць ягоную кнігу. Ці яшчэ што-небудзь такога кшталту. Ён выглядаў заклапочаным, ён дазваляў гэтым матолкам ды блазнам з Саюза пісьменнікаў накіроўваць сябе на іхні стыль мыслення, весці сябе да свету. "Таварышы, я сутыкнуўся з праблемай..." Кожны раз, калі я чуў гэтыя словы, мне здавалася, што цяпер яны яго выкрыюць. Але іронія не той стыль, з якім члены Саюза былі добра знаёмыя.

Такім вось чынам Нікалаэ працягваў пісаць сваю кнігу, атрымаўшы пры гэтым яўнае ўхваленне ў Саюзе. Можаце ўявіць сабе, як гэта было: яны не хацелі, каб нехта "разгойдваў лодку". Калі адзін пісьменнік збіваецца з курсу, у выпадку небяспекі ягонае месца павінен заняць другі. Нікалаэ вельмі добра выкарыстоўваў гэты страх, але іх не мог не турбаваць той факт, што ён ніколі не прыносіў у Саюз што-небудзь пачытаць са сваёй кнігі. Ён заўсёды казаў, што яму трэба яшчэ нешта перарабіць, выправіць апошнія памылкі. "Таварышы, я сутыкнуўся з праблемай..."

Мне ён сёе-тое паказваў, хаця ён павінен быў быць асцярожным, таму што да таго часу я ўжо трапіў у нялітасць. Занадта шмат адчаю – казалі яны мне. Тыя нешматлікія рэчы, што яны надрукавалі, лічыліся недастаткова моцнымі для ўзвышэння чалавечага духу. Узвышэння... ха. Як быццам пісьменніцкая праца – гэта бюстгальтар, а чалавечы дух – пара цыцак.

Нікалаэ быў вельмі добрым пісьменнікам. Тыя ўрыўкі, што ён даваў мне паглядзець, былі проста выдатнымі. Я маю на ўвазе, што яны былі цалкам пачварнымі, але і выдатнымі ў той жа час. Яны не былі сатырычнымі – ён не хацеў, каб яны былі такімі. Тое, чаго ён хацеў, – гэта ўжывіць сабе фальшывае сэрца і пісаць, чэрпаючы з самага ягонага дна. Гэта новае сэрца было ўражліва патрыятычным, сентыментальным і мела схільнасць да дакументальнасці. Там было шмат чаго пра тое, як мала ў людзей ежы, пра моц нацыянальнага характару, шматлікія звароты да румынскай гісторыі. А гісторыя, натуральна, рэдагавалася, і ўжо толькі потым ухвалялася Саюзам. "Таварышы, я сутыкнуўся з яшчэ адной невялікай праблемай..." Я і цяпер вельмі добра ўяўляю яго ў гэтай ролі".

Успомніўшы свайго сябра, Цырыяк усміхнуўся, і гэта была сумная ўсмешка. Я зразумеў, як лёгка ён вяртаўся да адчаю. Нават калі яму было весела.

"А што было потым?"

"Потым ён завяршыў кнігу і назваў яе, зразумела, "Шлюбны торт". Ён не мог адмовіцца ад гэтай назвы і спецыяльна, толькі дзеля таго, каб схаваць сапраўдны яе сэнс, дадаў у раман даўжэнны пасаж пра сімвалічны вобраз шлюбнага торта. Ён хацеў, каб ягоная кніга была падобнай на адзін з падарункаў Сталіна прыгнечаным народам. Каб яна, як манумент, узвышалася над іншымі – грандыёзная, спараджаючы спачатку захапленне. Каб ніхто не змог не заўважыць яе. Потым паступова, дзякуючы свайму месцу, яна прымусіць людзей думаць над ёй І чым вышэй будзе яна дамінаваць над астатнімі, чым больш старанна будуць яе ўхваляць, тым больш сорам ды збянтэжанасць пачне выклікаць яна ў тых, хто мацней за астатніх ёй захапляецца.

Я спытаў яго, што ён будзе рабіць пасля таго, як ягоны план спрацуе і кнігу надрукуюць. "Нічога, – адказаў ён. – Я ні слова больш не напішу. З цягам часу гэта зробіць жарт відавочным". "Але яны паспрабуюць прымусіць цябе пісаць, – сказаў я яму, – ты ж ведаеш, яны не дазваляюць не працаваць" "Ну, да таго часу я буду, можа, вельмі вядомым. Да таго ж, я скажу ім, што ўклаў у гэты раман усё сваё сэрца і душу. Калі вы жадаеце прачытаць маю другую кнігу, – скажу я, – прачытайце яшчэ раз першую. Потым я змоўкну і прыму як мага больш велічны выгляд".

Я паехаў з краіны ў 1951 годзе. Нікалаэ ўсё яшчэ працаваў над сваёй кнігай: яна ўяўляла сабой каля трыццаці пяці асобных складанатэматычных эпізодаў, якія трэба было сплесці ў адно цэлае Мы не перапісваліся пасля майго ад'езду – гэта магло стварыць яму праблемы. Замест гэтага я пісаў іншым людзям Маёй матулі, школьным сябрам. Як вы ведаеце, я ні разу не ездзіў туды і не чуў тамтэйшых навін амаль чвэрць стагоддзя. Аднак у адным з апошніх лістоў, незадоўга да смерці, маці напісала, што "Шлюбны торт" быў выдадзены і меў велізарны поспех. Сама яна не чытала кнігу – у яе быў слабы зрок і яна не хацела далей псаваць яго. Яна так напісала: "Падумаць толькі, калі б ты, мой Марыян, застаўся, ты б мог стаць такім жа знакамітым, як і Нікалаэ".

Ён павярнуўся да мяне і адпіў віна. Здавалася, гэта гісторыя стаміла яго. Потым ён усміхнуўся. "Калі б я ведаў, я б папрасіў вас прывезці мне экземпляр "Шлюбнага торта", – сказаў ён, – раман бы моцна – як гэта? – павесяліў мяне".

"Я не ўпэўнены, што бачыў яго"

". .? Але вы мне расказвалі .. на вітрыне..."

"Не, тая кніга, што я бачыў, называлася жаночым імем Марыя, Эмануэла – нешта ў гэтым родзе, з малюнкам дзяўчыны на вокладцы". Я спытаў яго, як па-румынску будзе "Шлюбны торт"? Ён сказаў "Не, такога тытула я не бачыў. Але там было яшчэ шэсць ці сем іншых кніг Петрэску, назвы якіх я не памятаю. Мабыць, яна была сярод іх".

Мы абодва памаўчалі, паглядзелі адзін на аднаго, зноў памаўчалі.

"Ну, – нарэшце сказаў ён, – вось вы яго і атрымалі. Яшчэ адзін доказ вашай румынскай тэорыі Яшчэ адзін аднацвет. Адзіны вялікі іранічны пісьменнік – Петрэску".

"Так", – хутка адказаў я і ўсміхнуўся, выказваючы сваю поўную згоду.

# Грэм ГРЫН

## ЯПОНСКІЯ ДЖЭНТЛЬМЕНЫ-НЕВІДЗІМКІ

*Грэм Грын нарадзіўся ў 1904 годзе ў горадзе Беркхэмстэд, графства Хэртфардшыр, Англія. Адукацыю ён атрымаў у Оксфардскім універсітэце, дзе перажыў жорсткае нервовае расстройства.*

*Пасля заканчэння каледжа ў 1926 годзе Грын на працягу трох гадоў развіваў свой талент на*

У рэстаране Бэнтлі вячэралі восем японскіх джэнтльменаў Яны елі рыбу ды зрэдку казалі нешта адзін аднаму на сваёй неймавернай мове – заўсёды з ветлівай усмешкай і нярэдка з невялікім паклонам. Усе яны, акрамя аднаго, былі ў акулярах. Прывабная дзяўчына, што сядзела за імі ля акна, часцяком акідвала іх хуткім позіркам, аднак яе персанальныя праблемы здаваліся ёй занадта сур'ёзнымі, каб па-сапраўднаму звяртаць увагу на каго яшчэ ў свеце, акрамя яе самой ды спадарожніка.

У яе былі светлыя рэдкаватыя валасы, зграбны, у рэгенцкім стылі, тварык, авальны, як старажытная мініяцюра Але яе гаворка была нейкай рэзкай і нагадвала акцэнт выпускніцы жаночага каледжа ў Рэдыне альбо Чэлтнэме На безыменным пальцы левай рукі яна насіла мужчынскі пярсцёнак з пячаткай Калі з сеў за свой столік, пры гэтым японскія джэнтльмены апынуліся між намі, яна сказала: "Ну вось, ты бачыш, мы зможам згуляць вяселле ўжо на наступным тыдні".

"Што?"

Яе спадарожнік быў злёгку ашаломлены. Ён даліў у штофы шабле і сказаў: "Канешне, але мая мама. " Далейшай размовы я не пачуў, бо самы старэйшы японскі джэнтльмен – з усмешкай ды невялікім паклонам – паклаў локці на стол і выдаў цэлую прамову, падобную да

*пасадзе намочніка рэдактара ў лонданскай "Таймс". З прычыны адсутнасці схільнасці да мітуслівага рытму працы ў перыядычных выданнях, у 1930 годзе ён становіцца журналістам, не звязаным кантрактам ні з адной рэдакцыяй. У 1935 годзе пераходзіць на працу кінакрытыка ў брытанскую газету "Спектэйтар" і ў 1940 становіцца яе літаратурным рэдактарам.*

*Служба ў Брытанскім Міністэрстве замежных спраў у Заходняй Афрыцы (пачынаючы з 1942 года) у часы другой сусветнай вайны дала падставу для абвінавачванняў Пра Грына гаварылі, што ён стаў здраднікам і дапамагаў іншым краінам. У адказ на гэта пісьменнік у 1943 годзе пайшоў у адстаўку і да канца вайны падарожнічаў па свеце.*

*Першымі раманамі Грэма Грына былі: "Чалавек унутры" (The Man Within) – 1929 год, "Імя дзеяння" (The Name of Action) – 1930 год і "Вечаровыя чуткі" (Rumours at Nightfall) – 1939, аднак папраўднаму вядомым ён стаў пасля апублікавання ў 1932 годзе рамана "Цягнік ідзе ў Стамбул" (Stamboul Train), вядомага пад іншай назвай – "Усходні экспрэс". Усе гэтыя працы напоўнены маральнымі, рэлігійнымі ды сацыяльнымі тэмамі (у 1926 г. Грын прыняў каталіцызм).*

*Але здавалася, што, нягледзячы на веру, Грын быў ахоплены злымі сіламі, бо ягоныя апошнія раманы ўяўлялі сабой незвычайнае выказванне маральнай віны праз псіхалагічны канфлікт, што яшчэ больш узмацняла жудасць сюжэтаў. Доўгі час пасля выхаду гэтых раманаў спрачаліся, ці былі іх сюжэты ўзяты з ягонай асабістай біяграфіі – у апошнія гады свайго жыцця Грын пачаў захапляцца містыцызмам і выконваў магічныя рытуалы паўночнаамерыканскіх індзейцаў.*

*Грэм Грын памёр у 1991 годзе, аднак ягоная апошняя праца была апублікавана ў 1994. Яна мела назву "Мой свет. дзённік мары" (A World of My Own: A Dream Diary) і ўяўляла сабой вытрымкі з больш чым 800 старонак дзённікаў ды запісак пісьменніка, якія ён вёў на працягу 24 гадоў. Гэта былі часткова сапраўдныя, часткова выдуманыя аўтабіяграфічныя нарысы пра жыццё і падарожжы Грэма Грына.*

птушынага шчабятання, падчас якой астатнія нахіліліся да яго, слухалі, і ўсміхаліся – нават я сам не змог застацца няўважлівым да ягонага выступлення.

Жаніх дзяўчыны знешне быў вельмі падобны да яе. Абое яны здаваліся мне дзвюма мініяцюрамі, што вісяць побач на белай драўлянай панелі. Ён мог бы быць афіцэрам флоту ў адмірала Нэльсана, калі некаторая знешняя кволасць і пачуццёвасць не заміналі прасоўванню па службе.

Яна сказала: "Яны даюць мне аванс пяцьсот фунтаў і ўжо прадалі правы на кнігу ў мяккай вокладцы". Такая халодная камерцыйная заява шакіравала мяне, як і тая навіна, што мы з ёй былі прадстаўнікамі адной прафесіі. Ёй не магло быць болей за дваццаць гадоў. Яна заслугоўвала лепшага жыцця.

Ён сказаў: "Але мой дзядзька. ."

"Ты ж не вельмі добра ладзіш з ім. У гэтым сэнсе мы будзем зусім незалежнымі".

"*Ты* будзеш незалежнай", – сказаў ён неахвотна.

"Вінагандаль не вельмі табе падыходзіць, праўда? Я казала пра цябе майму выдаўцу, ён гатовы даць табе шанц... калі ты пачнеш хоць трохі чытаць..."

"Але я нічога не разумею ў кнігах".

"Я б спачатку дапамагла табе".

"Мая мама кажа, што прыбыткі пісьменніка – як тая мыліца для кульгавага..."

"Пяцьсот фунтаў стэрлінгаў плюс палова праў на кнігу – вельмі нават надзейная мыліца", – парыравала яна.

"Добрае віно, ты згодная?"

"Так".

Мае меркаванні наконт яго пачалі мяняцца – у ім не было нічога нэльсанаўскага. Лёс асуджаў яго на паражэнне Дзяўчына працягвала абстрэльваць ягоны карабель падоўжным і папярэчным агнём. "Ты ведаеш, што сказаў м-р Дуайт?"

"Хто такі Дуайт?"

"Дарагі, ты слухаеш мяне? Мой выдавец. Ён сказаў, што за апошнія дзесяць гадоў яшчэ не чытаў першага рамана, аўтар якога вызначаўся б такімі назіральніцкімі здольнасцямі".

"Гэта дзіўна, – сказаў ён, – дзіўна".

"Толькі ён захацеў, каб я змяніла назву".

"Так?"

"Яму не падабаецца *"Вечна бягучая плынь"*. Ён хоча назваць яго *"Грамадства Чэлсі"*.

"І што ты адказала?"

"Я згадзілася. Я мяркую, што аўтар павінен зрабіць свайго выдаўца шчаслівым першым жа раманам. Асабліва ў тым выпадку, калі ён дае грошы на наша вяселле, так?"

"Я разумею, што ты маеш на ўвазе". Ён разгублена памешваў відэльцам шаблі ў сваім штофе. Падобна на тое, што да заручынаў ён заўсёды купляў шампанскае.

Японскія джэнтльмены даелі сваю рыбу і, карыстаючыся некалькімі англійскімі словамі, што былі ім вядомыя, заказвалі салату са свежай садавіны. Дзяўчына паглядзела на іх, потым на мяне, аднак мне здалося, што бачыла яна толькі будучыню. Я адчуваў моцнае жаданне засцерагчы яе ад гэтай будучыні, асновай якой з'яўляецца раман пад назвай *"Грамадства Чэлсі"*. Я быў на баку маці гэтага хлопца. Пры гэтым мне прыйшла ў галаву абразлівая думка, што я быў, мабыць, аднолькавага з яе маці ўзросту.

Я хацеў спытаць яе "А вы ўпэўнены, што ваш выдавец казаў вам праўду? Здаецца, выдаўцы таксама людзі, і яны могуць перабольшваць вартасці маладзенькіх ды прыгожых пісьменніц. А ці будуць чытаць *"Грамадства Чэлсі"* праз пяць гадоў? І ці гатовы вы да гэтай знясільваючай працы ды працяглых няўдач, калі нічога вартага не атрымліваецца? З цягам часу пісаць не стане лягчэй, а вытрымліваць штодзённае напружанне будзе ўсё цяжэй і цяжэй Калі вам будзе за сорак, вашы "назіральніцкія здольнасці" аслабнуць, але ацэньваць вас будуць па тым, што вы ўжо здолелі зрабіць, а не па тым, чаго абяцалі дасягнуць"

"Дзеянне майго наступнага рамана будзе адбывацца у Сен-Трапэзе".

"Я не ведаў, што ты там была"

"Я там не была. Тут вельмі важна ўбачыць усё свежым вокам. Я падумала, што мы маглі б пражыць у гэтым горадзе месяцаў шэсць"

"Да таго часу ад твайго авансу нічога не застанецца".

"Аванс ёсць аванс. Я буду атрымліваць пятнаццаць адсоткаў пасля продажу пяці тысяч экземпляраў і дваццаць – пасля продажу дзесяці. І, зразумела, дарагі, калі я скончу наступную кнігу, будзе новы аванс. Яшчэ большы, калі *"Грамадства Чэлсі"* будзе добра прадавацца".

"Здаецца, не будзе".

"М-р Дуайт гаворыць, што будзе. А ён дакладна ведае".

"Мой дзядзька згадзіўся даць мне дванаццаць соцень для пачатку".

"Але, дарагі, як мы зможам тады паехаць у Сен-Трапэз?"

"Мабыць, нам лепей згуляць вяселле, калі ты вернешся адтуль".

Яна рэзка сказала: "Я магу і не вярнуцца, калі *"Грамадства Чэлсі"* будзе добра прадавацца".

"Ох..."

Яна зірнула на мяне. На японскіх джэнтльменаў. Дапіла сваё віно. Сказала: "Гэта сварка?"

"Не".

"У мяне ўжо ёсць назва новай кнігі: "Блакітная сінь".

"Я думаў, што сінь і на *самай справе* блакітная".

Яна паглядзела на яго з расчараваннем. "Ты, здаецца, не хочаш ажаніцца з пісьменніцай?"

"Ты яшчэ не пісьменніца".

"Я народжана ёй – м-р Дуайт кажа, што мае назіральніцкія здольнасці. "

"Так. Аб гэтым ты ўжо казала. Аднак ці не магла б ты пlivназіраць дзе-небудзь бліжэй да дому? Тут – у Лондане?"

"Я ўжо зрабіла гэта ў *"Грамадстве Чэлсі"* Я не хачу паўтарацца".

Рахунак ужо нейкі час ляжаў перад імі. Ён выняў свой бумажнік, каб заплаціць, але яна адсунула паперку далей ад яго. Яна сказала. "Гэта маё свята"

"Якое свята?"

*"Грамадства Чэлсі"*, канешне. Дарагі, гэта вельмі міла з твайго боку, але зрэдку – ну, ты проста нічога не разумееш"

"Я ўсё ж. . калі ты не супраць..."

"Не, дарагі, гэта за мной. І м-рам Дуайтам, зразумела".

Ён здаўся якраз у той момант, калі два японскіх джэнтльмены разам загаварылі, потым раптоўна змоўклі, потым пакланіліся адзін аднаму, нібыта пасля сутыкнення ў дзвярах.

Спачатку я палічыў гэтых маладых людзей вельмі падобнымі мініяцюрамі, аднак яны аказаліся вельмі рознымі. Адзін і той жа тып знешнасці захоўваў у сабе і моц, і слабасць. Я думаю, што, нягледзячы на сваю, здавалася б, далікатнасць, яна здолее нарадзіць тузін дзяцей без усякай анестэзіі, у той час як ён стаў бы лёгкай здабычай першых жа гарэзлівых вачэй дзе-небудзь у Неапалі. Але ці здолее яна напісаць тузін кніг? Яны таксама павінны быць народжаны без анестэзіі Я славіў у сябе надзею, што *"Грамадства Чэлсі"* будзе бяздарнай кнігай і яна зрэшты займецца працай фотамадэлі,

а ён стане слынным вінагандляром дзе-небудзь у Сент-Джэймсе. Мне не хацелася бачыць яе ў ролі Хэмфры Уорд свайго пакалення – як і думаць аб тым, што мне давядзецца так доўга жыць. Сталы ўзрост выратоўвае нас ад шмат якіх страхаў. Мне было цікава, у якой выдавецкай фірме працуе Дуайт. Я ўяўляў сабе рэкламу, якую ён ужо напісаў для вокладкі выдання – якія назіральніцкія здольнасці, што агаляюць сутнасць рэчаў, мае аўтарка кнігі. Калі ён будзе мудрым, тады на адваротным баку з'явіцца яе фота, таму што рэцэнзенты такія ж людзі, як і выдаўцы, а яна пакуль не нагадвае місіс Хэмфры Уорд.

Я чуў іхнюю размову ўнізе, калі яны бралі ў гардэробе свае паліто. Ён сказаў: "Цікава, а што тут робяць усе гэтыя японскія джэнтльмены?"

"Японскія? – спытала яна. – Якія японцы, дарагі? Часам ты так раптоўна ўхіляешся ад мяне, што здаецца, быццам ты наогул не хочаш са мной ажаніцца".




*Тэд Х'юз нарадзіўся ў 1930 годзе ў маленькім гарадку Міталмройд, што ў Заходнім Йоркшыры. Ягоны бацька быў цесляром. Калі хлопчыку было сем гадоў, сям'я пераехала ў горад Мэксбара. Йоркшырскія краявіды і тутэйшы народ запомніліся хлопчыку на ўсё жыццё і пазней сталі галоўнымі асобамі шмат якіх ягоных твораў.*

*Адукацыю Тэд Х'юз атрымаў у Кембрыджскім універсітэце, дзе вывучаў археалогію і антрапалогію. Пасля працаваў нейкі час школьным выкладчыкам, садоўнікам, начным вартаўніком, рабочым у заапарку. Прызнанне прыйшло да яго спачатку ў Злучаных Штатах Амерыкі, дзе аўтар правёў некалькі гадоў. Тэд Х'юз – лаўрэат шматлікіх літаратурных прэміяў ды іншых узнагародаў, ён з'яўляецца адным з выдатнейшых сучасных песняроў дзікай прыроды і вясковага жыцця правінцыйнай Англіі.*

*Большую частку ягонай творчасці складае паэзія, пры гэтым паэзія вобразная, алегарычная, ягоныя вершы часцяком бываюць пабудаванымі на адной разгорнутай метафары (зборнікі "Ястраб пад дажджом" (The Hawk in the Rain) – 1957 год, "Люперкалії! (Lupercal) – 1960 год, "Вудву" (Wodwo) – 1967 год і іншыя). Вельмі значнае месца ў творчасці Тэда Х'юза займае міфалагічны напрамак (зборнікі паэзіі "Крумкач: з жыцця і песень крумкача" (The Crow: from the Life and Songs of the Crow) – 1972 год, "Радуйцеся!" (Gaudete!) – 1977 год), а таксама вершы і апавяданні для дзяцей – напісаныя ў 1968 годзе. "Жалезны чалавек" (The Iron Man) не так даўно Пітам Таўсэндам быў пакладзены на музыку і стаў адным з самых папулярных мюзіклаў.*

*Важнай тэмай творчасці Тэда Х'юза з'яўляецца трагізм чалавечага існавання, які вынікае з супярэчнасці паміж неабмежаванымі творчымі здольнасцямі розуму і разбуральнымі вынікамі ягонай дзейнасці. Аднак у вершах і апавяданнях Х'юза няма адчування бессэнсоўнасці і абсурднасці жыцця.*

Калі малады чалавек узняўся па пагорак, то быў сустрэты там тонкай вільгаццю блізкага дажджу. Ён падняў каўнер пінжака і, гледзячы зверху на даліну, стаяў на верхавіне пакрытага хмызняком і парытага трусамі схілу

Ён зайшоў занадта далёка. Пасля таго, як ён выйшаў за браму на сцяжынку і пралез праз дзірку ў агароджы, тое, што было задумана як вандроўка ўздоўж багатага прыемнымі ўспамінамі гасцінца, непрыкметна ператварылася ў пераадоленне ўзараных палеткаў. Ягоныя чаравікі прамоклі, мокрая глеба ўсё вышэй забруджвала штаны шэрага касцюма. У паветры вісела золкая вільгаць, якая ў любую хвіліну пагражала новым дажджом. Ён уздрыгануў ад холаду, і ўсё ў ім сціснулася перад гэтай непагаддзю.

Гэта быў менавіта той пейзаж, аб якім ён думаў. Не выбіраючы шляху наперад, ён адразу адчуў, што з гэтага месца ўбачыць усю навакольную панараму. За апошнія дваццаць гадоў, калі ён толькі ні ўспамінаў гэтую мясцовасць, ён уяўляў яе менавіта так, як яна выглядае адсюль. Цяпер уся даліна была перад ім Зусім пустыя, голыя роўныя палеткі, чорныя і прамоклыя, як дно пракаветнага возера пасля некалькіх тыдняў дажджу

Нічога не здарылася. Не тое, каб ён жадаў атрымаць тут нейкае абсалютна новае ўражанне, але ён нечага чакаў, чагосьці прыемнага, якога-небудзь значнага адчування, ён сам дакладна не ведаў, чаго.

І ён чакаў, спрабуючы выклікаць патрэбныя адчуванні, ажывіць успаміны праз незабытыя дэталі: знаёмы выгін агароджы, вялікую браму на каменных слупах, што зашчапляліся на вялізны крук, з якой ён часцяком рабіў мішэнь; доўгі, увесь у трусіных норах схіл, на якім ён цяпер стаяў і які быў першым, што ён разгледзеў з вёскі, калі, дваццаць гадоў таму, сказаў сабе "Падобна на тое, што там павінны быць трусы".

Тыя дваццаць гадоў змянілі яго. Гэтая зямля больш не пазнавала яго, і ён без цеплыні глядзеў на яе, як на першы раз бачаную радзіму, знаёмую толькі па расказах дзеда нічога не адчуваючы, апроч пустаты нецікавасці. Нуды. Потым, раптам, на яго найшло раздражненне, выкліканае роспачным гудам турботных думак аб чаравіках, надыходзячым дажджы, новым касцюме, усё болей і болей цямнеючым небе, ды аб стамляючым двухмільным шляху назад па раскіслым, брудным гасцінцы.

Найкарацей будзе пайсці напрасткі да фермы праз даліну, скараціўшы мілю, бо гасцінец агінае яе ззаду. Але думка пра сустрэчу з фермерам, калі яго не пазнаюць ды аблаюць за парушэнне прыватнай уласнасці, стрымлівала яго. Ён паглядзеў на дождж, што павольна набліжаўся, цягнуў па зямлі свае шэрыя калоны, спавіваючы фермы і дрэвы.

Хваля гневу накаціла на яго: гнеў на самога сябе за блуканне па брудзе, на зямлю, якая прымусіла яго адчуць сябе старым, нязграбным і бязглуздым выгнаннікам. Усё, чаго ён цяпер жадаў, – сысці адсюль, чым хутчэй, тым лепей. Але калі ён зрушыўся з месца, то краем вока раптам заўважыў нейкі рух. Усе ягоныя пачуцці абвастрыліся. Ён спыніўся.

Справа ад яго, апусціўшы галаву і выцягнуўшы шыю, праз узараны палетак да пагорка бег чорны конь. Здавалася, ён бег на дыбачках, як той кот ці сабака, што не чакае наперадзе нічога добрага. З таго месца, дзе ён стаяў, схіл пагорка паволі апускаўся, потым узнімаўся да другой вяршыні, дзесьці ў трох сотнях ярдаў справа, каля невялікага лесу. За той час, што ён назіраў за жывёлай, яна ўзбегла на суседні ўзгорак, адбілася на фоне неба – толькі на імгненне, як леапард у начным кашмары, – і знікла на другім баку.

Некалькі хвілін ён уважліва глядзеў у далягляд, збянтэжаны тым непрыемна дзіўным уражаннем, што зрабіў на яго конь. Пакуль першая кропля ледзянога дажджу не трапіла на ягоную голую галаву і не вярнула яго да рэчаіснасці. Наваколле пачало знікаць, патануўшы ў шэрай хвалі. Выява палеткаў перастала быць нерухомай і заварушылася, размытая кроплямі дажджу.

Прыціснуўшы каўнер і схаваўшы пад ім бараду, ён пабег праз вяршыню пагорка назад, у напрамку да горада. Ягоныя чаравікі плюхалі ў раскіслую глебу, пырскаючы брудам, які на кожным кроку засмоктваў ногі амаль па шчыкалатку.

Абрысы пагорка нагадвалі хвалю, якая паволі падымалася з даліны да вострага грэбеня і амаль завісала над прыбярэжным лугам. Уздоўж гэтага схілу віселі два невялікія ляскі, размежаваныя палеткамі Той, што бліжэй, быў проста круглаватай формы кар'ерам, дзе валялася шмат камення сярод папаратніку і раслі некалькі кустоў хмызняку ды маладыя дрэвы. Другі лес быў прамавугольным і складаўся, галоўным чынам, з пасаджаных там карлікавых дубкоў Далей за ракой ляжаў горад, які нагадваў адсюль безліч мігаючых блакітным святлом вуглёў.

Ён пабег да першага лесу, але, не знайшоўшы там ніякага схованкі ў падлеску, патрусіў па высокай траве да дубравы, дзе не было ветру. Пад дажджом, які заліваў вочы, ён прадзіраўся скрозь густыя зараснікі ажыны на ўскраіне лесу. Маленькія крывыя дрэвы не выглядалі

надзейным сховішчам, але дождж узмацніўся і гэта прымусіла яго нахіліцца і залезці пад крону першага ж дубка.

Падцягнуўшы да сябе калені і цяжка дыхаючы пасля бегу, ён сачыў за бляклашэрымі струменямі дажджу, якія касым патокам ліліся на кусты ажыны ды папаратніку. Ён адчуў сябе ў бяспецы. Дождж шапацеў і закалыхваў, як быццам замуроўваючы яго ў гэтым лесе. Хутка халодны свінец ягонага адзення ператварыўся ў шчыльную цёплую абалонку і, паступова, ім авалодвала адчуванне камфорту, падобнае на транс, хаця дождж усё ліў ды ліў яму на плечы, а тонкі струменьчык вады збягаў за каўнер.

Усе галіны вакол яго схіляліся ўніз і блішчэлі, як варанёнае жалеза. З іхніх выгінаў і канцоў адна за адной збягалі кроплі, маленькія патокі вады ў звілінах кары зіхацелі і пульсавалі. Некаторы час ён забаўляў сябе тым, што вызначаў сілу дажджу па колькасці кропель, якія зрываліся з галінкі перад ягоным тварам. Ён вывучыў і саму галінку, знаходзячы на ёй абрысы кантынентаў, уяўляючы жывёлін і карлікаў пад яе шурпатай карой. А ўдалечыні, за сукамі, уздымалася і апускалася блакітнаватая маса горада, гусла ды зноў расплывалася пад шэрымі патокамі дажджу.

Ён хацеў, каб гэты дождж ніколі не скончыўся. Калі яму здавалася, што залева аціхае, ён пачынаў непакоіцца і прыслухоўвацца, пакуль дождж не мацнеў ізноў. У гэты момант ён існаваў па-за жыццём і часам. Ён не хацеў вяртацца да сваіх прамоклых чаравікаў, загубленага, мабыць, касцюма, зваротнага шляху па бруднай дарозе.

Раптам ён здрыгануўся. Моцна абхапіў рукамі калені, каб выціснуць з сябе холад, і зразумеў, што думае пра каня. Надышоў успамін, як той імчаўся да вяршыні і адбіўся на фоне неба Валасы на ягонай патыліцы заварушыліся.

Ён паспрабаваў пазбавіцца ад гэтай думкі. Коні даволі часта вандруюць па вясковым наваколлі Аднак адбітак сілуэта каня на фоне шэрага неба не выходзіў з ягонай галавы. Магчыма, жывёліна пераадолела грэбень пагорка ля таго месца, дзе ён цяпер знаходзіўся. Каб забыцца на гэта, ён атросся і паглядзеў на лес справа ад сябе. На яго ўскрайку, заліты серабрыста-шэрым святлом, пад дубамі стаяў чорны конь. Ягоная галава была напружана ўзнята, вушы насцярожана тырчалі Конь глядзеў на чалавека.

Звычайна коні, хаваючыся ад дажджу, робяцца нейкімі здранцвелымі, стукаюць па зямлі заднімі капытамі, апускаюць галаву, прыкрываюць павекамі вочы і ў такім стане чакаюць, пакуль скончыцца дождж. З гэтым канём усё было па-іншаму. Ён пільна сачыў за чалавекам, не рухаючыся з месца, ягоная шыя ззяла мокрай чарнатой.

Чалавек адвёў вочы. Скура на ягонай галаве пахаладзела, і ён задрыжаў. Што яму рабіць? Недарэчна было б спрабаваць прагнаць каня. І пайсці з лесу пад такім праліўным дажджом было таксама немагчыма Тым часам думка пра тое, што за ім нехта сачыў, рабілася невыноснай, і ён азірнуўся – ці не знік гэты конь. Той быў на тым жа месцы.

Гэта было абсурдна. Ён узяў сябе ў рукі, паволі адвярнуўся і вырашыў больш пра каня не думаць. Калі жывёла хацела схавацца ад дажджу ў лесе разам з ім – ну і добра. Калі яна хоча глядзець на яго – хай глядзіць. Толькі ён вырашыў усталявацца на гэтай думцы, як зямля скаланулася, і ён пачуў, як вялікае цела каня панеслася ўніз па лесе З хуткасцю маланкі ён падхапіўся на ногі і павярнуўся. Конь быў ужо амаль над ім, – шыя выцягнута наперад, вушы прыціснуты да галавы, доўгія жоўтыя зубы выскалены. Ён імгненна ўхіліўся за дрэва, але паспеў заўважыць налітыя крывёй вочы. Потым ён пабег уніз па схіле. Дубовыя галіны секлі яго па твары, ён пераскокваў праз кусты ды груды галля, прадзіраўся між дрэвамі, пакуль не зачапіўся за нешта і не зваліўся, распластаўшыся на траве Ягоную галаву не пакідала засцярога ні ў якім разе не сапсаваць касцюм, але больш моцны інстынкт прымусіў яго хутка адкаціцца ўбок. Седзячы на зямлі, ён азірнуўся, гатовы імгненна куды-небудзь кінуцца Ад звышнатуральных высілкаў і ўзбуджэння ён цяжка дыхаў Конь знік. У лесе нікога не было, акрамя шапацення касога шэрага дажджу, што танчыў па лістах папаратніку ды па бліскучых мокрых галінках.

Раз'юшаны, ён ускочыў на ногі. Збіваючы з касцюма бруд ды мокрае лісце, ён азірнуўся вакол сябе ў пошуках зброі Гэты конь быў, відаць, шалёны, у ягоных мазгах магла быць пухліна ці яшчэ што-небудзь такое. Альбо яго нехта раззлаваў Здараецца,





што дождж прыводзіць жывёл у незвычайны стан. Як бы там ні было, трэба хутчэй выбірацца з лесу. Зараз яму не было розніцы, ідзе дождж ці не.

Калі гэтая істота пабегла ўніз па лесе, шлях цераз пагорак да фермы быў свабодны. Перад тым як ісці, ён адламаў ад дуба сухі сук таўшчынёй з руку, але адразу адкінуў яго ўбок – кара амаль што згніла і сук быў слізкім і гідкім. Ён выцер рукі мокрай насоўкай Цяпер яму здавалася немагчымым, што конь хацеў напасці на яго. Больш верагодна, што жывёла шукала лепшае сховішча і калі бегла паўз яго, зрабіла падманны выпад – ад гарэзлівасці, цікаўнасці, альбо з якой іншай нагоды. Яму ўспомнілася, як коні пужаюць адзін аднаго, калі бегаюць па выгане.

Лес узнімаўся па крутым схіле, у канцы якога была жывая агароджа з зараснікаў глогу, што цягнулася па ўсёй даўжыні грэбеня Абапіраючыся на голыя ствалы дрэў, ён паспрабаваў дабрацца да пралазу, але раптам хутка прысеў. Перад ім ляжаў разбухлы палетак, які дыміўся пад павольна сыплючым дажджом, а на самай яго сярэдзіне, высокі, як статуя, прывідна-серабрысты пад нізкімі хмарамі, стаяў конь і глядзеў на лес.

Чалавек паціху апусціў галаву яшчэ ніжэй, хутка збег назад па схіле і прыпаў да зямлі Яго ахапіла жудаснае адчуванне бездапаможнасці. Яму здавалася, што конь цяпер глядзеў менавіта на яго. Чакаў яго? Ведаў, скуль чакаць? Магчыма, шалёная жывёла і на самай справе можа мець дар яснабачання. У той жа час яму было сорамна, што ён паводзіў сябе так бязглузда, прысядаў, хаваўся, рухаўся крадучыся – толькі каб конь яго не заўважыў Ён думаў, што хто-небудзь іншы проста пайшоў бы адсюль дамоў. Гэтыя думкі трохі супакоілі яго, і ён адсунуўся далей у лес. Ён мог бы пакінуць гэтае месца тым жа шляхам, што і прыйшоў, – пад прыкрыццем грэбеня і без усякіх прыгод.

Лес шумеў пад халодным цяжарам дажджу, аднак ён хутчэй бачыў гэта, чым чуў. Вада цякла пад адзежу і хлюпала ў чаравіках, калі ён ішоў па засланай галлём і лісцем зямлі. У любы момант ён чакаў убачыць чорную галаву з насцярожанымі вушамі, якая глядзіць на яго зверху з зараснікаў

На краі лесу ён зрабіў паўзу, прысланіўшыся да дрэва. Поспех апошняга манеўра вярнуў яму ўпэўненасць, але ён не хацеў зноў выходзіць на адкрытую мясцовасць, бо не быў упэўнены, што конь застаўся на тым месцы, дзе ён яго бачыў. Цудоўна было б сысці адсюль незаўважаным, пакінуўшы каня пад дажджом. Ён зноў пачаў узбірацца паміж дрэвамі на грэбень і асцярожна паглядзеў скрозь агароджу.

Шэрае поле і ўся прастора вакол яго былі пустымі Ён пільна агледзеў наваколле. Здавалася, конь забыўся на яго ды пацягнуўся некуды. Ён выпраміўся і выглянуў з зараснікаў, каб запэўніць сябе, што конь не стаіць каля агароджы. Не паспеў ён хоць што зразумець, як зямля задрыжала. Ён дзіка азірнуўся – як жа ён папаўся? Чорная маса навісла над ім, якраз насупраць святла. Яму здалося, што стукат капытоў і храп жывёлы самі ўзнікалі ў ягонай галаве, і ён паваліўся назад на схіл, потым падхапіўся, як вар'ят, і пабег, пятляючы паміж дрэвамі і чакаючы, што яго зараз дагоніць удар і ён будзе збіты на зямлю. Хутка дубы змяніліся папаратнікам, старымі каранямі ды камяністымі трусінымі норамі. Ён быў ужо пасярэдзіне паляны, калі зразумеў, што бяжыць адзін.

Хапаючы ротам паветра і міжволі лаючыся, ён сеў на зямлю, каб даць нагам адпачыць, нават не ўспомніўшы пра касцюм. Мокрыя валасы звісалі з ілба. Ён абыякава глядзеў, як вакол зырка ўспыхвалі вогненныя лініі, білі ў зямлю і зараз жа знікалі – як быццам ён глядзеў на іх праз тоўстае шкло. Ён глыбока дыхаў, спрабуючы супакоіць сэрца і захаваць кантроль над сабой Правая калашына ягоных штаноў разарвалася ўнізе па шве, а пінжак быў заляпаны жоўтым брудам з верхняга поля.

Зразумела, што конь стаяў за агароджай і чакаў, калі чалавек выйдзе з лесу, што той і збіраўся зрабіць. Ён хацеў выглянуць з-за кустоў у другім накірунку – літаральна ў некалькіх ярдах стаяла жывёліна. Тым не менш, апошні напад праясніў сітуацыю. Ён не павінен дзейнічаць, як матолак, што не ў стане вырашыць – забаўляецца гэты конь ці не Зараз яму ўсё зразумела. Ён падняў пару камянёў памерам з гусінае яйка і вялікімі крокамі бесклапотна накіраваўся да лесу.

Мяжой фермерскіх палеткаў была рака. Калі ён перасячэ невялікі луг каля лесу, дык здолее, прайшоўшы лішніх тры мілі, зноў выйсці на гасцінец. Ён памятаў, што каля ракі

багата крушняў з каменнем – выдатныя месцы для абароны, калі конь не будзе даваць яму спакою і там.

Глог, які рос на ўскраіне лесу – некаторыя дрэвы былі досыць вялікімі – выглядаў амаль непраходным бар'ерам. Ён знайшоў месца, дзе дрэвы раслі радзей, і пачаў прадзірацца праз іх, адгінаючы ствалы ў бакі. Раптам ён спыніўся Праз блакітную заслону голых галін ён убачыў у полі за лесам знаёмы сілуэт

Здавалася, жывёла яшчэ не заўважыла яго. Яна глядзела праз палеткі ўздоўж ракі Ён асцярожна выкараскаўся з зарасніку і накіраваўся назад у той бок лесу, дзе ён яшчэ не быў Калі конь застанецца знізу, ён зможа здзейсніць свой першы і самы просты план – прайсці да фермы цераз вяршыню ўзгорка.

Толькі цяпер ён заўважыў, як пацямнела неба. Дождж мацнеў з кожнай секундай, як быццам збіраўся затапіць зямлю яшчэ да прыцемкаў. Зямля гула, дубы наперадзе бачыліся вельмі цьмяна. Ён пабег. І калі ён бег, яму пачуўся яшчэ адзін гук, што рухаўся разам з ім. Ён хутка азірнуўся. Конь знаходзіўся пасярэдзіне поля. Магло здацца, што бедная істота проста ўцякае з-пад моцнага дажджу Але яна неслася менавіта на яго, незвычайна гнуткімі і пругкімі скачкамі, з-пад яе капытоў пырскамі разляталіся камяні ды мокрая глеба. У чалавека вырваўся жудасны крык, і ён кінуў па ёй камянём. Ці то з-за крыку, ці то з-за трапіўшага ў яго каменя, конь узвіўся на дыбы, нібы апынуўся перад перашкодай, і паваліўся на бок Калі конь узняўся на ногі, чалавек, з адлегласці некалькіх ярдаў, кінуў другі камень. Ён убачыў, як на бліскучым баку каня раптам з'явілася яркая пляма. Жывёла кінулася ўніз па лесе, як ваду, распырскваючы зямлю і размахваючы сваім доўгім хвастом, пакуль не знікла з вачэй сярод глогу

Чалавек азірнуўся ў пошуках камянёў. Гэта сустрэча напоўніла яго шалёнай энергіяй. Кроў грукала ў скронях У той момант ён гатовы быў забіць гэтага каня. Ён не мог сцярпець, каб гэта скаціна забаўлялася з ім такім жорсткім чынам. Кім бы ні быў яе гаспадар, яму варта было скруціць шыю за тое, што ён дазволіў вольна гуляць такой небяспечнай жывёліне.

Цяпер ён ішоў уздоўж лесу і шукаў камяні патрэбных памераў, гатовы да адкрытага бою. Камянёў было шмат, гладкіх і бліскучых, раскіданых па ўсім полі Ён падняў некалькі, выпрастаўся і ўбачыў каня ярдах у дваццаці перад сабой, які спакойна глядзеў на яго. Яны сустрэліся позіркамі.

"Пайшоў прэч! – крыкнуў чалавек і махнуў рукой – Прэч адсюль!" Жывёла схамянулася і навастрыла вушы. З усёй моцы ён шпурлянуў у яе камень. Той паляцеў занадта высока і плюхнуўся ў лужыну за канём. Ён кінуў другі раз. Некалькі хвілін доўжыўся гэты абстрэл без адзінага трапнага кідка. Чалавек паступова пачынаў упадаць у адчай, усё больш прамахваючыся, рука забалела ад нязвыклых рухаў Увесь гэты час істота неадрыўна глядзела на яго Зрэшты ён мусіў спыніцца, каб даць мышцам рукі адпачыць. Конь як быццам чакаў гэтага – два разы нахіліўшы галаву, рушыў наперад.

Чалавек схапіў два камяні і, з поўным адчаю крыкам, шпурлянуў адзін так моцна, як толькі змог. Ён быў здзіўлены гукам, калі патрапіў у цэль. Камень нібы грукнуў па цаглянай сцяне – конь нават спатыкнуўся. Тады ён з крыкам кінуўся наперад і кінуў другі камень. Здавалася, зараз нехта накіроўваў ягоную руку Камень зноў трапіў у каня і адляцеў уверх, апісаўшы дугу Жывёла ўзвілася і панеслася кар'ерам назад, у далёкі канец поля, спачатку агромністымі, размашыстымі скачкамі, потым лёгкім галопам, пакідаючы за сабой на зямлі глыбокія рваныя сляды. Яна паднялася да верхняга краю поля і апынулася на адным узроўні з чалавекам. Са здзіўленнем ён адчуў да яе жаль, убачыўшы, што яе галава дрыжыць, і яна нахіліла яе, каб пацерці капытом за вухам, як гэта робяць каты

"Стой там на месцы! – крыкнуў ён. – Не падыходзь бліжэй і табе не будзе балюча!" І на самай справе, конь у той жа момант паслухмяна спыніўся. Ён проста глядзеў, як чалавек падымаўся на пагорак.

Дождж сек яму твар, і тут ён зразумеў, што неверагодна змерз, што прамокла кожная клетка ягонага цела Цяпер яму здавалася, што да фермы мілі ды мілі шляху па самотных палетках. Ён нават не азірнуўся на каня – ён быў занадта стомлены – толькі набраў камянёў і рашуча пачаў свой шлях па моры бруду

Ён прайшоў ужо палову шляху да першай агароджы, калі ля краю лесу на фоне неба з'явіўся знаёмы сілуэт Конь стаяў з высока паднятай галавой і пільна сачыў за цяжкасцямі ягонага адступлення праз тры палі. Мокрая гліна камякамі вісела на ягоных нагах. Кожны крок быў асобным намаганнем, неабходным, каб вырвацца з засмоктваючай глебы. Ягоным рухам заміналі і мокрае адзенне, і цяжар камянёў, і нават ногі, якія, здавалася, самі ператварыліся ў гліну Ён старанна спрабаваў падтрымліваць роўнае дыханне. два крокі – удых, два крокі – выдых. Паветра разрывала ягоныя лёгкія. Пасярэдзіне апошняга поля ён спыніўся і азірнуўся вакол На мяжы далягляду стаяла, не варушылася, малюсенькая выява каня.

На краі поля ён высыпаў камяні і стомлена прытуліўся да брамы. Перад ім была ферма. Ён зноў зразумеў, што ідзе дождж, і раптам захацеў расцягнуцца пад ім на зямлі ва ўвесь рост, дазволіць халодным, гаючым кроплям падаць на цела, і забыцца ў апошняй бруднай лужыне Аднак ён усё стаяў, прытуліўшыся, ды глядзеў уверх на ўзгорак.

Дзень падыходзіў да вечара У прыцемках неба і зямля зліваліся пад дажджом і рабіліся аднолькавага вадзяніста-мокрага колеру. Падняўшы галаву, ён старанна разглядваў лінію далягляду. Конь знік. Пагорак выглядаў самотным і пакінутым, нібы востраў, што толькі што ўзняўся з мора падчас адліву.

Пад доўгай паветкай, дзе стаялі ў чаканні новага сезона трактары, плугі, снопавязалкі ды іншае абсталяванне, ён сеў на накрыты посцілкай бензабак. Змешаны пах газы, крэазоту, угнаенняў і пылу быў менавіта такім, як і дваццаць гадоў назад. Шурпатыя гнёзды ластавак гэтак жа ляпіліся пад дахам. Яму ўспомніліся тры забітыя лісы з акрываўленымі зубамі, што віселі ў рад пад адной з бэлек.

Здарэнне з канём здавалася яму цяпер нерэальным Яно апусцілася кудысьці ў самую глыбіню ягонага мозгу, стаўшы цьмянай сумессю страху і сораму, як пасля магчымай дарожнай катастрофы Ён адчуваў моцны боль у грудзях, нібыта туды нешта ўваткнулі Гэта прымусіла яго падумаць, ці не надарваў ён сэрца падчас апошняга напружанага і недарэчнага кросу Адну за адной ён пачаў здымаць з сябе апранахі, выціскаючы з іх шэрую брудную ваду, але хутка спыніўся і проста сядзеў, гледзячы на зямлю, як быццам страціўшы раптам нейкую важную частку самога сябе.

## Эма ТЭНАНТ

*__Эма Тэнант__ нарадзілася ў Лондане, але ў двухгадовым ўзросце бацькі адвезлі дзяўчынку ў Шатландыю, бо пачалася другая сусветная вайна. Да канца вайны яна жыла ў пабудаваным яе прапрадзедам-баронам фамільным замку Пасля вяртання ў Лондан Эма Тэнант*

До таго, як я выйшла замуж, калі мы жылі ў Афінах, толькі размовы з маёй сястрой Філамелай дазвалялі мне вытрымліваць маруду бясконцых дзён, бо яна распавядала мне пра такія думкі, якія ў мяне ніколі не ўзнікалі.

Навошта дазваляць, каб нехта зводзіў цябе з дому, як раба? Мы можам кінуць Афіны, пайсці ў горы і жыць там. Мы будзем свабоднымі Нават калі мы сканаем, гэта будзе лепей, чым тое, што нас чакае.

Я ведала, што яна мае рацыю, але не знаходзіла ў сабе смеласці згадзіцца Ночы ў гарах халодныя, і мы амаль непазбежна загінем Потым прыехаў Тэрэвус, узяў са мной шлюб і мы з'ехалі ў Трэс. Наша працэсія была такая велічная, што я зразумела мы ніколі не вернемся. Калі нарадзіўся мой сын Ітайлус, я адчула, што мяне быццам пахавалі ў прыгожай труне.

– Я прыеду, і мы будзем жыць разам, – казала Філамела – Табе не давядзецца доўга чакаць мяне.

Яна не прыехала Я пачала сумаваць, як тыя птушкі, што дзеці прыносілі ў палац пасля палявання. Тэрэвус усё заўважыў, але гэта яго не турбавала У палацы, як і зараз, наладжвалі спевы маладыя спевакі, тут рыхтаваліся да чарговай вайны, мноства людзей хадзіла па старым мармуры туды-сюды А я не спускалася са сваёй канапы, амаль задаволеная, што мая прыгажосць

*скончыла школу і паехала ў Парыж вывучаць гісторыю мастацтва.*

*Першы раман пісьменніцы быў апублікаваны ў 1963 годзе і называўся “Колер дажджу” (The Colour of Rain). З таго часу яна выдала яшчэ шэраг кніг, сярод якіх: “Дрэнная сястра” (The Bad Sister), “Буйныя ночы” (Wild Nights), “Падзенне Алісы” (Alice Fell), “Каралева камянёў” (Queen of Stones), “Дом гасціннасці” (The House of Hospitalities), а таксама дзіцячыя творы: “Богарт” (The Boggart), “У пошуках вострава скарбаў” (The Search for Treasure Island) і “Дзіця-прывід” (The Ghost Child).*

*У 1975 годзе Эма Тэнант заснавала свой літаратурны часопіс “Бананы”.*

праходзіць і я не магу спаць уначы. Гэта была павольная смерць, бо не памірае хутка той, хто пахаваны пры жыцці.

Аднойчы Тэрэвус сказаў, што паедзе і знойдзе маю сястру. У той час два гады не было войнаў, і баляванне пачало яму надакучваць. Ён таксама пастарэў; мусіць, толькі праліццё крыві падтрымлівала яго маладосць; ва ўсякім выпадку – яму падабалася падарожнічаць, і ён захацеў зрабіць нешта галантнае і смешнае. Да яго задавальнення ўсе рагаталі, калі ён сказаў, што збіраецца выратаваць маю сястру ад марнага жыцця ў Афінах.

Паехаў ён у самым разгары лета. Пасля яго ад'езду я, упершыню за апошнія гады, выйшла у сад і з нейкай цікавасцю разглядала кветкі ды паваў, што красаваліся між імі. Мае дзеці нават усміхнуліся мне, калі я падышла да іх. Я зрабіла выгляд, нібы доўгі час хварэла, а зараз мне палепшала, хоць на самай справе я ведала, што мае паводзіны змяніліся толькі таму, што хутка сюды прыедзе Філамела. Яе твар і яе голас прыгадваліся мне ўвесь час, пакуль я блукала ў той дзень па садзе, неяк бессэнсоўна паглядаючы на неба ды сонца Гэта было далёкае падарожжа, некалькі тыдняў павінна было прайсці да тае пары, як Тэрэвус вернецца з маёй сястрой.

Вярнуўся Тэрэвус сярод зімы. Праз чыстае паветра я ўбачыла некалькі чалавек, якія конна ехалі па даліне. У мяне перахапіла дыханне, у горле нешта заказытала, мае рукі сашчапіліся ля шыі і парвалі залатыя ланцужкі. Потым я адчула, што вось-вось заплачу, і паслала Коду прынесці мне адвар зёлак, які супакойвае хваляванне Я нават падумала аб тым, каб узлезці на дах храма Але стрымалася, таму што жадала сама сустрэць Філамелу, калі яна будзе ісці па шырокіх прыступках у палац. Я хацела паказаць ёй наш сад, наш дом, якімі стала раптам ганарыцца.

Мне запомнілася, што галава Тэрэвуса здалася мне большай, чым звычайна Маладыя мужчыны, якія суправаджалі яго, паводзілі сябе баязліва, чаго яны раней ніколі не рабілі – ніхто з іх не пад'ехаў павітаць мяне на шляху ва ўнутраны двор, дзе іх чакаў адпачынак і віно. Галава Тэрэвуса ўзнікла нада мной, як круглы адпаліраваны шчыт Ягоны язык хутка рухаўся ўздоўж сухіх вуснаў.

– Філамела памерла, – сказаў ён.

Увесь наступны год я не выходзіла са свайго пакоя Калі першыя сонечныя промні пранікалі праз фіранкі, што здаралася самай раніцой – калі рабы мылі брукаваны двор – я падымала свой кубак з віном і ўлівала яго сабе ў горла. Увесь дзень, зноў і зноў, я пасылала па віно, і Када з Дзітай прыносілі яго, апусціўшы долу вочы

Я нарадзіла яшчэ адно дзіця. Ітайлус часам прыходзіў пасядзець са мной, але яму болей падабалася быць з бацькам. Ён ужо меў свайго каня. Калі я распытвала яго пра сад, ён бянтэжыўся і змяняў тэму гаворкі. Я пачала падазраваць, што сад зарастае, альбо Тэрэвус яго





наогул знішчыў. Але на самай справе гэта мяне не турбавала Сад быў зроблены для Філамелы, а яна ніколі ўжо не прыедзе.

Калі новае дзіця пачало само коўзацца па мяккім дыванку ў маім пакоі, я ўпершыню выйшла на шырокі ганак, з якога можна былоназіраць за далінай. Было лета, у зарасніку аліваў спявалі птушкі Мае вочы стаміліся ад плачу, яны змянілі сваю форму: калісьці круглыя, цяпер яны апусцілі свае куточкі. Я пазірала на пустую прастору вакол мяне. Неба. Зямля Далёкія горы. Усе яны цяпер нічога для мяне не значылі. Я абаперлася спіной на калону і ўздыхнула. Мая спіна аслабела пасля доўгага ляжання ў ложку. Па прыступках падымаўся адзін з рабоў. Ён здзіўлена спыніўся, калі заўважыў тут мяне, потым пакланіўся.

У яго нешта было для мяне: нейкі пакунак тканіны. Без усялякай увагі я ўзяла яго – я не сумнявалася, што гэта падарунак ад адной з высакародных жанчын, якіх я не хацела болей бачыць. Раб толькі раз устрывожана глянуў на мяне, потым пабег у дом. Пазяхаючы, я разгарнула пакунак. Габелен. Усё расплывалася перад маімі вачыма, і я паднесла яго бліжэй да твару, каб разгледзець, якія карціны былі на ім Калясніцы ў Трэсе, падумала я спачатку, і высакародныя воіны пад гарачым сонцам. Затым я заўважыла, што галоўнай асобай быў сам Тэрэвус

– Займальна, – сказала я ўслых – Тэрэвус варты гэтага?

Я пачала разглядаць габелен больш пільна.

На першай карціне Тэрэвус палка абдымае жанчыну. Яе твар бачны цьмяна; я ўсміхнулася На другой я пазнала гэты твар. Жанчына стаіць перад Тэрэвусам на каленях і просіць літасці Філамела. На наступнай карціне ён наблізіўся да яе. Ён адразае ёй язык. Далей, за кратамі ў замку, Філамела глядзіць, як Тэрэвус на кані знікае ўдалечыні. Усё. Я агледзела габелен яшчэ раз. Сумненняў няма. Філамела. Я пайшла ў свой пакой і сядзела, трымаючы ў руках габелен. Звонку пачуліся крокі Тэрэвуса. я кінула тканіну пад ложак і сядзела, як звычайна, нічога не робячы Але ён не зайшоў.

Я вырашыла распрацаваць свой план. Я паслала па Коду і Дзіту. Я расказала ім аб сваіх падазрэннях і аддала сваё апошняе золата, каб яны адшукалі сястру. Недзе ў адзіноце, паміж гэтым месцам і Афінамі, пакутуе Філамела Мы знайшлі мужчын, якія згадзіліся дапамагчы мне, і ўначы яны селі на коней. Моцна тахкала маё сэрца, калі я слухала, як яны ад'язджалі, як заціхаў тупат капытоў.

Яны знайшлі яе і прывезлі сюды. Гаротную, нямую Філамелу. Але ў нас адбылося з гэтай нагоды свята: дым ад спаленых жывёлаў пачаў падымацца да неба за некалькі гадзін да таго, як пачалося баляванне, у фантан налілі віно, Тэрэвус без перапынку рагатаў і гаварыў, што ён памыліўся. Ён так спужаўся, што нават не мог знайсці адгаворку. Такім чынам, мы елі, пілі, у святле паходняў няспынна насіліся па крузе адзін за адным залатыя дзікі на нашых кубках, зіхацелі круглыя бліскучыя галовы сяброў Тэрэвуса У позірку Філамелы ні разу не з'явіўся папрок.

Мы ляжалі разам у маім пакоі, і я шаптала ёй на вуха. Яе вочы заўсёды адказвалі мне Цяпер мы ведалі, што будзем помсціць Тэрэвусу.

Філамела ляжала на носе лодкі Яе валасы краналіся вады Я ўвесь час назірала за ёй – шукала прызнакаў шчасця, ці незадавальнення, альбо проста спрабавала прачытаць, што кажуць мне яе вочы. Сёння яна ўсміхалася, і мы павольна плылі па такой чысцюткай вадзе, што самыя малыя каменьчыкі на дне здаваліся такімі ж вялікімі і белымі, як скалы. Тут мы былі таму, што ў краіне лютавала вайна. На беразе, кідка размаляваныя ў пераможныя колеры, стаялі шатры Тэрэвуса. З боку пляжа ўздымаліся струменьчыкі чорнага дыму: рабы гатавалі вячэру.

Сёння ўвечары Тэрэвус вернецца з вайны. Яго пальцы будуць разрываць смажанае мяса. Яго вусны будуць чырвонымі ад віна. Яго спеў будзе пачаткам усеагульнага лямантавання, а на пяску запаляць паходні. Постаці, гіганцкія ў шатрах, але знадворку малыя на фоне бяскрайняга мора, будуць звар'яцела танчыць на беразе. Месяц, праз залітыя віном вочы, будзе ззяць, як дыямант.

Чатыры выгнутыя вёслы пяшчотна неслі нашу лодку да зямлі. Я саступіла на бераг, трымаючы Філамелу за руку, і дапамагла ёй выйсці на ўзбярэжныя камяні. Мы пастаялі хвіліну, гледзячы на шатры і на нязграбныя абрысы гор на фоне

блакітнага палатна нябёсаў; але абедзве мы бачылі толькі надыходзячы вечар. Прайшло ўжо некалькі месяцаў, як Тэрэвус паехаў на вайну. Мы амаль што забылі ягоны твар. Здаецца, ён паехаў ваяваць толькі таму, што дома занадта бачна была яго збянтэжанасць, і ён спадзяваўся, што мы забудземся на яго ўчынак да таго часу, як ён вернецца. Але мы думалі пра яго, калі вярталіся да лагера. І нават не зірнуўшы адна на адну, мы вырашылі адпачыць, пакуль не спадзе дзённая гарачыня.

Сонца вісела нізка над зямлёй, і доўгімі былі нашыя цені, калі мы выйшлі з галоўнага шатра і накіраваліся да аліўкавага гаю. Падрыхтоўка да балявання рабілася ўсе больш шалёнай – толькі тады, калі вакол нас былі зараснікі мірту і чабару, нас перастала ванітаваць – такім моцным быў пах смажанага мяса.

Філамела першай заўважыла Ітайлуса. Я паглядзела туды, куды паказваў яе палец, і ледзь змагла разгледзець сярод гушчару некалькі хлопцаў, якія гулялі ў вайну. У Ітайлуса быў лук са стрэламі, ён важна крочыў ад аднаго дрэва да другога, выкрыкваючы загады. Яму падпарадкоўваліся, бо ён быў сынам Тэрэвуса. Гэта рабіла яго пыхлівым, але прывабным, ён пачаў ужо пераймаць звычкі свайго бацькі. Ён паслаў цэлы сноп стрэлаў над нашымі галовамі, і хлопцы са смехам кінуліся да нас, каб знайсці іх. Усе яны любілі Філамелу і таму зрабілі выгляд, што шукаюць вакол яе, каб яна ўсміхнулася і пагладзіла іх. І яна так і зрабіла! А маё сэрца стукала цяжка і марудна, мае ногі як быццам ураслі ў глебу і сталі стваламі дрэў, што дрыжалі вакол мяне.

– Ітайлус!

Мне трэба было паклікаць яго, – але як бы я цяпер жадала быць Філамелай!

– Што вам патрэбна?

Нічога не шкада аддаць за адзіны гук ягонага голасу! Я не зварухнулася, і ён неахвотна падышоў да мяне. Ён ведаў, што я прыйшла, каб сапсаваць яму гульню.

– Ужо амаль цёмна, – сказала я – Сёння прыедзе твой тата. Трэба ісці ў лагер.

Ён паціскае плячыма, потым ідзе за мной. Мы крочым да берага мора.

Тэрэвус спусціцца з перавалу пасля захаду сонца. Ён будзе пажынаць плады славы, ён апране на сябе вогненнае вячэрняе неба, як той сцяг, што ён здабыў на полі бітвы. Ён будзе выхваляцца, праходзячы паміж шатроў. Апусціцца на дыван, стомлены воін, і будзе чакаць нас, маю сястру без языка і сваю жонку, каб пачуць мноства ўхвалаў яшчэ і ад нас.

Як быццам для таго, каб паказаць яму вялікую марскую істоту, што трапіла раніцой у сеткі, мы завялі Ітайлуса ў пячору на другім баку пляжа. Там было цёмна, стаяў прагорклы пах, паветра мела брудна-шэры колер, а камяні былі вострымі і тонкімі, як зубы гнілой рыбіны. Дзеці прынеслі сюды шмат крохкіх марскіх анемонаў, і калі мы ішлі, яны патрэсквалі пад нашымі нагамі – далікатныя ракавінкі ружавата-блакітнага колеру. Стрымліваючы хваляванне, мы з Філамелай моўчкі стаялі каля Ітайлуса, разглядваючы монстра.

Велізарнае вока ляжала сярод мноства шчупальцаў. Зблытаныя, раскіданыя цяпер на вільготным пяску пячоры, яны вытрымалі нядаўна моцную бойку – месцамі былі бачны глыбокія парэзы, месцамі яны былі перакручаныя, як той трыснёг, што нехта спрабаваў зламаць, але потым кінуў Вока, здаецца, сачыла за намі, дзе б мы ні былі, і таму было страшна падысці бліжэй. Толькі Ітайлус, каб паказаць сваю храбрасць і мужнасць, узяў палку і асцярожна наблізіўся да монстра Той ужо з раніцы быў мёртвы, але бляск чорнай зрэнкі з малочнага віру бялка наводзіў на думку аб схаванай моцы і энергіі Мы лёгка маглі ўявіць, як ён ажыве і кінецца на нас. Хаця шчупальцы былі пабітымі і парэзанымі, яны здаваліся непераможанымі. Мы амаль адчувалі, як яны ломяць нашыя рэбры і абкручваюцца вакол нашых шыяў.

Мы паднялі валун і падышлі да Ітайлуса ззаду. Ён зваліўся без адзінага гуку. У вачах Філамелы стаяў жах. Крыкнуць магла толькі я. Гук майго крыку адбіўся ад сцен пячоры гнеўным і пагардлівым рэхам. Яшчэ доўга, усхліпваючы, лётала яно ў паветры, затрымліваючыся на вільготных камянях.

Страшнае вока сачыла за намі, калі мы паднялі цела Ітайлуса і пасунуліся да выхаду з пячоры. Я выглянула першай Сонца заходзіла, і неба было чырвоным. Я не бачыла чорных гор, я глядзела толькі на людзей, якія, чакаючы хуткага прыходу цемры, запальвалі паходні ды бегалі, як спалоханыя жукі, ад лагера да лесу Тэрэвус ужо недалёка





Як хутка і як марудна цягнулі мы да пячоры схаваны дзеля гэтага моманту вялікі кацёл, разводзілі пахавальнае вогнішча, гатавалі ваду. Але калі мы паглядзелі на мора, то ўбачылі, што там плаваюць валасы Ітайлуса І пясок, асветлены чырвонымі промнямі згаслага сонца, меў колер яго мяса. Як марудна! Міне мноства гадоў, але гэтыя хвіліны будуць даўжэйшымі, чым усе яны. Кожная гадзіна будзе складацца менавіта з іх. А мы будзем усё яшчэ ў пячоры, побач з неміготкім вокам, і Тэрэвус будзе спускацца з гор, і мы, бавячы час, будзем глядзець на мора. Як хутка пройдуць гэтыя гады!

Калі мяса было гатовае, мы злілі вадкасць, пакінуўшы яе толькі на дне Мы спрабавалі знайсці халодную ваду – непадалёку была старая крыніца – але туды прасачылася марская вада. Маленькія галінкі, каліўцы зеляніны прыліплі да мяса. Мы кінулі туды яшчэ зёлак ды жывёльнага тлушчу. Філамела зрабіла цеста сваімі спрытнымі пальцамі, якія яна зараз выкарыстоўвала пры размовах, складваючы іх адпаведным чынам, каб было зразумела, чаго яна хоча. Я сачыла за гэтымі пальцамі, калі яна аблеплівала мяса цестам. Мы распалілі вогнішча і сталі чакаць.

Гэта была файная вячэра. Я сядзела побач з Тэрэвусам, мае вочы апушчаны долу, мой твар пачырванеў ад гонару за яго. Філамела, як і заўсёды ў такіх выпадках, была прывідам, ценем, што зрэдку падаў на ягоны твар, калі ён азіраўся і бачыў яе Я была ягонай жонкай, і я святкавала з ім ягоныя перамогі. Мужчыны крычалі і спявалі. Калі ўзышоў месяц, некаторыя з іх пабеглі на п'яных нагах да выхаду з шатра і ўставіліся на яго, як быццам бачылі ў першы раз. Разам з Тэрэвусам я рагатала з іх, пляскала ў далоні, калі танчылі палонныя рабыні, блішчэлі, змазаныя маслам, іхнія целы, паміж вачыма ў іх паблісквалі каштоўныя камяні. Разам з Тэрэвусам я паднялася і падышла да вялікага стала, на якім было шмат ежы ды віна. На бліскучыя фігавыя лісты рабы наклалі цэлыя курганы вінаграду з гранатамі. Свежыя кветкі ўпрыгожвалі велізарныя бакі засмажанага быка.

Прынеслі пірог. Тэрэвус сеў, як малое дзіця, і пачаў есці. Праглынуўшы некалькі кавалкаў, задаволена заківаў галавой. Ён прапанаваў пакаштаваць мяса сваім фаварытам, тыя важна нахіліліся і працягнулі рукі Затым ён павярнуўся да мяне.

– Еш! – сказаў ён. – Ты добра прыгатавала ежу

Я адмовілася. У мяне кружылася галава, мне было моташна Чорнае мора гневу закіпала ўва мне. Я падняла вочы. Я ўбачыла позіркі, у якіх была сумесь цікаўнасці і варожасці. Дзе Філамела?

Але я не магла знайсці яе позірку Я ледзь трымалася на нагах, бо ўсе вочы, што былі вакол мяне, зліліся ў адзінае неміготкае вока без павекаў, якое глядзела на мяне з усіх бакоў. Здзіўлены Тэрэвус, па барадзе якога цёк сок з мяса, штуршком пасадзіў мяне ля сябе. Ён тыцнуў мне ў твар кавалкам далікатнага мяса.

– Еш! – выскаліўшыся, сказаў ён. – Што з табой здарылася?

Аднекуль з цёмнай часткі шатра наперад выйшла Філамела Яна была нямая, і таму мужчыны баяліся яе Яны адразу ж саступілі з яе шляху. Я адчула, як уздрыгнуў Тэрэвус.

– Прыбярыце адсюль гэтую жанчыну! – прамармытаў ён. Але ў ягоным голасе не было ўпэўненасці. як і астатнія, ён баяўся яе У лагеры яна была накшталт безгалосай жрыцы аракула Яна была як бы патаемнай мсцівіцай за кожны грэх. Калі Тэрэвус дакладна ведаў, што за здзек давялося ёй выпрабаваць, дык астатнія здагадваліся пра гэта

Яна падышла да мяне і ўзяла маю руку Ад гэтага дотыку ў мяне з'явілася новая моц, і я зноў узнялася на ногі Акрамя нейкіх крыкаў удалечыні, навокал павісла цішыня. Цяпер у позірках быў страх і няёмкасць. Яны чакалі – чакалі, калі я пачну гаварыць.

Я павярнулася да Тэрэвуса

– Гэта ты павінен з'есці свайго сына Ітайлуса, – сказала я. – Нас ты знішчыў ужо даўно

Як марудна! Доўгія гады выгнання і пакут побач з Тэрэвусам. Як хутка пройдуць гэтыя гады...

Казуа
ІШЫГУРА

# Сямейная вячэра

***Казуа Ішыгура** нарадзіўся ў 1954 годзе ў Нагасакі і пераехаў з сям'ёй жыць у Вялікабрытанію ў 1960-м. У той час ягоныя бацькі думалі, што хутка вернуцца назад у Японію, і рыхтавалі свайго сына да вяртання на радзіму. Але яны засталіся, і Казуа вырас быццам адначасова ў дзвюх краінах: у Японіі – краіне сваіх бацькоў і ў прыняўшай іх Англіі.*

*Ішыгура вучыўся ў дзвюх навучальных установах – Кенцкім універсітэце ў Кентэрберы і Універсітэце Усходняй Англіі. Усе тры ягоныя раманы атрымалі добрую крытыку. Першы раман, “Выспы на краявідзе” (A Pale View of Hills), быў узнагароджаны Каралеўскім Літаратурным Таварыствам прэміяй Уініфрэд Холтбі; другі – “Мастак плывучага свету” (An Artist of the Floating World) атрымаў у 1986 годзе ўзнагароду лепшай кнігі года выдавецтва Уітбрэд Бук; “Рэшткі дня” (The Remains of the Day) атрымаў у 1989 годзе прэмію Букера.*

*Ва ўсіх трох ягоных кнігах галоўны герой аглядваецца назад на сваё жыццё і спрабуе адшукаць тыя галоўныя моманты, якія фарміравалі ягоны лёс. У “Выспах на краявідзе”, першым рамане Ішыгура, удава японскага вайскоўца ўспамінае пра жыццё ў Нагасакі. Характэрна, што Ішыгура ніводным словам не ўзгадвае ядзерную бамбардзіроўку горада – таксама, як і Суэцкі крызіс 1956 года застаецца па-за расповедам у “Рэштках дня”, нягледзячы на тое, што менавіта ў гэты год адбываецца дзеянне рамана.*

*У сваёй другой кнізе, “Мастак плывучага свету”, аўтар расказвае пра ўспаміны Масуі Она, галоўнай дзеючай асобы рамана. Она праводзіць сваё жыццё, спрабуючы аддаць замуж малодшую дачку, наведвае любімыя месцы свайго жыцця і гуляе з унукам. Падчас успамінаў і сустрэч з былымі калегамі ды студэнтамі высвятляецца, што Она згубіў пісьменніцкі талент і аддаў усе свае здольнасці японскай ваеннай прапагандзе. У сталым узросце герой па-новаму асэнсоўвае і адхіляе перакананні свайго жыцця, якіх ён так трывала прытрымліваўся ў маладосці.*

Фугу – гэта рыба, якую ловяць у Ціхім акіяне ля ўсходняга ўзбярэжжа Японіі У мяне асобыя да яе адносіны з таго часу, як мая маці памерла, з'еўшы фугу. У палавых залозах гэтай рыбы ўтрымліваецца атрута, якая знаходзіцца ў двух маленькіх далікатных мяшэчках. Падчас прыгатавання яны павінны выдаляцца з вялікай асцярогай, бо з-за адзінага нязграбнага руху атрута можа трапіць у мяса На жаль, вельмі цяжка бывае сказаць, наколькі паспяхова была зроблена такая аперацыя. Дакладна даведацца аб гэтым можна толькі пасля ежы.

Калі атрута фугу трапіць у арганізм, гэта прыводзіць да жудасных боляў і вынік амаль заўсёды бывае смяротным. У тым выпадку, калі атручаная рыба была з'едзена ўвечары, боль знаходзіць ахвяру ў час сну Некалькі гадзін небарака будзе пакутаваць і памрэ да раніцы. Пасля вайны гэта рыба сталася ў Японіі надзвычай папулярнай Да той пары, пакуль не з'явіліся больш строгія правілы яе ўжывання, апошнім піскам моды было зрабіць рызыкоўную працэдуру ў сваёй кухні і потым запрасіць на вячэру сяброў ды суседзяў.

Тады, калі памерла мая маці, я жыў у Каліфорніі Мае адносіны з бацькамі былі даволі напружанымі, і таму я не ведаў абставінаў яе смерці да той пары, як вярнуўся ў Токіо – праз два гады. Звычайна мая маці адмаўлялася есці фугу, але тым разам зрабіла гэта, бо баялася пакрыўдзіць сваю школьную сяброўку Усе гэтыя падрабязнасці расказаў мне бацька, на шляху з аэрапорта дахаты ў раён Камакура Калі мы, нарэшце, прыехалі, сонечны асенні дзень набліжаўся да вечара.

“Ты паеў у самалёце?” – спытаўся бацька. Мы сядзелі на татамі ў яго пакоі, дзе звычайна пілі чай

“Там давалі толькі лёгкія закускі”.

“Мусіць, ты галодны. Мы паядзім, як толькі прыедзе Кікука”.

Мой бацька быў чалавекам з вычварнай знешнасцю. вялікія каменныя сківаці, шалёнага выгляду чорныя бровы. Зараз, калі я думаю пра былое, мне здаецца, ён быў вельмі падобным на Чоў Ен-Лая, хаця гэтае параўнанне не прыйшлося б яму даспадобы – ён вельмі ганарыўся чыстай самурайскай крывёю, што цякла па венах членаў ягонай сям'і. Звычайна ў ягонай прысутнасці цяжка было весці натуральную размову, і тут не дапамагалі ніякія адыходы ад тэмы, бо нават самыя малаважкія заўвагі ён рабіў вельмі катэгарычным тонам. І сапраўды, калі я сядзеў у той вечар побач з ім, я адчуваў сябе хлапчуком, якому бацька даваў аплявухі за тое, што ён “балбатаў як старая”. Нічога дзіўнага, што наша размова пасля прыезду з аэрапорта перапынялася доўгімі паўзамі.

“Шкада, што так здарылася з фірмай”, – сказаў я пасля таго, як мы абодва маўчалі некаторы час. Ён сумна кіўнуў галавой.

“На гэтым гісторыя не скончылася, – дадаў ён, – пасля знішчэння фірмы Ватанабэ забіў сябе. Ён не хацеў зганьбаванага жыцця”

“Я разумею”.

“Мы былі партнёрамі семнаццаць гадоў. Чалавек гонару і прынцыпаў. Я вельмі паважаў яго”

“Ты вернешся зноў у бізнес?” – спытаў я.

“Я на пенсіі Я ўжо занадта стары, каб зноў пачынаць ўсё спачатку. Бізнес у наш час стаў іншым. Неабходна мець справы з іншаземцамі Рабіць справы па іхніх прынцыпах. Я не разумею, як мы дайшлі да гэтага. І Ватанабэ не разумеў” Ён уздыхнуў. “Сапраўдны мужчына. Чалавек прынцыпаў”.

Вокны пакоя выходзілі ў сад. З таго месца, дзе я сядзеў, я мог бачыць стары калодзеж, пра які думаў у дзяцінстве, што там жыве прывід. Зараз, праз густое лісце, ён быў ледзь бачным. Сонца ўжо нізка апусцілася, вечаровы цень пакрыў большую частку саду.

“Я ў любым выпадку рады, што ты вырашыў вярнуцца, – сказаў мой бацька, – не толькі на кароткі час, я спадзяюся”.

“Я яшчэ не ведаю, што буду рабіць далей”.

“Я гатовы забыцца на мінулае Твая маці таксама заўсёды хацела, каб ты вярнуўся – хоць і хвалявалася наконт тваіх паводзінаў”

“Я вельмі цаню тваю прыязнасць. Але я не ўпэўнены ў сваіх далейшых планах”.

“Цяпер я ўпэўнены, што ў цябе не было дрэннага намеру, – працягваў бацька, – ты быў пад уплывам пэўных перакананняў. Як і шмат хто іншы”.

“Мабыць, нам лепей забыцца на ўсё гэта”.

“Як пажадаеш. Яшчэ чаю?”

У гэты момант пачуўся дзявочы голас.

“Нарэшце”. Мой бацька ўзняўся. “Прыйшла Кікука”.

Нягледзячы на розніцу ва ўзросце, мы з сястрой заўсёды сябравалі. Мне здалося, што яна моцна расхвалявалася, калі зноў убачыла мяне – некаторы час яна не магла нічога сказаць, толькі нервова хіхікала. Аднак хутка супакоілася, калі бацька пачаў распытваць яе пра Осака ды справы ва універсітэце Яна адказвала коратка і стрымана. У сваю чаргу, сястра задала мне некалькі пытанняў, але здавалася, што яна баялася закрануць балючую тэму. Хутка наша размова стала яшчэ больш нешматслоўнай, чым да прыходу Кікука. Тады мой бацька падняўся і сказаў: “Мне трэба займацца вячэрай. Прабач, калі ласка, што я абцяжараны такімі справамі. З табой застанецца Кікука”.

Мая сястра нават знешне разняволілася, калі ён выйшаў з пакоя. Праз некалькі хвілін яна спакойна распавядала пра сваіх сяброў у Осака і занятках ва універсітэце. Потым яна нечакана вырашыла, што нам трэба пахадзіць па садзе, і шпаркімі крокамі выйшла на веранду. Мы надзелі саламяныя чаравікі, што былі ля ўвахода, і выйшлі ў сад. Ужо пачало цямнець.

“Апошнія паўгадзіны я проста памірала, так хацелася курыць”, – сказала яна, запальваючы цыгарэту.

"А чаму ты не закурыла раней?"

Яна зрабіла хітраваты рух у накірунку дома і гарэзліва ўсміхнулася.

"О, я разумею", – сказаў я.

"А ведаеш што? У мяне зараз ёсць хлопец".

"О, так?"

"Калі не лічыць, што я яшчэ сумняваюся. Я яшчэ не вырашыла".

"Зразумела".

"Разумееш, у яго планы паехаць у Амерыку. Ён хоча, каб я паехала з ім, як толькі скончу навучанне".

"Я разумею. А ты хочаш ехаць у Амерыку?"

"Калі мы паедзем, мы будзем катацца аўтастопам". Кікука памахала вялікім пальцам перад маім тварам. "Кажуць, што гэта небяспечна, але мы рабілі гэта ў Осака і мне спадабалася".

"Я разумею. Тады ў чым ты не ўпэўнена?"

Мы ішлі па вузкай сцежцы, якая вілася між кустамі і вяла да старога калодзежа. Кікука намагалася выдыхаць цыгарэтны дым як мага больш эфектна.

"Ну, зараз у Осака ў мяне шмат сяброў. Мне там падабаецца. Я не ўпэўнена, што хачу з імі ўсімі разлучыцца. А Суічы – ён мне падабаецца, але я не думаю, што хачу праводзіць з ім столькі часу. Ты разумееш?"

"О, абсалютна".

Яна зноў усміхнулася, потым з падскокам панеслася наперад, пакуль не дабегла да калодзежа. "Ты памятаеш, – сказала яна, калі я падышоў да яе, – як ты увесь час казаў мне, што ў калодзежы жывуць прывіды".

"Так, памятаю".

Мы абое паглядзелі на дно калодзежа.

"Мама заўсёды казала мне, што тады ўначы ты бачыў не прывід, а тую старую жанчыну з суседняй крамы. Я ніколі не верыла ёй, але й ніколі не прыходзіла сюды адна".

"Мама і мне казала тое самае. Яна нават расказала аднойчы, што старая жанчына прызналася, як так здарылася, што яна стала прывідам. Яна ішла праз наш сад, каб скараціць сабе шлях. Я ўяўляю сабе, як яна пералазіла цераз гэты плот".

Кікука хіхікнула. Потым яна павярнулася спінай да калодзежа і паглядзела на сад.

"Ведаеш, мама ніколі па-сапраўднаму не вінаваціла цябе", – сказала яна зусім іншым голасам. Я маўчаў. "Яна заўсёды казала мне, што гэта была іхняя віна, яе і бацькі, што яны так выхавалі цябе. Яна расказвала мне, што са мной яны былі нашмат больш уважлівымі, і вось таму я такая харошая". Яна паглядзела на мяне, і гарэзлівая ўсмешка вярнулася на яе твар. "Бедная мама", – сказала яна.

"Так, бедная мама".

"Ты вернешся ў Каліфорнію?"

"Я не ведаю. Мне трэба падумаць".

"А як у цябе з... – з ёй? З Вікі?"

"З ёй усё скончана, – сказаў я. – З Каліфорніяй мяне зараз нічога не звязвае".

"Як ты думаш, мне трэба пабываць там?"

"Чаму не? Я не ведаю. Я думаю, там шмат чаго будзе табе даспадобы". Я глянуў на дом. "Мабыць, час вяртацца. Бацьку можа спатрэбіцца дапамога".

Аднак мая сястра яшчэ раз нахілілася да краю калодзежа і паглядзела ўніз. "Няма там ніякіх прывідаў", – сказала яна. Яе голас адбіўся ў калодзежы рэхам.

"Бацька вельмі засмучаны, што абанкруцілася фірма?"

"Не ведаю. Пра бацьку нічога не скажаш з упэўненасцю". Потым яна раптам выпрасталася і павярнулася да мяне. "Ён сказаў табе пра старога Ватанабэ? Што той зрабіў?"

"Я чуў, што ён скончыў жыццё самагубствам".

"Так, але гэта не ўсё. Ён узяў з сабой усю сям'ю. Жонку і дзвюх маленькіх дачок"

"О, так?"





"Гэтых цудоўных маленькіх дзяўчынак. Ён адчыніў газ, калі ўсе яны спалі. Потым разрэзаў сабе жывот мясным нажом".

"Так, бацька толькі што казаў мне, якім прынцыповым чалавекам быў Ватанабэ"

"Мне моташна ад гэткай прынцыповасці" Мая сястра адвярнулася ад калодзежа

"Асцярожней, а то звалішся ўніз"

"Няма там ніякіх прывідаў, – сказала яна, – ты ўвесь час падманваў мяне"

"Я ніколі і не казаў, што ён жыве менавіта ў калодзежы".

"Тады дзе?"

Мы абодва паглядзелі вакол на кусты і дрэвы У садзе было ўжо амаль цёмна. Нарэшце, я паказаў на невялікі прасвет ярдах у дзесяці ад нас.

"Вунь там я бачыў яго Менавіта там".

Мы пільна паглядзелі на тое месца.

"А як ён выглядаў?"

"Я не мог добра разгледзець яго Было цёмна".

"Але хоць што-небудзь ты ўбачыў?"

"Гэта была старая жанчына. Яна проста стаяла там і глядзела на мяне".

Як зачараваныя, мы працягвалі глядзець у тым накірунку

"На ёй было белае кімано, – сказаў я – Частка яе валасоў выбілася з прычоскі Яны злёгку калыхаліся на ветры"

Кікука піхнула мяне локцем "Ой, супакойся. Ты зноў хочаш напужаць мяне". Яна патушыла нагой недакурак, потым сарамліва паглядзела ўніз Мыском пантофлі ссунула на яго некалькі каліўцаў травы і трохі шыгалля, потым усміхнулася. "Давай паглядзім, ці гатова вячэра", – сказала яна.

Бацька быў на кухні. Ён зірнуў на нас і працягваў займацца сваёй справай.

"З таго часу, як бацька пачаў займацца гаспадаркай, ён стаў сапраўдным шэф-кухарам", – са смехам сказала Кікука. Бацька павярнуўся і холадна глянуў на маю сястру.

"Наўрад ці я ганаруся гэтым навыкам, – сказаў ён. – Кікука, хадзі сюды і дапамажы мне"

Некалькі імгненняў мая сястра не варушылася з месца. Потым зрабіла крок наперад і дастала з шафы фартух.

"Табе давядзецца прыгатаваць гэтую гародніну, – сказаў ён. – За ўсім астатнім трэба проста прыглядваць". Потым ён падняў вочы і некалькі секунд глядзеў на мяне дзіўным позіркам "Мне здаецца, ты хочаш паглядзець дом", – сказаў нарэшце. Ён паклаў на стол палачкі для ежы, якія трымаў у руцэ "Мінула шмат часу, як ты бачыў яго"

Калі мы выходзілі з кухні, я азірнуўся на Кікука, але ўбачыў толькі яе спіну.

"Яна добрая дзяўчынка", – спакойна сказаў бацька.

Я хадзіў за бацькам з аднаго пакоя ў другі. Я паспеў забыць, якім вялікім быў гэты дом. Зноў яшчэ адна сцяна плаўна ссоўвалася ўбок, і з'яўляўся яшчэ адзін пакой. Аднак усе пакоі былі ўразліва пустэльнымі. У адным з іх не ўключылася святло, і мы глядзелі на голыя сцены ды татамі пры бледным святле, якое пранікала туды праз вокны.

"Гэты дом занадта вялікі для адзінокага чалавека, – сказаў бацька. – Я не ведаю цяпер, што рабіць у гэтых пакоях".

Тут бацька адчыніў дзверы ў пакой, поўны кніг і розных папер. На сценах віселі карціны, а ў вазах стаялі кветкі На нізкім століку ў куце я заўважыў нешта незвычайнае. Я падышоў бліжэй і ўбачыў, што гэта пластыкавая мадэль баявога лінкора, падобная да тых, што робяць дзеці з канструктараў. Яна стаяла на нейкай газеце, вакол яе ляжалі недапрыстасаваныя часткі з шэрага пластыку.

Бацька засмяяўся Ён падышоў бліжэй і падняў мадэль. "З таго часу, як не стала фірмы, у маіх рук з'явілася больш вольнага часу". Бацька зноў неяк незвычайна засмяяўся. На секунду ягоны твар стаў амаль мяккім "Больш вольнага часу".

"Гэта так незвычайна, – сказаў я, – ты заўсёды быў такім занятым чалавекам".

"Здаецца, нават занадта". Ён зірнуў на мяне, злёгку ўсміхаючыся. "Мабыць, мне трэба было быць больш уважлівым бацькам".

Я таксама засмяяўся Ён працягваў разглядаць свой лінкор Потым падняў вочы

"Я не хацеў казаць табе гэта, але лепей скажу. Мне здаецца, што смерць тваёй маці не была выпадковай. У яе апошнім часам было шмат турботаў. І расчараванняў".

Мы абодва глядзелі на карабель, не падымаючы вачэй.

"Я ўпэўнены, – сказаў я нарэшце, – мая маці не думала, што я застануся жыць тут".

"Ты гэтага не разумееш. Ты не разумееш, што гэта азначае для некаторых бацькоў. Яны не толькі мусяць губляць сваіх дзяцей, яны губляюць іх з нейкіх прычынаў, якіх не разумеюць". Ён пакруціў карабель у руках. "Табе не здаецца, што гэту маленькую кананерку трэба інакш склеіць?"

"Можа быць Хаця мне здаецца, што яна цудоўна выглядае".

"У час вайны я служыў на судне, падобным да гэтага. Але я заўсёды хацеў у авіяцыю Вось як я думаў: калі вораг атакаваў твой карабель – адзінае, што застаецца, гэта змагацца ў вадзе за сваё жыццё, спадзяючыся на выратавальны круг. А ў самалёце – разумееш – там заўсёды ёсць магчымасць самому стаць апошняй зброяй". Ён паставіў мадэль на стол. "Я не думаю, што ты шмат разважаеш пра вайну".

"Не асабліва".

Ён акінуў позіркам сцены. "Бадай, вячэра гатова, – сказаў ён, – ты, напэўна, ужо галодны"

Вячэра чакала нас у сціпла асветленым пакоі, што знаходзіўся побач з кухняй Адзінай крыніцай святла быў вялікі свяцільнік, які вісеў над сталом. Астатняя частка пакоя была ў сутонні. Перш чым пачаць есці, мы пакланіліся адзін аднаму.

Мы размаўлялі няшмат Калі я ветліва пахваліў страву, Кікука толькі хіхікнула. Здавалася, да яе вярнулася нервовасць. Некалькі хвілін бацька маўчаў. Нарэшце ён сказаў:

"Вярнуўшыся Ў Японію, ты, пэўна, адчуваеш сябе чужынцам".

"Так, крыху чужынцам".

"Ужо, мабыць, шкадуеш, што паехаў з Амерыкі".

"Трохі. Толькі трохі У мяне няшмат чаго засталося ў Амерыцы Адно некалькі пустых пакояў".

"Я разумею".

Я глянуў паверх стала. Напаўасветлены твар майго бацькі выглядаў каменным і непадступным. Мы працягвалі есці моўчкі.

Потым мой позірк зачапіўся за нешта на сцяне насупраць. Спачатку я працягваў есці, але потым мае рукі знерухомелі. Бацька і Кікука заўважылі гэта і паглядзелі на мяне. Я працягваў уважліва глядзець у цемру паўз плячо майго бацькі.

"Хто гэта? Вунь на той фотакартцы?"

"Якой фотакартцы?" Мой бацька трохі павярнуўся, спрабуючы прасачыць за маім позіркам.

"На самай ніжняй. Старая жанчына ў белым кімано".

Мой бацька паклаў палачкі на стол. Паглядзеў спачатку на фота, потым на мяне.

"Твая маці". Ягоны голас стаў вельмі рэзкім. "Ты не пазнаеш сваю маці?"

"Мая маці. Разумееш, я дрэнна бачу. Тут надта цёмна".

Некалькі секунд усе маўчалі. Потым Кікука ўзнялася. Яна зняла фотакартку са сцяны, вярнулася да стала і падала яе мне.

"Яна выглядае тут нашмат старэйшай", – сказаў я.

"Яна зрабіла яе неўзабаве перад смерцю", – сказаў бацька.

"Гэта ўсё з-за цемры. Я не мог добра разгледзець яе".

Я падняў вочы і ўбачыў, што бацька працягвае руку. Я даў яму фота Ён уважліва паглядзеў на яго і перадаў Кікука. Мая сястра паслухмяна паднялася і павесіла фотакартку на месца.

На сярэдзіне стала стаяў вялікі зачынены гаршчок. Калі Кікука зноў села, бацька падняў накрыўку. З-пад яе падняліся клубы пары і ахуталі свяцільнік. Бацька падсунуў гаршчок да мяне.

"Ты, пэўна, галодны", – сказаў ён. Палова ягонага твару была пакрыта ценем.

"Дзякуй", Я ўзяў свае палачкі і нахіліўся да стравы. Пара апякала. "Што гэта?"

"Рыба".





"Пахне вельмі смачна"

Гэта былі скручаныя лустачкі рыбы, якія плавалі ў падліве. Я ўзяў адну і паклаў сабе ў кубак.

"Бяры яшчэ. Там іх шмат".

"Дзякуй". Я ўзяў яшчэ некалькі, потым перадаў гаршчок бацьку. Ён паклаў некалькі кавалкаў у свой кубак. Потым мы прасачылі, як гэта рабіла Кікука

Бацька зрабіў лёгкі паклон. "Ты, пэўна, галодны", – зноў сказаў ён, паклаў у рот кавалачак рыбы і пачаў есці Я таксама ўзяў лусту і паклаў у рот. Яна была вельмі далікатнай і мясістай.

"Вельмі смачна, – сказаў я, – што гэта за рыба?"

"Проста рыба".

"Вельмі смачна"

Мы працягвалі есці ў цішыні Прамінула некалькі хвілін.

"Яшчэ колькі лусцікаў?"

"А там яшчэ ёсць?"

"Там хопіць на ўсіх нас". Мой бацька падняў накрыўку, і адтуль зноў пайшла пара. Мы ўсе паклалі сабе яшчэ.

"Усё, – сказаў я бацьку, – вазьмі гэты апошні кавалачак"

"Дзякуй"

Калі мы скончылі есці, бацька пацягнуўся і з задаволеным выглядам пазяхнуў. "Кікука, – сказаў ён, – прыгатуй чай, калі ласка".

Сястра зірнула на яго і выйшла з пакоя, не сказаўшы ні слова. Бацька падняўся. "Давай пяройдзем у іншы пакой Тут занадта цёпла".

Я ўстаў і пайшоў за ім у чаёўню. Вялікія рассоўныя вокны былі адчынены, і ў пакоі гуляў свежы ветрык. Некаторы час мы сядзелі моўчкі.

"Бацька", – сказаў я нарэшце.

"Так?"

"Кікука кажа, што Ватанабэ-сан забраў з сабой усю сваю сям'ю"

Бацька апусціў вочы і кіўнуў. Здавалася, на некалькі хвілін ён пагрузіўся ў глыбокі роздум. "Ватанабэ быў вельмі адданы сваёй працы, – сказаў ён пасля паўзы – Збанкрутаванне фірмы было для яго цяжкім ударам. Я баюся, гэта аслабіла ягоны розум".

"Ты думаеш, тое, што ён зрабіў, – было памылкай?"

"Так, зразумела Ты лічыш інакш?"

"Не, не, вядома, не"

"Акрамя працы існуюць іншыя рэчы".

"Так".

Мы зноў змоўклі. У садзе чулася цвырканне цыкад. Я паглядзеў у цемру. Цяпер калодзеж не быў бачны.

"Што ты думаеш зараз рабіць? Застанешся ў Японіі?"

"Калі казаць праўду, я яшчэ не думаў пра будучыню"

"Калі вырашыш застацца, я маю на ўвазе тут, у гэтым доме, я буду вельмі рады . Калі ты не супраць жыць побач са старым".

"Дзякуй, я абавязкова падумаю пра гэта" Я зноў паглядзеў у цемру.

"Хаця, вядома, – сказаў бацька, – цяпер у гэтым доме вельмі тужліва. Ты, зразумела, хутка вернешся ў Амерыку"

"Можа быць, але я яшчэ не ведаю".

"Без сумненняў, вернешся"

Здавалася, некаторы час бацька разглядаў свае рукі Потым ён падняў вочы і ўздыхнуў

"Наступнай вясной Кікука скончыць сваё навучанне, – сказаў ён. Потым яна, мабыць, вернецца дадому Яна добрая дзяўчынка"

"Хутчэй за ўсё, што яна вернецца".

"Да той пары справы пойдуць лепей"

"Так, я ўпэўнены, што так яно і будзе"

Мы зноў змоўклі і сталі чакаць, калі Кікука прынясе чай




*__Фэй Уэлдан__ нарадзілася ў 1933 годзе ў Англіі. Яе маці была пісьменніцай у жанры камерцыйнай белетрыстыкі, а бацька працаваў доктарам. Хутка сям'я пераязджае на жыхарства ў Новую Зеландыю, дзе, пасля разводу бацькоў у 1937 годзе, яна выхоўвалася пад наглядам сваёй маці на ідэях жаночай незалежнасці. У юнацкім узросце яны з маці вяртаюцца ў Англію.*

*Уэлдан пачынае навучанне ў шатландскім універсітэце Сент-Эндрус, вывучае эканоміку і псіхалогію. Не выходзячы замуж, у даволі раннім узросце, нараджае сына і, дзеля таго, каб мець грошы на ягонае выхаванне, ідзе на працу машыністкі. Уэлдан – гэта яе прозвішча па мужу, у 1960 годзе яна ўступіла ў шлюб і нарадзіла яшчэ трох сыноў.*

*Першы раман Фэй Уэлдан – "Жарт таўстухі" (The Fat Woman`s Joke) – быў выдадзены ў 1967 годзе. З таго часу было апублікавана больш за пяцьдзесят раманаў, п'есаў (самая вядомая з якіх – "Уверх, уніз" (Upstairs, Downstairs), зборнікаў апавяданняў ды эсэ. Большасць яе раманаў нагадваюць драматычныя творы, бо складаюцца з мноства дыялогаў, яны падобныя на гратэскавыя камедыі Іўліна Во ды Олдаса Хакслі, але ў іх ужо няма сарказму дваццатых гадоў. Уэлдан – аўтар адной з найбольш арыгінальных біяграфій Джэйн Осцін, напісанай у жанры эпісталярнага дыялога.*

Апалове восьмай яны былі гатовыя, каб ехаць. Марта ўсё запакавала ў машыну, трое адпаведна апранутых дзяцей уладкаваліся на заднім сядзенні, цалкам занятыя зараз адукацыйнымі гульнямі і пячэннем. Калі ўсё ў машыне будзе зроблена, Марцін выключыць тэлевізар, спусціцца ўніз, замкне дом – абодва выхады – і сядзе за руль.

Уікэнд! Толькі дзве гадзіны да дачы вечарам у пятніцу і тры гадзіны назад у нядзелю ўвечары. А паміж імі – задавальненне ад гасцей і навакольнай зеляніны. Яны лічылі сябе шчаслівымі, такімі шчаслівымі!

Па пятніцах, у шэсць дваццаць, Марта прыязджала дамоў на аўтобусе і гатавала чай з сандвічамі для сям'і: затым яна мяняла бялізну на чатырох ложках і закладвала знятую ў пральную машыну да панядзелка: рыхтавала дачную бялізну, плюс кнігі ды гульні, плюс прадукты на уікэнд – паступова сабраныя за тыдзень, каб зменшыць цяжар сумкі, – плюс яе ўласную працоўную папку з офіса, плюс матэрыялы з накідамі Марціна (яна была маркетынгавым даследчыкам у рэкламным агенцтве, ён – свабодным дызайнерам), плюс грабянцы, джынсы, майкі, антыбіётыкі для Джойлана (у яго хворае горла), магнітафон Джэні, плэер Джаспера і таму падобнае – ох, гэта таму падобнае! – ды запакоўвала ўсё гэта, разумна і спрытна, у багажнік машыны. Толькі самы мінімум павінен заставацца на дачы на працягу тыдня. ("Шчырае запрашэнне для рабаўнікоў", Марцін.) Затым Марта бегала па хаце, прыбіраючы ды праціраючы, рабіла тое ды гэтае, шукала ката ў адных суседзяў, каб аддаць яго другім (калі астатнія пілі чай), і звычайна, з гонарам, завяршала свае справы да таго часу, як яны з'ядалі ўсё прыгатаванае. Марцін адразу ўключаў навіны другога канала Бі-Бі-Сі, Марта прыбірала са стала, а дзеці пачыналі спрачацца за лепшае месца ў машыне. "Марта, – казаў Марцін, – ты павінна пакінуць працы для місіс Ходэр. Яна атрымлівае грошы за твой кошт".

Місіс Ходэр двойчы на тыдзень прыходзіла прыбіраць. Ёй было за семдзесят. Яна атрымлівала два фунты ў гадзіну. Марта разлічвалася з ёй са сваёй зарплаты: канешне, даглядаць за домам было справай Марты. Калі Марта захацела хадзіць на працу – яна мела на гэта права, Марцін дазваляў, нават калі адсутнасць маці не лепшым чынам адбівалася на дзецях, але маральным абавязкам для Марты павінна было быць выкананне хатняй працы. Відавочная ісціна, якая часта, гучна і ясна чулася з вуснаў Марціна і ў сэрцы Марты.

"Я думаю, ты маеш рацыю", – казала Марта. Яна не хацела спрачацца. У Марціна быў доўгі цяжкі тыдзень, а цяпер яму трэба будзе кіраваць машынай. Марта не можа. Чатыры месяцы назад паліцыя прыпыніла дзеянне яе ліцэнзіі за нецвярозае кіраванне машынай. Усе згаджаліся, што гэта было несправядліва: Марта вельмі рэдка хапала лішку; яна звычайна была больш занятая тым, што разлівала напоі іншым ці мыла іхнія шклянкі. Але Марцін, па сваёй звычцы, запрасіў яе на вячэру (быў дзень яе нараджэння), і сумесь стомленасці і ўзбуджанасці





зрабіла яе язду небяспечнай і, да таго, як яна зразумела, дзе яна была, чаму яна там была – у паліцыі – ёй трэба было плаціць за пашкоджаны слуп ды новы капот для машыны, а таксама яе чакала шасцімесячнае прыпыненне ліцэнзіі

Таму зараз Марцін быў вымушаны кіраваць яе машынай да дачы, а па пятніцах ён быў заўсёды стомлены, і па нядзелях – стомлены і раздражнёны, і кожны грук, і трэск, і лязгат, што чуўся з матора, здаваўся ёй яе заганай

У Марціна была маленькая спартыўная машына, каб ездзіць па Лондане і на працу· яна выдатна падыходзіла для напружанага гарадскога руху· Марта мела стары універсальны аўтамабіль, там было шмат месца для дзяцей, розных клункаў, прадуктаў, пераноснага тэлевізара і шмат чаго іншага – любых рэчаў, якія могуць спатрэбіцца для звычайнай сям'і сярэдняга класа, каб правесці уікэнд на дачы. Яна не ездзіла, а, хутчэй, поўзала, і гэта заўсёды злавала Марціна. Ён вельмі рэдка вымаўляў агідныя словы, але Марта, як кожная жонка, магла лепей зразумець яго настрой па тым, што ён не сказаў, чым па яго словах, і па нахілу ягонай галавы, і па тым, як ягоныя вясёлыя маршчынкі вакол вачэй рабіліся яшчэ больш вясёлымі, і канешне, па тым, як ён размаўляў з машынай.

"Ну, давай, ты, стары драндулет! Ці ты не здольны працаваць лепей? Ты занадта стары, вось у чым справа. Сціхні ты са сваімі скаргамі. Заўсёды адны скаргі, а гэта ж толькі ўзгорак. У цябе занадта шырокія клубы Ты ніколі туды не ўзбярэшся!"

Марту хваляваў яе ўзрост, яе схільнасць да скаргаў, шырыня яе клубоў. Яна прымала гэтыя заўвагі на свой рахунак. Ці мела яна рацыю рабіць гэта? Дзеці нічога не разумелі: гэта вясёлы, жвавы, дасціпны татка проста падсмейваецца з мамчынай машыны. Мамка, якую затрымалі за кіраванне ў нецвярозым стане. Мамка, меланхалічная натура каторай глыбока схаваная за кожнадзённай мітуснёй, бегатнёй ды рознымі справамі. Справы: ох, гэтыя бясконцыя справы!

Марцін толькі рагатаў, калі яна казала што-небудзь пра ягоную манеру звяртацца да яе машыны, і папярэджваў яе аб схільнасці да паранойі "Не рабіся падобнай на сваю маці, дарагая". Яе маці, незадоўга да сваёй смерці, пачала думаць, што ўсе людзі рыхтуюць супраць яе змову Жыццё яе маці было поўнае адзіноты і падазрэнняў, і яна зрабіла дзяцінства Марты самотным і сіратлівым. У параўнанні з ім, цяперашняе жыццё Марты было проста цудоўным Людзі, дзеці, уласнасць, размовы, ежа, пітво, тэатры, а зараз – нават і кар'ера. Паміж ёй і варожасцю свету цяпер стаіць Марцін – кампанейскі, дасціпны, жартаўлівы Марцін.

О, яна была ўдзячная свайму лёсу: маленькая сур'ёзная Марта, з яе сарамлівасцю і здольнасцю пераадольваць цяжкія жыццёвыя экзамены – як расквітнела яе жыццё! Яна нарадзіла траіх дзяцей – Джаспер, Джэні і Джойлан – усе мелі шырокае Марцінава брыво і адкрыты позірк, і давер, народжаны ад яе любові ды клопату, ад той працы, што аддавала яна ім з самых першых дзён іхняга жыцця.

Марцін кіруе машынай Марта на гэты раз задрамала.

Правільная ежа, правільныя словы, правільныя гульні. Для міндалін – тэрапеўт, для зубоў – дантыст. Не даваць дзецям зброі, не злоўжываць тэлевізарам, заахвочваць творчасць. Фарбы і папера – пад рукой, кнігі – на паліцах, сустрэчы з настаўнікамі Настаўнікі па музыцы. Танцавальныя заняткі. Вечарыны. Запрашэнні сяброў да чаю Школьныя гульні. Дні адчыненых дзвярэй. Школьны аркестр.

Марта раптам прабудзілася. Агні дарожнага руху. Марціну не падабаецца, калі Марта спіць у той час, як ён за рулём.

Вопратка. Ах, гэтая вопратка! Нельга апрануць гэта, трэба апрануць тое Вопраткавыя крамы Стосы вопраткі па вуглах: гэта – мыць, гэта – прасаваць, гэта – на сметнік.

Трэба сабраць усё гэта з падлогі, упарадкаваць. Бязладдзе Марціну не падабаецца.

Творчасць нараджаецца з парадку, а не з хаосу. Пяць гадоў, пакуль дзеці былі малыя, яна не хадзіла на працу, калі вярнулася – працоўны стаж быў згублены. Што, вы думаеце, усё гэта дарэмна? Маці, калі ў цябе ёсць дзеці, менавіта гэта твая ўзнагарода.

Ты ўзяла дастаткова ежы? Заўсёды цяжка высветліць.

Ежа! Ах, гэтая ежа! Крама ў абедзенны перапынак. Пасля працы валачы ўсё гэта дадому. Гатаваць трэба ў сераду ўвечары, потым хаваць усё ў лядоўню. У гэты дзень

Марцін наведвае вячэрнія заняткі для падтрымання навыкаў кіравання машынай і не бачыць, што яна не адпачывае. Марціну падабаецца, калі ты ўвесь вечар сядзіш. Фрукты, гародніна, мяса, мука для хлеба хатняга прыгатавання. Так, у хлебе з крамы адны напаўняльнікі! Замарожаная ежа, нават свайго прыгатавання, губляе смак. Марцін часам заўважыць пра гэта. Прыправы Усім падабаецца мангавы соус. Але ж ён і каштуе!

Злева – Лонданскі аэрапорт. Дзеці, дзеці, глядзіце! "Канкорд"? Не, ідыёт, зразумела, гэта не "Канкорд".

Ох, быць усім для ўсіх: дзеці, муж, наймальнік, сябры! Усё павінна быць зроблена, так, усё. супержанчына.

Напоі. Самаробнае віно. Чаму не? У Лондане расце шмат бузіны: ва ўсякім разе, ты ведаеш, *што* ў гэтым віне. Трымаць яго трэба ў высокай шафе, займае шмат месца, кожны раз уніз-уверх па складной лесвіцы. Будзь пільнай! Не паслізніся! Нічога не разбі. Ніякіх няшчасных выпадкаў

Марцін не трывае дрэннага настрою. Марціну падабаюцца хударлявыя жанчыны. Дыета. Марціну падабаецца ягоная сакратарка. Дыета. Марцін у захапленні ад хударлявых ног і вялікіх грудзей. Ды як дасягнуць і таго, і другога? Немагчыма. Але спрабуй, ох, спробы. Павінна быць такой, якой павінна быць. Не такой, як на самай справе. Звонку і ўнутры.

Марцін прыносіць ёй кветкі і шакаладкі, бярэ яе з сабой за горад адпачыць. Цудоўна! Самы лепшы муж у свеце; зазірні ў ягоныя вясёлыя, жвавыя, пяшчотныя вочы, ты ўбачыш гэта. Нічога, што іншы раз ягоныя вусны складваюцца ў незадаволеную грымасу. Не звяртай увагі. Глядзі ў вочы. Каханне Канешне, гэта каханне Ты выйшла за яго замуж. *Ты.* А ці вартая *ты* сапраўднага кахання?

Солсберская даліна. Стоўнхедж. Глядзіце, дзеці! Мама, мы бачылі Стоўнхедж сотню разоў. Тады зноў кладзіцеся спаць.

Гатоўка! Ах, гэтая гатоўка. Усім падабаецца прыходзіць у госці да Марціна і Марты. Усё трэба абдумаць у час абедзеннага перапынку. Калі ты прыходзіш дадому а палове сёмай, ты павінна прыгатаваць мяса, пакуль узбіваеш яечны бялок, корміш ката, збіраеш на стол, паліваеш кветкі, робіш сыр з казінага малака – Марцін любіць сыр з казінага малака, і Марта спрабуе любіць гэты сыр. Ох, вось і ложак, сон, цішыня, спакой

Секс! Ах, секс. Аргазм – калі ласка. Марціну ён неабходны. Ну, і табе таксама. І ты не жадаеш, каб ягоная сакратарка распальвала ягоныя пачуцці, калі ты не ў стане гэтага зрабіць. Не ў стане? Хутчэй, хутчэй, касмічнае адчуванне Каханне. Шлюбнае каханне

Сакратарка! Можа, толькі вульгарныя падазрэнні, нічога болей. Можа, толькі прыступы параноіі, як у маці, што адышла цяпер у лепшы свет.

Супакоілася Мір яе праху.

Адзінотная, нервовая маці, пайшла туды, куды вялі яе падазрэнні.

Амаль прыехалі, дзеці. Хутка апынёмся ў раі, на дачы. Трымайце яшчэ пячэнне.

Сапраўдныя ружы каля брамкі Ружы. Абрэзаць, прапалоць, апырскаць, падкарміць, зрэзаць. Пазбягай шыпоў. Адно з нешматлікіх рэзкіх слоў Марціна.

"Марта, ты не маеш права не любіць ружы! З кім я ажаніўся? Яна ненавідзіць ружы!"

Зялёная трава Ох, Божухна, трава. Траву трэба касіць. Супакойваючы газон, качаюцца гваздзікі, ззяюць казельцы. Ружы ды расліны ды кнігі. Кнігі. Марцін, мілы, ці патрэбныя нам гэтыя дзве сотні кніг, галоўным чынам першыя выданні дваццатых гадоў, купленыя на распродажы ў Крысці? Трэба выціраць столькі пылу

Выбух рогату ад Марціна, Джаспера, Джэні ды Джойлана. Мамка кажа, што кнігі нам не патрэбныя. трэба выціраць столькі пылу!

Ружы, зялёная трава, кнігі... Спакой.

Калі яны пад'ехалі да дачы, Марта ўздрыганулася і прачнулася, ціхенька ўскрыкнуўшы. Гэта ўсіх развесяліла. Ускрык мамчынага абуджэння, як яны гэта называюць.

Потым трэба было распакаваць машыну, ды заслаць ложкі, ды падключыцца да электрычнасці, ды прыгатаваць вячэру, ды змесці павуцінне – пакуль Марцін запаліць камін Потым вячэра – адбіўная свініна ў салодкім і кіслым соусе ("Свініна – гэта такое





*маркотнае* мяса, калі ты робіш яго неналежным чынам", Марцін), салата з садовай зяляніны, дакладней, з таго, што пакінулі пасля сябе трусы ("Марта, ты што, сапраўды не ў стане зрабіць добрую агароджу? Не хлусі мне зараз!", Марцін), ды бульбяное сатэ. Пюрэ – гэта занадта цяжкая і такая звычайная ежа, да таго ж яго хутка не зробіш. Дзеці вывучаюць начное неба пры дапамозе сваёй зорнай карты. Цудоўныя, удзячныя дзеці!

Потым прыбраць са стала, рашчыніць хлебнае цеста: Марцін ужо ў ложку: стаміўся ад пераезду ды распальвання агню ("Марта, трэба, каб дровы былі складзеныя як трэба. Прасачы, каб дзеці зрабілі гэта, добра?", Марцін). Падмесці, усё прыбраць, настроіць антэну тэлевізара. Падрубіць працёрты шляк на джынсах Джаспера ("Марта, ён не можа *так* хадзіць, нават калі ён Джаспер", Марцін).

Поўнач. Дабранач. Зранку прыедуць госці. Сямёра на абед і вячэру ў суботу У нядзелю сямёра на снеданне ды дзевяцера на абед. ("Не мітусіся так, дарагая, у цябе заўсёды столькі мітусні", Марцін). Божа, забылася часночную давілку. Гэта азначае дзесяць хвілін працы з лыжкай ды соллю. Ну, каму часнаку? Нікому. Толькі не Марцінавым сябрам. Так кажа Марцін. Сон.

Колін і Каці Колін – самы стары сябра Марціна Каці – ягоная новая маладая жонка. Джэнет, папярэдняя жонка Коліна, была сяброўкай Марты. Джэнет была вельмі падобная на Марту, спакайнейшая і працейшая за свайго мужа. Рухавік і тормаз, як думаў Марцін, а часцяком і казаў услых. І яна гэтага вартая, усе згаджаліся. Ніхто не асуджаў Коліна за ягоны ўчынак, бо трэба было бачыць спакусу.

Каці ды Джэнет. Каці была млявай, прыгожай і элегантнай. Падчас размовы яна расцягвала словы, а яе рукі выразна рухаліся. У яе былі маленькія ногі і не было дзяцей.

Джэнет рухалася трохі нязграбна на сваіх вельмі пляскатых ды векікаватых нагах. З імі было нешта не ў парадку Калі яна крочыла, яны выварочваліся. У яе было двое дзяцей. Калі казаць па праўдзе, з ёй было нудна. Аднак Марта любіла яе калі яна прыходзіла да іх на дачу, то заўсёды дапамагала мыць посуд. І не так, як гэта звычайна робяць госці – спалоскваюць, ды на сушылку, а мыла пасапраўднаму, і выцірала, і дапамагала паставіць у шафу Потым яна чысціла мыйку і даглядала дзяцей – для кожнага знаходзілася месца, нават самага малога, і ўсе паводзілі сябе спакойна Гэта заўсёды задавальняла дарослых – прынамсі, мужчын – і дазваляла ім працягваць свае размовы, жарты, карацей, атрымліваць асалоду ад загарадных выхадных, у той час як Джэнет сядзела, проста гледзячы ў прастору, і таксама здавалася цалкам задаволенай

Джэнет яшчэ працавала і ў садзе. Займалася клубніцамі, калі мужчыны выходзілі прагуляцца, яе вялізныя ногі стаялі трывала і непахісна, часам наступіўшы на якуюнебудзь расліну ці яшчэ на што-небудзь, але гэта дробязі. Мілая Джэнет, яна ўсё разумела.

Цяпер Джэнет няма – з'явілася Каці. Каці размаўляла з мужчынамі, хадзіла з імі гуляць і даволі рэзка перасоўвала сваю попельніцу, калі Марта спрабавала выцерці стол вакол яе.

Талеркі гэта нуда, паказвала Каці сваімі паводзінамі, і ўся хатняя праца – таксама нуда, і кожны, хто клапаціўся аб гэтым, быў дурнем. Як Марта. Попел павінен ляжаць там, дзе ён ляжыць, нават у масле, бо ніколі нельга замінаць размове.

Тук, тук, а першай гадзіне ночы прыйшлі Каці з Колінам, якраз калі Марта клалася спаць. "Ты не будзеш пярэчыць? Гэта ўсё з-за поўні. Мы не маглі спаць. Трэба было ўбачыць Стоўнхедж! Мы не патурбавалі вас, праўда? Вы такія раннія птушкі!"

Марта хутка прыгатавала амлет Начныя суботнія яйкі. ("Марта робіць выдатны амлет", Марцін) ("Мілая, зрабі свой адмысловы амлет з грыбамі, толькі прыгатуй грыбы асобна, памятаеш, з лімонам А то вада з грыбоў трапіць у яйкі і ўсё будзе сапсавана") Грыбы на вячэру ў нядзелю. Няўдзячна будзе казаць што-небудзь супраць.

Калі прыйшлі Колін і Каці, Марцін хутка прачнуўся. Ён дастаў бутэльку віскі Шклянкі Лёд. Графін з вадой Чакай Зноў мый посуд, калі ўсё скончыцца Дзве гадзіны раніцы.

"Не рабі гэтага сёння, мілая"

"Гэта зойме адну секунду" Прыгожая ўсмешка, ні намёку на скаргу. Скаргі могуць сапсаваць выхадныя каму заўгодна Марта ведае, што каб зрабіць снеданне ў сем, мыйка павінна быць чыстай. Хітрая гэта справа, снеданне. Асабліва калі бекон, яйкі і

таматы трэба гатаваць на асобных патэльнях ("Асобныя патэльні – гэта асобныя водары!", Марцін).

Марта бегае ў сваёй начнушцы Каці немагчыма ўявіць у такім становішчы Але ў Марце ёсць нешта такое *практычнае.* Упэўненае Аднак караткаватая начнушка ды шыракаватыя трыццацівасьмігадовыя клубы бянтэжаць. Марта бачыць гэта ў вачах Коліна і Каці. Марціна таксама. Шкада, што Марта бачыць так многа ў вачах другіх людзей. Як і яе маці. Мілая, нябожчыца маці Можа, я недаацэньвала цябе?

Гэта было ў тыя выхадныя, калі Колін другі раз прыехаў з Каці, але без Джэнет Колін быў фатографам, Каці – ягонай асістэнткай Спачатку Колін і Джэнет, потым – Колін, Джэнет ды Каці, цяпер – Колін і Каці!

Каці рабіла праполку ў гумавых пальчатках і выдзірала кветкі замест пустазелля Яна смяялася з кожным, хто паказваў ёй яе памылкі, але кветкі паміралі. Ну, за гады сваёй працы Колін зрабіўся багатым ды слынным фатографам, а што будзе рабіць багаты ды слынны чалавек з такой жонкай, як Джэнет, калі побач ёсць Каці?

У самы першы Колін – Джэнет – Каці прыезд Каці з'явілася з ваннага пакоя, трымаючы вільготны ручнік з яўнай агідай. "Паслухайце, – сказала Каці, – я здолела знайсці толькі гэта. Ці ёсць надзея здабыць сухі?" І Марта панеслася шукаць сухі ручнік, і, да свайго здзіўлення, знайшла, і дала яго Каці, якая адарыла яе асляпляльнай усмешкай ды сказала: "Я не выношу вільготных ручнікоў Усё, што заўгодна, акрамя вільготных ручнікоў". Як быццам перад ёй была служанка І выліла ўсю ваду, Марце нават не засталося чым памыць посуд.

На дачы наогул было цяжка што-небудзь прасушыць. Для гэтага не было ніякіх прыстасаванняў, бо Марцін баяўся, што вяроўкі з бялізнай сапсуюць увесь пейзаж. Ён цэлы тыдзень працаваў, як выкляты, у горадзе дзеля таго, каб атрымаць асалоду ад вясковага краявіду ў выхадныя. Бязглузда было б хаваць яго за вільготнымі ручнікамі! І вось Марта купіла яшчэ некалькі ручнікоў, каб кожны быў задаволены. Яна звычайна забірала дзевяць вільготных ручнікоў назад у Лондан, каб там іх упарадкаваць

У тую ж раніцу, адразу пасля снедання, Каці села ў машыну – у іх з Колінам быў новы "Ламбарджыні", цяжка ўявіць, што Каці можа сядзець у чым-небудзь прасцейшым, і хутка вярнулася назад, размахваючы новым ручніком ад Іва Сэн Ларана. "Глядзіце! Я прывезла свой!"

Болей яна нічога не прывезла Ні садавіны, ні агародніны, ні мяса, ні нават хлеба, ні кажучы ўжо пра цукеркі. Увечары яны з Колінам адправіліся ў ложак, і пакой для гасцей пачаў хадзіць хадуном канешне, хто будзе хацець мыць посуд, калі гэта можаш зрабіць ты, але як быць з дзецьмі? Гэта іх не збянтэжыць? Спачатку Колін і Джэнет, зараз – Колін і Каці?

Марта цішком падзялілася некаторымі сваімі думкамі з Марцінам, і гэта яго шакіравала "Колін мой лепшы сябар. Я і не чакаю, каб ён нешта прывозіў" Марта адчула сябе скнарай "І, Божа мой, ты не можаш вечна хаваць секс ад дзяцей. не будзь такой ханжой". Марта зноў адчула сябе дурніцай. скнарай, паклёпніцай ды дурніцай.

Джэнет тэлефанавала Марце на тыдні Дом быў прададзены без яе ведама, і яна з дзецьмі з'ехалі жыць у маленькую кватэру. Каці робіць спробы запэўніць Коліна, што ён павінен зменшыць суму грошай на іхняе ўтрыманне, сказала Джэнет

"Сквапнасць псуе людзей, – кажа Каці – У мяне нічога няма Ні дома, ні сям'і, ніякай уласнасці, ніякіх сувязяў! Паглядзіце на мяне! Толькі я ды чамадан з адзеннем". Але здаецца, што яна вельмі задаволеная гэтым "я", а адзення ў яе – процьма. Каці шмат п'е, і тады робіцца смешнай Смяюцца ўсе, і Марта таксама Каці была ў шлюбе двойчы. Марту вельмі здзіўляла, як чалавек можа дажыць да трыццаці з вялікім хвастом і не мець нічога ні мужа, ні дзяцей, ні ўласнасці, ні мазгоў.

Аднак Марта бачыла і выгаду гэтай бездапаможнасці. Калі Колін быў адзіным, што мела Каці ў гэтым свеце, як ён можа кінуць яе? Куды яна пойдзе? Дзе яна будзе жыць? О не, яна разумная, гэта Каці.

"Мой кубачак брудны", – сказала Каці, і Марта пабегла, просячы прабачэння, яго мыць, а Марцін падняў свае бровы, гледзячы на Марту, не на Каці.





"Я хачу, каб ты карысталася духамі", – гаварыў з дакорам Марцін Марце. Ад Каці заўсёды пахла духамі. Марце ніколі не было часу займацца гэтым, хаця Марцін купляў ёй флакон за флаконам. Кожнай раніцай Марта выскоквала з ложка, каб зрабіць нешта неадкладнае: мяўканне ката, кашаль дзіцяці, стук у дзверы паштальёна, званок сапсаванага гадзінніка – калі ёй было займацца духамі? Усё роўна гэта раздражняла Марціна Яна павінна рабіць болей, каб чараваць яго.

Колін быў прыгожым мужчынам і выглядаў маладзей за Марціна, хоць і былі яны пагодкамі. "Вяртае маладосць", – сказаў Марцін той ноччу. "Гэта з таго часу, як ён знайшоў Каці". Знайшоў, як быццам нейкі скарб. Адкрыў нешта хвалюючае і дзівоснае ў гэтым сумным свеце банальных сямейных зносін.

Суботняй раніцай Джаспер загнаў у нагу стрэмку ("Марта, чаму ён быў не абуты? Як гэта кепска", Марцін), і Марта вазіла яго ў бальніцу, каб яе выцягнуць. Яна паехала а дзесятай гадзіне, вярнулася а першай, а яны ўсё сядзелі на сонцы, выпівалі, пустыя бутэлькі паблісквалі ў высокай траве. Траву не было каму стрыгчы. Не забудзь на бутэлькі. Бітае шкло – гэта чарговыя раніцы ў бальніцы. Ой, толькі без мітусні Атрымлівай асалоду. Як усе астатнія. Паспрабуй.

Але бульба не абабраная, стол пасля снедання не прыбраны, нічога не роблена. Сігарэтныя недакуркі валяюцца сярод зачарсцвелых тостаў, беконных скурак і джэму. "Вы павінны былі абабраць бульбу!" – узрываецца Марта. О, злаславасць! Галоўны грэх. Яны глядзяць на яе са здзіўленнем і агідай. Марцін таксама.

"Божухна, – кажа Каці, – мы што, пачынаем гатаваць нядзельны абед у суботу? Бульба? Я ўжо забылася, калі ела бульбу. Цудоўна!"

"Яе чакаюць дзеці", – адказвае Марта.

І яны сапраўды чакалі. Суботнія ды нядзельныя абеды ззялі ў іхнім жыцці, як маякі Суботні абед – сямейны абед: рыба са смажанай бульбай ("Наколькі смачней ежа, калі яна прыгатаваная дома, а не купленая ў магазіне", Марцін). Нядзеля Звычайна смажаная ялавічына, бульба, гарошак, яблычны пірог. О, зразумела, йоркшырскі пудынг. Заўсёды праблема з тэмпературай у духоўцы. Калі мяса павінна даходзіць павольна, дык пудынг – хутка. Як дасягнуць гэтага? Як вялікіх грудзей і хударлявых клубоў.

"Адпачні, – кажа Марцін, – я сам упраўлюся з абедам. Усё будзе зроблена да часу. Стрэмкі заўсёды самі выходзяць, неабавязкова вазіць іх у бальніцу. Дазволь жыццю самому несці цябе, каханая. Плыві разам з хвалямі, вось і ўсё" І Марцін асляпляе Марту далёкай, духоўнай усмешкай А ягоная рука ляжыць на карычневай, хударлявай руцэ Каці, дзе так багата залатых упрыгожанняў. "І наогул, ты робіш занадта шмат для дзяцей, – гаворыць Марцін. – Гэта не заўсды добра для іх. Выпі чаго-небудзь"

Марта няўпэўнена падышла, узяла шклянку з віном, а сама думала, што калі абед будзе гатовы пазней, чым звычайна, то як яна паспее ўсё прыбраць і прыгатаваць мяса пад марынадам да вельмі важнай вячэры, што чакалася сёння. Марынаванае ягня павінна пячыся ў духоўцы на малым агні не менш як чатыры гадзіны, а духоўка на дачы была малая і немагчыма было адначасова гатаваць там рыбу. Марцін любіць, калі рыба не смажаная, а прыгатаваная ў грылі. Меней халестэрыну

Яна зноў не сказала гэтага. Хатнія справы такога кшталту былі вельмі нудныя, а кожная заўвага ўспрымалася Марцінам як сцэна. А рабіць сцэны – гэта няўдзячна

Такім было жыццё А ці сапраўды такім? Элегантныя сябры ў вялікіх машынах, дача і выпіўка да абеду, і ружы, і спевы птушак. "Не пі *занадта* шмат", – сказаў Марцін ды расказаў усім пра тое, што ў Марты адабралі вадзіцельскую ліцэнзію

Дзеці хацелі есці, і Марта адчыніла для іх бляшанку кансерваў з сасіскамі ды разагрэла. ("Марта, яны сапраўды павінны есці гэта? Ці не могуць яны пачакаць?", Марцін)

Каці хацела есці, яна так сказала, а дзеці павінны былі чакаць. Каці любіла дзяцей – большасць з іх. Яна толькі не любіла дзяцей Коліна і Джэнет. Так яна сказала, і ён прыняў гэта. Цяпер ён бачыўся з імі раз у месяц, а не – у тыдзень, як раней.

"Давай я прыгатую абед, – сказала Каці Марце – У цябе так многа працы, бедная!"

І яна дастала з халадзільніка ўсе прадукты, што Марта хацела ўзяць заўтра на пікнік – сыр камамбер, салат, салямі, за пару хвілін зрабіла выдатную салату з памідораў, адкаркавала бутэльку віна – “не вельмі халоднае, дарагая. Можа, астудзіць?” – і паставіла ўсё гэта на стол за пяць хвілін. “Гэта тое, што нам патрэбна, дарагая, – сказаў Марцін – Якая ты смешная са сваімі рыбна-бульбянымі суботамі! Што можа быць лепей, чым гэта? Ці прасцей?”

Нічога, калі не лічыць, што гэта быў нядзельны абед на дзевяцярых замест суботняй рыбы на шасцярых. Рыба расцягнецца? Не Каці даволі шмат выпіла. Яна чмокнула Марту ў лоб і сказала: “Бедная маленькая Марта, яна нагадвае мне Джэнет Мне вельмі падабаецца Джэнет”. Колін не хацеў, каб яму нагадвалі пра Джэнет, і ён сказаў аб гэтым. “Даражэнькі, Джэнет гэта жыццёвы факт, – сказала Каці – Калі б ты больш думаў пра яе, ты б мог менш ёй плаціць”. І яна, пазяхаючы, выцягнула сваё худое, бясплоднае цела і ўсміхнулася Коліну сваімі зваблівымі вачамі маленькай гарэзлівай дзяўчынкі, і Марцін глядзеў на яе з захапленнем.

Марта ўзнялася і выйшла, узяла бляшанку з фарбай і пакрыла белай бліскучай фарбай сцяну ў ванным пакоі Белая паверхня спадабалася ёй. Фарбаванне атрымлівалася ў яе вельмі ўдала Фарба клалася роўным, гладкім слоем У яе нагах нешта моцна пульсавала Яна баялася, што пачынаецца варыкознае расшырэнне вен

У садзе дзеці гулялі ў бадмінтон. У іх быў дрэнны настрой, бо яны бачылі, што іх маці працуе, як заўсёды: робіць іх жыццё лепшым і прыгажэйшым, арганізуе, плануе, абдумвае ўсё наперад, усе магчымыя недарэчнасці, як курыца з куранятамі, мітуслівая ды надакучлівая натуральная карціна нуднай часткі свету.

У суботу ўвечары Каці пайшла спаць рана: яна паднялася са свайго крэсла, пазяхаючы ды пацягваючыся, і зазірнула на кухню, дзе Марта мыла посуд. Колін прыбраў на стале, а Каці прыгожа склала сурвэткі, у той час, як Марцін дзьмухаў на агонь, каб той лепей разгараўся “Дабранач”, – сказала Каці.

Каці з'явілася праз тры хвіліны, з папрокам працягваючы свой мокры ручнік ад Іва Сэн Ларана. “Ой, дарагая, – ускрыкнула Марта, – мабыць, гэта Джэні памыла галаву!” І Марта была павінна падняць Джэні з ложка і прылюдна папракнуць яе, каб паказаць, што яна ведае, як трэба рэагаваць на такія рэчы Гэта азначала, што Джэні будзе насупленай увесь уікэнд, а на тыдні ёй трэба будзе яшчэ раз ехаць за горад, бо да наступных выхадных у яе можа быць прыступ астмы “Ты папракаеш дзяцей занадта шмат, – сказаў Марцін. – Менавіта пагэтаму ў Джэні астма”. У Джэні была прыемная знешнасць, хаця і не ашаламляльная Ці была яна расчараваннем для свайго бацькі? Марцін ніколі гэтага не казаў, аднак Марта баялася, што менавіта так ён думаў

Яйка ды апельсін кожнаму дзіцяці кожны дзень. Тады не здарыцца нічога сур'ёзнага І нічога не здаралася Астма была лёгкай Ціхае, спакойнае асяроддзе, сказаў доктар Ах, усміхайся, Марта, усміхайся. Сямейнае шчасце залежыць ад цябе 21 на 52 апельсіны за год. Кожны трэба купіць, прынесці, памыць, пачысціць А як наконт бульбы, 12 на 52 фунты за год? Марціну падабаецца, калі бульба адабраная ўважліва Ён не трывае, калі бачыць на бульбе нават маленькія чорныя кропкі (“Гэта не вельмі прыемна, праўда?”, Марцін )

Марце снілася, што яна ёсць вугаль, прыгаршчамі, і ён ёй падабаецца.

Суботняя ноч Марцін любіць Марту тры разы Тры разы? Які ён моцны, і яго ўсхвалявалі гукі з суседняга пакоя. Марцін кажа, што любіць яе. Заўсёды казаў. Ён – уважлівы любоўнік, ён ведае важнасць любоўнай гульні. Як і Марта. Тры разы

Ах, сон Джойлану прысніўся кашмар. Матылёк пабудзіў Джэні Марціна нічога не будзіла Марта хадзіла ўначы па доме. Быў месяц. Яна села ля акна і хвілін пяць глядзела на летнюю ноч, і ёй было спакойна, і зноў пайшла спаць, бо яна павінна быць раніцай у форме

Але яна не была Яна праспала. Астатнія пайшлі гуляць. Яны пакінулі запіску· “Не будзілі цябе. Ты выглядала стомленай. Хутка паснедалі, каб не заводзіць гатоўку Нічога не рабі, пакуль мы не вернемся” Але ўжо было дзесяць гадзін, а госці павінны прыехаць апоўдні, таму яна прыняла хлеб, масла, крошкі, джэм, лыжкі, цукар, шматкі, малако (якое ўжо скісла), брудныя талеркі, падмяла падлогу,





хуценька прыняла сябе ў парадак, праглынула кубачак кавы і падрыхтавалася гатаваць рыс, рыбу ды шакаладны мус, і села пасярэдзіне ўсяго гэтага паесці хлеба з джэмам. Шырокія клубы. Яна ўспомніла папку з офіснай працай. Яна ведала, што нічога не зробіць. Марцін заўсёды думаў, што гэта смешна – браць працу на выхадныя. “Гэта твае свята, – казаў ён. – Чаму ты павінна саступаць перад імі?” Марта любіла сваю працу. Яна проста рабіла яе.

Каці вярнулася ў роспачы і слязах. Яна сядзела на кухні і піла джын шклянку за шклянкай. Каці падабаўся джын з лёдам і лімонам За ўсю выпіўку плаціла Марта са сваёй зарплаты Гэта было часткай дамовы паміж ёй і Марцінам – кантракта, дзякуючы якому яна пайшла на працу. Усё, што падымае настрой, сапсаваны працуючай жонкай і маці, павінна быць аплачана Мартай. Выпіўка, уікэнд, бензін, пудынгі, электраэнергія: гэта быў іхні жарт. Урэшце, вялікай розніцы не было· гэта іх агульныя грошы Дзіўна, як хутка павялічвалася зарплата Марты. Яна ўжо амаль на ўзроўні Марцінавай А хутка можа стаць нават большай. Што тады? Калі казаць праўду, праца для яе – як ласунак

Як бы там ні было, Каці плакала. Колін, як высветлілася, меў пры сабе фота Джэнет і дзяцей “Ён звязаны з ёй Ён робіць выгляд, што не звязаны, але ён звязаны. Яна трымае яго мёртвай хваткай. Усё з-за дзяцей. Гэтыя ягоныя праклятыя дзеці. Стогнучая Мэры ды маленькая змяя Джаана. Ён думае толькі пра іх. Я для яго – ніхто”.

Аднак гэтаму і сама Каці не верыла. Яна ведала, хто яна для яго. Колін прыйшоў раз'юшаны. Ён дастаў фатаграфіі і падпаліў іх. Запалкай, са злосцю Дымам паляцелі і Мэры, і Джаана, і Джэнет. Попел апаў на падлогу. (Марта змяла яго, калі яны пайшлі. Хаця гэта здавалася ёй не вельмі ветлівым.) “Ідзі назад да яе. Мне ўсё роўна Я лепей буду адна Ты толькі прыгожая старамодная рэч Едзь адсюль. Рабі, як хочаш. Каго гэта кранае?”

“Госпадзе, Каці, колькі шуму! Толькі з-за фатаграфіі. Яна там не дзеля таго, каб кагосьці раздражняць. І я на самай справе думаю, што ў яе цяжкія часы”

“А ў цябе, Колін? Яна цябе добра скруціла, скажу я табе А ў цябе ёсць правы? Толькі не кажы пра мяне Ці гэта зашмат, чакаць ад цябе хоць трохі вернасці?”

Да абеду яны памірыліся, у сваім пакоі. А палове першай гадзіны прыехалі Хэры і Берыл Элдэры. Хэры не любіў спяшацца ў нядзелю; Берыл усхвалявана прасіла прабачэння за спазненне. Яны прывезлі артышокі са свайго саду “Цудоўна! – ускрыкнуў Марцін. – Плады глебы! Давайце зробім адметны суп! Не турбуйся, Марта. Я сам яго зраблю”.

“Не турбуйся”. Мусіць, яна недастаткова шырока ўсміхалася Марцін падказваў, што можна сапсаваць уікэнд. Але хутка знайшлася праца ў садзе – здалося, што вязы мелі прыкметы дацкай хваробы – і Марта сама скончыла варыць артышокі Суп трохі выцек з-пад накрыўкі і на пліце было пюрэ з артышокаў “Давайце паабедаем у садзе – сказаў Колін, – меней будзе працы для Марты”




**ДА ЎВАГІ ЧЫТАЧОЎ прадстаўляем некалькі твораў, якія з'яўляюцца тыповымі для пасляваеннай брытанскай літаратуры ў жанры кароткага аповеда. Традыцыйна брытанская проза вядома сваімі раманістамі: ад Дзікенса да Джойса, але з канца 40-х гадоў нашага стагоддзя менавіта апавяданне трэба лічыць галоўным чыннікам сучаснай ангельскамоўнай прозы. Характэрнай рысай апавяданняў гэтага перыяду можна назваць істотнае іх адрозненне ад летуценных, анекдатычных ды падобных на казкі гісторый канца XIX — пачатку XX стагоддзяў. А найперш адрозніваюцца яны ад сваіх папярэднікаў лінгвістычнай і стылістычнай канцэнтрацыяй, вобразнымі прыёмамі, эксперыментамі з мовай і формай, увагай да незвычайнага і фантастычнага, сюррэалізму і містыкі.**

**Некаторыя з пісьменнікаў гэтай пары аднак пераймаюць вопыт сваіх папярэднікаў. Іншыя, як Эма Тэнант, надаюць больш увагі сувязі літаратурнай формы з фантазіяй, казкамі і легендамі.**

**Прадстаўніком сучаснага сімвалізму і сюррэалізму можна лічыць Тэда Х'юза. Адмысловая**

Марцін спахмурнеў· ён думаў, што матрыярхат пры гасцях – недаравальная знявага

Усе ахвотна пачалі выносіць мэблю на вуліцу, але Марта па досведу ведала, што ніхто не дапаможа занесці яе назад. Джойлана ўджаліла аса. Джаспер захварэў на сянную ліхаманку і чхаў ды чхаў Ён не мог знайсці сурвэткі, а карыстацца туалетнай паперай не хацеў. ("Ты ўпэўнена, што ты ўзяла сурвэткі, дарагая?", Марцін.)

Берыл Элдэр была мілай жанчынай. "Як гэта цудоўна – есці ў садзе, – сказала яна, трымаючы ў руцэ крэм, у той час, як Марта даставала муху з салодкага соку ад груш ("Ты не павінна купляць іх такімі спелымі, Марта", Марцін) – Берыл таксама працавала, сакратаркай, каб яе дзеці маглі вучыцца ў прэстыжнай школе, хаця яна і не вельмі хацела, каб яны там вучыліся. Але яе муж паходзіў з вельмі знакамітай сям'і, а яна была толькі машыністкай, калі выйшла за яго, таму яе жыццё складалася з адных кампенсацый. Хэры не так даўно кінуў працу брокера на скачках і стаў мастаком, выбраўшы хутчэй асяроддзе, чым грошы. Але гэта быў ягоны персанальны выбар, які не павінен адбіцца на дзецях.

Рыба з рысам здаліся Каці даволі цяжкай ядой, і яна злёгку адно варушыла страву відэльцам, размаўляючы пра тыя італьянскія рэстараны, што яна ведала. Марцін адкінуўся ў крэсле, увесь насычаны сонечнымі промнямі, і ўскрыкнуў: "Вось дзе сапраўднае жыццё!" Ён высакародна зрабіў каву, але накрыўка зляцела з кавамолкі і зярняты разляцеліся па ўсёй кухні Асабліва шмат іх было ля кухонных кніг, якія Марцін дарыў Марце на кожныя Каляды Затое іх не трэба было вазіць туды-сюды кожныя выхадныя. ("Рабаўнікі не стануць іх красці", Марцін )

Берыл заснула, і Каці разглядвала яе. Рот у Берыл разявіўся, у яе было шмат пломбаў у зубах, у яе былі тоўстыя галёнкі і знікала талія, і яна не вельмі ўважліва сачыла за сабой "Я люблю жанчын, – уздыхнула Каці – Яны так цудоўна выглядаюць у сне Шкада, што я не маці-зямля".

Берыл раптам прачнулася і пачала прасіць мужа, каб яны паехалі дадому, чаго ён яўна не хацеў рабіць, і не стаў Берыл сказала, што яны павінны ехаць, бо хутка прыедзе ягоная маці. Лухта! Потым Берыл спрабавала больш не даваць Хэры піць хатняга віна, і ўсе пасмяяліся з яе Ён вадзіў машыну, Берыл – не, і ў яго ўжо быў на скроні вялікі шрам пасля аварыі. Але гэта дробязі.

"Яна сапраўды мардуецца з ім, гаротніца", – сказала Каці, калі яны ўрэшце паехалі. "Я ніколі не пайду замуж". І Колін з тугой паглядзеў на яе, бо ён больш за ўсё хацеў ажаніцца з ёй, а Марта збірала кубачкі для кавы.

"Ой, толькі *не рабі* гэтага, – сказала Каці. – Проста пасядзі, Марта, а то ты бянтэжыш усіх нас" І Марцін раз'юшана глянуў на Марту, і яна села. Аднак яе паклікала Джэні, і Марта паднялася наверх – у Джэні пачаўся яе першы жаночы цыкл, і Марта заплакала. Яна ведала, што трэба спыніцца, што гэта радасная падзея для Джэні і яна можа ўсё сапсаваць, але яна не магла.

Яе дачка Джэні: жонка, маці, сябар.

**Пераклаў з англійскай Валянцін ДРОЗД.**

---

**рыса ягоных твораў – шырокае ўжыванне вобразаў жывёльнага ды расліннага свету, якія выконваюць ролю метафарычнага адлюстравання быцця, дзе працягваецца безупынная барацьба за выжыванне. А чалавек – істота вышэйшага парадку, ён павінен з дапамогай свайго розуму і волі супрацьстаяць хаосу бытнасці і першабытным жаданням.**

**Незвычайная разнастайнасць формаў поствоеннай брытанскай літаратуры непарыўна звязана з гістарычна-сацыяльным пошукам маладых празаікаў, асабліва калі гэта датычыцца іх нацыянальных каштоўнасцей. Тут можна прыгадаць прозвішча Казуа Ішыгура (лаўрэат Букераўскай прэміі 1989 года).**

**Нельга забывацца і на сацыяльны напрамак творчасці сучасных англійскіх пісьменнікаў. Яркім прыкладам гэтага з'яўляецца Фэй Уэлдан з яе ўпэўненасцю, што "свет населены чалавекамі дзякуючы жанчынам" – гэта адна з самых яркіх прадстаўніц так званай "феміністычнай прозы".**

**Але бадай найбольш характэрным для свайго часу англійскім пісьменнікам можна лічыць Грэма Грына. Свае раннія творы ён сам называў "забаўляльнымі", а больш пазнейшыя ягоныя рэчы сканцэнтраваны вакол паняццяў дабра і зла. Яны напоўнены маральнымі, рэлігійнымі ды сацыяльнымі тэмамі, сюжэты разгортваюцца ў экзатычных месцах сярод адмыслова апісаных персанажаў.**

**Прадстаўленыя тут творы, як нам здаецца, досыць шырока адлюстроўваюць розныя напрамкі сучаснай брытанскай белетрыстыкі.**

**Падрыхтаваў Валянцін ДРОЗД.**



# Міра ЛУКША

## Я маю твор...



***

Скарпіён – сузор'е людзей
якія па зярнятку ўзыходзяць
у адным месцы на нашай планеце
невялікай і ў розны час

якіх Слова чакае ў багнах палескіх
на дне мора што ў другі дзень
стварэння свету паўстала

і корань кожнай расліны
што вырастае з таго зярняці
ці з-пад каменя ці ў буйных асатах
ці ў пяску незлічоным чужынным
пояць кроплі чырвоныя
якія Скарпіён з грудзей сваіх выціскае
і белыя слёзы
якія па кроплі сочыць мора
пад стомленай зямлёй беларускай

**КРЫНІЦА № 2**

**1998**

ШТОМЕСЯЧНЫ ЛІТАРАТУРНА-КУЛЬТУРАЛАГІЧНЫ ЧАСОПІС

ВЫДАЕЦЦА СА СТУДЗЕНЯ 1988 ГОДА

**Заснавальнікі:**
**СП Беларусі, калектыў рэдакцыі**

**Рэгістрацыйны нумар 630**

**Галоўны рэдактар Уладзімір НЯКЛЯЕЎ**

**Рэдакцыя:**
**Валянцін АКУДОВІЧ,**
**Уладзімір АРЛОЎ, Леанід ГАЛУБОВІЧ,**
**Леанід ДРАНЬКО-МАЙСЮК,**
**Алесь РАЗАНАЎ (намеснік галоўнага рэдактара),**
**Іван САВЕРЧАНКА, Юры СТАНКЕВІЧ**

**Мастацка-тэхнічная група:**
**Вольга БОЛДЫРАВА, Марыя ВАСІЛЕЎСКАЯ,**
**Кастусь ВАШЧАНКА, Кастусь ДРОБАЎ,**
**Ірына КЛІМКОВІЧ, Марыя МАЛЕЦ**

**Выдаецца на беларускай мове**

**Рукапісы аўтарам па пошце не вяртаюцца**

**Пішыце:**
**220807, г. Мінск, ГСП, вул. Кісялёва, 11**

**Звоніце:**
**366-071, 366-142**

Падпісана да друку з арыгінала-макета 11. 02. 98. Фармат 60x84 1/8. Афсетны друк.
Папера друкарская № 2. Ум.друк.арк. 13,02. Ум.фарба-адб. 14,35.
Ул.-выд.арк. 14,52.
Тыраж 2000 экз.
Кошт дагаворны. Зак. 355.

**Надрукавана з арыгінала-макета заказчыка ў друкарні выдавецтва**
**«Беларускі Дом друку», 220013, г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 79.**

**© «КРЫНІЦА», 1998.**